# Полымя Рэволюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

*КНІГА ДВАНАЦЦАТАЯ*

1 / 9 / 3 / 5




# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
Савецкіх пісьменнікаў
БССР



*КНІГА ДВАНАЦЦАТАЯ*

МЕНСК　　　ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1　9　3　5



## ЗМЕСТ

Андрэй Александровіч

# СЦЯНА БЯССТРАШНЫХ

1

Расце ў вачах людскіх Крэмлёўская сцяна,
Праменны дзень яна жалобай засланіла...

Ад краю ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Нясуць рэспублікі апошні караул...
Як вал, праз Ленінград, ад Менска да Паміра—
Ідзе ў Маскву нястрымны грозны гуд:
— Будзь памяць вечная, табе, таварыш Кіраў!

2

Каля труны твае настаўнік наш і твой
Схіліў чало сваё жалобаю і горам...

Рукой падкупленай, забрызганай крывёй
Тваё жыццё ад нас жахліва вырваў вораг.
Адкіды з брудных ям гісторыі, яны—
Як змеі, шныраць скрозь па шчылінах і дзірах.
Клянёмся, з іх касцей насыплем курганы!
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

3

Марозам снежаньскім закована зямля.
Гудзіць уздыблены магільным стогнам вецер.

— Прымай бясстрашнага, прымай, сцяна
Крэмля!
І плача смерці марш, нібы з Уржума дзеці.
Апушчаны ў бядзе галовы і сцягі,
Расплаты прагне кроў, гудзіць у жылах вірам.
І буйная сляза лягла ў вянок тугі:
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

4

Расце ў вачах людскіх Крэмлёўская сцяна,
Праменны дзень яна жалобай засланіла...

Ад краю ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Упаў салдат. Яшчэ шчыльней жывой сцяной
З'яднаем моц сваю пад сцягам камандзіра.
А прыйдзе час—дадзім, дадзім смяротны бой!
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Мікола Хведаровіч

# ПЕСНЯ СМУТКУ І ГНЕВУ

Вецер снежаньскі,
Холад і сцюжа,
Спіць марозная
Звонкая шыр.
Дзе ўзяць сілы
Каб сёння здужаць
Гора і смутак
Мае душы.
Песня гучыць
Пахавальным маршам,
Гора на сэрца
Узлегла гара.
Гэта ў жалобе
Краіна наша
Над прахам схілілася
Правадыра,
Гэта нянавісць
Крыві гарачай
Рэжа маланкаю
Снежную мглу,
Гэта заводы
Ахрыпшы ад плачу,
Халодным рыданнем
Даюць салют.
І грозная хваля
Пракляцця ўзнялася,
На здраднікаў подлых
Чыя рука—
Страляла ў сэрца
Рабочага класа,
Сэрца любімага
Большэвіка.
Кіраў!—У шахце,
У паветры,
На моры,—
Імя тваё
Наш народ узняў.
Кіраў—як сымбаль
Нашага гора,

Кіраў—як сонца
Нашага дня.
Марозныя вуліцы
Снежнем абвеяны,
Апошняя стрэча
І горасны шлях.
І мы тваё цела
Па гораду Леніна,
Няслі да вакзала
На нашых руках.
Радыё свет
Скаланула жалобай,
Без слёз мы рыдалі
І зналі адно—
Наш Сталін на варце
Стаяўшы ля гроба
Адчуў цеплыню нашу,
Нашу любоў.
Ён знаў,
Што і ў суме
Таксама мы дужы,
Што кроў нашай партыі—
Нашая кроў...
Клянёмся,
Гранітнай сцяною абкружым
Нашых любімейшых
Правадыроў.
Мы будзем стаханаўцы—
Творцамі цудаў,
Мы мужнасць памножым
На пільнасць цяпер.
Жыць стала лепей,
Гучыць вам прысудам,
Неўмалімым
Як ваша смерць.
Подлы, нікчэмны забойца,
З табою
Сходзяць у магілу
Каб там дагніваць,
Тыя што ў рукі
Далі табе зброю,
Мы іх умеем
Распазнаваць.
Без Кірава—
Кіраўцы з Сталіным нашым
Настаўнікам,
Другам совецкай зямлі...
Вядзі-ж пераможна
Вялікі наш маршал
Праз гора і радасць
У соцыялізм!

27/XI-35 г.

Я. Колас

# ЯНКУ КУПАЛУ

**Да 30-ці гадовага юбілею**

Узышоў юнак калісьці
На пагорак роднай вёскі.
Калыхаўся сум у лісці,
Млелі песень адгалоскі.
А ў разлогах далеч сініх
Лятуценне ткалі межы.
Слаўся смутак па даліне
Ды смугою лес мярэжыў.
Крыж пануры, знак пакуты,
Вартаваў дарогі, гоні,
А мужык, худы, разуты,
Рукі з гора клаў на скроні.
Убіраў юнак у сэрца
З'яў журботныя акорды,
Каб у вочы кровапэрцам
Кінуць слова гневу цвёрда.
Клікаў ён народ свой к волі,
Сеяў зерні поўнай жменяй
Каб дабра яму даць болей,
А каб крыўды стала меней.
І складаў ён песні-былі
Для развагі і для ўцехі
Тым, каго з давён тулілі
У хібарках цёмных стрэхі.
Падымаў ён песняй полі,
Будзіў песняй сон зацяты.
Іх спяваў пастух у полі,
Маладзіцы і дзяўчаты.
Шмат пуцін схадзіў ён з песняй,
Звонкай, яркай, як дзень ясны.
Ды ў імгле было прадвесне,
Цмяным шлях быў яму ўласны.
Толькі бура-навальніца,
Гімн, што Ленін прынёс свету,
Ясназорай бліскавіцай
Асвяціла зрок паэту.

Трон упаў, і ўсе тыраны
Тою бурай былі змяты.
Новы дзень, усход румяны
Гэтым гімнам быў зачаты.
Дзень наш сёнешні—прасторы,
Зорны шлях прыгожай былі,
Тая казка, аб каторай
Людзі толькі цмяна снілі.
Ідуць шляхам тым героі,
Каб здабыць магутнасць, славу,
Каб свет цалкам перакроіць
Ды зрабіць комуны справу.
Дык складай-жа, пясняр, далей
Песні сонечным краінам,
Вольным людзям грознай сталі,
Іх узлётам сакалінам!

Лахуці

## ЯНКА КУПАЛА*)

Віцязь магутны—смелае вока
Вострая зброя, зіхценне метала.
Вось пераможна прышоў ён здалёку
У край занядбаны Янка Купала.

— Гэту зямлю хто услявіў у песнях?
Сэрца чыё к ёй любоўю пылала?
Хто праз пакуту ішоў да прадвесняў?
Гоманы чуем:—Янка Купала.

— Гэтаю ружаю я пакароны,
Каб лютая кара мне пагражала,
Няхай! Я—ў яе салавей улюбёны,
Перад табой я, сам Янка Купала!

— Я друг твой. Кастрычнік мне імя.
Дом твой з руінаў былых і развала
Падняць я прыходжу рукамі сваімі,
Каб радасны стаў Янка Купала.

Цябе я гатоў так узнесці высока,
Каб постаць твая перад светам паўстала,
Каб кожны паказваў з радасным зрокам:
Вось ён, глядзіце, Янка Купала.

З няволі ўзляцеў салоўка на волю,
Львіная сіла ў ім забуяла,
Болей не ведае мукі і болю,
Болей не плача Янка Купала.

Песня яго не жальбою віецца,
Па львінаму песня гучэць яго стала.
Ружа яго расцвітае, смяецца...
Што за шчаслівец Янка Купала!

Пераклаў *Т. Кляшторны*

---

*) Напісана ў адказ на верш Янкі Купалы „Я не паэт", на той самы памер і рыфмы па звычаю, што існуе ў персідскай паэзіі.

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ РЭСПУБЛІКІ ЯНКУ КУПАЛУ

*У дзень трыццацігоддзя Вашай літаратурнай дзейнасці Цэнтральны Камітэт комуністычнай партыйі (большэвікоў) Беларусі горача вітае Вас, як аднаго з выдатных паэтаў Совецкай Беларусі і Совецкага Саюза і майстра мастацкага слова.*

*ЦК КП(б)Б жадае Вам доўгага жыцця і новых велізарных поспехаў у Вашай далейшай мастацкай творчасці на карысць нашай соцыялістычнай радзімы, тварыць на радасць працоўных, якія будуюць пад кіраўніцтвам нашага любімага правадыра вялікага Сталіна сваё шчаслівае радаснае жыццё.*

*ЦК КП(б)Б.*

---

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ РЭСПУБЛІКІ т. Я. Д. КУПАЛУ

*Совет Народных Камісараў Беларускай ССР горача вітае Вас, т. КУПАЛА, з слаўным трыццацігадовым юбілеем Вашай яркай літаратурна-паэтычнай дзейнасці. Як вялікі майстар мастацкага слова беларускага народу, Вы сваімі творамі прыносіце вялікую карысць справе вялікай соцыялістычнай будоўлі. Вашы творы з'яўляюцца каштоўным укладам у скарбніцу совецкай беларускай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Асабліва павінны быць адзначаны Вашы апошнія паэмы і вершы („Над ракою Арэсай“, „Барысаў“, „Лётчык і хлопчык“, „Нашаму святу“, „Партызаны“, „Сыны“ і інш.). У гэтых творах адчуваецца Ваша другая маладосць, яны грунтуюцца на пазіцыях соцыялістычнага рэалізма, яны напоўнены юнацкай бадзёрасцю, узбуджаюць у шырокіх масах творчы энтузіязм і заклікаюць іх да новых перамог. Гэтыя творы сведчаць аб тым, што Вы, таленавіты народны песняр, знайшлі сябе на шляху партыі Леніна—Сталіна, на шляху Советаў, на які Вы сталі моцна абодвума нагамі і бок а бок з пераможным пролетарыятам ідзеце наперад да новых перамог. Гэта ёсць самы пачэсны шлях для кожнага грамадскага, творчага работніка.*

*Я ўпэўнен, што Ваш нядзюжынны талент народнага песняра—народнага паэта рэспублікі будзе поўнасцю, без рэштак, аддан на карысць рабочых і калгаснікаў, на карысць нашай партыі і совецкай улады.*

*Жадаю Вам, дарагі т. КУПАЛА, яшчэ многа, многа гадоў жыць і працаваць. Моцна ціскую Вашу руку.*

*Старшыня Совета Народных Камісараў БССР*

*Н. ГАЛАДЗЕД.*

## *ПРЫВІТАННЕ ЦВК БССР*

*Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР горача вітае народнага паэта Советкай Беларусі Янку Купалу з 30-гадовым юбілеем творчай работы і, жадаючы здароўя, сіл і доўгага жыцця, выказвае ўпэўненасць у тым, што Янка Купала аддасць усё сваё жыццё, каб мастацкім словам служыць справе соцыялізма.*

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*А. ЧАРВЯКОЎ.*

*Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*М. ЛЯЎКОЎ.*

## *РЭДАКЦЫЯ „ПРАВДЫ“—ЯНКУ КУПАЛУ*

*Рэдакцыя газеты „Правда“ віншуе Вас з 30-годдзем творчай дзейнасці. Шлём брацкае прывітанне народнаму паэту Беларусі, які апявае ў сваіх песнях вялікую барацьбу, гераічную працу і абноўленае радаснае жыццё соцыялістычнай радзімы.*

*Жадаем доўгіх гадоў плённай работы, бадзёрасці, здароўя.*

*МЕХЛІС*

## *ЯНКУ КУПАЛУ*

*Сардэчнае прывітанне нястомнаму паэту-рэволюцыянеру.*

*МАКСІМ ГОРКІ.*

## *ЮБІЛЯРУ*

*Праўленне саюза советкіх пісьменнікаў СССР горача вітае Вас, народнага паэта Беларусі, дарагога ІВАНА ДАМІНІКАВІЧА са слаўнай трыццацігадовай літаратурнай дзейнасцю.*

*Пролетарская рэволюцыя і ленінская комуністычная партыя стварылі ўмовы для яркага росквіту Вашага вялікага паэтычнага таленту. Вашы песні—каштоўны ўклад у нашу советкую соцыялістычную культуру. Жадаем Вам многіх гадоў слаўнай творчай дзейнасці на карысць будаўніцтва соцыялізма.*

*Праўленне саюза советкіх пісменнікаў—ЛАХУЦІ.*

## *НАРОДНАМУ ПАЭТУ ЯНКУ КУПАЛУ*

*Праўленне Саюза советкіх пісьменнікаў БССР разам з усімі пісьменнікамі горача вітае Вас, народны паэт рэспублікі, са слаўнай гадавінай трыццацігадовай літаратурнай дзейнасці Вашай на славу і гонар працоўных нашай радзімы. Вы прайшлі выключны жыццёвы і творчы шлях. Ад песень нядолі і суму—да мужных слоў незабыўнаму гераізму нашых дзён, ад беспрасветных дарог мінулага—да яснай веры ў нашае бальшэвіцкае сёння і адданасці гэтаму сёння, ад рабскай цёмнай, прыбітай калоніі царскай—да ордэнаноснай, адной з перадавых рэспублік Саюза Советкай Беларусі.*

*Толькі рэволюцыя пролетарыята, толькі палітыка ленінскай комуністычнай партыі вывелі нашу краіну з гістарычнага небыцця і паставілі яе ў адзін рад з усімі народамі Совецкага Саюза на шляху небывалага росту і росквіту.*

*І толькі пролетарская рэволюцыя і комуністычная партыя стварылі для Вас, Іван Дамінікавіч, усе магчымасці для глыбокага і поўнага раскрыцця Вашых здольнасцей, Вашага яркага паэтычнага таленту, перамагання нацыяналістычных памылак мінулага, напоўнілі Вашу творчасць нечуванымі яснотамі нашых дзён, дзён мужнасці, гераізму, адвагі пераможнай волі і энергіі ў барацьбе за новы свет, за новую светлую будучыню.*

*Адзначаючы Ваш юбілей, шчыра жадаем Вам бліскучых поспехаў і ўдачы ў слаўнай рабоце Вашай на гонар і славу нашай радзімы, на гонар і славу ўсяго Совецкага Саюза, на гонар і славу нашай літаратуры.*

*Праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў БССР:*

*А. АЛЕКСАНДРОВІЧ, З. АКСЕЛЬРОД, П. БРОЎКА, Я. БРАНШТЭЙН, І. ГУРСКІ, П. ГАЛАВАЧ, Я. КОЛАС, М. КЛІМКОВІЧ, К. КРАПІВА, М. ЛЫНЬКОЎ, І. ХАРЫК, М. ЧАРОТ, К. ЧОРНЫ.*

---

## ПРЫВІТАННЕ ЮБІЛЯРУ АД ПІСЬМЕННІКАЎ СОВЕЦКАЙ УКРАІНЫ

*Пісьменнікі Совецкай Украіны шлюць гарачае прывітанне выдатнаму таленавітаму песняру нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, слаўнаму юбіляру—народнаму паэту Совецкай Беларусі Янку Купалу. Ад усяго сэрца вітаем паэта і ўсю квітнеючую беларускую совецкую літаратуру з вялікім радасным днём 30-гадовага юбілею, які з'яўляецца святам растучай мастацкай літаратуры ўсяго Совецкага Саюза.*

*Янка Купала такі-ж блізкі, такі-ж родны для Совецкай Украіны і іншых брацкіх рэспублік, як і для Совецкай Беларусі. Мы любім яго надзвычайныя песні, мы многаму вучымся ў Янкі Купалы—нашага друга, старэйшага майстра, „інжынера душ" першага ранга.*

*Усім сэрцам святкуем з вамі радасную дату на шляху развіцця совецкай літаратуры, якой кіруе вялікая партыя ЛЕНІНА—СТАЛІНА акружанай любоўю і клопатамі ўсіх народаў Совецкага Саюза, любоўю і клопатамі правадыра народаў—найвялікшага друга і настаўніка нашай літаратуры таварыша СТАЛІНА.*

*Няхай жыве Совецкая Соцыялістычная Беларусь!*

*Няхай жыве Беларуская совецкая літаратура!*

*Няхай жыве яе моцны заслужаны юбіляр—народны паэт Янка Купала!*

*СЕНЧЭНКА, МІКІТЭНКА, ТЫЧЫНА, ПАНЧ, КАРНІЙЧУК, КІРЫЛЕНКА, БАЖАН, КАПЫЛЕНКА, ЯНОЎСКІ, УСЕНКА, ПЕРВАМАЙСКІ, ЛЮБЧЭНКА І., КОЧЭРГА, ФЕФЕР, КАВАЛЕНКА, ГАРАДСКОЙ, С. ГАЛАВАНІЎСКІ, КВІТКО, ГОФШТЭЙН, СМОЛІЧ, КАЦЮБА, ПАЦЯК, ЛЕВІЦІНА, КАЛЕСНІК, СМІЛЯНСКІ, ЛУР'Е, РЭЗНІК, ТАРДОЎ, ТЕРЭШЧЭНКА.*

*Слаўнаму песняру соцыялістычнай радзімы, палкаму паэту нашай сучаснасці ЯНКУ КУПАЛУ наша шчырае, гарачае прывітанне і пажаданне вялікіх год „чыстай і залацістай“ творчай працы на карысць нашай савецкай зямлі, на карысць светлых дзён камунізма.*

*Вышэй узвівайцеся, яснаворныя песні паэта!*
*Шчасцем радзімы будзь шчаслівы, Янка Купала!*

*Рэдакцыя часопіса „ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ“*

# ХАЙ-ЖА ЖЫВЕ, РАСЦЕ І УЗНОСІЦЦА ЎВЫСЬ РАДАСНАЯ ПЕСНЯ Ў ГОНАР І СЛАВУ РАДЗІМЫ!

## Прамова народнага паэта рэспублікі Янкі КУПАЛЫ на ўрачыстым юбілейным сходзе 11 снежня 1935 года

Таварышы! Я пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы seклі яго бізунамі. Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.

Рэволюцыя 1905 года страсянула царызм, запаліла ярка і непераможна надзею на яго пагібель, надзею на свабоду. І ў песнях маіх прагучэла гэта надзея і заклік да барацьбы з царатам і панамі. Але толькі Кастрычніцкая рэволюцыя дала соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне былым паднявольным народам царскай Расіі. Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.

І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам. Закрэсліў-бы я тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.

Але адно скажу—як рад я за першыя крокі свае ў літаратуры, калі разам з беднатой беларускай вёскі я горача пратэставаў супроць паноў і царата, так бязмежна рад я за апошнія гады. Рад таму, што песні і думы мае—па меры сіл маіх і здольнасцей—знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Саюзе, што песні і думы мае служаць узмацненню дружбы народаў Совецкага Саюза—бацькаўшчыны ўсіх народаў усіх працоўных усяго свету. А дружба народаў Совецкага Саюза, як сказаў таварыш **Сталін**, мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі. І калі мае вершы зараз сугучны нашаму вялікаму часу, калі яны ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў,—дазвольце мне радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.

Яшчэ хачу сказаць словамі Іосіфа Вісарыёнавіча: радасна жыць, весела жыць, весела працаваць. Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем ў любы час, у любы міг, справы такія ў нас пашлі, што ў кожным куточку Саюза Советаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу. Ну, як пры такіх справах, пры такіх людзях, пры такіх перспектывах не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй, не запець яе разам з усім родным працоўным калектывам. І я ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай Рэспублікі.

Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца пана-

ванне над часткай Беларусі белага арла,—голад, здзекі, катаванне працоўнага народу, як і за царом Нікалаем. Там не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок—на Ўсход, чакаюць вызвалення і затоена ловяць вострым вухам нашы песні, шумы трактароў нашых, несціхаючыя гукі нашых фабрык і заводаў.

За вызваленне гэтай паднявольнай краіны, за яе светлае ў скорым часе соцыялістычнае жыццё я не забуду заклікаць у сваіх думах-песнях.

Наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як фарпост на рубяжы двух соцыяльных сістэм—развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў. Яе шырокія калгасныя палі буйна рунеюць, яе фабрыкі і заводы растуць і жывуць новым соцыялістычным жыццём. Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя. За ўсё гэта яна ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай—ордэнам Леніна. І мне тут—у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і соцыяльна. Я вітаю усім сэрцам комуністычную партыю і наш совецкі ўрад. Я вітаю нашых ордэнаносцаў—Нікалая Федаравіча Гікало і Нікалая Мацвеевіча Галадзеда, вітаю старшыню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Советаў—Аляксандра Грыгор'евіча Чарвякова.

Я хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.

Я дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на маім творчым шляху.

Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі сумленнымі вачыма ў вясёлыя вочы нашай будучыні.

Я нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце, я пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай „турме народаў"—царскай Расіі, і песні мае былі тады—песні паднявольніка. Сягоння-ж я шчаслівы, што магу па іншаму, як вызвалены з нацыянальных і соцыяльных пут, складаць песні-гімн вызвалення. Я шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка. Што яна, гэта моладзь—мае дарагія таварышы па пяру—ўсё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога гераічнага слаўнага жыцця.

Я вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвался сягнуць, што цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.

Я вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы, вартуе нашу мірную працу, наша радаснае жыццё, якая, калі гэта трэба будзе, ад любога ворага абароніць краіну Советаў.

Хай-жа жыве, расце і ўзносіцца ў высь радасная песня ў гонар і славу нашай арміі, у гонар і славу нашых герояў—совецкіх людзей, якіх слава разносіцца па ўсяму свету!

Хай жыве песня нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу!

Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі простор шчаслівага жыцця!

Хай жыве вялікі, любімы і мудры правадыр народаў—**Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!**

Барыс Мікуліч

# ДРУЖБА

**Аповесць *)**

Машына спыняецца перад батумскім готэлем. У яе садзіцца гладка выбрыты сухаваты чалавек, гадоў пяцідзесяці пяці. Турыст апрануты ў шэры гарнітур, на галаве—шэры капялюш, на нагах—шэрыя летнія туфлі. Толькі адна яркая пляма б'е ў вочы: гальштук у чалавека ярка-малінавы з ліловатымі кругамі. Гэта—як крыклівая бязгустоўная шыльда. Турыст адмаўляецца ад праваднікa і, злёгку кранаючы шофера пальчаткай, кажа: „Кабулеты". Шофер сігналіць і лакіраваны Лінкольн пластычна бярэ з месца.

Яны едуць праз Батум—да мора. Сонечнай раніцай ваколіцы Батума—дзівосныя. Зеленаватае мора ляніва плешчацца аб бераг. Параходы на рэйдзе—нейкія святочныя. Сцягі розных дзяржаў пераліваюцца сваімі колерамі, як гіганцкія матылі крыллем. Пальмы ўздоўж морскага берагу стаяць нерухома, як бутафорскія. У іх і лісце—нейкай незвычайна яркай афарбоўкі. Шасэ ў Кабулеты без аніводнай пылінкі, чыстае, як люстра. Па шасэ праходзіць група чырвонаармейцаў. На іх—трусы і майкі. Яны ідуць да мора, з шумам і смехам распранаюцца, і на вузкай пясчанай паласе берага іх маладыя загарэлыя постаці здаюцца бронзавымі скульптурамі. На празрыста-зеленаватых грабянях хваль з'яўляюцца дэльфіны. Яны падплываюць да купальшчыкаў і б'юць каля іх хвастамі. А з правага боку шасэ цягнуцца зялёныя прыгарады горада—санаторыі, дамы адпачынку, дачы, батанічны сад, цягнуцца пальмы, бананы, эўкаліпты, магноліі. Сонца толькі прыграе, паветра пахне марской прахаладай.

— Зялёны мыс будзеце глядзець?—пытаецца шофер.

Турыст адказвае лаканічнае „не" і зноў пачынае глядзець наўкола. Яго твар нічога не выражае—ні прыкрасці, ні захаплення. Правая рука ў пальчатцы адкінута на борт машыны, левая ляжыць на скураным сядзенні.

Раптам ён загадвае спыніць аўто. Шофер адкрывае яму дзверцы. Турыст выходзіць з машыны, ідзе да мора і становіцца на камень. Камень вялікі, укрыты зялёным мохам. Хвалі б'юць аб камень з лёгкім шэлестам. Шофер у некалькіх кроках ідзе за ім. Гэта—малады грузін, з тварам, які заўсёды можна ўбачыць на старадаўніх грузінскіх фрэсках,

---

*) Канец. Пачатак глядзі ў „Полымі Рэволюцыі" № 11.

з тварам шырокім, чыстым і непарочным. Ён усміхаецца і белыя зубы яго непараўнальны. Турыст звяртаецца да яго:

— Я тут буду адпачываць. Можаце купацца, кацо.—Гэта на чысцейшай грузінскай мове, але безапеляцыйна: доўжыць гутарку яму выразна не хочацца.

Шофер дзівіцца, але маўчыць.—Што ён тут убачыў, гэты дзіўны турыст з чыстай грузінскай мовай? Самыя прыгожыя мясціны праехалі, тут толькі зеленаватае мора, самотны камень у пене хваляў і ўсё. Шофер адыходзіць ад дзіўнага турыста, які, склаўшы рукі на грудзях, стаіць на камені тварам да мора. Аднак—шофер не супроць купання. Ён распранаецца. Мускулісты і загарэлы, ён таксама падобны да скульптуры. Як трапіў у Грузію, на Аджарыстанскае ўзбярэжжа, юнак, якога вылялілі антычныя майстры Грузіі і Рыма?.. У яго атлетычныя плечы афінскага спартсмена, дакладныя прапорцыі цела, трэніраваныя грудзі і мускулісты брушны пояс, вузкія бёдры і вылітыя ногі прафесіянала-бягуна. Чорныя невялікія валасы дробнымі кольцамі абрамляюць яго вялікі чысты лоб, адцяняючы антычны нос, яркі пухлы рот і жывыя—з іскрамі—вочы. Юнак ідзе да вады, правай нагой дакранаецца да хваляў, жмурыцца і смяецца: вада сцюдзёная. Потым хвалі абдаюць яго да грудзей, ён кідаецца на ваду,—імкліва, з зацятасцю. Мора пеніцца наўкола яго. Юнак то паяўляецца на грабянях хваляў, то знікае ў іх. Ён плыве на спіне, спакойна і велічна, ён імкне шпарка на баку, ён паварочваецца з жывата на спіну, з боку на бок, як непакойнае дзіця ў калысцы. Мокры і бадзёры, ён выходзіць на бераг, як-бы нарадзіўшыся другі раз. Ён раскідае ў бакі рукі і дробненькія мускулы пачынаюць грацъ на іх. Потым ён расцірае рукамі грудзі, бакі, ногі. Цела пачынае блішчэць, як бронза. І ён зноў кідаецца ў мора.

Шэрая постаць турыста нерухома на камені. Твар яго нічога не выражае. Гэта твар пажылога чалавека, невятлівага, неабыходлівага, нелюдзімага. Халодныя вочы пад сівымі брывамі, сінія паголеныя шчокі, маршчыністы нос з ліловымі жылкамі на гарбу павіс над шырокай ніжняй губой. Рот турыста—міжвольнае выяўленне прыкрасці, знявагі да навакольнага, вычварнасці.

Турыст павольна паварачваецца, пакідае свой пастамент і павольна ідзе да машыны. Ён садзіцца ў аўто, левую руку адкідае на скураное сядзенне, правую кладзе на борт—і так застывае ўвесь. Ні хвалявання, ні спешкі, ні задаволенасці.

Шофер бяжыць да машыны, на-хаду нацягваючы вопратку на мокрае цела. Ужо ля самай машыны, мармочучы далікатнае прабачэнне, шофер надзявае на грудзі маленькі сярэбраны жэтон.

— Гэта ў вас што?—абуджаецца раптам сухаватая зацікаўленасць.

— Я ўдзельнічаў у воднай спартакіядзе, узяў другое месца,—адказвае шофер, бяручыся за руль.

— Рэкордсмэн,—не здзіўляецца, а канстатуе турыст.—У Кабулетах не затрымлівайцеся, санаторыі аглядаць я не хочу.

Зноў аўто адлічвае кілометры. Плешчуцца хвалі аб бераг. Сонца пачынае прыпякаць.

---

Апладысменты зрываюцца, як галубы. Шэлія не можа ўзняцца—яму горача і ніякавата. Таварышы штурхаюць, плешчучы ў далоні перад яго здэтанаваным тварам. Жоржык кліча яго, смяючыся. Масхарашвілі б'е ў далоні, штохвілінна зрываючыся з месца. Рамбашыдзе нахіліўся да

сакратара райкома, Джанджгава ківае галавой і смяецца. Шэлія перамагае сарамлівасць, пачынае прабірацца да стала прэзідыума, але ўвесь час натыкаецца на калені таварышоў. Таварышы апладыруюць, крычаць, штурхаюць яго, аркестр грыміць туш. Нарэшце цяжкі маршрут з месца да стала прэзідыума прароблены і—потны, расчырванелы, здэтанаваны—Шэлія ўціснуўся паміж Рамбашыдзе і Жоржыкам. Мінгрэл адчувае, што цела зрабілася раптам няўклюдым, вялікім, нязвыклым. Не тое, што ў родным сяле Верхняй Мінгрэліі...

Слова даюць сакратару райкома. Ён, смяючыся маладымі вачыма, чакае, пакуль суціхнуць апладысменты і туш. І вось ён гаворыць:

— Тунель зроблен.

— Тысяча дзевятнаццаць метраў!—зрываецца з месца Масхарашвілі.—Амаль трэцяя частка Сурамскага!

Рамбашыдзе сунімае яго, інжынер садзіцца, але ўвесь час нешта гаворыць з Рамбашыдзе, з Жоржыкам, з маладым інжынерам-электрыкам, з начальнікам аховы.

— І зроблен у рэкордныя тэрміны,—доўжыць Джанджгава.—Усе з вас помняць тую ноч, калі сустрэліся два накіроўчыя ходы, калі дзякуючы вашай энергіі тунель быў зроблен якраз у час. Мне расказалі пра гэтую ноч і я з шчырым сэрцам кажу: гэтак працуюць большэвікі!

... раніца тады пасля навальніцы была спакойная, сонечная, яркая. Прамытая праліўнем зямля ахутвалася парнасцю празрыстай, як лятуценне. Сонца свяціла ярка, нібы знарок: начная навальніца пакінула пасля сябе сляды руйнавання. Рудая ад бруду рака несла голле і дошкі. Велізарныя дрэвы былі павыварочваны, з некаторых баракаў сарвала стрэхі, скінула рыштаванні з плаціны, абарвала правады і паваліла слупы. Нанесеныя глыбы загарадзілі дарогу, горныя ручаіны, ператварыліся ў вадаспады, праклалі сабе глыбокія рэчышчы. Было так нібы прайшоў вораг.

Але—высокія быкі плаціны вытрымалі. Абмытыя дажджом, яны стаялі велічна і непарушна. І, нібы нічога не адбылося, раніцай закіпела работа—муляры ўзняліся на рыштаванні электрастанцыі, бетоншчыкі і мантажнікі сталі ўмацоўваць шчыты на плаціне, зноў запрацаваў канвеер ваганетак і паганятыя валоў вышлі расчышчаць дарогу.

Вось тады з тунеля паказаліся шахцёры, праходчыкі, адкадчыкі, электраманцёры, баявікі. Надыходзіла дванаццатая гадзіна, як пакінулі яны паверхню зямлі. І зямля іх сустрэла абноўленай. Толькі тады многія адчулі, што баляць плечы і рукі, што нейкі цяжар ціснe на павекі, што ёсць у іх яшчэ справы—грамадскія, асабістыя.

І адразу пасля іх выхаду—у тунелі пачалася зноў работа. Здымаліся часовыя ўмацаванні і тунель пакрываўся шэрым цэментам. Ён рабіўся круглы, гладкі, як велізарная труба.

Масхарашвілі цёр пальцамі скроні і безнадзейна пазіраў на шофера. Шофер індыферэнтна вазіўся ля машыны. Рамбашыдзе працягнуў інжынеру карабок з мятнымі цукеркамі, параіў яму легчы спаць і пашоў у кантору. Там яго ўжо чакалі наведвальнікі, і начальнік, спаласнуўшы вадою твар над урнай для акуркаў, узяўся за справы. Жоржык маўчаў і чамусьці вяла ўсміхаўся. Шэлія ніяк не мог зразумець, чаму ў галаву лезе думка пра Нана. Шэлія злаваў. Усе павольна разышліся па бараках. Многія думалі аб сне, як аб узнагародзе. Жыццё не спыняецца...

... зноў б'юць крыллем тысячы галубоў. Таварышы апладыруюць дружна і заўзята. Старшыня называе прозвішча: Чхонія. Смела́сць канчаткова пакідае Шэлію. Гэта-ж даюць слова яму. Мінгрэл узнімаецца і доўга не можа сказаць слова. Але гаварыць трэба, усе чакаюць.

— Што, кацо, гаварыць?— раптам разводзіць ён рукамі.—Чаму, канечне, я? Усе рабілі, як след, таварыш Джанджгава правільна сказаў. І няхай лепш за мяне скажа мой таварыш... Жоржык...

— Ён за сябе скажа!—гэта не ўтрымаўся Рамбашыдзе.—Ты давай, гавары.

Шэлія глядзіць на начальніка і на твары ў яго паяўляецца выраз недаўмення і просьбы. Аудыторыя смяецца і апладыруе. І тады Шэлія вокамгненна ўспамінае свайго бацьку, грэка, Нана, шахты і вечары з Жоржыкам за гутаркамі і за кнігай. У адной з іх напісана: „Сіла соцыялістычнага прыкладу—вялікая сіла". І Шэлія гаворыць:

— Шахты і гэтае будаўніцтва для мяне зрабілі, мусіць, больш, чым я для іх. Што я ведаў? Што мог ведаць мінгрэльскі чкішы? Лес, балота, каровы, сяло. А цяпер пастух ведае, што ёсць багата таварышоў, грузін, рускіх, украінцаў, армян, з якімі можна будаваць вось такія тунелі. У адной з кніжак я прачытаў, што сіла прыкладу, соцыялістычнага прыкладу,—вялікая сіла... І калі я добра працаваў, таварыш Рамбашыдзе, дык мне заўсёды хацелася быць вось гэткім прыкладам, скажам,—такім работнікам, як вы, як наш галоўны інжынер, як мой таварыш Жоржык Белы...—І раптам ён усміхаецца, неяк надзвычай наіўна, і крычыць на Жоржыка:—Не, кацо, усё адно табе прыдзецца мяне выручаць!..—І рогат таварышоў перамешваецца з апладысментамі.

Неўзабаве Шэлія сядзіць на бярвенні і глядзіць на рэчку. Ён думае так: „Мяне назвалі адным з лепшых. Гэта і ёсць той прыклад? Але многага не хапае... Быць-бы, як Камо, як Кіраў! Вось, прыкладам, Жоржык Белы. Ён маладзей за мяне, але ведае больш, і ў яго ёсць комсамол. Нешта большае, чым рабочы калектыў. Гэта, як сумленне. Дзе-б не быў Жоржык, што-б ён не рабіў—ён член сваёй арганізацыі, ён як часцінка з'яднанай пад адным сцягам арміі. У мяне покуль што гэтага няма. . Гэта дрэнна".

І потым думкі робяць нечаканае сальто: „Толькі цяпер я маю сапраўдных таварышоў. Той руды ў бараку аказаўся дрэнным чалавекам, былым кулаком. Соцврэд?" У Жоржыка таксама рыжаватыя валасы. І той рускі, і гэты рускі. І ёсць яшчэ адзін таксама рускі!.. Але тут розніца! Розніца, скажам, такая-ж як паміж бацькам і гаспадаром кароў, якіх я пасвіў. Ёсць розныя грузіны, і ёсць розныя рускія. І ёсць... ёсць адна Нана"!—думкі абрываюцца, бо нехта крануў за плячо. Шэлія ўзнімае галаву і бачыць начальніка.

Кацо, я забыўся перадаць табе вось гэта. Неяк гасціў дзеньу брата, на даследчай станцыі, і там мне перадалі ліст. Ён крышку памяўся, ты прабач, забыў на яго.

Шэлія разрывае канверт. „Шаліко! Нічога не буду гаварыць загадзя,—напісана ў лісце,—бо ты, пэўне, здагадаешся сам. Аднак не бядуй, а прыязджай да нас трыццатага жніўня, твой стары прыяцель будзе вельмі задаволены сустрэчай. Пагуляем на вяселлі майго вучня, віно сёлета ў нас—высокі гатунак... „Далей Шэлія не чытае. Ён хвалюецца і намагаецца схаваць хваляванне ад Рамбашыдзе.

— Ліст ад нявесты, кацо?—пытаецца начальнік.—Мы даем вам на пяць дзён адпачынак.

— Не, ліст ад вінароба Авраамідзі. Значыць, і Белы атрымлівае адпачынак?

— Ну а як-жа... атрымлівае.

„Вяселле майго вучня"!.. Ён шукае Жоржыка, як збавення. Але Жоржык на комсамольскім сходзе. Хутчэй-бы скончыўся ён! Шэлія садзіцца

за столік, на якім стаяць шахматы. Нехта не дагуляў партыі, мусіць, нехта з комсамольцаў, іх заспеў сход. Шэлія машынальна бярэцца за фігуру. Чорная тура можа абвясціць шах беламу каралю. Бяссэнсоўны ход! Паехаць трэба. Гэта—канчаткова. Палова шасцімесячнага заробка плюс дзве прэміі—гэткая сума грошай ляжыць на яго кніжцы. Бяссэнсоўны ход, бо кароль белых ідзе пад абарону каралевы. Навошта ён пакідаў яе? Больш зарабіць, каб абжыцца! Так меркаваў ён тады, цяпер-бы ён зрабіў інакш. Хіба горш працаваць адкатчыцай? Нана—здаровая, моцная дзяўчына. Белая каралева можа наступаць на чорнага караля. Шах! Адступленне і зноў шах. Трэба напісаць бацьку, паслаць яму крышку грошай. Ён ўсё забываў гэта зрабіць. Цяпер ён напэўна поіць цялят. Цяляты—усе чырвоныя, напэўна. Стары даўно хацеў быць такім-жа славутым, як Кварацхелія. Шах! Выйсця няма. Гэта—мат чорным. Не, ён дрэнна гуляе ў шахматы. Жоржык паддаецца яму, каб зацікавіць.

Шэлія адсоўвае ад сябе шахматныя фігуры, кладзе на рукі галаву. У правай руцэ заціснуты ліст ад старога прыяцеля. Мат.

— Ну, выдатны чалавек будаўніцтва, чаго ты засумаваў?—Сход скончыўся і Жоржык стаіць перад мінгрэлам.

— Кацо!—хапае за руку.—Яшчэ не ўсё страчана. Яшчэ можна вярнуць яе. Яна-ж была нявестай, быў паміж намі зарок. Зрабі мне ласку.

Усмешка знікае з твару Жоржыка. Друг здзіўлены. Ён заўважыў ліст у руках Шэліі, узяў яго і прачытаў.

— Паедзем. Я ніколі не быў на грузінскім вяселлі. Гэты вучань яго—грузін?

---

Стол быў дзівосны, спецыяльна падрыхтаваны, здавалася, для натурморта. І па гэтаму натур-морту можна было-б меркаваць аб заможным жыцці грузінскіх соўгасаў. Велізарныя збаны напоўнены чысцейшым віном, янтарным, рубінавым, светлым, як перлы. Гэтыя збаны стаяць па краях стала, як велічныя вартавыя. Незвычайнае пачынаецца з талерак. На адных з іх лобіо, буйнае, як вочы. На другіх—густое сацыві, гарачае еларджы, сыры розных гатункаў, пачынаючы ад тушынскага і канчаючы цёплым жаўтаватым сулгуні. Тушынскі сыр—з празрыстай слязой. На маленькія талерачкі панакіданы сочныя і пахкія травы—адны для арамата, другія—для апетыта. На чатырох велізарных блюдах, пад пакрыўкай цыбулі і кропу, пакоіцца тлусты шашлык з маладога барашка. У вазачках свецяцца кіслыя прыправы. Іх колер—малахітавы. Наўкола ўсяго гэтага стаяць талеркі і рознакаляровыя чынчылы. Рог з сярэбранай разьбой ляжыць на талерцы, з якой будзе есці тамада.

Воддаль стаіць другі стол, не менш цікавы для аматараў. На ім ляжыць вінаград. Персікі, яблыкі і мандарыны парушаюць зялёны і чырвоны тон вінаграда. Але варта прыгледзецца да пладоў, асабліва да тых, што ляжаць на блюдзе, прынесеным самім Аўраамідзі. Гэта яго падарунак.

Ягады вінаграда, што ляжаць пасярэдзіне стала, надзвычайнай формы. Тут не адна форма, а мноства. Круглыя, амаль сферычныя з негрузінскімі назвамі Алігацье і Арамон, доўгія Асма і Сапераві, падобныя да птушынага яечка, сагнутыя як мініятурныя сярпы, плоскія, з тупымі канцамі. Тут ляжыць вінаград чорны, цёмна-сіні, ружовы, дымчата-шэры, жаўтавата-зялёны, залаціста-жоўты, чырвоны розных адценняў—адзін, як веснавы ўсход, другі, як рубін. На самай сярэдзіне талеркі ляжаць некалькі вінаградзін, вялікіх, як буйныя слівы. Але больш усяго тут бе-

лага Піно і тых сартоў вінаграда, які плённа спее пад сонцам Імерэціі і Кахеціі—Цолікауры, Цыцка, Рка-Цытэлі.

Ля сталоў мітусяцца мужчыны і жанчыны ў белых фартухах, яшчэ нешта ставячы, яшчэ нешта парадкуючы на іх.

Наступае вечар. Захад сонца—як разлітае кахецінскае віно, зробленае з гатункаў Цолікауры. І воблакі падобны да пухлых галінак, абсыпаных вінаграднымі ягадамі—яны празрыстыя, круглыя. Ужо не цвітуць магноліі, але паветра ўсё адно напоўнена іх водырам. Не спяваюць салаўі сваіх любоўных песень, але безліч іншых птахаў з поспехам замяняюць іх. Густая пахамі, плённая ўраджаямі, багатая залацістымі колерамі—стаіць восень.

Госці збіраюцца ў парку. Тут вінаробы, аграномы і паляводы, знатныя людзі навакольных калгасаў, коннікі, паганятыя валоў, чыгуначныя рабочыя, работнікі райкома. І ў цэнтры іх памаладзеўшы і фацэтны грэк Аўраамідзі, алхімік імерэцінскіх падвалаў.

— Якое грузінскае вяселле, кацо, можа быць?—разважае Нікалай Ільіч.—Нявеста—мінгрэлка, а жаніх—рускі. Мы,—ён слова „мы“ вымаўляе з гонарам,—мы з Сімонам Пічыевічам памеркавалі і вырашылі зрабіць саўгаснае вяселле, савецкае. Жаніх—мая змена і я вам скажу, хлопец з галавой, а яна—ударніца нашых вінаграднікаў. Не вяселле, а кангрэс трэба было арганізоўваць.

— Як ты гаварыць навучыўся, Нікалай Ільіч!—заўважае інструктар райкома.—Цябе-б прапагандыстам!

— А што ты думаеш, я яшчэ і не так умею.

З канюшні выводзяць двух жарабцоў—гарачых, сухіх, жылістых. Малады конюх з чорнымі вусамі прапануе паджыгітаваць. Госці адмаўляюцца, падбухторваючы адзін аднаго.

— Пачакайце,—кажа Аўраамідзі,—скора прыдзе поезд і прывязе нам госця, а вам наездніка. Іду ў заклад, ён вас абгоніць.

— Хеўсураў не абгоняць!—і вусы маладога конюха стрэлкамі палезлі ўгору.

Прыходзяць музыкі. Гэта ціхія паважныя людзі. У аднаго з іх старэйшага, драўляная дудка, якую завуць—дудакі. Яна грае, як беларуская жалейка, толькі больш гартанна і рэзка. У дваіх—нешта сярэдняе паміж бубнам і барабанам: долі. У чацвертага маленькая круглая гітара, зробленая з цмянага карычневага дрэва. Такое дрэва—на скрыпках Страдыварыуса. Гэты струмант носіць паэтычную назву—чонгур, назву, як звон двух струн—чон-гур... Квартэт рассеўся на табурэтках пад махнатай срабрыстай елкай, застыў у чаканні, прыслухоўваючыся да гутаркі гасцей. Мужчыны рагаталі, адпускаючы на адрас адзін аднаго важкія жарты. Жанчыны пашлі да нявесты.

Яе апраналі ў чорную даўгую вопратку, з вялікім разрэзам на грудзях. У гэтым разрэзе віднелася белая шоўкавая блюзка, на якой—ад самай шыі да пояса—была нашыта шырокая парчовая істужка з няяркімі, але дасціпнымі дасэнямі. Такая-ж парчовая істужка была павязана на галаве, стрымліваючы фальбоны шырокай чорнай хусткі, якія падалі на плечы жанчыны.

— Можна зычыць шчасця, генацвале,—казала сівая, сухенькая бабулька, запраўляючы вышываны манжэт у вузкі чорны рукаў адзення нявесты.—Было-б, вядома, лепш, каб ён быў нашым, сакартвелам.

— Ён ламазі кацо,—з усмешкай падтрымлівала нявесту чарнявая вёрткая яе падруга.—Такі дыды бавшы.

— Не мялі, не мялі!—нездаволена казала бабулька і падруга ціхенька смяялася, паціскаючы плячмі.

Нана апускала даўгія расніцы і яны злёгку краталіся, лёгкі матавы румянец граў на яе твары.

Мэ міквархар,—аднатонна казала яна.—Так хоча маё сэрца, мохуцы калі.

Сярод гасцей паявіўся інжынер Рамбашыдзе, які прыехаў да брата, Шэлія Чхонія і Жоржык Белы. Рамбашыдзе пашоў да брата, Авраамідзі хлопаў Шэлію па спіне, Жоржык усміхаўся.

— Я хачу бачыць Нана,—пахмура сказаў Шэлія.

— Ты яе ўбачыш, кацо, ты-ж на яе вяселлі.—Потым Авраамідзі бяжыць да конюха.—Вось табе партнёр. Агонь!—І зусім ціха:—Развесялі хлапца, у яго гора.

Конюх выводзіць жарабцоў і іх акружаюць госці.

Паджыгітуем,—повад у руках Шэліі, мінгрэл глядзіць на Жоржыка. Жоржык прыжмурвае вока. Шэлія садзіцца на каня. Першым едзе конюх. Яго конь набаўляе кроку, вось ён кружыцца вельмі шпарка, амаль не дакранаючыся капытамі да зямлі. „Гогого!“—крычаць мужчыны. Шэлія гоніць каня таксама. Конюх кідае папаху, Шэлія—шапку. Конюх перавешваецца і абодвама рукамі паднімае папаху на поўным хаду. Тое-ж робіць і Шэлія. „Ваша! Гогого! Ваша!“—крычаць госці. Наезднікі саскакваюць і зноў садзяцца, становяцца на сёдлы, садзяцца спіной да конскай галавы, робяць гэта ўсё надзвычай лёгка і шпарка. Потым, конюх крычыць:

— Пашліі!—і конь яго робіць стойку і імкне па дарозе. Шэлія імчыць за ім.

Неўзабаве яны знікаюць у далячыні, толькі пыл ніяк не супакойваецца на дарозе.

Тымчасам паяўляюцца браты Рамбашыдзе. Старэйшы з іх Сімон Пічыевіч, кліча да сябе Авраамідзі. Грэк падбягае да яго, як пятнаццацігадовы. Дырэктар нешта кажа, трымаючы грэка за гузік. Вінароб за кожным словам ківае галавой і кажа: „Не клапаціцеся, не клапаціцеся... „Конюх, запылены і расчырванелы, вяртаецца. Яго сустракаюць захапленнем.

— Мой праціўнік адстаў!—смяецца конюх.—Хевсураў не абгоняць!

Дудукі, долі і чонгур пачынаюць граць марш. У акружэнні жанчын паяўляецца Нана, закрыўшы твар канцамі чорнай хусткі. Авраамідзі вядзе пад руку, горда ўзняўшы галаву, Міцьку Савіна, жаніха. На ім—вышываная крыжыкам касаваротка, чорны пінжак з чырвонай кветкай у пятліцы, сінія галіфе і бліскучыя боты са скрыпам. Яны ідуць—вінароб і яго вучань, перапоўненыя абодва павагай і гонарам, госці вітаюць іх, квартэт грыміць. Жаніх падыходзіць да нявесты і адкрывае ёй твар—нявеста апускае вочы і чырване . Чарнявая падруга яе тонкім голасам раптам заводзіць „Мравалжаміе“, усе падхопліваюць гэты велічны гімн, чонгурыст акампануе на басовых нотах. Жаніх бярэ нявесту за руку і яны адкрываюць парад, а за імі ідуць госці, хвалюецца Авраамідзі і ўсе размяшчаюцца за сталом, як судны на рэйдзе. Тамадой выбіраецца Сіман Пічыевіч, і ён гаворыць:

— Вінаград звезен у давільні, першае маладое віно наліта ў вашы шклянкі. Здароўе маладых. Здароўе нашага маладога вінароба і лепшай нашай работніцы. Няхай паважаны таварыш Міця Савін вып‘е гэты грузінскі рог. Алаверды да вас, дарагі Міця.

Госці крычаць „ваша!“ долі б‘юць дроб, патэтычнае „Мравалжаміе“



грыміць над сталом, як услаўленне. Рог абходзіць гасцей. Тосты робяцца частымі. Авраамідзі клянецца, што варта пражыць многа гадоў, страціць сваю радзіму, каб хоць раз сядзець за такім сталом. Сімон Пічыевіч робіць яму заўвагу, што такое вяселле можа быць толькі у соўгасе, толькі ў Грузіі. Авраамідзі пад крыкі ўхвалы выпівае з гэтай прычыны два рагі без перадышкі.

Потым гоман сціхае і цішыня запаўняецца квартэтам: ідзе караван... Горы, бясконцыя дарогі, сонца, спёка і пыл. Горы застаюцца за спіной і пачынаецца стэп, скупы і бязрадасны. Трывожна крычаць ішакі, цяжка ступаюць валы. Прыціхлі сабакі. Толькі паганятыя вядуць сваю сумную і, здаецца, бясконцую песню. Цхалі! Цхалі!—вады! вады!—вось вышыня жадання, вось найдаражэйшая ўзнагарода спадарожнікам. Пыл, спека, смага. І раптам валы прыспешылі крок, ішакі закрычалі ваяўніча, сабакі ўзнялі морды, паганятыя заспявалі весялей. І раптам...

Раптам на ўзгорку паяўляецца постаць конніка „Ааа!“—крычаць госці, не звяртаючы ўвагі на музыку.—„Ён доўга даганяў цябе, кацо“.—Гэта гавораць да конюха з чорнымі вусамі. П‘юць за здароўе конюха і адстаўшага наездніка.

— За чыё здароўе п‘юць?—Міцька расчырванеўся ад гарачыні, віна і шчасця.

— Не хвалюйцеся, дарагі, гэта мой стары прыяцель, Шэліям Чхонія!—супакойвае Авраамідзі.

Як?

... раптам стэп канчаецца і родныя мясціны ўстаюць перад вачыма спадарожнікаў. Нудны і павольны тэмп музыкі пераходзіць у шпаркі, адрывісты лёгкі. Аа! Гэта знаёмая мелодыя: лезгінка! Вось ужо выходзіць з-за стала танцор і робіць першы круг. Правая рука прыціснута да грудзей, левая адкінута ў бок, а ногі вырабляюць лоўкія выверты. Навокал б‘юць у далоні так моцна, што музыкаў ужо не чуваць. І застаецца—адзін толькі тэмп, шпаркі, імклівы, палкі. Танцор ідзе па кругу, шукаючы падтрымання. Ён усім сваім целам выказвае змору. „Нявесту! Нявесту!“—крычаць госці.

Нявеста выходзіць лёгкай паходкай. Яна плаўна плыве па кругу і чорныя фальбоны яе хусткі развіваюцца, як крылле. Танцор пакідае яе адну. І тады з цемры раптам выходзіць на круг Шэлія. Ен вырабляе шалёныя піруэты. Госці крычаць: „Ваша!“ і Шэлія адгукаецца ім. Нана ўзнімае вочы і ў іх узнікае страх. Твар яе бляднее. Але спыніць танец яна не можа. Вось Шэлія наганяе яе, вось ён ужо зусім побач.

— Вып‘ем за нашых гасцей, лепшых людзей будаўніцтва раённай гідрастанцыі, за дарагога Белага і дарагога Чхонію!—крычыць тамада.

Тэмп танца ўзмацняецца. Шэлія выкрыквае падзяку, але танца не спыняе. Вось ён грудзьмі затрымлівае партнёршу. Яна—бледная і стомленая, але гонар не дазваляе ёй пакінуць круг. Удары рук грымяць, як стрэлы, ад крыкаў застаецца толькі—аша, аша, аша!—і потым усё зліваецца ў суцэльны гам. Шэлія крычыць жанчыне: „Адумайся, Нана! Помні зарок!“ Яна адлятае ад яго і ён імчыцца за ёю, як апантаны. „Падумай, Нана! Праз некалькі гадзін гэта будзе позна зрабіць. Ты-ж здаўна была нарачонай, Нана!“ Яна праз сілу крычыць свой адказ: „Позна, Шаліко, маўчы! Ты не прыходзіў да мяне... Позна!“ Ён хапае яе за руку і спыняецца. І ў надышоўшай цішыні абрываецца мелодыя танца, як крык аб паратунку.

— Пакінь яго,—кажа Шэлія па-мінгрэльску.—Закон патрабуе гэтага, мы нарачоныя.

Яна хістаецца, але ён трымае яе моцна. Усе маўчаць наўкола ў замяшанні.

— Не магу, Шаліко, я люблю яго...

Ён выпускае яе, жанчына падае, як падкошаная, ён бегам знікае ў цёмных алеях парка.

— Хто запрасіў яго сюды? Чаму парушаюць наша свята?—крычыць Міцька, кідаючыся то да Аўраамідзі, то да Жоржыка.

Аўраамідзі нешта бубніць незразумелае, а Жоржык з усмешкай кажа:

— Ён, мусіць, выпіў, таварыш!—і ідзе шукаць друга, хвалюючыся.

Аўраамідзі ўжо сядзіць побач з Рамбашыдзе і разважае:

— Так любіць жыццё, усё каб было складана і незразумела...

— Вы яго запрасілі сюды?—цікавіцца Рамбашыдзе.

— Я. Не мог утаіць ад яго, але і гаварыць не смеў.—Грэк разводзіць рукамі.—Ён малады і няхай прывыкае. Гэта жорсткая школа, жыццё, але я прайшоў яе...

Тамада наводзіць парадак. Жанчыны супакоілі нявесту. Міцька хмурыцца, але пасярэбраны рог, напоўнены вінам, прыходзіць да яго. „Здароўе жаніха! Ён трымае сябе, як грузін. Ваша, дарагі Міця“— крычаць яму. Смех, жарты, музыка і песні зноў напаўняюць цёплую ноч.

---

— Не аддам. Чаго ты прышоў сюды?—вочы Шэліі блішчаць, як у ваўка.

— Аддай,—цвёрда патрабуе Белы, трымаючы мінгрэла за руку.— Ты ашалеў ад гора і злосці, ты робішся вар‘ятам. Аддай!—Ён хоча вырваць з рук Шэліі кінжал.

Шэлія матае галавой, вырывае руку, адварочваецца ад друга, увесь дрыжыць. Гора ахапіла яго, помста запалілася, як касцёр з сухога голля. Белы садзіцца побач з ім. Ён кажа нарэшце:

— Я пайду і скажу ім пра твае намеры, будзе скандал, Шэлія. Падумай, што ты робіш.

— Ты мне не друг, калі так!—крычыць мінгрэл.—Ты—здраднік!

— На тваёй мове—я здраднік.—Голас Белага цвёрды і спакойны.— На маёй мове—твой учынак будзе насіць назву гнуснага забойства.

Шэлія раптам валіцца на зямлю і пачынае хрыпець. Плечы яго калоцяцца, рукі скрабуць траву. Шэлія плача.

— Я не пазнаю цябе,—доўжыць упэўненым голасам Белы.—Той гэта Чхонія, з якім я спаборнічаў на тунелі? Гонар, кажаш ты? Свяшчэнная традыцыя грузінскага народа? А на маю думку—гэта перажыткі, як кажуць, гэта коснасць, нявартая новага чалавека. Памяркуй, Шэлія, як таварыш кажу. І кінжал у цябе нейкі старадаўні. Падары яго мне, кацо.

— Ты здзекуешся!—крычыць мінгрэл.—Здаўна я ведаў закон грузінскай сям‘і. Гонар яе—закон. Ты—рускі, ты не ведаеш гэтага. А наш зарок? Яна здрадзіла, будучы нарачонай, і здрадзіла з рускім. Супакоіць мяне можа толькі помста.—Ён зрываецца з месца, але Жоржык моцнай рукой прымушае яго сесці.

Хвіліну яны змагаюцца моўчкі. У змаганні Беламу ўдаецца выхапіць з рук мінгрэла кінжал. Белы нават разрэзаў знянацку руку.

— Цяпер ты можаш ісці, куды хочаш,—кажа ён, крывячыся ад болю.—Я зраблю сваю справу, я папярэджу.—І пасля маўчання, напоўненага хрыпам мінгрэла:—Вінаваты ты, твая вясковая закваска. Навошта ты кідаў яе адну, калі любіў? Зарабіць грошай, каб абжыцца? Што табе—хату будаваць? Хіба яна не магла працаваць разам з табой?

У гэтым твая памылка, Шэлія. Ты слухаеш мяне? Зразумей, што ваш зарок—не абавязак. Яна палюбіла другога чалавека, мацней, чым цябе. Твой вобраз, скажам паэтычна, сцёрся ў яе памяці. Навошта ты можаш прэтэндаваць? На свабоду чалавека? Твая думка аб гонары, аб помсце такая-ж старая, як твой кінжал. Ён даўно ў цябе? Ты яго даўно навастрыў? Ты чуеш мяне?

Мінгрэл маўчыць, унурыўшы галаву ў плечы. З-за дрэў далятаюць гукі музыкі, абрыўкі гоману і смеху. Край неба пачынае бялець. Чынары на ўзгорку, каля царквы, вырысоўваюцца з цемры. Прахладны вецер дзьме з захада. Трава пакрыта расой.

— Робіцца холадна,—пасля доўгага маўчання кажа Белы.—Скора дзень. Ты апазніўся з помстай. Наша паездка выдалася няўдалай, але ў нас яшчэ ў запасе чатыры дні. У цябе ёсць бацька, Шэлія. Я хачу з ім пазнаёміцца.

Мінгрэл узнімаецца з зямлі. Яны ідуць па вузкай дарожцы—да чыгуначнай станцыі. Неба на ўсходзе ружавее. Яны ідуць на ўсход. Шлях іх ляжыць праз хісткі мост. Рака імчыцца пад ім. Шэлія кідае ў хвалі свой кінжал.

— Дарма,—кажа Жоржык,—лепш-бы падарыў мне. Але паспяшаемся—скора прыдзе поційскі поезд.

Мінгрэл маўчыць. Жоржык пачынае насвістваць. Скора будзе сонца.

---

... і няхай будзе двойчы ўслаўлена яна, успетая вялікім Шота!..

... з вузкага праліва ўдарыла марская хваля; кацер закалыхаўся, як трэска, хіснуўся бераг, жаўтаватае неба, як шчыт, на момант стала старчаком; і ўсё зрабілася незвычайным...

... І тады верылася, што іменна тут прыстаў да берага распісны карабель з драконамі на карме і з яго вышлі дзіўныя шукальнікі залатога руна; перад імі быў горад з конусападобнымі купаламі, з каменнай сцяной, непрыступнай і грознай...

... і лягенда бярэ сваё; раз'ятраныя хвалі Полеастомі ўгневаліся на чалавека; сцяна спаўзае ў хвалі; хвалі плешчуцца на цвінтарах і вось ужо застаўся адзін толькі самы высокі шпіль, і на ім—чалавек, можа—апошні з арганаўтаў...

... і не адчапіцца ад чорнай рамантыкі, тут, на хвалях Полеастомі, сярод змрочнай прыроды Мінгрэліі!..

... было-ж проста: кацер вёз хлеб, рыбу, тытунь і боты рабочым, якія рылі адзін з каналаў Калхідбуда; наш спадарожнік расказаў легенду пра Полеастомі, які пахаваў у сваіх хвалях горад; прашлі стагоддзі, лягенда жыла; жылі будаўнікі Калхідбуда і ім везлі хлеб, рыбу, тытунь і боты...

... і няхай будзе тройчы ўслаўлена яна—

---

Праз непраходныя мінгрэльскія балоты, дзе прабіраліся толькі адны пастухі ды дзікія звяры, прайшлі каналы, балоты зрабіліся плённай тлустай зямлёй, на ёй узніклі шасейныя дарогі. Стары Шанава, мінгрэльскі пастух, пабудаваў сабе хату—новую, прасторную, з белымі рамамі.

... І памыліўся не стары Шанава, а сын яго, малады Шэлія. Ён чакаў убачыць старое: хацінку, крытую голлем, вогнішча на гліянай падлозе, загарадкі каля хаты з цялятамі з чужога стада. Здзіўленне ўзрасло, калі стары пастух павёў гасцей у невялікі садок за хатай. Ён быў садоўнік. Маладыя цытрусавыя дрэвы зелянелі ў садку.

— Вось мой клопат,—важна сказаў стары, звёўшы разам белыя бровы.—Сёлета—першыя плады. Паспытайце.

Сын і госць бяруць па велізарнаму мандарыну, ачышчаюць валакністую скурку і сакавітыя долькі плоду растаюць на языку.

— Твайму таварышу падабаецца мандарын? Нашы мандарыны будуць лепшыя, чым у Аджарыстане.

Ï Шанава ўспомніў: „Наша стада будзе лепшае ва ўсёй Мінгрэліі. Наша багацце бяжыць з рук само“. І сын, смяючыся, спытаўся.

— Тваё багацце не бяжыць з рук, бацька?

Стары нахмурыўся, але адразу-ж вочы яго заблішчэлі смяшынкамі:

— Бацьку трэба заўсёды слухаць. Але не трэба ўспамінаць, Шэлія, старога. Ты чалавекам зрабіўся, бачу я. А маё дабро само ў рукі плыве, не зявай толькі. Зямля!—і ён раскінуў рукі ў бакі, нібы хацеў абняць імі ўсю зямлю.—Зямля!

Зямля. Яня ляжала стагоддзямі, чакаючы чалавека. Чалавек прышоў—моцны розумам і целам. Над балотамі стаяў туман, ніклы алешнік быў вільготны. Нізкае неба раняла дробны дождж. Над усім гэтым панаваў малярыйны камар. Чалавек прышоў разам з машынамі. Яны былі разумныя і паслухмяныя памочнікі чалавека.

Зямля. Яе цела перарэзалі каналамі. Ï як пад рукамі хірурга ачуньвае хворы, так і яна ачуняла, нібы стварыўшыся другі раз, каб квітнець на карысць чалавека буйнымі ўраджаямі.

Зямля. Цытрусы пачалі заваёўваць яе. Яны выраслі ў садках, як партызанскія атрады, яны пасталі на новых саўгасных пасадках, як арміі. Мандарыны, лімоны, апельсіны, грэйп-фрукты, з'яднаўшыся наступілі на алешнік. Ён адышоў з боем. Бой доўжыцца.

Зямля!

Шанава апускае свае рукі і ўсміхаецца. Усміхаецца ласкава, заспакоена і горда. Сын не пазнае яго і гэта, напэўна, лепш. Бацька пасяляе ў ім зацікаўленасць, але больш за ўсё—упэўненасць. Трызня!—успамінае ён чужое вяселле і шукае Жоржыка. Друг заняты справай: ён узяў рыдлёўку і абкапвае маладзенькае дрэўца апельсіна. Стары кліча іх у хату. Жоржык мые рукі. Вада ліецца з чыстага сіняга ўмывальніка, што прымайстраваны на цвіку, убітым у дрэва каля хаты. Гэта велізарнае дрэва. Дзіўна, як яно вырасла тут такім вялікім.

У хаце, покуль прыдзе Жоржык, бацька кажа:

— Гэты рускі—добры чалавек. Ты сярод чэсных людзей, Шэлія, і я за цябе спакойны.

Малады адчувае, што ў ім абуджаецца любоў да гэтага старога садоўніка. Такая-ж моцная, як колішняя непрыязнь. Ï маладому хочацца расказаць пра тое, як стаў ён ударнікам на электрастанцыі. Бацька налівае чырвонага густога віна ў шклянкі. Утраіх яны сядзяць і гавораць аб жыцці.

— Чаму не пераязджае маці?

— Яна скора пераедзе зусім. Там-жа што-якое засталося. Трэба сабрацца. Твой малодшы брат будзе вучыцца на агранома. Мы так вырашылі.—Ï ў голасе бацькі Шэлія чуе старыя ноткі: мы так вырашылі.

Яны доўга сядзяць за сталом, на якім стаяць шклянкі з віном. Жоржык адчувае сябе вельмі добра. З старым у яго ёсць аб чым гаварыць. Стары калісьці ездзіў па Расіі, салдатам. Тыя-ж мясціны бачыў і Жоржык. Шэлія слухае іх і думае, што Жоржык зрабіўся зусім сваім і блізкім чалавекам, не толькі другам, але — братам. У галаве Шэліі ўзніклі і ўжо не знікалі надоўга складаныя праблемы брацтва рускага і мінгрэла,

рускага народа і мінгрэльскіх пастухоў. І паміж іншым, у памяці паўстаў маладзёжны інтэрнат на шахтах...

Загарэлы Панас Панчэнка, каранасты Пінька, наіўны і дабрадушны Файзула, „чумазы“ арловец Яншын са смехам пеленаюць ў прастыні Малютку. Велізарнае мускулістае цела Малюткі перавальваецца з боку на бок, як мядзведзь. Хлопцы смяюцца і жартуюць. Раптам Малютка ўзмахвае рукамі і ўсе адлятаюць ад яго, як гарошыны.

— Малютачка!—крычыць Пінька, залазячы пад стол.—Я табе калыханку праспяваю, Малютачка!

Малютка стаіць пасярод інтэрната, робіць дзікія грымасы і пагражае таварышам кулакамі. Кулакі, як два велізарныя камені. На ўсім целе Малюткі ходзяць тугія біцэпсы.

У гэтую хвіліну на Малютку налятае Жоржык Белы. З пачкай газет ён трапляе ў абдымкі Малюткі. Не рогат, а стогн стаіць у інтэрнаце. Жоржык вырываецца, газеты лётаюць наўкола яго, як крыллі. „Ратуйце!“— захліпаецца Жоржык смехам. Але ён знаходзіць выйсце, гэты рыжавалосы друг. Ён крычыць:

— Хлопцы! Спыніце дурэць. Газеты поўны навін!

І вось ўжо ўся вясёлая кампанія нахіляе галовы над сталом. Велізарны аркуш „Праўды“, як палотнішча сцягу.

— Хто будзе чытаць? Чарга Шэліі.

Ён чырванее. Але прапусціць чаргу ён не мае права. Ён садзіцца за газету. Цішыня. Голас яго зрываецца, яму цяжка вымаўляць рускія словы. Але таварышы ўважна слухаюць яго. Гэта яго падбадзёрвае. Ён супакойваецца і выпраўляецца. Мінгрэл чытае рускую газету ўпэўнена, голасна, роўна. І вясёлая група таварышоў, згрудзіўшыся каля яго, затаіла дыханне. Лёс Тэльмана захапіў іх. У фашыстоўскім астрозе, у Германіі, большэвік Тэльман напэўна адчувае прыхільнасць і дружбу да яго, якая запалілася ў далёкай Грузіі, на марганцавых шахтах, у душах мінгрэла, татарына, рускага, яўрэя і украінца.

---

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Праз тры дні пасля паездкі ў Кабулеты турыст пакінуў Батум. Велізарны цеплаход узяў яго на свой борт, каб праз некалькі гадзін даставіць у Поці. Батум, абмярэжаны пальмамі, быў прыгожы ў той час. Сонца стаяла высока. Мора—ласкавае і спакойнае. Дзесяткі купальшчыкаў усеялі бераг. Скончыўшы пагрузку, група грузчыкаў пашла купацца. Гэта былі здаровыя і шумныя людзі. Яны адразу парушылі цішыню берага крыкамі, смехам. Купальшчыкі, здавалася, падхапілі іх весялосць. На белых лодках з пукатымі ветразямі заспявалі. Пад парусінавым парасонам на беразе зайграў патэфон. Хлапчукі пачалі кідацца з вышкі ў мора. Пыркі вады, узнімаючыся, гарэлі на сонцы.

Пасажыры цеплахода абляпілі парэнчы палуб. Многія з іх махалі хусцінкамі, ім адказвалі з берага. Турыст пакінуў палубу і зачыніўся ў каюце. Ён сядзеў, заплюшчыўшы вочы. Маска абыякавасці да навакольнага знікла. Твар яго выяўляў гнеў. Абвіслая ніжняя губа дрыжэла ссінеўшы, бо чалавек сціскаў моцна зубы. Валасатыя рукі зводзіла ў кулакі. Так праседзеў ён усю дарогу, не пакідаючы каюты. За некалькі хвілін да прыбыцця ў поційскі порт, турыст вышаў на палубу. Некалькі пасажыраў, якія меліся высадзіцца, агледзелі турыста. Ён

адчуў стрыманую зацікаўленасць. Яго гэта не ўзнервавала: зноў ён быў спакойны, замкнёны, абыякавы.

Над Поці праходзіў дождж. Турыст падняў каўнер шэрага гумовага паліто і нацягнуў на рукі пальчаткі. Дождж быў дробны, назолльвы, сцюдзёны. „Грэйп-фрукты завозяць з Фларыды"—мільгнула думка.— Турыст сеў у аўто. Праз гадзіну на гэтым-жа аўто ён пад'ехаў да двухпавярховага будынка, адпусціў шофера, пазваніў ля дзвярэй кватэры на другім паверсе. Яму адчыніла жанчына.

— Кетэвана?—не ўзрадаваўся, а здзівіўся позны госць.—Ты не пазнаеш мяне?

Жанчына адступіла, пабляднела і, крыкнуўшы, схапілася рукой за лоб. Госць цмяна ўсміхнуўся, узяў жанчыну за руку і, прычыніўшы дзверы, павёў яе ў пакой. Жанчына ішла моўчкі і пакорліва. Яны ўвайшлі ў сталовую. Ён агледзеў яе—буфет з хрусталём і фарфарам, блеклую амфору ў кутку, люстру над круглым сталом.

— У цябе тут добра, Кетэвана,—канстатаваў ён.—З кім ты жывеш? Ён зняў капялюш, паклаў яго на стол, а сам сеў.

Жанчына супакоілася. Нарэшце—яна была ў сваёй хаце, была гаспадыняй, яна магла тут абараняцца. І як прайшла здэтанаванасць—вочы яе загарэліся непрыязню. Стары заўважыў гэта. Ён моўчкі паглядзеў на яе: на высокую прыгожую фігуру, на смуглы твар, на пышныя каштанавыя валасы.

— Як ты падобна на матку!—раптам не вытрымаў ён.—Няхай-бы сотня гадоў прайшла—я пазнаю цябе, мая Кето.

— Не называйце мяне так.

Яна зірнула на яго—з рашучасцю, упарта. Гэтым позіркам яна нібы хацела выказаць сваю незалежнасць. Сумная ўсмешка паявілася на яго твары.

— Калі не хочаш—не буду. Ты не хвалюйся, Кетэвана, я заўтра пакідаю гэты горад. Мы з табой ніколі не ўбачымся, я не буду турбаваць цябе.

Яна села насупроць яго. Ён мог распытваць, яна згаджалася слухаць і адказваць. Ён госць і гасціннасць мае свае законы.

— Тым лепш,—сказаў ён.— Пятнаццаць гадоў я хацеў убачыць цябе, я пісаў, ты маўчала. Я разумею. Падзеі накіравалі нас на розныя шляхі. Было-б глупствам даводзіць, што ты памыляешся.

— Добра, што вы гэта разумееце.

— О, так! Дрэнна, што я разумею вельмі шмат. Пятнаццаць год таму назад я зразумеў, што ўрад Ноя Жорданія павінен загінуць. Золата дапамагло мне выбрацца ў Францыю. Я вывез з сабою усе каштоўныя рэчы, у бочках нібыта віно. Потым я зразумеў, што трэба змагацца з тымі, хто закрыў перада мною дарогу сюды ў Грузію. Французы прыгожа гавораць, яны дрэнна дзейнічаюць. Я перадаў свае грошы немцам. Гэта была мая апошняя стаўка. Цяпер я пачынаю разумець, што і гэтая стаўка будзе біта.—Ён перадыхнуў.—Я кажу гэта табе, Кетэвана, каб ты зразумела, што мая логіка—мой вораг. Я прыехаў сюды, каб упэўніцца, што мая нямецкая стаўка будзе біта канчаткова. Тут у вас моцны кулак, нічога не зробіш. Раскажы пра сябе.

Яна згатавала кофе. Ён не адмовіўся ад яго. Гадзіннік мерна адлічваў секунды. За вокнамі ішоў дождж, за вокнамі была цёмная глухая восень. Тут, у сталовай, было светла, цёпла, утульна.

— Твой муж—інжынер Мгсхарашвілі? Я чуў такое прозвішча. Яго яшчэ не абвінавацілі ў шкодніцтве? Ну, я не буду, я жартую, Кетэвана. Чаму-ж вы не разам жывеце?

— Я працую тут, на субтрапічнай даследчай станцыі,—растлумачыла яна.—Кідаць работу мне не хочацца, яна захапіла мяне. Я скончыла, між іншым, батанічны факультэт, вы гэтага не ведаеце...

— Цяпер ведаю. Ён будуе электрастанцыю, твой муж? Дзе? У такім чортавым месцы! Гэта—вар'яцтва.

— Не, гэта не вар'яцтва. Яна амаль што пабудавана. Ёсць не такія будаўніцтвы.

— Напрыклад?—мільгнула іронія.

Яна падумала.

— Напрыклад, робяць новае рэчышча для Рыона. Мінгрэлію перакройваюць ўсю, гэта будзе савецкая Калхіда. Напрыклад, ваду Алазані паднімуць на шыракскае плато, кахецінская жытніца, што ляжыць на вышыні 650 метраў у параўнанні з алазанскай далінай, атрымае ваду. А я, напрыклад, вырошчваю расліны субтропікаў, каб засадзіць імі Калхіду. Праз некалькі год мы будзем багацей Аджарыстана.

— Нават з Фларыды вывозіце расліны?—пацікавіўся ён з усмешкай.

— З усіх канцоў свету, нават з Фларыды,—спакойна адказала яна і прапанавала кофе.

Ён падзякаваў. Адламаў кавалачак пячэння, але паклаў яго.

— Тое-ж самае, што калісьці рабіў я з вінаградам...

— Зусім адваротнае. Вы рабілі гэта для сябе...

— О, я разумею, разумею!—перапыніў яе.—Я засвоіў палітэканомію сваёй спіной, сваім гонарам і сваім капіталам, не клапаціся тлумачыць.—Ён зноў зрабіўся сухі і абыякавы.—Дзіўна. Там мне няма чаго рабіць, яшчэ год, яшчэ два і я зраблюся жабраком-эмігрантам. Тут мне таксама няма чаго рабіць па той простай прычыне, што я не магу і не хачу рабіць. А ў цябе дзеці ёсць?

Яна вядзе яго ў маленькі пакой, запальвае святло і ён бачыць смуглявага хлапчука ў ложку. Хлапчук спіць, раскінуўшы па коўдры рукі. Стары нахіляецца над ім і разглядае гэтага хлапчука з чужым, незнаёмым тварам.

— Ён—грузін, ён, мусіць падобен на мужа. Твайго ў ім—нічога.

— Я па сутнасці таксама грузінка.

Ён пераводзіць вочы ад хлапечага твару на сцяну. На ёй вісіць яркая аплікацыя:—чырвонатварыя піонеры з малінавымі гальштукамі, у сініх трусах, б'юць у барабаны. Стары іранічна ўсміхаецца.

— Ты—грузінка, Кетэвана? А я, твой бацька, па сутнасці армянін, а фактычна—без роду, без племені, французскі грамадзянін. Нічога не зробіш.

Гадзіннік у сталовай б'е дванаццаць. Чырвонатварыя піонеры б'юць у барабаны. Кроплі дажджу стукаюць у вокны. Прыглушана гудзіць мора, б'ючыся аб мол. Судны ў парту сігналяць. Жыццё не спыняецца.

---

Шэлія прыглядаўся да друга і не пазнаваў яго. Жоржык усміхаўся неяк затоена, шматзначна. Гаварыў ён ласкавыя словы. Ён ведаў назвы кветак, знаходзіў на сінім небе сузор'і і ведаў іх дзіўныя імёны. Неба было велічнае, цішыня—неутрапёная, паветра—цёплае і пахкае. Жоржык стаяў над ракой. Рака—яшчэ нядаўна быстрая і бурлівая—ішла спакойна, як буйваліца. Недзе ніжэй была плаціна і там рака гула, пенілася ля быкоў, рвучыся ў вышыню сівай грывай. Але плаціна была далёка і шум не далятаў сюды.

Жоржык нагой ссоўваў з берага каменчыкі і пясок і яны мякка падалі ў раку. Жоржык гаварыў:

— У размеркавальніку канчаецца мантаж. Там чысценька і прыгожа як у музеі. Усё пакрыта мармурам. Сярод мармура ходзіць дзяўчына, у шэрым халаціку. Я зайшоў, паглядзеў. Яна, Шэлія, звычайная дзяўчына, крышку кірпатая, з пухлымі вуснамі, залацістая. Але яна—насмешніца і за словам не лезе ў кішэню. Я—жарт, а яна адрэзала, аж я анямеў. Цяпер, што называецца, я абмяк, раз'ехаўся. Дзіўна.

Шэлія ўсміхаецца.

— Гэта перажыткі, як кажуць,—ласкава іранізуе ён. Твой электраманцёр, напэўна, гуляе з сваімі мантажнікамі. Там ленінградцы, хлопцы фартовыя.

— Адкуль ты такое слова ўзяў—фартовыя? Ты робіш поспехі, кацо!

Шэлія запальвае папяросу. Пры святле запалкі відаць: цёмны твар мінгрэла смяецца. Жоржык адчувае, як гарачыня авалодвае ім.

— Чаму-ж мне не ведаць, што ленінградскія мантажнікі называюць сябе фартовымі хлапцамі? Чаму-ж мне не ведаць, што мой прыяцель Жоржык Белы ўліп і закахаўся ў кірпатага электраманцёра? Шэлія багата ведае.

Жоржык злёгку злуе:

— Трох законаў дыялектыкі Шэлія яшчэ не ведае!

— Ты непаслядоўны. На практыцы я іх ведаю.

Жоржык намацвае нагой камень і шпурляе яго ў раку. Камень падае з лёгкім усхліпам. На электрастанцыі сірэна гудзе змену.

— Дванаццаць гадзін,—кажа Жоржык.—Між іншым, каспійскія рыбаловы пазнаюць час па зорках. Няхай яна гуляе сёння з ленінградцамі, заўтра яна будзе гуляць са мной.

— Закон—першы.

— Ты дурэеш, Шэлія.

Ён садзіцца побач з мінгрэлам, бярэ з яго рук папяросу, адрывае кончык гільзы і зацягваецца. Шэлія абнімае яго плечы.

— Я дурэю, кацо, гэта правільна. Яшчэ часам мне цяжка ўспамінаць перажытае, мне трэба даравацъ іронію. Але шчыра скажу, скажу перахварэўшы—калі любіш, не цягні, спяшайся. Рабі свае шчасце.

— Ты—друг Шэлія. Я гэта даўно ведаю.—Жоржык кладзецца на траву. Агенчык папяросы то загараецца, то глухне.—Вось паглядзі—Вялікая Мядзведзіца, сем зорак... Сёмая зорка—самая яркая.

— Ты гэта скажаш заўтра свайму электраманцёру,—перапыняе Шэлія таварыша.—У мінгрэльскай народнай песні пяецца: сёмая зорка—найяснейшая і зыркая, гэтая зорка—маё каханне. Дзяўчаты такое любяць

Папяроса згасла. Семізор'е Вялікай Мядзведзіцы ззяе над Жоржыкам. Шэлія пяе песню. Голас у яго ціхі, глухаваты, грудны. Сем бліскучых рубільнікаў зроблена на мармуровай дошцы размеркавальнага шчыта на электрастанцыі. Жоржык думае аб заўтрашнім. У яго і ў брыгады Шэліі—шмат работы назаўтра: іх перакінулі на праводку ліній. Ён стоміцца да вечара, але гэта—дробязь. Шэлія пяе: сёмая зорка—найяснейшая і зыркая, гэта—зорка—маё каханне. „Ен не забыў сваёй Нана,—мільгае думка, але разам з маўклівым спачуваннем да таварыша—знікае. Цёмнасіняе неба і неўтрапенная ноч пануюць над светам.

— Пра што ты думаеш?—раптам спыняе песню мінгрэл.—Пра Вялікую Мядзведзіцу? Пра залацістую ленінградку?

Жоржык адказвае не адразу. Ён апошнія словы Шэліі паўтарае шэптам і потым знянацку смяецца голасна:

— Думаю пра тое, што мне трэба папоўніць свае веды па электратэхніцы. А яна—не ленінградка, Шэлія, яна з Ленінакана, з Арменіі, кацо.

---

Рыштаванні з электрастанцыі зняты. Будынак стаіць на фоне шэрых скал—чысты і светлы, як нованароджаны. Сем бліскучых рубільнікаў зроблены на мармуровай дошцы размеркавальнага шчыта. Правады высокага напружання ўзняты на слупах, як абсталяванне пад высокай столлю цырка. Бетонная плаціна нагадвае праспект соцгорада. Яна—шырокая, стромкая, чыстая і радасная. Зялёныя постаці вартавых на плаціне зычаць спакой і ўпэўненасць. Праз раку, насупроць электрастанцыі, на высокім беразе раскінуліся першыя кварталы рабочага пасёлка, клуб, больніца, магазіны. Зграбныя будынкі пашыхаваліся ў шэрагі, як матросы ў белых форменках.

Рамбашыдзе глядзіць на кнігу ў руках Масхарашвілі. З кнігі тырчыць канверт. Масхарашвілі ўспамінае:

— Якраз успомніў. Дзякую. Напісаў ліст жонцы і забыўся здаць. Пройдзем на пошту.

Яны ідуць па нова-праведзенай вуліцы, міма белага, с купалападобным дахам клуба.

— Вы—шчаслівы чалавек,—кажа Масхарашвілі.— Станцыя пабудавана і вы застаецеся на ёй працаваць. Што можа быць больш прыемнага, чым назіраць і адчуваць дзень за днём карысць сваёй работы.

— Нешта цмяна ў вас выходзіць,—ухмыляецца Элісбар Рамбашыдзе.—Вы што чытаеце?—Ён ківае на кнігу.

Масхарашвілі чамусьці нервуецца:

— Прачытанае не ўплывае на маю логіку, таварыш Элісбар. Гэта—Бодлёр. Такая слабасць з універсітэта. Добры пераклад. Я хачу сказаць, што мне, старому чалавеку, прыдзецца пакінуць станцыю, вас, таварышоў. Гэта як кавалак ад сэрца. Заўтра можа быць новая станцыя, новы начальнік, новыя людзі, новыя праекты, клопаты... А я старым раблюся і ў мяне сям'я ў Поці...

— Вы не такі стары, кацо... Нарэшце вы можаце адмовіцца ад новага будаўніцтва і асесці дзе-небудзь. Ніхто не будзе супроць таго, каб вы працавалі стала на адным месцы. Я б ахвотна, скажам...

Масхарашвілі кашлянуў. Элісбар глянуў на яго і здзівіўся. Твар інжынера свяціўся ўсмешкай—амаль хлапечай, такой хітраватай.

— Чытайце паэзію, кацо,— не сказаў, а неяк праспяваў Масхарашвілі.—Вы даведаецеся, што такое д'ябал творчасці. Мне проста, даруйце старому, хацелася ведаць, як вы ставіцеся да маёй работы. Вы—скупы.

— Ацэньваць вашу работу,—здзівіўся Рамбашыдзе,—не мне...

— Скромнасць, скромнасць!—сыпаў Масхарашвілі.—Дзякую вам, дзякую, кацо.—І потым схапіў за руку і з пафасам:—Д'ябал творчасці, кацо! Я ўсё думаю, як-б пабудаваць электрастанцыю на Паўночным полюсе, другую—на Паўднёвым, пяць—на крайнім ўсходзе, і ўсё злучыць у адно, у адзін электрычны мозг. Вось тады я і сказаў-бы сабе: кацо, досыць, можаш ехаць да сям'і, твая Кетэвана насадзіла па Калхідзе эўкаліптаў, палі, засеяныя рамі, шырокія і плённыя і ты можаш адпачываць. Вы слухаеце мяне?

— Так уважліва, што нават не прыкмеціў, як мы прашлі міма пошты.

— Як?!— устрапянуўся Масхарашвілі.—Але мы ўзнагароджаны. Паглядзіце, кацо, на гэтых маладых людзей.—І ён паказаў на спартыўнае поле, каля якога яны знаходзіліся.—З імі было добра працаваць з гэтымі юнакамі і дзяўчатамі.

Група хлапцоў і дзяўчат рассыпалася па спортпляцоўцы. Баскетбольны мяч лётаў над русявымі, чарнявымі і каштанавымі галовамі. Смех і ваяўнічыя крыкі стаялі над пляцоўкай. Адны з гульцоў былі без кашуль, іх загарэлыя целы хораша вылучаліся на фоне сініх, белых і чырвоных маек астатніх. Дзяўчаты былі спрытныя, стройныя і задорныя. Хлапцы гулялі зацята. Няўдакаў надзялялі жартамі і смехам. Лоўкі ўдар выклікаў захапленне.

— Ваш любімец таксама з імі,— сказаў Рамбашыдзе, паказваючы, на Жоржыка Белага.

Масхарашвілі вачыма знайшоў Жоржыка і ўсміхнуўся.

— Аднойчы ў Чыкага—сказаў ён,—я захапіўся футболам. Стадыёны зрабіліся для мяне любімым месцам адпачынку. Іншых відовішчаў я не прызнаваў. Аднаго разу я пазнаёміўся з юным футбалістам. Гэта быў раманец па крыві, янкі па характару і беспрацоўны па-сутнасці. Ён гуляў за грошы і за грошы праігрываў. Але аднойчы, а ён быў добры футбаліст, кацо, мой знаёмы не здаваўся. Ён іграў супроць каманды, у якой быў яго асабісты вораг. І гэтая каманда праіграла. Грошы ў яго не забралі, але, падпільнаваўшы, збілі нагамі ў бутцах да крыві. Гэта было жахлівае відовішча.

Пасуючы з рыжавалосай дзяўчынай, Жоржык Белы нёс мяч. Мяч трапляў да яго ў рукі метадычна і дакладна. Астатнія гульцы ганяліся за мячом, бегаючы ад Жоржыка да дзяўчыны, але мяч нязменна рабіў дугі над іх галовамі. Нават сціхлі крыкі. Рамбашыдзе заўважыў, што Масхарашвілі хвалюецца. Вочы яго няспынна сочаць за лётам мяча. Раптам чарнявы хлапец высока падскаквае над галовамі астатніх і збівае мяч. Гэта—мінгрэл Шэлія. Масхарашвілі смяецца, але ніяк не можа захаваць адчування нездаволенасці: ён аддае перавагу Беламу. Рамбашыдзе кажа, што Шэлія зрабіў артыстычны ўдар. Баскетбалісты смяюцца. Жоржык абцірае твар рукой і грозіць мінгрэльцу. Той толькі ўсміхаецца—дабратліва, з лёгкім адценнем спачування.

— Пойдзем на пошту,—кажа Рамбашыдзе і яны пакідаюць спартыўнае поле.

Масхарашвілі атрымлівае ліст ад жонкі.

— Вы не жанаты, Элісбар? Гады два з вамі працую, а дагэтуль не запытаўся. Дзіўна, а?

— Яшчэ не паспеў.

Інжынер разрывае канверт. Складзены ўдвая аркушык спісаны шырокім, размашыстым почыркам.

— Не паспелі? Жаніцеся на лезгінцы, кацо. Найпрыгажэйшыя жанчыны.

„Ты даўно не пісаў,—ставіць на від жонка,—я так і не ведаю, што з тваім тунелем, што... „Масхарашвілі смяецца. Тунель даўно забетанаваны, таўстая жалезная труба з пятнаццаціметравым радыусам, пракладзеная ў тунелі, скора прыме ваду, вада заверціць лопасці турбін. „У мяне была нечаканая сустрэча з бацькам... „Масхарашвілі зводзіць бровы. Рамбашыдзе насвіствае, сочачы за дзецьмі, якія будуюць з каменчыкаў і пяску нейкі мост. Напэўна, плаціну—усміхаецца начальнік. „Бацька паявіўся ўвечары, назаўтра не заходзіў і, мусіць, паехаў з Поці. Ён стары, нейкі разгублены і жоўчны. Ты помніш—мне раней

было крыўдна, што родны бацька кінуў мяне адну, выехаў за граніцу якраз тады, калі я была ў Расіі. Гэтае адчуванне крыўды знікла цяпер. Якая велізарная пропасць!"..

— У вас жонка—лезгінка?—раптам пытаецца Рамбашыдзе. Масхарашвілі смяецца:

— Жонка мая не лезгінка... Яна, ведаеце, такая... адным словам—вельмі добрая ў мяне жонка! Д'ябал творчасці і ў ёй бытуе. Яна субтропікамі займаецца, галавааа!—і ён ужо бярэ Рамбашыдзе пад локаць і пачынае з захапленнем расказваць аб поційскай субтрапічнай станцыі.

Дзятва будуе мост з каменчыкаў. З спартыўнага поля лятуць крыкі і смех. Масхарашвілі і Рамбашыдзе ідуць на паседжанне тэхнічнага совета. З нядаўна ўстаноўленых гучнагаварыцеляў льецца музыка. Маляры паднімаюцца, скончыўшы абед, на рыштаванні. Жыццё ідзе...

---

Манах—рыжавалосы, хітры, брудны. Здаровае сваё цела вялікага і тоўстага чалавека ён сіламоць перагінае ў паясніцы, каб мець выгляд хворага, вяшчаснага і мізэрнага. На твар ён дарэмна намагаецца нацягнуць грымасу паслушэнства: твар чырвоны, мясісты, бліскучы. Ён наогул падобен да чалавека, які любіць смачна з'есці, паслухаць цынічныя гісторыі аб жанчынах і сам расказаць іх пры выпадку. Засвярбела пад пахай і велізарнай тоўстай пяцярнёй каменецёса манах драпае па чорнай засаленай сутане.

Ключы грымяць у заіржавелых варотах, каваныя вароты стогнуць і расчыняюцца. Холадам і тхланню патыхае з іх. Так адкрываецца ўваход ў старадаўнейшы храм—Светы-Цхавелі. Манах жаласлівым голасам пачынае свае тлумачэнні. Ён неадступна следуе за наведвальнікам. Наведвальнік хмурыцца, дае манаху грошы і загадвае яму маўчаць. Манах адходзіць да сцяны, садзіцца на лаву, шырока расставіўшы калены і паклаўшы на іх рукі. Гэта—мяснік, гэта нават кат з Метэхі, а не манах!

Наведвальнік адводзіць вочы ад манаха, яны ўтаропліваюцца ў падлогу. У ёй—чатырохкутныя дошкі рознай даўнасці і велічыні. Пад нагамі турыста пакоіцца дынастыя Багратыдаў, тут ляжыць веліч і падзенне, арліны гонар і мізэрнасць гадзюкі. Спыніся, горды чалавек!—Табе дадзена таптаць нагамі гісторыю. Сярод чатырохкутнікаў ёсць адзін, варты увагі—пашчапаны стагоддзямі мармуровы кавалак без надпісаў. Гэта надтрунне цара Вахтанга, заснавальніка Тыфліса, гэта—арліны ўзлёт грузінскага феадалізма. Ля ўвахода ў алтар дзве медзяныя магілы, з надпісамі па-руску: цар Іраклій II і Георгій XII і апошні пахаваны тут з царскім ушанаваннем па загаду рускага імператара!..

Турыст узнімае вочы. Ластаўка лётае ў аконных прасветах—высока пад купалам. Цвіль паўзе па сценах. Сцены пакрыты блёклай пабелкай, яна ў некаторых мясцінах знята і найпрыгажэйшыя фрэскі старадаўніх грузінскіх майстроў праступаюць праз яе цмянымі, строгімі і суровымі фарбамі. Іх прыгажосць спыніла руку перса-заваявальніка, якая ўзнялася для руйнавання. Але рука жадала дзеяння, прадыктаванага заваёвай і скіфствам: персы павыколвалі вочы на фрэсках. Азія пакпіла з цывілізаванай Еўропы: гэта-ж рускі варвар, свяцейшы глава рускай царквы загадаў замазаць геніяльныя фрэскі. Персы-язычнікі спыніліся перад варварствам, брат во хрысце з праваслаўнай русацяпскай дубінкай перашыб іх сваім дзікунствам.

Турыст пакідае храм. Таўсты манах гулка стукае за спіной велізарнымі ботамі. Манах уздыхае—шумна і зацята, як мяхі каваля. Аўто прымае турыста на свае мяккія скураныя падушкі. „Мне не шанцуе,—думае скептычна турыст, пазіраючы на шофера.—Гэта, напэўна, таксама які-небудзь рэкордсмен. На грудзях шофера звычайны варашылаўскі значок.

Аўто аб'язджае напоўзруйнаваную сцяну, мільгае бліскучы, падрамантаваны конус былога жаночага манастыра, Самтавро, і вось плаціна Загэса праплывае з правага боку. Спіной за Мцхетскіх ваколіц узвышаецца мануміент Леніну. Шофер сігналіць. Аўто мінае пешаходаў, грузавікі, арбы. Шасэ ідзе да Тыфліса. Ён пачынаецца, гэты шматплямённы і многамоўны горад з новай вуліцы, імя якой—мост чэлюскінцаў. Нібы злучыўся Усход з Поўначчу невідочным нервам. Масхарашвілі мяркуе злучыць іх нервам электрычным. Большэвікі, крышку апярадзілі нашага інжынера. Няхай жыве фантазія!..

Шэрая постаць турыста,—нерухомая ў аўто. Правая рука адкінута на борт машыны, левая—на скураным сядзенні. Яркі гальштук—як шыльда таннага атэлье, што гандлюе не вопраткай, а рэкламай. Твар турыста—спакойны, безуважны. Ён толькі пастарэў—мусіць, здарожыўся. Аб чым ён думае? Што хвалюе яго? Нічога? Шофер сігналіць. Тыфліс набліжаецца, як феерверк.

---

Вось яны стаяць: Элісбар Рамбашыдзе, начальнік будаўніцтва Масхарашвілі, стары інжынер і юны фантазёр, Шэлія Чхонія, былы мінгрэльскі пастух, знатны чалавек будаўніцтва, Жоржык Белы, былы беспрытульнік і блатняга, брыгадзір комсамольскай брыгады, выхаванец чыатурскіх шахт, Агнія Каматадзе ударніца-бетоншчыца, Ленка Арлова, адкатчыца на тунелі, дзяўчына з вачыма газелі, Міхаіл Шевардэнія, найстарэйшы будаўнік плаціны, майстар шпаркіх тэмпаў і высокай якасці.

Велізарны зал новага клуба перапоўнен гулам апладысментаў, якія лятуць да стала прэзідыума, як ухвала і згода. Нешта кажа начальнік, але Шэлія чуе толькі адны апладысменты, а вочы... вочы ўтаропены ў велізарныя шкляныя шары, напоўненыя электрычнасцю. Нехта кратае яго за локаць. „Ідзі, Шэлія,—кажа Ленка Арлова,—усе сабраліся". Яны ідуць праз зал да выхада. Людзі махаюць ім рукамі і шапкамі, нешта паказваюць, зычаць поспеха і шчаслівай дарогі. Грузавік імчыць іх на вакзал.

Першы званок. Шэлія хвалюецца. Гэты Жоржык заўсёды позніцца. Шэлія чамусьці ўспамінае выпадак на рэчцы і высоўваецца ў акно вагона. Але—ён смяецца: тут ён не можа выратаваць таварыша. Жоржык Белы стаіць на пероне і трымае за рукі дзяўчыну ў белым адзенні. Жоржык—сур'ёзны і крышку сумны. Нешта важнае кажа дзяўчыне, тая згаджаецца, але суняць смех не можа. Гэтая дзяўчына—залацісты электраманцёр. Пад пахай у Жоржыка букет кветак. Белыя астры, пурпуровыя ружы і яшчэ нейкія ліловыя дробныя кветкі. Жоржык выпускае рукі дзяўчыны з сваіх і рэзкім рухам аддае букет электраманцёру. Дзяўчына працягвае руку, ён паціскае яе. Другі званок.

— Дні прабягуць шпарка,—крычыць Жоржык, павісаючы на вагонных парэнчах.—Я скора вярнуся!

Поезд кранаецца. Перон праплывае перад вокнамі вагонаў. Дзяўчына ў белым махае букетам. Шэлія раптам зрывае шапку і, смяючыся, пачынае ёю махаць. Электравоз сігналіць. Поезд набірае скорасць.

— Замётана моцна,—кажа крышку разгублена Жоржык, паяўляючыся ў вагоне. Ён—узбуджаны, чырвоны, потны.—Сумна і радасна... Чорт адзін можа разабраць, што са мной робіцца!..

Масхарашвілі апускае газету на калені і хітравата падміргвае, смеючыся. Смяецца і Шэлія. На твары Ленкі Арловай таксама ўсмешка, цёплая. У Жоржыка—міна вінаватага. Ён апускае вочы і чырванее мацней. Прыязнь таварышоў яго радуе і здэтаноўвае,. Поезд імчыць сярод зялёных узгоркаў, акунаючыся ў тунелі.

— У Тыфлісе мы будзем раніцой, у гадзін шэсць,—кажа Ленка да Шэліі і ён заўважае, якія белыя і роўныя ў дзяўчыны зубы.

Тыфліс раніцай—сонечны, радасны, ціхі. Праспекты і пляцы яго ў гэткі час—велічныя. Газоны і дрэвы на праспекце імя Руставелі—з найчысцейшай зелянінай. У алеях батанічнага саду прахладна і сціхотна. Паветра тут—араматнае і тонкае. Нават Кура раніцой нібы сцішае свае хвалі.

Вось пляц Закфедэрацыі. Абмыты вадой асфальт яго—як люстра. Пляц ляжыць велічна, нібы вартуе рубеж двух гарадоў. Пераступіць яго і тады знікаюць перспектывы руставелеўскага праспекта і кварталы старога горада, як старадаўнія гравюры, хвалююць фантазію, мярэжныя балкончыкі павісаюць над вузкімі і звілістымі вуліцамі. Будынкі лепяцца адзін да аднаго, як пчаліныя соты. Тратуары падобны да горных сцежак. Брук—гарбаты і жорсткі. Тут пераважаюць шэрыя, чорныя, рыжыя колеры. І раптам на фоне іх—яркія кроплі самацветаў: вось паказаўся тупы конус мечэці Шах-Абаса, заззяўшы рознакаляровай палівай; вось роспачнай легендай узматнуўся і нібы павіс над кручаю Метэхскі замак; вось грузна выплыў, як абрабаваны і зняслаўлены магнат, што не страціў яшчэ сваёй асанкі і самавітасці, Сіонскі сабор, вось заблудзіліся сярод мноства будынін, хацінак, дамкоў, як ленаватыя і гультаяватыя пасланцы з Персіі, лазні Арбеліані.

У цішыні гэтых вуліц думаецца аб мінулым. Па той бок пляцу Закфедэрацыі вуліцы дыктуюць дзейнасць. Адчай старых кварталаў прымушае ўспамінаць. Роспач, жабрацтва, бруд—якая скупая экзотыка! Рабунак, знішчэнне, разгул заваявальнікаў—якая скупая экзотыка! Так думаецца раніцай. Тады, калі цышыня—як глуханямы. На пустую вуліцу ўступае ішак, нагружаны пляцёнымі кашамі. Кашы вісяць па абодвух баках, як крыллі ў Пегаса. Выгляд у ішака іранічны. Як і ў часы Марко-Поло—за ішаком выступае яго гаспадар—прадавец мацоні. Вось ён разяўляе рот і крычыць, крыху гугняючы,—Мацоні! Мацооніі!—і з крыкам прадаўца Мацоні пачынаецца дзень старога горада. Аднак не цяжка заўважыць у мітусні дня: групы рабочых знімаюць напоўзруйнаваную сцяну; крывыя завулкі знікаюць пад іх рукамі, і вось ужо дымяцца чаны, напоўненыя асфальтам; велізарныя пяцітонкі вязуць каменне і трубы...—няхай жыве экзотыка!

На белым вакзале, устаўленым шырокалістымі пальмамі, Элісбар Рамбашыдзе кажа сваім спадарожнікам:

— Зараз аўтамабіль даставіць вас у гасцініцу. Адпачніце. Сёння ў тры гадзіны нас прыме сакратар Цэнтральнага Камітэта. Спадзяюся, што кожны з вас разумее адказнасць.

Шэлія нешта наважваецца сказаць, але не можа: хваляванне авалодвае ім неяк раптоўна. Ен глянуў на Жоржыка. Таварыш неяк ураз

падцягнуўся. А Масхарашвілі? Стары інжынер ужо сеў побач з Міхаілам Шэвардэнія у аўто і, паказваючы на новы будынак, нешта тлумачыць. Шэвардэнія дзівіцца, заахвочваючы інжынера да гаворкі. Шэлія глядзіць на Ленку, хоча ёй сказаць: нас прыме сакратар. Ленка, гэта... гэта незвычайная падзея ў жыцці мінгрэльскага пастуха. Але ён маўчыць, баючыся, што яго не зразумеюць.

Хваляванне суцішылася, але адчуванне прыўзнятасці і нейкай урачыстасці зрабілася мацнейшым. Гэта крышку замінае. Шэліі зноў чамусці здаецца, што ён—няўхлюды, смешны, што таварышы заўважаюць гэта. Ен апускаецца на крэсла побач з Жоржыкам, намагаючыся быць уважлівым, строгім, непрыкметным. У невялікім пакоі, дзе знаходзяцца яны, яшчэ некалькі чалавек. Але гэтыя людзі прымаюцца вельмі проста. Яны спрачаюцца, перакідваюцца рэплікамі. І Рамбашыдзе спыніў ля дзвярэй вайсковага і яны, як старыя прыяцелі, паціскаюць адзін аднаму рукі, смеючыся і абменваючыся прывітаннямі.

І вось з супроцьлёглых дзвярэй выходзіць нізкі чалавек ў шэрым пінжаку. Усе ўстаюць і вітаюць яго. Чалавек усміхаецца і, апускаючыся ў крэсла, крыху прыўзнятай рукой запрашае сесці. Шэлія зусім блізка сядзіць каля яго, праз двух чалавек. Спачатку ён заўважае: у чалавека акуляры.

Лаўрэнцій Берыя пытаецца, як здароўе прыехаўшых, як ехалася ці спадабаўся горад. Шэлія не можа стрымаць усмешкі. Пачынаецца гутарка. Рамбашыдзе рапартуе сакратару: першая чарга электрастанцыі ўступіла ў шэраг энергетычных крыніц рэспублікі. Рапарт—кароткі скупы, крышку сухаваты. Шэлія аднак непакоіцца, што Рамбашыдзе багата гаворыць. Але Лаўрэнцій Берыя яго слухае ўважліва.

У сакратара Цэнтральнага Камітэта на бледным твары рысы зморанасці, на пакатым чыстым ілбе набухла вена. Пад шклом акуляраў—энергічныя, жывыя і такія харошыя вочы. Калі глядзець на іх уважліва, здаецца, што вочы іскрацца цёплай усмешкай. І Шэлія думае: чалавек з такімі вачыма—друг. Ніякаватасць знікае і Шэліі робіцца лёгка, проста і нават утульна. Яму здаецца ўжо, што гэтага чалавека ён ведае даўно, што ён працаваў з ім побач многія гады. Ён слухае сакратара Цэнтральнага Камітэта. Так. Ён не памыліўся: сакратар працаваў з імі побач, ён быў з імі на будаўніцтве плаціны, ён штурмаваў з імі скалу, прабіваючы тунель. Сакратар нават ведае, што ў часе павальніцы папсавалася праводка і спынілася вентыляцыя. Сакратар нават ведае, што інжынер Масхарашвілі траха што не зрабіў памылкі. Якой? Лаўрэнцій Берыя заразіцельна смяецца: гэта-ж інжынер Масхарашвілі гатоў быў не паверыць у самога сябе, калі даведаўся, што брыгады на тунелі не сустрэліся у вызначаны час. Усе смяюцца. Масхарашвілі крычыць, што такі грэх быў.

Лаўрэнцій Берыя вітае лепшых будаўнікоў электрастанцыі з поспехам і дае слова высокаму і стройнаму чалавеку, які сядзіць крышку воддаль ад яго. Імя гэтага чалавека таксама сустракаюць апладысментамі. Ён узнімаецца, стройны, шыракаплечы, с тварам, абрамлёным чорнымі валасамі, крыху пасівеўшымі на скронях. Шэлія глядзіць на твар Германа Мгалоблішвілі. Гордасць, мысль і логіку практыка выяўляе гэты твар. Герман Мгалобшвілі стаіць ля сцяны, амаль кранаючыся галавой партрэта. На партрэце—правадыр.

— Мы ўваходзім з хадайніцтвам ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт,— ціха, але чэканна кажа Герман Мгалобшвілі,—аб узнагародзе граматамі ЦВК таварышоў...

Цішыня пануе ў пакоі. Шэлія адчувае, як б'еццa прыспешана сэрца. Лаўрэнцій Берыя глядзіць на Масхарашвілі. Інжынер — выяўленне ўвагі. Толькі бровы кратаюцца.

—... Елену Арлову, адкатчыцу на пабудове тунеля,—чытае Мгалоблішвілі прозвішчы ўзнагароджаных,—Георгія Белага, брыгадзіра комсамольскай брыгады, аднаго з лепшых арганізатараў моладзі на будаўніцтве, а таксама Шэлію Чхонія...

Потым грымяць апладысменты і Шэліі здаецца, што ў пакоі не пятнаццаць чалавек, а тысячы незлічоныя і магутныя. Шэлія ўзняты гэтымі апладысментамі, як на крыллі. Раптам ён адчувае руку Жоржыка якая сціскае яго руку. І так яны стаяць, сціснушы адзін аднаму рукі моцна, плячо ў плячо, неразлучнымі таварышамі.

— Апрача гэтага,—кажа, узнімаючыся з месца сакратар Цэнтральнага Камітэта,—таварыш Мгалоблішвілі мусіў быў паведаміць, што групу моладзі, якая ўваходзіць ў вашу дэлегацыю, мы пасылаем у экскурсію. Вы хочаце ўбачыць маскоўскае метро? Паглядзіце яго ў першую чаргу, таварышы. Ну, жадаю ўсяго лепшага, прабачце за кароткую сустрэчу. Я ў вас буду на будаўніцтве і мы ўбачымся скора. А вы, таварыш Масхарашвілі, адпраўляйцеся ў адпачынак. Я скажу ў Наркамаце, каб вас гналі, ні хвіліны не баўцеся тут—глядзіце.

Гадзіннік б'е пяць гадзін. Дэлегацыя пакідае будынак Закрайкома. Праз дзесяць хвілін Лаўрэнцій Берыя пачне паседжанне бюро. Члены бюро ўжо сабраліся ў пакоі, дзе над сталом узвышаецца партрэт правадыра. Жыццё ідзе.

---

Невялікі двухматорны аэраплан падрыхтаваны да палёту. Ужо чалавек з сцяжкамі пашоў да яго, ужо закружыліся шалёна прапелеры, ужо лесвіца ля дзвярэй кабінкі гасцінна прымае пасажыраў. Іх восем чалавек, сярод якіх трое нашых знаёмых—Ленка Арлова, Шэлія і Жоржык. Апошнім уваходзіць у кабінку турыст у шэрым паліто. Ёсць змены ў яго абліччы: ён вельмі састарыўся за гэтыя дні, жоўтыя плямы ляглі на твар, паглыбіўшы маршчакі; прымяўся яркі гальштук і неяк паблек. Стары гэты чалавек—хворы. Ён трымаўся ўсе гэтыя дні бадзёра, намагаючыся абараніць сябе абыякавасцю. Але ўчора раніцай, тады калі ён падняўся на Мтацмінду, каб пастаяць ля магілы Ільі Чаўчавадзе, раптам адчуў, што цела яго—старое, хворае, мізэрнае. І ён здаўся, хоць вонкава намагаўся яшчэ захаваць спакой, пагарду і абыякавасць. Увайшоўшы ў кабінку, ён маўкліва сеў на сваё месца і ўтаропіў вочы ў акно. Маладым—Ленцы, Жоржыку і Шэліі—побач з гэтым чалавекам на хвіліну зрабілася ніякавата, але гады ўзялі сваё: вясёласць апанавала іх і яны больш не звярталі ўвагі, на старога, хворага іншакраінца.

Маторы гудуць. Аэраплан ўздрыгвае, пасля лёгкага штуршка рушыць з месца і коціцца па аэрадрому, падскакваючы. Колы адрываюцца ад зямлі і зямля пачынае шпарка падаць уніз, змяняючы свой звычайны выгляд. Усё робіцца карлікавым, ужо нельга разглядзець асобныя дрэвы, будынкі, потым застаюцца ярка-зялёныя, цёмна-зялёныя, рудыя, шэрыя чатырохкутнікі і шматкутнікі. Шэліі відаць праз акно кола самалёта, якое нерухома павісла над зямлёй. Зямля праплывае пад колам павольна, ледзь хістаючыся ў бакі.

Шэлія адчыняе акно і ў яго ўрываецца вецер. Гуд матораў ўзмацняецца. Вецер б'е ў твар моцна. Твар гарыць. Робіцца радасна.

— Жоржык...—адно кажа Шэлія, але Жоржык не чуе свайго імя. Ён таксама захоплены падарожжам праз меру.

Унізе знікаюць зялёныя шматкутнікі, замест іх паяўляецца рыжы накіп з чырвонымі плямамі. Сонца і вецер б'юць ў вокны кабінкі.

— Азербайджан,—нахіляецца над вухам Шэліі пасажыр у акулярах.

— Мы скора будзем у Баку,—крычыць ён.

За правым бартом узнікае светлая роўнядзь, яркая і бліскучая, як фольга. Вузкі клін зямлі ўрэзваецца ў роўнядзь: Каспій, Апшэронскі поўвостраў, Баку! Аэраплан ідзе на пасадку, робячы круг над аэрадромам: з правага боку ў вокны б'е мора, з левага—устае дыба зямля.

Увечары, седзячы ў гасцінней аэрапорта Мінеральных Вод, Шэлія, Ленка і Жоржык дзеляцца ўражаннямі.

— Яшчэ год,—кажа Шэлія і вочы яго блішчаць шчасцем і ўзбуджанасцю,—яшчэ год і я паеду вучыцца. Я хачу лётаць, Жоржык, і я лётаць буду абавязкова.

— Заўтра Масква,—кажа Ленка, уключаючы радыёрэпрадуктар.— Вось... гэта з Масквы.

Аркестр грыміць марш. Магутны, радасны, імклівы, як маладосць. Шумна спрачаецца лётчык з сваім партнёрам, гуляючы ў шахматы. Буфетчыца праносіць на падносе шклянкі. Шклянкі састаўлены пірамідай. Гранёная піраміда грыміць. Грыміць сэрца Шэліі: мінгрэльскі пастух хоча і будзе лётаць. Над зямлёй, над акіянамі, над ланцугамі гор. І думкі яўляюць яму: ён, Жоржык, Ленка,—на самалётах; вось яны выходзяць на крылле і разам, лёгка адштурхнуўшыся, ляцяць уніз; вецер і сонца б'юць у вочы; рука рве колца і лёгкі штуршок сведчыць—купал парашута раскрыўся ўраз, як казачны квет. Грыміць аркестр. За вокнамі—у змроку—праходзіць самотная цень. Гэта—турыст. Жоржык праводзіць яго вачыма.

Грыміць аркестр. Б'е вецер. Сэрца стукае моцна. Гудуць прапелеры. Масква наплывае, як урачыстасць. Трамваі, тралейбусы і аўто—у суладнай сімфоніі. Маладосць! На ўсходцах Гранд-Отэля звініць смех маладых спадарожнікаў. Швэйцар бяжыць да аўто, у якім сядзіць турыст. Ён адчыняе дзверцы і пачціва кажа: „Калі ласка!“ Маўчанне. Шофер застывае, павярнуўшыся да пасажыра. На скураных падушках аўто—нерухомае цела. А смех грыміць на чацвертым паверсе. Ленка адчыняе акно. Перад ёй Масква, вячэрняя Масква—у звоне трамваяў і сірэн, у бляску пражэктараў і ліхтароў, у гомане тысячных натоўпаў. Ленка кліча да акна хлапцоў. І вось яны стаяць гэтыя тры таварышы, паклаўшы рукі адзін аднаму на плечы і глядзяць на вячэрнюю Маскву. Жыццё кіпіць. Заўтра—шчаслівы дзень, заўтра—метро! Прадстаўнік пасольства разгорне пашпарт турыста і прачытае: Ананян, французскі падданы. Закрыты грузавічок зробіць рэйс у Маскоўскі морг.

— Мы будзем заўтра глядзець метро,—паўтарае Жоржык.—Кажуць, ён лепшы ў свеце. Яго будавалі маскоўскія большэвікі, Шэлія.

Грыміць унізе вуліца. Шэлія маўчыць, зачараваны відовішчам. Ленка, зморaная дарогай і багаццем уражанняў, слаба ўсміхаецца.

А недзе, за тысячы кілометраў, вада пераможанай ракі робіць свой шлях па велізарнай трубе да турбін. Злёгку стукаюць турбагенератары. Электрычнасць, як залатая кроў, бяжыць па правадах. Спакойна ходзяць па плаціне вартавыя, зычачы непарушнасць. Цёплаход прыходзіць у поцційскі порт. Гудкі над Чыатурамі абвяшчаюць начную змену. Грэк Аврамідзі канчае свой чарговы ўспамін. Сігналяць электравозы. Веюць шырокімі лістамі пальмы на батумскім узбярэжжы. Нафта робіць рэйс па нафтаправоду з Азербайджана ў батумскі порт. Тыфліс заліты агнямі, як бліскучымі расінкамі. Мора б'е ў мол. Сын Кетэваны Масхарашвілі

засынае ў ложку, над якім вісіць яркая аплікацыя: чырвонатварыя піонеры з малінавымі гальштукамі б'юць у барабаны. Эўкаліпты смокчуць сокі сваім карэннем. Камбайнеры на шыракскім стане сабраліся ля кастра. Рамбашыдзе нахіліўся над газетай. Недзе на горных дарогах Сакартвело спявае паганяты валоў. Па Маскве грымяць трамваі. Аркестры выводзяць фінал. Гадзіннік на крэмлеўскай вежы б'е поўнач. Жыццё ідзе. Няхай тройчы будзе ўслаўлена яно.

Вачэві (Грузія)—Менск; червень-верасень 1935

### *Заўвагі да тэкста*

1. Мінгрэлія—адна з частак („правінцый“) Грузіі, балоцістая нізіна на беразе Чорнага мора, цэнтр яе—горад Поці. Воляй большэвікоў на асушаных балотах Мінгрэліі (альбо Калхіды) ствараецца багаты квітнеючы край субтропікаў.
2. Генацвале—ходкае грузінскае прывітанне, якое прыблізна азначае: аддам за цябе душу.
3. Крыж святой Ніны—старадаўнейшая святыня грузінскай царквы, якая захоўваецца ў Сіонскім саборы. Царыца Ніна—так званая „прасвяціцельніца Грузіі“—у IV стагоддзі зацвердзіла ў Грузіі хрысціянства.
4. Мравалжаміе—спачатку малітва, а потым свецкая народная песня, праслаўляючая асобу. Нешта накшталт славянскага „многие лета“.
5. Чкішы—па-мінгрэльску „пастух“.
6. Баранта—авечы статак.
7. Урэмі—арба, калёсы з двума велізарнымі coламі.
8. Сакартвэло—так грузіны называюць сваю краіну, Грузію (і далі ў тэксце—сакартвэл—грузін).
9. Імерэція—цэнтральная частка Грузіі.
10. Філаксера—шкоднік вінаграднай лазы, барацьба з якім скончана ўвозам амерыканскіх лоз (падвояў), устойлівых супроць філаксеры.
11. Аджарыстан—аўтаномная рэспубліка, уваходзячая (гэтак-жа сама як і Абхазія) у склад Грузінскай ССР. Цэнтр рэспублікі—Батум, найпрыгажэйшае месца савецкіх субтропікаў.
12. Хеві (альбо Хевсурэція)—адна з нагорных частак („правінцый“) Грузіі, вядомая сваімі авечымі стадамі. Насельнікі яе—хевсуры (гл. далей у тэксце).
13. Ной Жорданія—глава контррэволюцыйнага меншавіцкага ўраду Грузіі, існаваўшага да 25 лютага 1921 г. У тэксце прыводзіцца фактычная цытата з Жорданіі.
14. Мацоні—адна з нацыянальных страў, кіслае малако (накшталт рускай прастаквашы).
15. Армянскі рынак, Нахалаўка, Авлабар і г. д.—раёны старога Тыфліса, сталіцы ССР Грузіі, Эрыванскі пляц (далей у тэксце)—пляц Закфедэрацыі.
16. Руставэлі Шота—вялікі грузінскі паэт, аўтар эпапеі „Насяшчы тыгравую скуру“, класік сусветнай літаратуры; які жыў 750 гадоў таму назад.
17. Метэхі—турма-замак у Тыфлісе, з якой зрабіў выдатны па смеласці і адвазе пабег грузінскі большэвік Камо. Цяпер ў Мэтэхі знаходзіцца дзяржаўны музей з нацыянальнай галерэяй.
18. Алімпіец—жыхар гары Алімп у Грэцыі. Алімпіец—сімвал дасканаласці фізічнай і разумовай. Далей у тэксце сустракаюцца: афінскі спартсмен—удзельнік народных—святаў старадаўніх Афін (Грэцыя), якія вызначаліся высокай фізічнай культурай; Пегас крылатая істота, якая пераносіла душы з зямлі на Алімп, месца жыхарства багоў) (з грэцкай міфалогіі).
19. Вертэр—персанаж рамана Вольфганга Гётэ; Мітрафанушка—з камедыі Фонвізіна „Недарасль“; Хлестакоў—з камедыі Гогаля „Рэвізор“.
20. Сацыві—адна з нацыянальных грузінскіх страў.
21. Кахеція—частка („правінцыя“) Грузіі, вядомая сваім віном і хлебам. У Кахеціі знаходзяцца Шыракі (у тэксце—Шыракскае плато)—жытніца Грузіі.
22. Гулевер—персанаж—вадатнага англійскага раманіста Д. Свіфто.
23. Чынчылы—гліняныя збаночкі з вузкім горлышкам, выраб якіх шырока распаўсюджан сярод грузінскіх саматужнікаў.
24. Кварацхэлія—выдатны мінгрэльскі пастух, выгадаваўшы мясцовую пароду кароў.
25. Лобіо—нацыянальная страва (звараная фасоля з прыправамі).
26. Тамада або Тулумбаш—выбраны распарадчык (старшыня) стала ў часе бяседы.
27. Страдыварыус—старадаўні італьянскі майстар музычных (драўляных) інструмантаў. Скрыпкі Страдыварыуса лічацца найлепшымі ў свеце.

28. У гэтым абзацы апісваецца нацыянальная жаночая вопратка.

29. Ламазі кацы—па-грузінску „прыгожы“ мужчына; дыды бавшы—„вялікі хлопчык“.

30. Мэ міквархар—па-грузінску „я люблю“; махуцыкалі—„старая жанчына“.

31. Ваша́—„ура“.

32. Лягенда пра Палеастомскае возера расказвае пра тое, што пад хвалямі Палеастом загінуў вялікі горад.

33. Мцхэт—старадаўнейшая сталіца Грузіі (да заснавання Тыфліса), дзе знаходзіцца храм Светы-Цхавелі—усыпальніца грузінскіх цароў.

34. У часы Марко-Поло—гэта значыць, у XIII стагоддзі. У Поло знаходзім першы запіс аб Тыфлісе.

35. Ільля Чавчавадзе—буйнейшы буржуазны пісьменнік Грузіі. Лічыцца класікам. Магіла Чавчавадзе знаходзіцца на Мтацміндзе (манастыр на спадзе гары Давіда ў Тыфлісе). Тут-жа пахаваны другі выдатны паэт Грузіі Акакій Цэрэтэлі і А. Грыбаедаў. У манастыры знаходзіцца надзвычай добра арганізаваны музей пісьменнікаў.

Уладзімер Хадыка

## АСЕННІ ВЕЧАР

Асенні вечар лёг за сёламі,
У імгле халоднай рэшткі дня.
А поўна думамі вясёлымі
Людскіх усмешак глыбіня.

І песня болем не ўстрывожана—
Згубіла свой апошні кут,
Што нашаптана, наваропжана
Было звярыным збродам тут.

Прайшла, як брытваю па верадзе,
Па межах новая пара...
Увесь жыватворчы век наперадзе
У хадзе калгаснага двара.

Барацьбітамі і аратымі
Магутны рух зямлі багат.
Цвіце прыгожымі дзяўчатамі
Шчаслівай моладасці сад.

І сум не застуе тут радасці...
Вось восень чорным б'е крылом—
Яна-б гатова ўжо на спад ісці
І топіць хмар сваіх паром.

А ёй насустрач постаць конніка,—
Удалага, відаць, хлапца:
Душа разгорнута гармонікам,
Пяе і грае без канца.

Абшар паклоны б'е бярозамі
Цераз канавы і масток.
І толькі воддаль спіць без розуму,
Дрымотнай былі спіць куток.

Дрыгвяны дол зарос асокамі,
Глядзіць ў гнілое дно ракі.
І ходзяць ветранымі крокамі
Узад і ўперад хмызнякі.

Затопленымі сенажацямі,
Ў асенні выбраўшыйся дождж,—
Натоўпы верб старымі сваццямі,
Як быль, галля палошчуць хвошч.

Кудлатыя ўгнуўшы голавы,
З балот на грунт нясуць яны,
Як слёз, халодных кропель волава—
І трушчаць іх аб дзірваны.

Іх згорбленых касцей не кратае
Ліхога верасня слата.
Ім дзіва шлях за крайняй хатаю
Пад свежым следам капыта.

Ім дзіва чуць і страх ім нечага,
Што край адвечных непагод
Стаў сцягам шчасця чалавечага
І маладзее з году ў год.

Што любіць сонца тут, дзе шлях ідзе,
Пад дах страхі вячэрняй стаць,—
Каб адгарэць зарой на захадзе
І зноў на ўсходзе расцвітаць.

Ізноў знікаць за дальняй рысаю,
Як зараз летам маладым—
Дзяцюк з чупрынай белабрысаю
І чорнагрывы конь пад ім.

Жывой узнятая патрэбаю,
У крутых упартая вятрах,
Душа старой дарогай грэбуе,
Калі ёсць новы роўны шлях.

Ён праз імшары ў даль праведзены...
Прасторам вечны дадзен дар.
Дзень кожны робіць ім агледзіны
Іх поўнаўладны гаспадар.

Чые тут продкі след свой значылі
І ў нэндзе роднай старэны—
Нічога добрага не бачылі
Ад нараджэння да труны.

Хто ў свет грымотней і нястрыманей
Ўрачысты трубіць свой прыход.
Чыйго баяцца злыдні імені,
Хоць проста зваць яго—народ.

Пусціўшы спадчыну каравую
Пад кола дзён, як быляў здзек,—
Ён іх сваёй аслепіць славаю,
Ўладар і творца дзён навек.

Ён пройдзе ў гром вясны над хмарамі—
Ў вякі з маланак выкуць мост...
Пад нячуванымі ударамі
Страсецца бруд варожых гнёзд.

І будзе неба сінь расколата,
І ўславіць сэрцам чыстым бард—
Пад зоркай зор з сярпом і молатам
Вачэй асветленых мільярд.

Маркотнай ночы цені стуляцца,
І згіне жудзь асенніх рэк.
Пад сонца ўсенароднай вуліцы
Прарубіць дзверы чалавек.

Каб пела рань над кожнай рамаю
Ўсёй радасцю жывога там...
Як наш цяпер пра гэта самае
Вялікі край спявае нам.

І цёплымі ахоплен плынямі,
Мрэ ў спевах сівер, дзе не стрэнь:
Палі здаюцца воку сінімі,
І залатым—асенні дзень.

Ён раскладае ў мгле за сёламі
Кастры вячэрняга агня
І іскрамі гарыць вясёлымі
Яго усмешак глыбіня.

---

Уладзімер Хадыка

## Я ЛЮБЛЮ

Дождж прайшоў і хмары разыйшліся,
Пад гармонь танцуюць хаты ў рад.
Любая, гуляй і весяліся—
Я цябе вясёлай бачыць рад.

Светлы твой галубяць адпачынак
Залатыя нашы вечары:
Рук не вяжа чорная кручына,
Не збіваюць лютыя вятры.

Ўжо сваё яны адтанцавалі,
Палягглі, каб болей не устаць...
Славяць час прыгожых песен хвалі—
Нам цяпер чаму не пагуляць.

Нам нішто, калі праз сон аб нечым
Плача ў ночы жоўклая трава—
Мы і гэты боль чужы залечым
Сонца дум сваіх і хараства.

І сама—віхур царыца—восень
Прыдзе млець пад вокны з цемнаты—
Навучыць яе ў цябе папросіць
Танцаваць і пець як можаш ты.

Тупне, грымне наша вечарынка
Над яе бязроднай галавой...
Мне на свеце, любая дзяўчынка,
Усё-б аддаць за рух і голас твой.

Хай і я пішу даўгія вершы,
Змажу часам тысячу чарцей—
Я з табой станцую польку першы,
Буду думаць многа карацей.

Усё зраблю, што сэрца твае прыме,
На парог не ступіць след нуды.
Я люблю цябе за смех радзімы,
За яе шчаслівыя гады.

І яшчэ ў душы адна прымета:
Да жывога погляд твой прыкут,
І заўсёды зграбна ты адзета
І сабою вабіць вока тут.

Для цябе і людзі ўсе сыйшліся,
Пад гармонь танцуюць пары ў рад.
Любая, гуляй і весяліся—
Я цябе такою бачыць рад.

1935 г.

Васіль Каваль

## ПАЛЕСКАЕ АПАВЯДАННЕ

Шырокая палеская вуліца—з канца ў канец два кілометры. Новыя хаты з белымі акяніцамі. У палісадніках чырвоныя макі, хмель і вішні. У канцы сяла светлая двухпавярховая школа, пошта і сельсовет. Насупроць старая царква без крыжа і абразоў. А ў другім канцы, за рэчкаю, на ўзгорку, уздымаюцца калгасныя камяніцы—былы панскі маёнтак...

Пачатак палескага лета... У беларужовай пене плыве над сялом гарачае сонца. У садах, пад вокнамі асыпаюцца вішнёвыя пялёсткі. Пад лёгкім ветрам яны кружаць мяцеліцай. За аколіцай неаглядная раўніна зялёнага поля. На прасторах асушанага балота звініць аўсяны залаты дождж, пшаніца, пахне грэчка.

Вуліца шумная, па святочнаму прыбрана ў яркія стракатыя вопраткі.

Пасярэдзіне сяла, каля прызбы пад акном чалавек пяць моладзі абкружылі дзеда Данілу Шчура. Дзед расказвае глухім і суровым голасам. Ён сядзіць, апіраючыся жылістымі рукамі і барадою на сукаваты кій, згорблены, худы, з рэдкімі белымі валасамі. Аблічча ў яго суровае, сатканае з бязлікай колькасці сініх жылак і маршчын. У яго патухаючых дабрадушных вачах не то трывога, не то гнеў. На ім белая кужэльная сарочка, белыя штаны. Сонца прыгравае яго згорбленую спіну і вецер чуць-чуць варушыць бараду. З вішняў на плечы яму падаюць лёгкія пялёсткі.

Побач з дзедам русая дзяўчына, год семнаццаці, у шоўкавай сукенцы, з ямачкамі на шчаках, з вачыма незвычайнай сінявы—праўнучка Данілы Шчура. Паклаўшы ёй на крутое плячо руку, крышку падаўшыся ўперад, з напружанай увагай слухае кучаравы хлапчына ў белай вышыванай кашулі, з кімаўскім значком на грудзях. Два каржакаватых нізкія хлапцы—дружакі, у шапках на патыліцу, стаяць, абняўшыся за плечы, заклаўшы адну нагу на другую. Каля іх віхрасты хлапчук з чырвоным гальштукам і з кніжкаю ў руках. Ён так уважліва слухае, што нават разявіў рот і паказвае шчарбаты зуб. Трошкі воддаль застыў на месцы чубаты плячысты хлапец у новых ботах, з папяроскаю ў зубах, з гармонікам цераз плячо. Ён слухае, прыжмурыўшы ад дыму вочы, думае аб нечым далёкім, лёганька гладзіць пальцамі па ладах. З гармоніка вырываецца тоненькі сярэбраны звон—і таму здаецца, што гармонік грае недзе далёка за гарою.

— Ну—ну, кажыце, дзедка далей...—просіць дзяўчына і дакранаецца кончыкамі пальцаў да яго вялікай жылістай рукі.

Дзед думае і глухім голасам зноў гаворыць:

„— Што-ж расказваць? Усё гэта было, хай яно будзе проклята! Вам гэтага не ведаць... Сібернае было жыццё! Мая памяць не ўспомніць усяго, што было.

„Усе гэтыя палі, усё багацце належала не нам усім, а яснавяльможнаму пану Снядэцкаму (каменем яму зямля!). У пана былі табуны коней, валоў, гумны хлеба, багатыя палацы. А мы жылі ў зямлянках ды ў курных хатах. Елі хлеб з карою, з крапівою... Я тады быў яшчэ маладым. Мы працавалі на пана ад раніцы да цямна. А чуць загаралася вячэрняя зорка, ішлі працаваць на свае палоскі. Запрагалі валы ў драўляную саху—калупалі зямлю. Раніцай зноў ішлі на панскае поле. Быў пан, аканом, войт ды цівун—лютыя, як сабакі. Не давядзі свет! У нас і прыказка такая была: „Не будзь ні войтам, ні панам—не будзеш чалавекам паганым“.

Дзед расказвае павольна, часам спыняецца, нібы падбірае словы і ад гэтага аповесць пра рабства становіцца яшчэ больш жудаснай.

„— І вось нам сказалі: прышла воля! Мы цёмныя, спачатку паверылі... Але і пасля волі не стала вальней... Трое нас загаварылі аднаго разу:

„— Не трэба больш працаваць на пана! Будзем працаваць на сябе.

„Тады па загаду пана Снядэцкага нас схапілі, пасадзілі ў цёмную. Праз тры дні вывелі нас на вуліцу. Пан паклікаў роту салдатаў. На плошчы каля царквы з нас скінулі кашулі, прывязалі да шчакету і білі нас панскія паслугачы сырамятнымі бізунамі. А каб не чуваць было нашых крыкаў, пан загадаў салдатам біць у барабаны. Нас бізунамі секлі салдаты, білі ў барабаны, а пан прыгаварваў:

„— Яшчэ, яшчэ! Хай ведаюць волю хлопы!..

„Вось як мы жылі! І ніколькі нам не стала лягчэй. Усё той-жа хлеб з мякінаю... Нашы бабы са зрэбнага палатна шылі сарочкі, хусткі, намёткі ткалі. А мужчыны хадзілі сплаўшчыкамі на Прыпяць. Усю вясну, круглае лета, цэлую восень ганялі купецкія плыты. Па ўсёй Расіі разыходзіліся нашы людзі—хадзілі ў грабары, ездзілі ў Сібір, у Амерыку.

„І колькі мы не працавалі, не было нам лягчэй. Толькі гарбы расцілі. І гаварылі пра нас са зняваганю, што мы—не людзі, а паляшукі...

Вочы ў Данілы Шчура ўспыхнулі трывогаю і гневам. Дзынкнуў гармонік у руках чубатага хлапца. Дзяўчына ўздыхнула і лёгенька не знарок пагладзіла спрацаваную цвёрдую дзедаву руку. Кучаравы хлапчына апусціў вочы і наморшчыў бровы. Дружакі пераглянуліся і адзін з іх кіўнуў галавою і прашаптаў: „Чуў, як жылі?“ Хлапчук свіснуў праз шчарбаты зуб, збянтэжыўся і хутка прыкрыў рот рукою. У расчыненае вакно над прызбаю высунулася галава дзедавай нявесткі, павязаная намёткаю, і рэзка прамовіла:

— А як маю цяжарную маці катаваў цівун на жніве!..

„— Людзі вось што расказвалі,—гаварыў далей Даніла Шчур.—Даведаўся Ленін, што дужа цяжка жывецца паляшукам. І паслаў ён да нас на Палессе свайго вернага чалавека. Сам ён не мог прысці, бо быў у той час у далёкім царскім выгнанні. І вось прышоў гэты чалавек і прынёс з сабою шмат кніжак. А ў тых кніжках было самім Леніным апісана ўсё як ёсць наша жыццё. І аб тым было напісана, як нам трэба змагацца, каб скінуць памешчыкаў. Непрыкметна хадзіў пасланец па вёсках і гарадах. Яго лавілі паны і стражнікі, і не маглі злавіць, бо гэты чалавек быў блізкі да Леніна і яму ўсе верылі. Толькі адны ворагі не верылі і баяліся яго. І ўсё больш людзей збіралася навокал пасланца

ад самаго Леніна. Пайшлі рабочыя з гарадоў, сяляне з вёсак, салдаты з фронту—разам прагналі паноў.

„—Хай будзе ўся зямля сялянам, а ўсе фабрыкі рабочым“,—так навучаў пасланец ад Леніна.

Так яно і сталася...

— Але зноў груганнём наляцелі на Палессе ворагі. Гайсалі па нашых вёсках палякі, балахоўцы, пятлюраўцы. Дзе праходзілі—там пажарышчы, там жыта стаптанае. Столькі крыўды і гора прыносілі нам ворагі!

Даніла Шчур паглядзеў прыжмурана ў даль і дадаў:

— Усяго не перакажаш. Многа чаго бачыў на свеце я...

Вось гэтымі рукамі з маладых год карчаваў зямлю, капаў канавы... Плыты вадзіў...

— Бяду насіў...—дадала жанчына.

— Шчасця ўсё шукаў...

І дзед паказаў вялікія, жылістыя дрыжачыя рукі, на якіх век насіў бяду і якімі шукаў шчасця.

— А вось цяпер дажыў—шчасце ёсць, а трэба паміраць.

— Колькі вам год?—запытаў хлапчук.

— Многа... Вось яна—мая праўнучка падлічвала. Сказала—сто і дзесяць...

— Ого, каб мне столькі пражыць,—зноў свіснуў хлапчук і на яго зноў строга паглядзелі два дружакі хлопцы.

— Чаго лезеш не ў сваю справу?

— Многа...—паўтарыў дзед і паківаў галавою, нібы сам дзівіўся, што столькі пражыў на свеце.

— Дзядуля,—сказала дзяўчына.—Вы жывіце яшчэ шмат гадоў.

— Яшчэ пажыву... Пакуль вочы глядзяць, падзіўлюся на ваша жыццё... Многа бачыў я ў сваім жыцці. Многа забыў чаго...

Дзед змоўк і на момант стала ціха. Ласкавае сонца прыгравала яго спіну. Спрацававаныя стагоддзем—яго вялікія рукі ляжалі на кіі...

Чубаты хлапец моўчкі падыйшоў і сеў на прызбу побач з дзедам. Яго пальцы захадзілі па ладах гармоніка. На кліч гармоніка падыйшлі яшчэ некалькі чалавек. Моладзь заварушылася. Адразу стала шумна на палескай вуліцы.

Вуліца загаварыла гукамі гармоніка, маладым смехам, тупатам ног. На прызбе засталіся толькі Даніла Шчур ды гарманіст.

Пасярод вуліцы, перад вачыма ў дзеда мітусіліся яркія стракатыя кашулі і сукенкі. Мільгалі вясёлыя твары. У паветры ўзмахвалі моцныя ў працы рукі...

Русы чуб у гарманіста выпадаў з-пад шапкі, закрываў вочы, на шчаках выступалі капелькі поту. У дзеда твар рабіўся яснейшы і, здавалася, з нетраў яго выплывае такая-ж маладая ўсмешка.

І здавалася дзеду Данілу Шчуру, што не вуліца кружыцца, а трымаючыся за рукі, стараючыся вырвацца з зачараванага круга, праходзяць перад ім цэлыя пакаленні дзядоў, бацькоў, сыноў, унукаў.

Раптам знікае туман і ён бачыць перад сабою толькі апошняе пакаленне патомкаў прыгонных—радаснае і шчаслівае.

... Над вуліцай стаіць паўдзённае гарачае сонца. Мяцеліцай асыпаецца вішнёвы цвет і кружыць, кружыць...

27. X—35 г.

Мікола Хведаровіч

## РАНІЦАЮ

Арагва берагі калоціць,
У прадонні гор ёй бегчы цесна.
Жвіры хрыбтоў, каменне коціць,
Шуміць Арагва дзіўнай песняй.

А ранак сее срэбрам росы,
А сонца зоры ў неба тушыць;
Ступае звер ступою босай,
Каб гор маўчанне не парушыць.

Звісаюць скалы над дарогай,
Рыдаюць слёзна гор вяршыні,
І тур уздыбіўся на рогі,
Як здань застыў над прорвай стыні.

І ён напружыўся ўсім целам,
Ільсніцца шэрсць на спіне гладкай,
І грымнуў стрэл хеўсура Пэло,
І кроў пад леваю лапаткай.

Упаў на скалы, рогі звесіў,
Замоўк раптоўна водгук зычны.
Дубы шумелі ў Гульскім лесе
І пахла кроўю ад здабычы.

Арлы ўстрывожана ўзляталі
Іх вочы праглі смагай дзікай
На тым баку Чаргалісцхалі *)
Рыдала самка немым крыкам.

Тыфліс 25. V—35 г.

---

*) Чаргалісцхалі—рэчка.

Мікола Хведаровіч

# У ЧАЛАДЗІДСКІХ ПАСТУХОЎ

Апускаецца сонца
У абдымкі
Гарачых вазёраў,
З балацяных віроў
Птушы гоман
Ї ўсплёскі рыб.
Перасолены вецер.
Пахне пенаю
Чорнага мора,
Ї звіняць неадчэпна
Да болю
Малярыйныя камары.

З цяжкім вымем
Мінгрэлкі
З лясоў падыходзяць
Да стойлаў,
Плешча белая пена
У падойніках
Звонам глухім.
Ї жанкі разліваюць
Цялятам
Пахучае пойла,
Ї збіраюць багаты ўдой
Чаладзідскія пастухі.

Мокне ў бочках,
Як воск,
Наздраваты Мінгрэльскі
Сулгуні *)
Ї прыносіць пастух
З оджалегшаю **)
Поўны глякі.

---

*) Мінгрэльскі сыр.
**) Мінгрэльскае віно.

Раскладае агонь
Сінявокі Мінгрэлец
Габуні,
Метэорамі
Падаюць з дрэў
Незлічоныя светлякі.

А ў катле,
Што як ноч
Перакопчаны чорнаю
Сажай,
Закіпае вячэра
І садзіцца за стол
Грамада,
Ужо гатовы тугія—
Чаладзідскага цеста
Эларджы,*)
Першы тост
За рэспубліку нашу
Падымае
Стары тамада.

Ён другі падымае
За нашу шчаслівую
Стрэчу,
Потым долі, дудукі **)
Адгрымелі ўрачыста
Туш,
Непрыкметна знікае
Сівалапы
Калхідскі вечар,
Лес павольна
Спускае на землю
Чарнакудрую
Цемнату.

Ноч, як кажуць,
У поўным сваім
Развароце,
Непралазнай сцяною
Лясы акружаюць
Пастушы двор.
Совы даваюцца плачам
У нязменнай
Сваёй адзіноце,
Ноч крутога настою
Разляглася ў даліне
Між гор.

Чаладзіды—1935 г.

*) Пахучае цеста з салгуні і мамалыгі.
**) Музычныя інструманты.

А. Оршын

# НА ПАТРОННЫМ ЗАВОДЗЕ

**(з рамана „Паўвека“)**

Два-тры дні як заміраючае рэха дзе колечы яшчэ прадаўжалася гаворка пра Сяргеева. Жаль і абурэнне змяніліся разважнасцю. Адміністрацыйныя нізы і паважныя рабочыя гаварылі пра парадак, а маса... слухала...

— Усіх не пераплачаш. Сваіх клопатаў па горла ў кожнага,—павучальна гаварыў Кармачоў жаласліва „ахкаўшым“ ў прыбіральні.

Што праходзіць міма, не закранае цябе непасрэдна—не стварае на доўгі час уражання. Калі на маіх вачах Сяргееў быў пакрыўджан—я замёр ад болю, але ў наступны дзень думка зрабіць дванаццаць скрынак, як робіць Кароль, выцясніла з галавы ўсё астатняе. І я справуляўся: за апошнія два тыдні ў мяне чатыры дні было па дванаццаць і не было менш дзесяці. За два тыдні я даведаўся, што фокусаў тут ніякіх няма, а патрэбна напружанасць работы.

Оська і Юрка не хавалі свайго здзіўлення і зайздрасці. Яны лічылі мяне лаўкачом. Разам з зайздрасцю з'яўлялася ў іх і некаторая доля павагі да мяне. Гэтая павага лягла ў аснову нашага сяброўства.

Піцерскі чэрвень—убраны, пахучы і пяшчотны. Я сяджу і выганяю дванаццаць скрынак: у мяне баявая задача, якую я не магу не выканаць.— Там у вёсцы зараз самая бясхлебіца!.. Што зараз робяць там? Цяпер, у гэтыя дні вывозяць у поле гной, а потым будуць яго заворваць. Потым, з пятровіцы сенакос. Я, як бачу матку і бабулю з сахарамі ў руках—яны разбіваюць гной на палосцы, а бацька—суханогі, з закасанымі да кален штанамі ідзе за сахой... Конь, які не паспеў яшчэ выраўняць на пашы падобныя да абручоў рэбры, згорбіўшыся, цягне саху і саха кідае з аднаго боку ў другі схудзелага бацьку. І каню, і бацьку, і мацеры і бабцы хочацца есці. Няма хлеба! Я паслаў ім пяць рублёў... І яшчэ трэба паслаць.—І я „націскаю“.

Паўстае і другая задача—гэта клопаты аб сабе. Надыходзіць восень, зіма, а ў мяне акрамя пары бялізны і летняй вопраткі нічога няма. Патрэбна запасціся цёплым палітом, шапкай. Патрэбна самае меншае пятнаццаць рублёў. Значыць, трэба адкладваць штомесячна не менш як па тры рублі.

Пасля бадзяння без справы, пасля Кобазеўкі, сядзець за сталом на казённым заводзе і рабіць патрэбную справу, за якую даюць пенсію—

нядрэнна, і „націскаць“, ведаючы, што ад націскання вырасце на траячку, а то і больш мая пенсія—не цяжка.

І дзесяцігадзінны рабочы дзень, пасля дванаццацігадзіннага здаецца гульнёй. А свята?!. Я ўжо быў у Ісакіеўскім саборы—слухаў пеўчых; але самае галоўнае: два разы хадзіў у Эрмітаж... З Лізаветай Паўлаўнай—маткаю Юркі!

Эрмітаж!.. Мая свядомасць, мае пачуцці ўзбуджаны выключным майстэрствам. На карцінах паказан час, калі іх малявалі. Шмат якім па трыста год, а яны жывыя... З цемені чорных фонаў, як з цемені мінулага, быццам асветленае маланкай, мільганула і спынілася на мгненне ды так і засталося жыццё ва ўсёй яго бліскучасці.

Елізавета Паўлаўна тлумачыла мне кожную карціну ў паасобку. Я даведаўся, што на той альбо другой карціна намалёвана—і толькі... Я хадзіў у Эрмітаж амаль што кожную нядзелю і стараўся разгадаць іх.

Адзін раз я ўбачыў там капіравальшчыка, ён капіраваў Джыаконду. Я прастаяў каля яго цэлы дзень. Пры мне мастак скончыў малюнак вугалем і пры мне пачаў крыць фон... Але ў наступную нядзелю яго не было.

Вечарамі я часта заходзіў да Юркі па Астраханскаму завулку, каля Самсоньеўскага праспекта. У восем прыходзіла яго матка. Пілі чай. Яна расказвала нам павучальныя гісторыі з жыцця святых і з апавяданняў Ляскова, дзе ўсе справы вырашалі пакораю і выкананне заповедзей божых. Яна вельмі часта паўтарала незразумелыя нам тады словы:—Блюдзіце сябе,—і вельмі зразумелыя:—слухайцеся старэйшых.

Мы слухаліся і яна была вельмі задаволена, што ў яе Юркі такі харошы таварыш, якім быў я.

— Ты-б Лёня, пераязджаў да нас на кватэру, адсюль бліжэй да завода,—неяк сказала яна мне.

## VI

У Шатава сядзеў Вячэслаў і аб чымсьці горача гаварыў, а Шатаў, як заўсёды, хадзіў па пакоі і слухаў. Калі я ўвайшоў Вячэслаў змоўк.

— А-а-а!.. Малады чалавек! Як жывеце? Чаму так доўга не заходзілі? Павал Паўлавіч непакоіўся,—сустрэў мяне Шатаў.

Яны абодвы пазіралі на мяне з усмешкай і цяжка было зразумець жартуе са мною Шатаў ці гаворыць сур'ёзна. „Чаму я доўга не быў“. Тры тыдні—гэта не так ужо доўга. Мне здалося, што я абрыдаў тут і—раптам „Сернікаў непакоіцца“.

Маўчаў, чырванеў, аддуваўся.

— Ну, што новага ў вас на заводзе?—запытаў Шатаў.

Што з майго пункту гледжання на заводзе было новага? Што звалілі Сяргеева—гэта не было навіной. Звальнялі кожны дзень дзесяткамі, таксама, як дзесяткамі прыймалі на іх месца новых.

Праўда, звальненне Сяргеева было шумнае, публічнае. Сотні звальняюць і ніхто не бачыць і не чуе, а тут не толькі той, каго звальнялі, упіраўся, але чамусьці ўсе рабочыя завода загудзелі. Я расказаў як было.

— Шкадавалі ўсе. Гаварылі, што збіраць у палучку будуць, але чамусьці не збіралі. Гэта было ўсё, што я знаў.

— Во-ось...—уперся Шатаў поглядам у Вячэслава і ўздыхнуў.—А Власава няма... а Клюева няма. Хто там яшчэ быў з нашых?

— Тулякоў...—ціха адказаў Вячэслаў.

— Лухта на посным масле! Клякса! І заўсёды так.—Злосна прашыпеў Шатаў.

Вячэслаў развінуў рукамі.

— Кожнаму свайго розуму не ўложыш,—сказаў ён.

— Не ў гэтым справа, а ў арганізацыі!..—абарваў Шатаў.

Перакідваючыся жартам з кватэрнай гаспадыняй, увайшоў Сернікаў. Палажыўшы на этажэрку, на кнігі капялюш, ён паздароўкаўся за руку з Вячэславам і са мною і зразу пачаў:

— Тулякова і Клюева на бацькаўшчыну, а Власава ў Пермь.

— Адкуль даведаўся?—запытаў Шатаў.

— У нас на заводзе ведаюць.

Шатаў нахмурыў бровы і сціснуў зубы.

— Вось, Пашка, твой метад работы: не паспелі рот адкрыць, як іх і духу не чуваць. Колькі Власаў на патронным працаваў? Бадай месяцаў тры, не больш?

— Чатыры,—коратка адказаў Вячэслаў.

— Такая-ж латыха, як і ты, Пашка. Загарыць!.. Гатоў на кожным перакрыжаванні крычаць... і бараду-ж такую носіць. Гады на тры пагналі хлапца...

Сернікаў затузаўся, зашавяліў брывамі і машынальна ўзяў з этажэркі кніжку.

— Так што-ж... Па твойму, значыць, наша задача ў схованкі гуляць? Я думаю, што практычная мэта нашых гурткоў не толькі сябе рэвалюцыйна адукоўваць, а соцыялістычныя ідэі несці ў масы... а?..

— У масы—так! А яны што зрабілі? Умяшаліся ў нічога не вартую склоку... І Сяргееву не памаглі і самі ўліплі,—абураўся Шатаў.

— Гэта не нічога не вартая склока, а прынцыповае выступленне. Гэта спроба ўзняць масу на барацьбу з эксплаатататарскім сваවольствам... Адкрыць масе вочы.—Жэстыкуляваў Сернікаў.

— Для гэтага, судар, існуе агітацыйная літаратура,—праз зубы цадзіў Шатаў.—А свой лоб з прычыны кожнай дробязі падстаўляць, гэта...

— Ды як жа, чорт нас вазьмі, па вашаму-та, Ефрэм Ульянавіч? У цябе на вачах рвуць горла няшчаснаму рабочаму, а ты стой ды глядзі? Чакай зручнага выпадку? Не, Шатаў! Власаў малайчына, што ўчапіўся. Вышлюць у Пермь—ладна, і там сонца свеціць. За тое гэты выпадак улічаць рабочыя. А раз стала вядома, што Власаў член гуртка—значыць, гурток не дрэнна выяўляе сваю фізіяномію, значыць... Ну, як, Лёнька, ідуць на заводзе размовы, што Власава высылаюць?—запытаўся Сернікаў у мяне.

Власава я не ведаў, але дагадваўся, што гэта быў той „барадач“, які падгаварваў кідаць работу і ісці да кіраўніцтва з патрабаваннем прыняць назад на работу зволенага Сяргеева. На заводзе ведаюць, што зволена „за забастоўку“ шэсць чалавек, але цяпер, як мінула два тыдні, аб гэтым ужо забылі.

— Сяргеева шкадавалі ўсе... Хацелі сабраць яму грошай, ды не сабралі, а пра Власава ніхто нічога не гаварыў,—сказаў я.

— Ну, чуеш?—уразліва запытаў Шатаў.

— Чую. А як на трубачным?—запытаў Сернікаў у Вячэслава.

— Пра інцыдэнт гаварылі два дні, а пра арышт таварышоў ні слова.

— Ну, што, ці-ж я не праў?

— Праў, Ефрэм, праў... Але... Да тых пор пакуль не будзе сапраўднай арганізацыі і моцнага адзінага кіраўніцтва, толькі гэтыя, як ты іх завеш—анархічныя выступленні і будуць падтрымліваць гарачымі вугалькі барацьбы.

## VII

Ліпеньская гарачыня. У Піцеры яна асаблівая. Піцерскае сонца не пячэ, як скажам, Крымскае. На піцерскім сонцы, бадай нават не загарыш, але ў горадзе сярод нагрэтага камення млосна і парна як у лазні. Зыходзіш потам. Купацца... Толькі і гаворкі, што пра купанне. Бліжэйшая ад завода купальня супроць клінікі ля Самсоньеўскага маста, і многія бегаюць туды купацца нават у час абедзенага перапынку. Боўтаюцца ў пяцісажоннай скрыні сотні паўтары чалавек, як ракі ў рэшаце, вымазваюць адзін другога сваім потам, гразёю... І хочацца пакупацца на прасторы, у рацэ сярод поля, у незабруджанай вадзе. Оська хваліўся, што недалечка ад іх, на рацэ Охце іменна купаюцца проста ў рэчцы сярод кустоў, сярод нейкіх зубаўскіх агародаў, як у вёсцы... Напярэдадні нейкага свята, пасля працы пайшлі з Юркам.

— Спачатку да нас зайдзем, на сярэдні праспект... Усё роўна міма пойдзем. Мыла возьмем, адмыемся,—гаварыў Оська.

Ля Смольнага на яліку пераехалі праз Няву і па Канторскай выйшлі на Большэохценскі. Ад Смольнага, ад палацаў, ад цудоўных паркаў зразу трапілі ў нейкую глуш, у нейкі заштатны гарадок, дзе двухпавярховыя дамы—рэдкасць.

Палісаднікі старыя, пахіленыя, танулі ў зелені. За акацыяй, за крожэгусам белыя акяніцы. З боку—парадная пад казырком. Ад параднага драўляныя мосцікі да драўляных тратуараў. Праспект—піцерская назва—забрукован толькі па сярэдзіне, а па баках, у мяккім пылу капаліся куры і свінні.

На рагу, зіяючы жаўцізною, пахнуў смаляны, новы, складзены з брусоў, сяміаконны дом. У гэтым доме не было на вокнах акяніц і не было пад вокнамі зелені. Тут, за чыста выцертым, шклом былі развешаны і раскладзены дамскія шляпкі, наколкі, мярэжныя касынкі бледна-жоўтага і чорнага колеру. А над вокнамі золатам літараў крычала новая чорная шыльда: „Мастерская мод и дамских головных уборов. Л. Кадимовой“.

— Гэта нашага Кадзімава, з разметкі каторы, чырвонашыі... А гэта вось двухпавярховы дом нашага Лявона Анціпыча... Тут нашых, з завода, колькі хочаш... фармаваў нас Оська.

Мы падняліся на Канторскую. Гэта было царства зелені. Буйная зелень тут запаланіла ўсё. Трох-чатырох аконныя асабнякі хаваліся ў ёй, быццам баяліся паказаць свой старэчы твар. Нават са шчылін тратуара перла густая трава. За тое добра былі відны вароты, і асабліва герольдычныя выпісі іх уласнікаў. Над кожнай форткай красавалася дасканала выпісаная шыльда. Мне не быў зразумелы сэнс дакладнасці гэтых выпісаў. Оська таксама быў да іх абыякавы. За тое Юрка ў нейкім пакорлівым экстазе чытаў іківаў галавою.

— Дом нумар чатыры... Належыць калежскаму сакратару і асабоваму двараніну Еўлампію Захаравічу Тутаву. Дом нумар шэсць... Удавы патомственага грамадзяніна і кавалера ордэна... Ерэміна Алімпіяды Фролаўны Грэмінай... Нумар восем... Дом адстаўнога штаб-ротмістра фон-Грунера... Нумар дванаццаць дом наследнікаў двараніна і чыноўніка

шостага класа—Якава Зярнова... Уся вуліца з шляхетных, здзіўляўся Юрка.—Вось...

Прайшоўшы Срэднеохцінскі, на самым беразе высахшай Ахцянкі, касабочыўся падпёрты ля вуглоў не свежы дамішка Оськінай цёткі. І тут над форткаю вісела паліняўшае памінанне. З цяжкасцю можна было разабраць, што гэта хаціна належыць наследнікам дзяка Ларыона Срэценскага.

Нас сустрэла бабулька, гадоў за пяцьдзесят. У пакоі было бедна, але чыста, усё быццам было разлічана на старонняе вока. На старэнькай канапе, паклаўшы локаць за спінку чырвонага дзерава, сядзела нейкая вельмі маладая жанчына і з асцярогай паглядвала на вокны. Убачыўшы нас, яна захутала голаў лёгкай кісейнай хусткай і неяк сціснулася.

— Ну, што скажаце, мае галубяняты? Вы гэта бадай з Оськам? Ц-ц А-а. Няма калі мне з вамі зараз: пайдзіце пагуляйце якую-небудзь гадзінку на вуліцы,—заваркавала старэнькая.

— Мы за мылам гэта. Мы зараз купацца пойдзем,—супакойваў яе Оська.

— Чакай, чакай, мой галубок, забылася зусім: не пойдзеш ты купацца. Раіса Ільінічна прыслала за табою, патрэбна нешта дапамагчы. Абавязкова яна загадвала. Ідзі, ідзі, галубок.

— Мы купацца... Са мною таварышы з самога завода...—пачаў быў Оська.

— Ну, таварышы няхай ідуць купацца, а ты...

— Я не пайду!—насупіўся Оська.—Што гэта за мода такая... Амаль кожны дзень да яе на баршчыну...

— Чулі вы гэта?—звярнулася старэнькая да гасцей.—Яе сынок начальствам на заводзе і гэтага балбеса на службу прыняў і даглядае там яго, а ён—на табе: „на баршчыну“. І хто яго такім словам навучыў. Ідзі, каб я бачыла! Не пойдзеш—з дому выганю. Дурны гадзінку патопчашся,—накорміць, грыўню дасць.

— Я не пайду!—чырванеў ад злосці Оська. Яму было сорамна перад намі.

У старэнькай заблішчэлі вочы і праз застыглую ўхмылку выглянула вострая пагроза.

— Пойдзем, Ось... І мы з табою. Мы ўтраіх калі што...—Хутчэй зробім,—спалохаўся труслівы Юрка.—Пойдзеш, Лень?—запытаў ён у мяне.

— Што-ж.. пойдзем—супроць волі згадзіўся я.

— Гэта да Валодзінавай маткі...—бурчэў Оська.—На заводзе два гады і ў яе два гады. Усе вось так: на гадзінку ўсё...

— Ну вось і разумнікі, мае галубяткі! Ну што там у яе? Нябось, кветкі паліць; з дзесяць якіх вёдзер вады з рэчкі прынесці і ўсё,—варкавала старая.—Ну, ідзеце, ідзеце.

Настрой наш быў сапсаваны зусім. Мара аб добрым купанні на ўлонні прыроды рассыпалася ля самага берагу рэчкі. Маўчалі. Пакрыўджаны Оська кіпеў. Ен лаяў і Раісу Ільінічну і яе сына Валодзіна, і асабліва лаяў сваю цётку.

— Цётка старая... жаба! Ты хоць з ранку да вечара будзь там—работа знойдзецца: тут градкі патрэбна ўскапаць, там кусцікі абрэзаць, то за вадой на рэчку схадзіць, то падмесці дарожкі ў садку, то пясочку жоўценькага прынесці!—з гнеўнымі дрыжыкамі ў голасе пералічаў Оська сваю „баршчыну“.—А ці-ж я пайшоў-бы, каб не ведала старая чартоўка!

„ідзі, а то праганю...“ Э-эх! Каб мне сто рублёў! Паказаў бы ёй—заскакала-б вакол мяне ведзьма... А то гоніць.

— Можа мы перашкаджалі ёй. У яе вунь сядзіць нейкая...—Заўважыў Юрка.

— Гм... Нейкая... ці мала ў яе такіх... з пузам, мусіць, прыйшла. Нябось наконт выкідыша... А то дзіцянё куды-небудзь ў вёску сплавіць. Яна, брат, арудуе. Ты думаеш, што ў яе грошай няма? Ого! Яна, ведзьма, магла-б мяне у емназіі вучыць, але прагная, чорт, усё збірае.

## VIII

Дом Валодзіных стаяў на Сярэднеохцінскім праспекце. Гэта была сапраўдная сядзіба, якая раскінулася на цэлай дзесяціне. Свежы домік блішчэў кожным вяршком свае прасторы. З вуліцы традыцыйны палісаднік з акацыямі і крожэгусам. А за палісаднікам—клумбы з кветкамі, газоны; з боку дома веранда, абвітая дзікім вінаграднікам. А далей садок, агарод, парнічкі... Служанка—чухонка прывяла нас на кухню. Вялізны калматы сабака неўпэўнена гаўкнуў разы два і, бразгаючы ланцугом, схаваўся ад камароў у будку.

У адчыненыя дзверы ўкацілася невысокая, аплыўшая тлушчам Раіса Ільінічна. Яна непрыемна насоўвалася і строгімі блізарукімі вачыма разглядала нас праз ларнетку.

— А гэтыя хто-ж з табою?—Варушачы брывамі пытала яна ў Оські паказваючы на нас.

— Гэта мае таварышы, з завода... Мы утраіх хутчэй што там у вас,—насупіўшыся, гаварыў Оська.

— А-а! З завода... Алексей Мітрафанавіч ведае іх?

— Ведае.

— Ну ладна. Вы мне перабярэце вядро агрэсту на варэнне. А нука-сь пакажыце рукі,—прыставіўшы да вачэй ларнетку, сказала яна.

Мы ішлі проста з завода і нашы рукі былі ў металічным пылу і ў масле. Раіса Ільінічна ківала галавой і агідліва моршчылася. Яна загадала прынесці вады і мыла і прымусіла нас мыць рукі ў сваёй прысутнасці.

— Мы гэта нарачна прышлі сюды з завода купацца, дык вось не прышлося,—бурчэў Оська і адчувалася, што ён тут быў амаль свой чалавек.

Нам закасалі рукавы і пасадзілі каля веранды чысціць ягады. Раіса Ільінічна паказала сама, як патрэбна ў кожнай ягадкі адрываць хвосцікі і як „скалупваць“ з верху шапачку. Марудная работа—вядро з ягадамі, палохаючы сваёю паўнатою, стаяла пасярод нас і нябачанымі путамі прывязвала да сябе.

Праз поўгадзіны прыйшоў Шармачоў. Ен быў у белай часучовай пары і саламяным капялюшы. Спачатку ён адзін доўга хадзіў па саду і гародзе, потым гаспадыня павяла яго на веранду, куды падалі самавар і закуску.

І на верандзе доўге Шармачоў не садзіўся за стол, а ўсё хадзіў соваў свой рабы нос то ў адну, то ў другую кветку і захапляўся.

— Паміраць не трэба, Раіса Ільінічна, ясна. Такое задаваленне пры сваіх вачах маеце. Бадай адных яблык увосень на рублёў трыста збярэце!

— Што вы, Арыстарх Якаўлевіч, у нас адных яблык без груш больш сотні. З грушамі бадай каля пяцісот набярэцца...

—... Ды ягады... ды гарод. Вось яна цыбулька зялёненькая, ды рэдзечка, нябось, свая—нахіліўся над сталом Шармачоў.— Ну, ясна.

— Маладую бульбачку капаеш... Ды вунь на парніках памідоры завязь даюць.

— Непрыменна жаніць трэба Івана Мітрафанавіча...—Шармачоў схіліў на плячо галаву і паціху запытаў,—не прыходзіў? З завода проста ў сыскное?

Проста з завода.

— А ўжо малойчыку за трыццаць.

— Ідзе час, Арыстарх Якаўлевіч.

— Ах, Раіса Ільінічна, як ён ідзе, анафемскі!..— Шармачоў зажмурыў вочы.—А як хочацца вось так вось, ва ўласным доміку пажыць... Гэтак вышаў-бы і вакол ўсё тваё ўласнае... Ох-хо-хо-хо! А відаць такі і не дачакаешся: мне ўжо пад пяцьдзесят.

— Дачакаецеся, Арыстарх Якаўлевіч, не сумуйце, не зразу Масква будавалася...

— Больш трох гадоў пацяшаеце мяне, Раіса Ільінічна, так вось...

— Наглядзела, наглядзела, Арыстарх Якаўлевіч, вам гняздзечка. Тут, вось, па-суседску, недалёка, супроць Тарасаўскай...

— Ды-аць... ці па добраму Раіса Ільінічна?

— Поўмесца. Па вуліцы—дзесяць, а ў даўжыню—сорак. Домік не новы, але свежы.

Шармачоў упіўся ў Раісу Ільінічну вачыма.

— А-а-а-а!.. —разняў ён рот.

— Дзве роўна,—ухмыльнулася Раіса Ільінічна.

— І адразу?

— Адразу. У арцель скупляецца і ўязджае.

— Дык як жа мне быць, родная Раіса Ільінічна?! У мяне-ж толькі паўтары! Можа сходзім?

— Сходзім, вядома, сходзім. А толькі спачатку давайце піць чай. Вечар-жа наш.

У дзесяці кроках ад нас пілі чай і елі нешта бадай вельмі смачнае, а нам па куску хлеба не прапанавалі. А есці хацелася. У вядры, здавалася, не змяншалася і работа ішла да злосці марудна.

— Забылі пра нас,—забурчэў Оська,—возьмем, кінем і пойдзем.

Але мы не кінулі, а чысцілі На верандзе чаўкалі і гаварылі.

— Паўтары сабраў. І то вашаму Івану Мітрафанавічу ў ножкі трэба пакланіцца: яшчэ ў мінулым годзе ад папяроснай кампаніі адмовіўся. Сам. „Прадавай кажа, адзін, а мне кажа хопіць". А гэта-ж, Раіса Ільінічна, больш трыццаці ў месяц!—казаў Шармачоў.—Паўтысячы не стае... Дзе ўзяць? Галава кругом ідзе.

— Ды што вы, Арыстарх Якаўлевіч! Вы жартуеце ці смеяцёся. Дзіця-ж малое ведае, што з матэрыяльнай купчай дом можна ва ўзаемным таварыстве залажыць!..

Шармачоў схапіў руку Раісы Ільінічны і доўга ў засос цалаваў яе.

## IX

У канцы жніўня адвакат Лабачэўскі прыслаў за мною рамізніка. Ён сустрэў мяне, як дарослага чалавека, пасадзіў на канапу і пачаў зноў пытацца пра Сёмку, пра гаспадара—Меламона Казлова, і пра яго дзядзьку—Скапцова. Потым даў мне прачытаць спіс сведак, указаных Сёмкай. Я прачытаў.

— Ну, як: усіх ты ведаеш тут?—запытаў ён.

Вядома, я ўсіх ведаў.

Лабачэўскі пачаставаў мяне пліткаю шакалада. Сам ён еў шакалад спакваля, вымаючы яго, быццам знячэўку, з усіх кішэняў свайго гарнітура. На развітанне ён даў мне рубель.

— Гэта табе на рамізніка. Да Варонежскай вуліцы, нябось, далёка. Я ведаю.

А праз тыдзень Дмітрый Андрэявіч прыслаў па мяне на кватэру хлапца.

— Сей мінут загадвалі,—круцячыся, нібы на іголках, перадаваў хлапец строгі загад.

Мая свядомасць расла. Не-не ды і высоўвалася праз слабеючую сцяну забітасці і самалюб'е. Мне не спадабаўся тон майго хамавітага родзіча. Я ведаў, што хлапец дакладна перадае загад. Хацелася паламацца, пазлаваць тракцірнае начальства, не пайсці. Але магло быць, што ў яго для мяне мелася што-небудзь з вёскі. Усёткі каб паставіць хлапца на правільны пункт гледжання сказаў яму:

— Загадваць мне твой буфетчык не мае права. Пляваць я на яго хачу. Я не пайшоў-бы, ды можа з вёскі праз яго мне што-небудзь прыслалі.

— Я не ведаю. Мне сказана, каб ты прышоў. Пойдзем, а то мне пападзе.

— ... Ну чаго вы там марудзіце?—як звычайна захроп Дмітрый Андрэявіч.—Тут іх чакаюць, а яны...

— Ты-б хоць прывітаўся: больш году не бачыліся,—вырвалася ў мяне.

І я бачыў, як ад такога нязвычнага неразумення ў яго задрыжэлі рукі, задрыжэлі губы.

— Вось цябе... твой стары гаспадар хоча з табою пагутарыць,—ціха прагаварыў ён.

— Які? Гэта вось таксама мой „стары гаспадар“, паказаў я на Якава Парфенавіча.

— Сюды, сюды хадзі, малойчык!—зваў мяне пальцам, сядзеўшы за сталом у куту пад іконаю Меламон Казлоў.—Ідзі, сядзь тут,—закатваючы вочы, клікаў мяне ён, быццам рабіў мне вялікі гонар.

— Ды ідзі ты! Табе кажуць!—не вытрымаў Дмітрый Андрэявіч, бачучы, што я не асабліва спяшаюся. Як хлопчык выскачыў з-за стала Меламон, схапіў мяне і ласкава, наколькі мог прапеў:

— Ну, чаго ты спужаўся? Цябе-ж ніхто не хоча пакрыўдзіць. Ідзі, садзіся, пі чай, зараз булачку альбо сухарыкаў возьмем. Мне трэб з табою пагутарыць... Я-ж табе яшчэ калі-небудзь і спатрэбіцца, магу, малец.

Ён наліў мне чаю. Булачнік начыніў яйкамі французскую булку, а з-за буфета падалі дзве чаркі кан'яку.

— Ну, давай вып'ем,—ласкава ўсміхнуўся Меламон, але вочы ў яго акругліліся і сталі падобны да накіраванай на вас дубальтоўкі. Мне стала жудасна.

— Я не п'ю!—катэгарычна сказаў я.

— Чырвонае бабскае не п'еш? Вось дык хлопец, а жаніць нябось скора?—засмяяўся ён.—Ну не п'еш, мне больш дастанецца.

— Я ніякага не п'ю,—растлумачыў я.

— Ну-ну, пі чай, закусі, а потым і пагаворым.

Булку рэзалі пры мне, яйца абі. алі таксама пры мне.

Я выпіў шклянку чаю і з'еў булку.

— Дык вось...—пачаў Меламон. Сёмку Кудлатага ты ведаў?

— Гэта катораму ногі адрэзалі?—запытаў я.

— Н-ну, та-ак,—зморшчыўся Меламон.— Адрэзалі па яго дурносці. Як-жа: у дактароў лячыцца захацеў... А цяперыча вось судзіцца ўздумаў са мною. Гаспадар вінават. Ну, ты, вось, ведаеш: прычым тут мы?— Меламон свідраваў мяне сваімі змяінымі вачыма. Ты быў у аблаката?— ва ўпор раптам запытаў ён.

— Быў.

— Што ён у цябе пытаў?

— А вам якая справа?—падняўся я.

— Ты, Лёнька, кажы калі ў цябе пытаюць,— шыпеў Дмітрый Андрэявіч.

— А вы тут прычым?—узяўся я за шапку, мераючыся ісці:—Вы што, згаварыліся?

Было адзінаццаць і ў буфэце нікога не было.

— Ды пачакай ты, франт!—стараючыся быць, як мага ветлівым і ласкавым гаварыў Меламон. Ён усаджваў мяне і папракаў;—з табою проста гаварыць нельга.—Ён асцярожна паглядзеў у бок залы і ціха, але цвёрда запытаў.—Хочаш зарабіць сто рублёў?

Я аслупянеў. Я быў упэўнены, што Меламон жартуе, але ён зноў паўтарыў свае пытанне пры сведках: Якаве Пятровічу і Дмітрыю Андрэявічу.

... Сто рублёў... хто-ж не хоча зарабіць іх... вядома хачу...

— У следчага і на судзе ты павінен сказаць, што Сёмку пасылалі да доктара, а ён сам не йшоў—раз. Што ануч у нас колькі хочаш, а Сёмка сам не хацеў іх браць—два. Зразумеў? А што іншыя сведкі будуць гаварыць—не бойся: яны ўсе ў маіх руках. Усе яны будуць гаварыць так, як мы захочам. Так. І Сёмка... калі-б ён пакарыўся, прышоў і сказаў: „Гаспадар, пашкадуй“, я-б яму паўтысячы адваліў, а раз ён пайшоў па аблакатах... Ну, няхай ідзе!

Меламон выняў з кішэні партманэ, дастаў з яго пяць рублёў. Падумаў—дастаў яшчэ тры і, нарэшце, яшчэ два. Злажыўшы ўдвое дэпазіткі, сунуў іх мне ў кішэню.

— Ну пашла?

Нутро маё працівілася гэтаму, усё крычала: „не“, „не“, але сто рублёў... У мяне не было цёплай адзежы... не было бялізны. А дома? у вёсцы? Туды-б паўсотні .. Я маўчаў.

— Чаго-ж ты маўчыш?—рэзка крыкнуў Дмітрый Андрэявіч.—Табе шчасця жадаюць, а ты, як свіння без усякага пачуцця. Вось я напішу бацьку... О-го: сто рублёў даюць, а ён...

— Сапсавалі як карціну,—ціха і насмешліва гучыць Якаў Парфенавіч.

— Ідыёт, чаго там!—трасе мяне за пляча Меламон. Пасля суда— атрымлівай. Вось бог сведка не абману—паказвае ён рукой на ікону і хрысціцца. Але калі ты абманіш...—Глядзі!—Меламон паглядзеў сваімі змяінымі вачыма і пакруціў галавой.—Пад зямлёй знайду.

## X

Дзесяць рублёў цэлых два тыдні ляжалі ў кішэні майго пінжака, як нешта паганае. Я не быў баязлівы, мяне адвучылі ад гэтага пачуцця. Не гледзячы на свае пятнаццаць год—чаго, чаго я толькі не нацярпеўся! А гэтыя дзесяць рублёў, укладзеныя супроць майго жадання ў маю

кішэню, з няяснай, але хмурай і цяжкой пагрозай, прыгняталі мяне. Я два разы збіраўся аднесці і аддаць іх Меламону, але нешта перашкаджала.

Пераехаў на новую кватэру па Астраханскай вуліцы, на Выбаргскай старане, да Юркінай мацеры—Елізаветы Паўлаўны Пакроўскай, па дагавору з ёю на два рублі ў месяц...

З Астраханскай вуліцы да патроннага завода было ў пяць разоў бліжэй, чым з Варонежскай. Але ўсё-ж гэтай зменай кватэр я нічога не выйграў.

У Фядосіі Крываротавай я быў роўнапраўным сярод усіх жыхароў. Там у мяне былі добрыя, усе роўна як родныя сябры: дзед Архіп, Лукіч і Луша, а тут...

Тут я спаў поруч з Юркам, за заслонай і ніякіх іншых суседзей, акрамя Юркі ў мяне не было, але Юрка пры мацеры гаварыў са мною толькі шэптам. Там я хадзіў па пакоях смела, садзіўся дзе хацеў, а тут, выйшаўшы з-за заслоны, я не ведаў куды дзецца, не ведаў дзе стаць, дзе сесці. Абыходлівая і ласкавая пры людзях Елізавета Паўлаўна, у сваім пакоі гэтыя якасці замяняла другімі: яе штохвілінныя навучанні і парадак—прыгняталі. Мяне, як простага вясковага хлапца, яна вучыла яшчэ „паводзінам сярод людзей“, вучыла ахайнасці і чыстаце. Яна праўдзіва адзначала мае культурныя праблескі, але так-жа праўдзіва лічыла мяне простым мужыцкім хлапцом—істотаю ніжэйшага парадку, інакш яна „благародная“, з духоўных, і адносіцца да мяне не магла.

Я не бачыў больш клапатлівай жанчыны чым яна. Нястача ганяла яе, як дзікага каня. Пасля работы ў больніцы, бегла яна на грошавую „практыку“.

— Адпачніце, Елізавета Паўлаўна,—казалі суседзі.

— Ах, што вы! Трэба Юрку падрыхтаваць у свой круг. Не пакінуў яму яго бацька акрамя благароднага звання нічога. Трэба рэпетытара... хоць на першы класны чын няхай здасць.

— І што ён у вас скончыў?

— Пачатковую гарадскую, а далей сілы не было,— уздыхнула Елізавета Паўлаўна,—пазайздросціш вось Лёньку,—ківала яна ў мой бок,—нічога не патрэбна простаму хлапцу: працуе і будзе працаваць. А я як падумаю, што мой Юрачка, з благароднага-ж звання поруч з ім працуе і на ўвесь век рабочым можа застацца—сэрца крывёю абліваецца. І ад людзей ганьба. Вось і бегаю. Думаю: будзе чыноўнікам, хоць да спраўніка даслужыцца. Лепш у правінцыі быць першым, чым у сталіцы апошнім.

## XI

Вясна 1888 года была незвычайнай для Пецербурга. К канцу сакавіка брук быў голы, а ў поўдзень прыпякала так, хоць паліто здымай.

На благавешчанне хадзіў у Сяменаўскі. Кватэрная гаспадыня паведаміла, што Сернікаў 14-га арыштаваны, а Шатаў выехаў невядома куды. На ўсе мае пытанні, накіраваныя да ўдакладнення, яна адказвала адно:

— Не ведаю!

Стала нудна і пуста. На другі дзень, на заводзе я да абеду зрабіў усяго толькі тры скрынкі, чым звярнуў на сябе ўвагу і таварышоў і кантралёраў.

— Ты, Лёнька, бадай учора з прычыны свята выпіў маласць? Га?— смяяўся Валодзін.

— Ды не апахмяліўся,—дабавіў Шармачоў, падміргваючы.

Паглядвалі са здзіўленнем на мяне і хлопцы.

— Можа захварэў?—пытаўся клапатліва Юрка.

Усяго і працы, што хадзіў у прыбіральню курыць. Там пашэптваліся аб нечым старыя рабочыя. Пачулася, нешта гаварылі пра пуцілаўскі завод.

У час абеду, у сталовай таксама збіраліся па кутках, быццам чыталі нейкія лісточкі, якія зараз-жа і хавалі. Адчувалася няясная трывога. На двары таксама: то тут, то там збіраліся групы. Як раз так, як у дзень звальнення Сяргеява.

Я хадзіў па заднім двары ад групы да групы. Спадзяючыся штонебудзь пачуць пра пуцілаўскі завод, дзе працаваў Сернікаў.

— Хадзем, чаго тут совацца!—дагнаў мяне Оська і, штурхнуўшы плячом, пабег далей, падкідваючы локці як крыллі.

Ля складскіх варот, на абсохшых ужо старых пушках бялеў скрутак паперы, велічынёй з сшытак. Машынальна ўзяў яго, сунуў у кішэню. У мяне шлёпалі галошы, трэба было ў наскі закладачкі зрабіць.

На лесвіцы, ля дзвярэй у машыннае аддзяленне, зноў, як у сне, пачулася:

... На пуцілаўскім сорак чалавек...

У другой майстэрні было пуста... і на скрынках і на варштатах бялелі нейкія лісткі.

На нашых сталах, на кольцах сёй-той браўся за работу. А Валодзін і Шармачоў, бледныя, усхваляваныя хадзілі ад стала да стала, заглядвалі час-ад-часу за выцяжныя варштаты, быццам нечага шукаючы.

Я прышоў на сваё месца. Кінуў на стол скрутак і стаў знімаць галошы. Я бачыў як падышоў Валодзін, чуў, як ён разгортваў скрутак, шамечучы паперай.

— Во-о-ось ён!—раптам захлябнуўся Валодзін.

Я разагнуўся. Валодзін з вытарашчанымі вачыма, як ашалелы, сціскаў прынесены мною скрунак.

— Пракламацыі... Во-о-ось хто-о! Ен гэта...—выхарквў Валодзін падыходзіўшаму Шармачову абрыўкі фразы.

Шармачоў схапіў мяне за горла.

— Соцыяліст! Бунтаўшчык!

Наляцеў Оська, размахнуўся і з усяе сілы ўдарыў кулаком па твары... Потым удары пасыпаліся па галаве, па баках...

Калі я ачуняў, перада мною стаяў палкоўнік Аграновіч, за ім майстры, рабочыя. Аграновіч, ляскаючы ножнамі шашкі па руцэ, крычаў:

— Хто-о! Хто яшчэ з табой?! Кажы! Хто яго прыняў на працу?!

— Мін Міхайлавіч прывёў,—сагнуўшыся, адказваў Шармачоў.

— Анархісты! Сволачы!..—рука палкоўніка ў белай пальчатцы мільганула ў паветры і... адняла ў мяне памяць.

А. Буза

## НАЧЛЕГ

Драч прастор наўкола глушыць,
Ходзіць вецер па лугу.
Адпачнём з табою, дружа,
На зялёным мурагу.

Тлустых вокуняў наварым,
У касцёр падбавім дроў
І пагутарым, таварыш,
Пра мядзведзяў і баброў.

Пра палескія нізіны,
Пра вячэрні шум дубоў,
Пра віры і букавіны,
Пра вясну і пра любоў.

У гушчарніку лазовым
Не пакіне вецер грацць;
Нашы цёплыя размовы
Будзе слухаць сенажаць.

Наша дружба не загіне,
Будзе вечна жыць яна..
Маладой маёй краіне
Усміхаецца вясна.

Берагі ўсю ноч гамоняць
Ціхім пошастам трысця.
Золак, колерам чырвоным,
Расхінаецца, бы сцяг.

Лес варушыцца заспаны,
Над ракою гнецца вяз.
Падплывае цёплы ранак
Белым лебедзем да нас.

1935 г. Слуцак

**В. Сташэўскі**

# ПАЛЮБОЎНАЯ ЎМОВА

У лесе, у гушчары трухлявая калода дуба. Ну і якая карысць гэтаму дрэву і чалавеку ад такое натуральнае смерці? Папілаваць-бы ў свой час на дошкі, ды зрабіць-бы стол, ці шафу, ці нават абчасаць дубовую вось у драбіны, а нарэшце паставіць шула ў вароты. І кожны сказаў-бы: гэтае шула пастаіць, на такой восі можна смела ехаць. О, гэта дык шафа, а стол—вечны, толькі каб шашаль не ўеўся. А для чаго шашаль? І часта нешта шашалем точыць здаровае сэрца Казіміра Ліпніцкага. Цікавы чалавек. А цікавы ён тым, што блізка 50 гадоў ніхто ім не цікавіцца. Яго ніхто не кліча ні за кума, ні за свата. Жыве чалавек сам сабе, і ў вёсцы жыве, ў Абадах і ўжо блізка дванаццаць год. Адкуль ён прыехаў—таксама не вельмі вядома. Узяў у арэнду ад Ваўчэцкага поўвалокі і сядзіць. Ведаюць усе, што чалавек сядзіць на арэндзе.

Кожны дзень вёска Абады бачыць яго нізенькага, рыжавусага, руплівага, рухавага. Такія-ж і дзеці ў яго—не ідзе другое малое, а нібы кацёлка коціцца. Чалавек не згуляе часінкі. Калі здарыцца вольная, ён і суседу падможа: ці то сена ў пару ўкіне на ток, ці каня змрокам прывядзе з пашы разам са сваім, а калі трэба, дык і за дамавінаю пройдзе на могілкі са сваім вужышчам. Ён не любіў, каб хто гневаўся на яго, ці быць што-небудзь, каму-небудзь вінным. Калі прыязджаў Ваўчэцкі па арэнду—Ліпніцкі аддаваў апошнюю капейку і частаваў апошняй скваркай, толькі, каб было ціха. Калі хто абражаў яго, дык гэтую абразу насіў ён толькі да нядзелі. А ў нядзелю, пасля двух-трох малітвенных песен, як кажуць, сэрца ў яго адлягала.

Аднак гэты незлапомны чалавек чамусьці не мог зліцца са сваімі аднасяльчанамі.

Якімі духоўнымі інтарэсамі жыве гэты няграматны чалавек, ніхто не ведае. Толькі часта заўважалі абадоўцы, як рана-раненька выязджае Казімір Ліпніцкі за рэчку, на Менскі гасцінец. Скора стала вядома, што ездзіць ён за дваццаць кілометраў у мястэчка да касцёлу. Здавалася-б: чаго там хавацца? А хіба ад абадоўцаў схаваешся? Падгледзелі, як Казімір Ліпніцкі аднаго разу ў белай закрыстыянскай форме прыслугоўваў у касцёле. А праз два дні на начлезе Ліпніцкаму давялося бачыць цэлае прадстаўленне. Паказалі, як ён едзе конна, як запрагае каня, як снедае і яшчэ шмат паасобных момантаў яго жыцця. Усім было весела і Ліпніцкі, відаць, не быў абражаны.

Але вось пачалася новая сцэнка. Хлапец у белай посцілцы з венікам, нібы з крапідлам, ідзе вакол кастра, а другі таксама ў белай

вопратцы з шапкаю, замест пасудзіны з вадою, прыгнуўшыся, ідзе з боку. Усім зразумела, што тут дзейнічаюць: ксёндз і Ліпніцкі. Ксёндз, відаць рухавы, часта мочыць крапідла ў пасудзіну, але Ліпніцкі не менш рухавы і заўсёды ў гэты момант паспее пацалаваць ксяндзу ў руку.

Мажліва ў гэты момант і ўскочыў у сэрца Ліпніцкага шашаль. А мо' ён даўно сядзеў там, ды толькі чакаў зручнае хвіліны, каб пашавяліцца. А пашавяліўся. Адзіны католік у вёсцы. А хлопцам-жа аднолькава дораг і ксёндз і поп і люцыпар, калі такі дзе водзіцца. Аднак Ліпніцкі ў гэтую ноч доўга тупаў па ўзлессі, пільнуючы коні, і падышоў да кастра, калі амаль усе спалі. Падлажыў смольны корчык, зырчэйшым стала полымя.

Агонь. А чаму так гарыць смала? А чаму скора зноў узыдзе сонца? Уздыхнула дарослае дзіця. Лёг Казімір Ліпніцкі пад алешнікаў кусцік з тысячамі неразгаданых загадак. І часта бывала стаіць чалавек у лесе, перад ім таўшчэзная хвоя. Адкуль? З чаго ты зьлеплена? А побач бярэзіна. Бач ты, белая, з лісточкамі, зусім не падобная да хвоі. А ў садзе што робіцца. А на лугу... сотні парод, сотні фарбаў.—Хто дае форму, фарбу? Кніжка для Ліпніцкага—папера, у якую можна закруціць кавалачак сала, насыпаць махоркі... гэта штучная справа, справа чалавечых рук.

А рэволюцыя? Самыя складаныя замкі непрыступных палацаў адмыкаюцца вельмі проста, рукамі. Учора—дзень добры, ясны пане, а сёння—прэч паразітаў-паноў! Зямля працоўнаму сялянству! Агонь у маёнтку. З гораду прыйшло усё, ад цара пачалі. Няўжо могуць даць зямлі?

— Грамадзянін таварыш Ліпніцкі Казімір, колькі гадоў цягаешся па арэндзе і корміш паразітаў.

— Усё жыццё, як той казаў, валачуся, яшчэ з пакойным бацькам...

— Спыніць!

— Што, братка?

— Арэндную плату.

— Дык жа ка... каб не прагнаў Ваўчэцкі.

— А вось дэкрэт: „замацаваць за грамадзянінам Ліпніцкім Казімірам зямлю і недры, што ён арандуе, ад Ваўчэцкага“. Вазьмі гэту паперку.

— А братка ты мой, каб жа я так умеў прачытаць. А колькі-ж прыдзецца плаціць?

— За што?

— За гэты, як ты кажаш, дэкрэт?

— Бясплатна.

— А братка ты мой. Гэта ты сам і надзяляеш?

— Надзяляю імем Совета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

— Глядзі ты...

Ліпніцкі пакруціў у руках паперку, лёгенька ўсміхнуўся, пацісну плячыма, глянуў у вочы чалавеку і мяккім, каб не абразіць, галаском пачаў:

— Слухай, братка, я памятаю, як ты добра разыграў мяне і ксяндза на начлезе, а цяпер, калі ты такі дэпутат, дык ты можаш і цара разыграць.

— Не завідная роля. Смерцю канчаецца. Схавайце, дзядзька Ліпніцкі, дэкрэт, гэта дарагая паперка, куплена яна цаною рабочай крыві. Бывайце.

Новыя думкі. Новыя загадкі, ды такія настырлівыя. Усё-ж канчаецца смерцю і ўсё супрацоўляецца. Пачалася рэволюцыя, праўда не без агню,

не без крыві. Што рабілася ў Петраградзе, ці Маскве, дык гэта не кожны мог бачыць, а што ў суседнім з вёскаю Абады маёнтку, дык гэта ведае Ліпніцкі, хоць ён туды і не бегаў. Уцяклі паны. А прышло нямецкае войска—яны зноў вярнуліся. А хто гэта сам хоча ацурацца такое выгады? Прагналі немцаў і на сёнешні дзень няма паноў, недзе-ж яны прытуліліся ад смерці. Вядома, шмат каштуюць ім гэтыя пераезды, але—напэўна-ж яны трымаюць запас, каб яшчэ раз прыехаць. Тады як-жа з дэкрэтам? Ваўчэцкі, праўда, нікуды не ездзіць, у яго не маёнтак, а добрая валока зямлі, хутар. Можа ён дасць сваё прызнанне на гэты дэкрэт, тады чалавек можа спакойна сядзець.

І падаўся Ліпніцкі да Ваўчэцкага. Семнаццаць вёрст прайшоў добра знаёмай дарогай. Хутар пры гасцінцы. Каля паламаных варот гаспадар Ваўчэцкі. Чалавек стаіць моўчкі, думае, відаць неспакойна ў такія часы пры гасцінцы. Яшчэ добра абыйшлося, калі паломаны толькі вароты. Моўчкі прывітаўся з Ліпніцкім, хвіліну падумаў і запрасіў у хату. Ліпніцкі, як і раней, ветліва прывітаўся з гаспадыняй, пацалаваў у руку. Але ў гэты момант ён пачуў:

— Не трэба, пане Ліпніцкі.

— У вас там мусіць тыя самыя парадкі, як і тут?—пачаў Ваўчэцкі.

— Мусіць тыя самыя дэкрэты, як у вас, так і ў нас,—адказаў Ліпніцкі, нібы апраўдваючыся, што ён у гэтых дэкрэтах душой богу не вінаваты.

— Гэта пра якія дэкрэты кажаце? Пра зямельныя?

— Ну так.

— Іх права.

Падсунуў Ваўчэцкі да сябе скрынку з тытунём, пачаў скручваць папяросу.

— Не ведаю, як на доўга гэтыя дэкрэты, але сёння яны маюць моц. Нічога не магу сказаць. Толькі дрэнна, калі чалавек, асабліва селянін, мяркуе жыць толькі сёнешнім днём. Трэба-ж думаць і пра будучае і заўсёды трымаць у сабе сумленне.

— Дык вось і я, калі далі мне дэкрэт, падумаў: мала, што вы мне напісалі, а я ўсё такі пайду параюся, як той казаў, да вас. Дэкрэт дэкрэтам, а палюбоўная ўмова, яна мо' і лепей.

— Цікава было б паглядзець, што яны пішуць.

— А вось, я узяў з сабою, гляньце, пане Ваўчэцкі. Ваўчэцкі пакруціў у руках паперку:

— Нават паперкі людскае не знайшлося. А хто-ж яе падпісаў? Паглядзеў на подпіс, усміхнуўся:

— Я думаў сам Ленін.

— Не, гэта Іван Злобіч.

— Я-ж бачу, ха-ха, міністэрскі почырк,—закашляўся Ваўчэцкі, і аддаў паперку Ліпніцкаму.—Ну, ну, калі патрымаюцца крыху, дык паздзекуюцца над людзьмі, асабліва над намі не рускімі, людзьмі нашай, каталіцкай веры. Учора бачыўся я з пробаршчам.

— Няўжо забяруць касцёл?—трывожна запытаўся Ліпніцкі.

— На гэта сумлення ў іх хопіць.

— Божа ласкавы,—прашаптала Ваўчэцкая.

У памяці Ліпніцкага мільганула прадстаўленне на начлезе, у якім галоўным завадзілам быў Іван Злобіч. Ізноў пашавяліўся шашаль. Клубком звіліся думкі і не знайсці канца ў клубку гэтым. Можа каб хто памог Ліпніцкаму раскруціць... І дэкрэт ёсць і палюбоўная ўмова... А неспакойна на зямлі. А людзі на зямлі—у каго слёзы ад радасці,

у каго ўсмешка ад болю... Каля вешніц сабраўся натоўп старых і малых. Да вёскі Абады пад'язджаў кавалерыйскі раз'езд. Гэта было войска польскае. Каля вешніц напружанае маўчанне. Дзецям хочацца пабегчы наперад, насустрач коням і страшна адарвацца ад натоўпу. Раз'езд набліжаецца. Адна бабулька ўздыхнула голасна:

— Няхай бы мужчыны вынеслі хлеб, соль, усё-ж мо' крыху спакайней было-б,—сказала бабулька і кінула позірк на Ліпніцкага. Ніхто нічога не адказаў. Раз'езд у вешніцах. Афіцэр даў „дзень-добры" і запытаўся:

— Большэвіцкае войска праходзіла тут?

— Не,—адказалі з натоўпу.

— У вас будзе новая ўлада. Слухайцеся, працуйце, жывіце ціха і спакойна. Мы прышлі ўстанавіць парадак. Парадак! Давідзэння.

Раз'езд рушыў праз вёску. Дзеці пабеглі за ім. Старыя засталіся на месцы.

Парадак. Што такое парадак?

Падбягае дзяўчынка, дачка Ліпніцкага.

— Тата, ідзіце дадому.

Ліпніцкі, не пытаючыся чаго, подбегам за ёю. Пачалі разыходзіцца ўсе. Каля двара Ліпніцкага стаіць конь з сядлом, каля дзвярэй жаўнер.

— Проша зайці ў хату,—запрашае жаўнер гаспадара. Зайшлі.

— Вы—католік?

— Католік.

— Значыцца, поляк?

— Так, пане,—нясмела адказаў Ліпніцкі.

— Ото-ж бачыце, пане Ліпніцкі, у Варшаве вядома, што тут жыве поляк, а гэта ёсць наша апора. Разумееце, пане Ліпніцкі: вы ёсць апора дзяржавы польскай. Проша сказаць, хто ў гэтай вёсцы большэвік?

— Як? Большэвікоў няма. Яны ж адступілі...

— Ну так,—перабіў Ліпніцкага жаўнер.

— А хто працаваў у Камітэце?

Ліпніцкі задумаўся. А дапытлівы погляд жаўнера некалькі спужаў яго. Глянуў на жонку. Чалавеку патрэбна парада, але на гэты раз жонка ўхілілася.

— Пане Ліпніцкі,—зноў настойлівы голас жаўнера,—я магу ведаць і без вас, але я хачу ведаць, што вы ёсць за поляк?

— Дык усе-ж ведаюць...

— Толькі не ведае, пан Ліпніцкі?—перабіў жаўнер.

— Ну... Іван...

— Назвіска?

— Злобіч?

— Хто яшчэ?

— Здаецца, нікога больш.

— Так. Давідзэння, пане Ліпніцкі. Памятайце, што вы ёсць апора.

Выскачыў жаўнер з хаты, сеў на каня і паімчаўся даганяць раз'езд. Задумаўся Ліпніцкі! Няхай бы хто іншы сказаў пра Івана, а не ён. Праўда, Івана ён не знойдзе, бо ці не ў Маскву выехаў. Апора... Адзін ён у гэтай вёсцы апора... А касцёла цяпер ніхто не возьме, не-ээ.

І ў нядзелю паехаў Ліпніцкі. Ох, і важнае было набажэнства. Якая ўрачыстасць, які ўзняты настрой, як важна ходзяць па мястэчку паліцыянты. З адным знаёмым дасталі і ўзялі па чарцы „пазнанкі". Прыехаўшы дадому, весела увайшоў Ліпніцкі ў хату.

— Цяпер я ведаю, што будзе парадак, цяпер ніхто на начлезе з мяне не пасмяецца, не ээ.

— Кладзіся спаць—адказала з ложка жонка,—ніхто не ведае, што і як яно будзе...

Ліпніцкі весела памармытаў, скідаючы боты, дагарала апошняя капля газы, ён укруціў кнот, прылёг на тапчан. Слаўна заснуў поляк Казімір Ліпніцкі, салодка спіць „апора". У сне чалавек штыршком сваіх ног можа адарвацца ад зямлі, узняцца і ляцець. Ачнуўся Казімір Ліпніцкі на тапчане, ачнуўся чалавек на зямлі. Ізноў зямельныя справы, ды яшчэ якія нечаканыя.

Пад паўдня прыехаў Ваўчэцкі з паліцыянтам. Увайшлі ў хату, далі пахвалёны езус.

— Ну, як у вас тут?—пачаў Ваўчэцкі.

— Як у вас, так і ў нас. Парадак, пане Ваўчэцкі, адзін.

— Хваліць бога, нарэшце дачакаліся сваіх людзей,—сказаў Ваўчэцкі, кінуўшы позірк на паліцыянта.—Цяпер будзе парадак. Ну, каб не вельмі затрымлівацца. Я маю сказаць пану Ліпніцкаму, што зямлю, паўвалоку гэту я маю... прадаць...

Жанчына стаяла ля прыпечка са сціснутай у руках трэскай. З-за печку, з-за сянніка глядзелі на хату дзве пары блакітных вочак. Нібы перад сівой хмарай у навальніцу стаяў расхлістаны, маланкаю пранізаны Казімір Ліпніцкі.

— Як?

І пасля кароценькага зацішша пачуўся прыглушаны нізкі гул.

Я хацеў бы прадаць вам, пане Ліпніцкі, маючы у сабе сумленне...

— Чым-жа я заплачу?

— Не ведаю, пане Ліпніцкі, толькі з арэнды мне няма карысці, неспакой толькі і васпану фатыга.

— Не магу я купіць, не магу, пане Ваўчэцкі.

— Прыдзецца прадаць таму, хто купіць.

— Мяне хочаце выкінуць?

— Вядома, жыць будзе той, хто мае права.

— Пане,—звярнуўся Ліпніцкі да паліцыянта,—Я-ж поляк, мне сказалі, што я апора нашай дзяржавы.

Паліцыянт глянуў на Ліпніцкага і, пастукваючы па стале ручкаю арапніка, сказаў:

— У нашай дзяржаве ёсць парадак уласнасці і гэты парадак я мушу ахоўваць. Калі-б у пана Ліпніцкага з панам Ваўчэцкім была палюбоўная ўмова...

— А так, так,—перабіў Ліпніцкі паліцыянта,—такая умова ў нас была. Пане Ваўчэцкі, я-ж прыходзіў да вас...

— З дэкрэтам, ха-ха? — абарваў Ліпніцкага Ваўчэцкі. Паліцыянт падняўся.

— Можна забачыць гэты дэкрэт?

— Проша, я не баюся, я не баюся.

Дастаў Ліпніцкі з-за трамы паперку, аддаў паліцыянту. Ён прачытаў, злажыў яе на чатыры часткі, накрыж перарваў. Пад ногі ўпалі дробныя кавалачкі. Рассыпаны залатыя каменчыкі. А нагніся да ног, каб падняць, і гарачая істужка ляжа на спіну. Ліпніцкі не пашавяліўся. Жанчына прыгулілася да сваіх блакітнавокіх.

— Колькі часу можаце даць, пане Ваўчэцкі?—загаварыў паліцыянт.

— А так... з тыдзень.

— Чуеце.—звярнуўся паліцыянт да Ліпніцкага,—за тыдзень павінны выехаць, калі не будзе полюбоўнае ўмовы. Пойдзем.

Схамянуўся чалавек, калі на дварэ зацокалі колы брычкі. Падняў дробныя кавалачкі паперкі, палажыў на стол. Глянуў на распяцце Езуса, падняў далонь, каб перахрысціцца, але рука ўпала на стол, схілілася галава.

У запечку жанчына ражком хусткі выцірала слёзы: „калі не выплацілі за дванаццаць гадкоў арэндаю, дык можа выплачам“.

Калі скончылася гулянне на хутары Ваўчэцкага і апошняя брычка з двума паліцыянтамі выехала з прыгумення, гаспадар зачыніў вароты, памацаў завалу ў стайні і пайшоў у хату. У гэты момант у сенцы увайшлі два чалавекі. Ноч позная. Грукнула жалезная засоўка ў сенцах. Ваўчэцкі адчыніў дзверы ў хату. Нечыя рука прытрымала гэтыя дзверы, каб не зачыніў. У хату увайшлі два хлопцы. У руцэ ў аднаго рэвальвер. І гэты, з рэвальверам, хлапец спакойна сказаў адно неспакойнае слова: „спакойна“ і падаў Ваўчэцкаму паперку:

— Падпішыце.

— Браткі,—нейкім надзіва танклявым голасам пачаў Ваўчэцкі,—я-ж вам нічога дрэннага не зрабіў. . перакусіце, браткі...

— Аб‘едкамі частуеце, пане Ваўчэцкі? Падпішыце.

— Літары скачуць у ваччу... браткі...

— Падпішыце. Сядзьце і падпішыце спакойным почыркам.

— Добра.

Хлапец адсунуў мокры абрус, шаргануў рукавом па стале, каб сушэй было, палажыў паперкі на стол.

— У трох экземплярах.

Ваўчэцкі распісаўся.

— Адзін вазьміце сабе. Адзін забіраем мы, а трэці... таксама пакідаем вам, каб заверылі ў войта гміны, тады мы зойдзем і возьмем. А цяпер лажыцеся, пане Ваўчэцкі, адпачывайце. Толькі памятайце, калі не выканаеце гэтага дакуманту, калі захочаце заявіць каму—тады ў адну глухую поўнач над вашай хатай, гумном, стайней, свірнам засакоча чырвоны певень, а сэрца ваша пагаворыць вось з гэтай, што я трымаю ў руцэ, мэталічнай штукай, а штучка гаворыць адно слова: бах! Спакойнай ночы.

---

Змрок у хаце Казіміра Ліпніцкага. Зашасталі ў сенцах дзверы. У хату увайшоў чалавек:

— Чаму не запаліце лямпы?

— Газы няма, і смалякі вышлі.

— Запаліце лучыну.

Жонка дастала з-за коміна лучынку, запаліла. Чалавек ад парога ўбачыў у канцы стала ўскалмачанага Ліпніцкага.

— Чаго задумаўся, дзядзька?

Ліпніцкі пашавяліўся:

— А што можа думаць трухлявая, нікому не патрэбная, шашалем з‘едзеная калода ў лесе? Як той казаў: натуральная смерць. Праходзь, чалавеча.

— А што, лепей калі зломяць?

— Зламалі ўжо.

Чалавек падышоў да стала, глянуў у вочы Ліпніцкаму, дастаў з-за пазухі кавалак паперы.

— Дайце бліжэй святло і паслухайце:

„Мы, што ніжэй падпісваемся з аднаго боку: уласнік паўвалокі зямлі, што ў вёсцы Абады, Вацлаў Ваўчэцкі, а з другога боку арандатар гэтае зямлі Казімір Ліпніцкі склалі палюбоўную ўмову:

1. Я, Вацлаў Ваўчэцкі, на працягу адзінаццаці гадоў здаваў у арэнду зямлю Казіміру Ліпніцкаму, які штогодна акуратна плаціў мне арэндную плату і рамантаваў будынкі, а хату можна лічыць перабудаваў нанава.

2. Прымаючы пад увагу гэтую акалічнасць і трымаючы ў сабе сумленне—я, Вацлаў Ваўчэцкі, перадаю Казіміру Ліпніцкаму на тры гады паўвалокі зямлі ў Абадах у поўнае бясплатнае карыстанне.

3. Я, Казімір Ліпніцкі абавязваюся: араць, сеяць, баранаваць, жаць, касіць, адным словам арудаваць на гэтай зямлі, як гаспадар, і спажываць за сваю працу па свайму погляду.

4. Калі тэрмін гэтае ўмовы сцячэ, а гэта будзе ў 1923 годзе, то там будзе відаць, ці патрэбна надалей наша палюбоўная ўмова, ці не.

ПАДПІСАЛІ: { *Землеўласнік* ***Вацлаў Ваўчэцкі.***
*Былы арандатар* ***Казімір Ліпніцкі,***
*а за яго няграматнага—****Іван Злобіч.***"

— Іван тут?—выкрыкнуў Ліпніцкі.

— Цс,—спыніў чалавек.—Іван тут. Маўчы. Працуй, жыві. Ён будзе ведаць, калі гэтая палюбоўная ўмова будзе парушана, як ведаў, што вас хацелі выкінуць і падралі дэкрэт. Дэкрэт жыве!

— Жыве? А хто-ж вы? Здаецца недзе бачыў...

— А вы надта не ўглядайцеся,—адказаў чалавек і шмыгнуў за дзверы.

Мільгае агеньчык лучынкі. Ізноў думкі ў клубку. Плакаць хочацца, крычаць на ўсю хату, на ўвесь свет, калі тут ашуканства і скакаць, падскакваць як малое дзіця, калі тут да чалавека чалавечнасць, праўда. Тут быў сапраўдны подпіс чырвонага партызана Івана Злобіча.

Р. Кобец

# НА ЗАСТАВЕ

**Камедыя ў 5 карцінах**

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

**Начальнік пагранзаставы.**
**Чарна Райхельсон**—калгасніца, 43-х год.
**Мэе́р Райхельсон**—калгаснік-рыбак 52-х год.
**Хася Перацман**—калгасніца 43 год.
**Лі-Сін**—кітаец, кантрабандыст.
**Вахмін Сцяпан**—казак кантрабандыст.
**Шадрын, Рахуба, Ліпкін, Мандрык, Сіневіч**—чырвонаармейцы.

Дзея адбываецца ў наш час.

## *КАРЦІНА ПЕРШАЯ*

Пакой начальніка пагранзаставы. Праз замарожаныя вокны прабіваюцца сонечныя праменні. Начальнік заставы перадае пакет *Сіневічу*. Некалькі чырвонаармейцаў чакаюць распараджэння.

**Нач. заставы.** Вось... перадайце пакет на пяты пост. Калі будзеце варочацца назад, не забудзьцеся захапіць літаратуру. Зразумела?

**Сіневіч.** Ёсць, таварыш начальнік. Загадана перадаць пакет на пост нумар пяць і, калі буду варочацца назад, захапіць літаратуру.

**Нач. заставы.** Правільна. Можаце ісці. Між іншым, пачакайце адну хвілінку (*шукае нечага на стале*).

**Чарна** (*крычыць за дзвярыма*). Пу-усці! Гэта-ж хуліганства... Пусці... я ж табе вочы выдзяру... ай, божа-ж мой, божа!

**Голас Шадрына.** Лягчэй, цётачка, цётачка... без рук, кажуць табе, без рук!

(За дзвярыма гоман).

**Нач. заставы** (*прыслухоўваецца*). У чым справа? Што за гоман?

(У пакой урываецца злосная Чарна, за ёй усхвалёваны Шадрын).

**Чарна** (*крычыць*). І гэта парадкі? Ну, скажыце, калі ласка, таварыш начальнік, гэта парадкі? (*Да Шадрына*). Не-е... Гэта табе дарма не пройдзе... Не-е... я да самога Блюхера дайду... Я... я...

**Нач. заставы.** У чым справа, грамадзянка?

**Чарна** (*наступаючы на Шадрына*) Так... так... дарма не пройдзе... Я да самога Блюхера дайду... ён за такую справу па галоўцы не пагладзіць...

**Нач. заставы**. Грамадзянка! Прызываю да парадку. У чым справа?

**Чарна**. Мяне да парадку? Чаму вы яго не прызываеце да парадку?

**Нач. заставы**. Прызавем і яго, калі трэба будзе. Што ў вас здарылася? Скажыце толкам, без крыку, ціхенька.

**Чарна**. Я-ж і кажу ціхенька. (*Пачынае крычаць*). Да самога Блюхера дайду... ён-жа за такую справу...

**Нач. заставы**. Супакойцеся, урэшце, грамадзянка!

**Чарна**. Ужо супакоілася, таварыш начальнік.. ужо...

**Нач. заставы**. Ну, вось і добра. Цяпер скажыце, у чым справа.

**Чарна**. Разумееце, таварыш начальнік, устаю я сёння раніцай падаіць карову, толькі выйшла, разумееце, на двор—чую „хавертэ Чарна!“ Добры дзень, кажу, хавертэ Хася. Вы-ж, таварыш начальнік, ведаеце хавертэ Хасю.

**Нач. заставы**. Ніякай Хасі я не ведаю. Бліжэй да справы, грамадзянка!

**Чарна**. Ой!.. Вы не ведаеце Хасі? Гэта-ж такая пляткарка, такая пляткарка... Хто яе не ведае? Тоўстая, як бочка, а голас, як параходны гудок. Мы яе завем поўтары Хасі, і так апусцілася, так апусцілася!.. Адным словам, самая сапраўдная гекдэш. Вы, таварыш начальнік, ведаеце што такое гекдэш?

**Нач. заставы**. Карацей, грамадзянка, карацей! Не затрымлівайце!

**Чарна**. Я-ж коратка. Я сама, таварыш начальнік, не люблю многа гаварыць. Ну, дык вось, добры дзень, кажу, хавертэ Хася. А яна мне: „Калі гэта вы, хавертэ Чарна, аддасце мне, калі ласка, дровы“? Вы-ж разумееце, таварыш начальнік, калі хавертэ Хася кажа „калі ласка“, дык гэта усёроўна, што халера вам у бок.

**Нач. заставы**. Бліжэй да справы, грамадзянка. У мяне няма часу размовамі займацца.

**Чарна**. Вось ужо блізка, таварыш начальнік. Я, разумееце, пазычыла ў Хасі дровы... вы-ж разумееце, таварыш начальнік, калі я пазычала, дык павінна аддаць, а дроў, як на злосць, ні аднаго палена. Пашла я да нашага старшыні калгаса і кажу яму: „Хавер Ліберман, калі вы, нарэшце, будзеце даваць калгаснікам дровы“? Ён паглядзеў на мяне і кажа. Праз тыдзень усім калгаснікам будзем вазіць дровы, але калі вам так прыспічыла, то можаце запрагаць сівую кабылу і прывезці сабе дроў“.—„Што значыць прыспічыла?—кажу я яму.—Гэта не мне прыспічыла, а хавертэ Хасі прыспічыла“.

**Нач. заставы**. Фу ты, няшчасце! зноў гэта хавертэ Хася. Таварыш Шадрын, што ў вас там з ёю здарылася?

**Шадрын**. Так што, дазвольце далажыць, таварыш начальнік, я тут не пры чым, сані з дровамі абярнуліся.

**Нач. заставы**. Пры чым-жа вы тут?

**Шадрын**. Так што дазвольце далажыць, таварыш начальнік, я тут не пры чым.

**Чарна**. Ён не пры чым! Як гэта вам падабаецца, таварыш начальнік? Ён не пры чым! А хто мне кабылу спудзіў? Хто дровы абярнуў? Разумееце таварыш начальнік,—Мэер мой пашоў рыбу лавіць, а я запрэгла кабылу і паехала па дровы... тайга-ж пад бокам. Набрала дроў, еду, разумееце, назад... Вы-ж ведаеце, таварыш начальнік, якая ў тайзе дарога. Сцежка вузенькая-вузенькая, злева ў мяне ямка, справа—узгорак, а тут ён насустрач. Вы-ж разумееце, тава-

рыш начальнік, калі двое саней сустрэнуцца, дык трэба-ж размінуцца. Вось ён і крычыць мне: „Зварачвай!“ А куды мне зварачваць, калі справа ў мяне ямка, а злева ў мяне ўзгорак? Вось я яму і кажу: „Вы, таварыш, едзеце ўлегцы, а ў мяне сані нагружаны дроўмі, як хавертэ Хася плёткамі, дык вы калі ласка і зварачвайце“. Ён зноў мне: „Зва-рач-вай“. Я і кажу яму: „Не крычы на мяне, не крычы, не баюся я цябе. Тут сам таварыш Блюхер на манеўрах быў і то на мяне не крычаў“. І праўду сказаць, ткнула я хвігу пад самы нос. Дык вы разумееце... Як падбяжыць ён да мяне... як сцебане маю кабылу пугай. Кабыла дыбка, а я ў бок... сані ў яму, дровы ў яму... І я ў яму... І да таго-ж, разумееце, мне непрыемна зрабілася, ляжу і думаю, на якім—гэта я свеце, усё яшчэ на гэтым, альбо ўжо на тым? Вось табе, думаю, і разлічылася з хавертэ Хасяй. Потым устала і бягом сюды, а ён не пушчае. Як гэта вам падабаецца?

**Нач. заставы.** Таварыш Шадрын, усё гэта праўда?

**Шадрын.** Не зусім, таварыш начальнік заставы.

**Нач заставы.** Дапусцім, што і так. Але сані ў яе абернуты?

**Шадрын.** Абернуты.

**Нач. заставы.** Вы ехалі ўлегцы?

**Шадрын.** Улегцы, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Чаму-ж вы не саступілі ёй дарогі, бачыўшы, што яна з драўмі?

**Шадрын.** Бачыў... толькі я за прадуктамі спяшаўся, спазніцца баяўся.

**Нач. заставы.** Нядобрая з'ява. Агідная з'ява. Разумееце, што вы нарабілі? Ды вы-ж аднесліся да гэтай грамадзянкі не як чырвонаармеец, а як салдат царскай арміі.

(**Шадрын** *стаіць, апусціўшы галаву*).

**Начальнік заставы** (*звяртаецца да другіх чырвонаармейцаў.*) Бачылі, таварышы: адносіны Шадрына не дастойны звання чырвонаармейца. Гэтымі салдацкімі паводзінамі таварыш Шадрын паклаў пляму на ўсіх нас, на ўсю заставу. Вось што Рахуба і Ліпкін, зараз-жа ісці з гэтай грамадзянкай і выцягнуць ёй сані з ямы. Шадрын за свае паводзіны атрымлівае пакаранне—трое сутак арышту. Акрамя таго, мы аб яго паводзінах пагаворым на палітзанятках, а таксама на сходзе і прапрацуем гэта пытанне па ўсёй лініі. Можаце ісці.

**Рахуба.** Мы прасілі-б вас, таварыш начальнік, калі можна, то адразу ўжо завезці дахаты гэтай грамадзянцы дровы і пакалоць, і скласці, ўсё як след. Бо нам праз гэтага Шадрына нельга будзе ў вочы глянуць калгаснікам.

**Нач. заставы.** Цудоўна. Дазваляю... ідзіце кожны па сваёй справе, а вы, Шадрын, пад арышт.

**Чарна.** К-хм, к-хм...

**Нач. заставы.** Грамадзянка, вы вольны.

**Чарна.** Вялікае дзякуй, таварыш начальнік, вельмі вам вялікае дзякуй.

**Нач. заставы.** Няма за што. Будзьце здаровы. (*Зноў пераглядае паперы*).

**Чарна.** К-хм... к-хм... таварыш начальнік!

**Начзаставы.** Што яшчэ?

**Чарна.** Таварыш начальнік, а ці нельга так, каб без трох сутак?

**Нач заставы.** Як гэта?

**Чарна.** А так, каб, значыцца, не сядзеў гэты чырвонаармеец... добрая

справа—трое сутак, каму гэта прыемна? Таварыш начальнік, я вас прашу...

**Нач. заставы.** Гэта немажліва, грамадзянка, дысцыпліна.

**Чарна.** Таварыш начальнік... ну, я вас прашу! Ды-сцы-пліна... Каб я ведала такую дысцыпліну, век-бы скардзіцца не прышла. Таварыш начальнік...

**Нач. заставы.** Я вам сказаў, што немажліва. Значыцца—немажліва.

**Чарна.** (*абурана*). Скажыце, калі ласка, немажліва? А сядзець чалавеку трое сутак за сырыя дровы, ды за нейкую хавертэ Хасю мажліва?

**Нач. заставы.** Сутнасць не ў дровах, грамадзянка, а ў адносінах чырвонаармейца з працоўнымі, у самых паводзінах. Зразумела? Да таго-ж ён і сані мог вам паламаць, дый вас скалечыць.

**Чарна.** Вялікая справа—сані! У нас яшчэ ёсць, калі-б і паламаліся. Не шкадавала-б... тайга-ж пад бокам, зрабіць не цяжка. А тое, што я ўпала, дык-жа гэта дробязь... На мягкае ўпала, усёроўна, як на падушку, і зусім не пабілася, ей-права, не пабілася... таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Нельга, грамадзянка. Нават і не прасіце. Разумееце? Парадак у нас, у Чырвонай арміі, такі.

**Чарна** (*крычыць*). Добры парадак, каб за нейкія сырыя дровы і за гэту хавертэ Хасю чалавек трое сутак сядзеў! Ды я на такія парадкі самому Блюхеру скардзіцца буду! (*Ляпнуўшы дзвярыма, выходзіць*).

**Нач. заставы.** Ха-ха-ха-ха-ха!

З а с л о н а.

## *КАРЦІНА ДРУГАЯ*

Вялікі светлы пакой Райхельсонаў. Каля палаючай печы мітусіцца Ч а р н а. Над сталом вісіць вялікая электрычная лампачка. Чутно, як колюць дровы. У пакой уваходзіць хавертэ Х а с я.

**Хася.** Добры дзень, хавертэ Чарна! З якога гэта часу а грэйсэ камісаршай сталі?

**Чарна.** Добры дзень, хавертэ Хася! пры чым тут, скажыце мне, калі ласка, камісарша?

**Хася.** А пры тым, хавертэ Чарна, што вам чырвонаармейцы возяць дровы дадому і нават колюць і складаюць. У чым гэта справа? Што вы такая за пані?

**Чарна.** Майце на ўвазе, хавертэ Хася, я за слова „пані“ вельмі нават магу пакрыўдзіцца... цяпер усе пані, няхай будзе вам вядома, у Салаўках знаходзяцца, а колюць мне чырвонаармейцы дровы з-за павагі... Разумееце?

**Хася.** З-за-па-ва-а--гі-і?

У пакой уваходзіць Р а х у б а, які нясе дровы.

**Рахуба.** Куды скласці дровы?

**Чарна.** Не турбуйцеся, калі ласка, не турбуйцеся! Я цяпер на іх глядзець не магу. Гэта-ж жартачкі, трое сутак за нейкія дровы і за гэту самую хавертэ. Так, так, так, за нейкія дровы, каб яны згарэлі. Кідайце іх і ідзіце ў пакой палуднаваць, а дровы мы з Мэерам ужо самі паколем.

**Рахуба** (*кідае дровы*) О-о, не-е... Вы дазвольце пакалоць і скласці. Мы па чырвонаармейску робім, сказалі, што зробім, значыцца зробім... Усё, як след. (*Выходзіць*).

**Чарна**. Ну што вы скажаце на гэта, хавертэ Хася? Мне-ж ім сорамна цяпер у вочы глядзець... трое сутак! Ай-ай-ай!

**Хася**. Пра якія вы суткі кажаце, хавертэ Чарна?

**Чарна**. Разумееце, хавертэ Хася—вязу я дровы, ну і не размінуліся—ну і трошкі пасварыліся з чырвонаармейцам. Бывае, па суседску жывем, мала што бывае! Дык я з санямі выкулілася ў яму.

**Хася**. У яму?

**Чарна**. Ну, не ў яму... у ямку. Зусім такая маленькая ямка. Ну, пабегла я на заставу, а там, разумееце, вартавы крычыць мне: „стой, пропуск!"—што значыць, кажу яму, пропуск? Ён на мяне паглядзеў і кажа: „Выбачайце, мадам Райхельсон, я вас не пазнаў".

**Хася**. Так і сказаў?

**Чарна**. Ей-права, так і сказаў... „выбачайце, мадам Райхельсон". Потым, разумееце, хавертэ Хася, выходзіць начальнік заставы. Убачыў мяне і кажа: „А-а-а, мадам Райхельсон? Добры дзень. Вельмі рад вас бачыць".

**Хася**. Так і сказаў?

**Чарна**. А як ён мог сказаць іначай? Так і сказаў: „Мадам Райхельсон, вельмі рад вас бачыць, калі ласка ў габінет".

**Хася**. У га-бі-нет?

**Чарна**. Так, так. Ей-права! Калі ласка ў габінет, кажа, а потым і пытаецца: „Як пажывае хавертэ Хася?"

**Хася**. Хавертэ Хася? Так і сказаў?

**Чарна**. А які-ж мне інтэрас лгаць, скажыце калі ласка? Як, кажа, пажывае хавертэ Хася? А сам, разумееце, так гэта рукою па вусах гладзіць.

**Хася**. Па вусах?.. Ён-жа на мінулым тыдні брытым быў. Адкуль у яго вусы?

**Чарна**. Хіба я кажу, што ў яго вусы? Гэта ён, як толькі ўспомніў пра вас, дык быццам захацеў пагладзіць вусы.

**Хася**. А што вы думаеце, хавертэ Чарна—можа быць.

**Чарна**. Ну, пасядзелі мы, пагаварылі, а потым ён і кажа: „Ці не хочаце, мадам Райхельсон, гарбаты?"

**Хася**. Гар-ба-а-ты?

**Чарна**. А што вы думалі? Гарэлкі? Вы-ж ведаеце, што я не п'ю. Вось, кажу, вялікае дзякуй, таварыш начальнік, я паснедала ўжо. Потым ён і пытаецца: „Што ў вас добрага чутно, што піша вам таварыш Блюхер?"

**Хася**. Блюхер?..

**Чарна**. Ну, вядома, Блюхер. Ён-жа ведае, што мы з таварышам Блюхерам у добрых адносінах. А я кажу, што мы ўжо даўно ад яго пісем не атрымлівалі. Ну, дык ён і кажа: „Калі будзеце, мадам Райхельсон, пісаць таварышу Блюхеру, то прашу вас перадаць яму ад усёй нашай заставы палкае чырвонаармейскае прывітанне". Ну, я, вядома, абяцала. Потым мы пагаварылі пра палітыку.

**Хася**. Пра палітыку?..

**Чарна**. А чаму-ж не? Што вы думаеце, я не магу гаварыць пра палітыку? Мой-жа Мэер выпісвае „Біробіджанэр Штэрн", і мы разам чытаем. Ну, а потым ён пазваў чырвонаармейцаў і таму, з якім мы пасварыліся, даў трое сутак арышту, а гэтым сказаў прывезці дровы,

дык яны самі выдумалі пакалоць і скласці, а вы кажаце—а грэйсэ камісарша!

**Мэер** (*крычыць з двара*). Чарна! Глядзі, яны збіраюцца ісці...

**Чарна**. Куды ісці? Хто ім дазволіў ісці? (*Стукае ў акно і крычыць*). Э-э-э, куды-ж вы, таварышы? Калі ласка ў пакой!

**Голас Рахубы**. Дзякуем. Мы не галодныя!

**Чарна**. Ведаю, што не галодныя, але ўсё-ж такі папалуднаваць з намі павінны. Папрабуйце толькі пайсці, раскідаю дровы і скажу таварышу начальніку, што вы нічога не зрабілі. Мэер, цягні іх у пакой. Хавертэ Хася, дапамажыце, калі ласка накрыць стол.

(Накрываюць стол).

**Хася**. Хавертэ Чарна. Якую рыбу падаваць: заліўную, ці фаршыраваную?

**Чарна**. І заліўную, і фаршыраваную: Ой, гора, гора, здаецца яешня згарэла! Хавертэ Хася, пастаўце, калі ласка, малако і смятану на стол!

(Уваходзяць Мэер, Ліпкін і Рахуба).

**Мэер**. Заходзьце, госці дарагія, заходзьце, будзьце, як дома!

**Рахуба**. То я-ж казаў, што мы не галодныя.

**Чарна**. Ведаем, што не галодныя. А ўсёж-такі такой рыбы, як я прыгатавала, у вас не даюць. Тут сам таварыш Блюхер, калі на манеўрах быў, і той казаў: „Ну, хавертэ Чарна, такой смачнай рыбы, як у вас, я яшчэ ніколі не еў.. Вельмі добрая рыба“. А вы-ж разумееце, калі таварыш Блюхер казаў—добрая, дык будзьце ўпэўнены, што гэта сапраўды добра. Сядайце, калі ласка, за стол. Сядайце; хавертэ Хася, будзьце знаёмы!

**Хася**. Хася Перэцман.

**Рахуба**. Дык мы-ж не адзін раз на сходзе разам былі ў калгасе.

(Знаёмыя садзяцца за стол).

**Мэер**. Чарна, ты-ж таго, як яго, ну, ведаеш... таго самага... мацнейшага.

**Чарна**. (*ставіць на стол бутэльку гарэлкі і бутэльку віна*). Калі ласка не падганяй, не першы раз гасцей прымаю, закусвайце, госці дарагія!

**Мэер**. Мы раней таго, таго, як яго, гэтага самага... па маленькай. (*Налівае ўсім па чарцы.*)

**Ліпкін**. Не, дзякуй, не п‘ем.

**Рахуба**. Не, не п‘ём.

**Мэер**. Не п‘еце? Не паверу!

**Чарна**. Па маленькай можна.

**Ліпкін**. І па маленькай не п‘ем. Дзякуй.

**Мэер**. І па маленькай не п‘еце? Якія-ж вы таго, як яго... ну, гэтага самага, вайскоўцы, калі не п‘еце?

**Ліпкін**. Нельга.

**Мэер**. А вы-ж па маленькай—хто-ж угледзіць?

**Ліпкін**. Справа не ў тым, што ўгледзяць, самім потым дрэнна.

**Мэер**. Дрэнна? Дзіўна таго.. як яго... ну, гэтага... самага! Часамі, праўду кажучы, выпіваю перад абедам і ні разу дрэнна не было. Ну, па маленькай!

**Рахуба**. Нельга.

**Чарна**. Не прыставай, Мэер, служба—не дружба. Дысцыпліна. Бачыла я, як за гэту самую дысцыпліну і за сырыя дровы чалавек трое сутак атрымаў. Закусвайце, таварышы, бярыце рыбу. Больш бярыце.

Ведаеце, тут сам таварыш Блюхер, калі на манеўрах быў, і той казаў—добра.

**Мэер.** А можа яно таго... як яго... віна можна?

**Ліпкін.** І віна нельга.

**Чарна.** Не моцнае. Градусаў трыццаць, сама прыгатавала. І тут-жа ведаеце, вінаграду ў нас, у тайзе няма куды дзець, дык я віна нарабіла. Сам таварыш Блюхер хваліў. Ей права! Праўда, хавертэ Хася?

**Хася.** Хваліў, ей-права хваліў.

**Мэер.** Прыдзецца мне самому піць. За ваша здароўе. (*П'е*).

**Чарна.** Ну, як рыба? Праўда, смачная? Я яе гатую проста з Амура. Прывязе Мэер карпа ці шчупака вялікага, і я зараз яе фаршыраваць, марынаваць. Цяпер у нас, дзякуй богу, хапае, а рыбы дык і дзяваць няма куды. Закусвайце, калі ласка, бярэце яешню.

**Рахуба.** Дык мы-ж бяром. Мы-ж не сарамлівыя.

**Мэер.** Ну, за добрую рыбку... па маленькай...

**Ліпкін.** Не, не і не прымушайце.

**Мэер.** А можа таго... як яго... ну гэтай самай... медавухі?

**Чарна.** Ой, сапраўды!.. Я і забылася... Выпіце медавухі! Вы разумееце, за гэты год мелі тысячу сто працадзён, дык нам акрамя ўсяго выпала і тры пуды пятнаццаць фунтаў мёду. Хіба з'ядом?.. Дык я зварыла з яго медавухі. Выпіце, ну я вас прашу! Гэта-ж квас...

(Л і п к і н і Р а х у б а пераглянуліся).

**Ліпкін.** Медавуха?

**Рахуба.** Дык гэта-ж не медавуха, а квас... квас можна.

**Мэер** (*налівае*). За ваша здароўе, як кажуць, таго, ну, як яго, гэтага самага... за наша знаёмства!

(П'юць).

**Рахуба.** Ці даўно вы тут жывяце на Амуры?

**Чарна.** Трэці год, дзякаваць богу. Прыехалі сюды, дык, дзякуй богу, не шкадуем.

**Ліпкін.** Адкуль прыехалі?

**Мэер.** З Палестыны. Мы раней у Польшчы жылі, мястэчка Смаргонь чулі? А адтуль у Палестыну, а ўжо з Палестыны сюды.

**Чарна.** У самым Іерусаліме жылі.

**Ліпкін.** У Іерусаліме?

**Мэер.** Ну, а як-жа!

**Ліпкін.** А сцяну плачу бачылі?

**Мэер.** Што за пытанне, — зразумела бачылі! Яна-ж уся мокрая ад слёз.

**Ліпкін.** Ну, кіньце вы!

**Хася.** Не можа быць!

**Рахуба.** Нешта не верыцца! Каб сцяна ад слёз мокрая была...

**Мэер.** Сапраўды! Калі нас прыехала туды тысяч дзесяць, дык у каго былі грошы, той сядзеў, еў і маліўся, а ў каго грошай не было, той сядзеў і плакаў. Там-жа беспрацоўе, зарабіць няма дзе. Што рабіць? Дык адны плакалі ад таго, што туды прыехалі, а другія— што не могуць выехаць. Вось яна і была мокрая. Запэўняю вас.

(Усе смяюцца).

**Рахуба.** Тады другая справа...

**Чарна.** Прышлося ўсё прадаць, каб выбрацца адтуль. І добра, што выбраліся. Хоць на старасці год пажывем. Прызнацца па праўдзе,

баяліся ехаць у Бірабіджан. Думалі, што тут тыгры ходзяць па тайзе, як у нас сабакі па вуліцы, а потым розныя там па дарозе пападаліся, пужалі, а цяпер, дзякаваць богу, жывем, хоць на старасці год, дом нам далі, добры дом, светлы, чысты.

**Мэер.** Ха ха-ха! Як вам падабаецца, таварышы? Светлы, чысты. Разумееце, як было? Пакуль стаяла лета—цяплыня, дык і ў нас у доме чыста, а потым, як захаладала, дык мая Чарна вазьмі і загані ўсіх парасят і куранят у пакой.

**Чэрна.** А што-ж, яны, па твойму, павінны памерзнуць?

**Мэер.** Не перабівай.—Пусціла, а яны брудзяць... смурод, гразь... задыхнуцца можна. Зайшоў да нас старшыня калгаса, таварыш Ліберман, пагладзеў і кажа: „Калі вы не будзеце наглядаць за чыстатой, то я вас перасялю ў горшы дом". Сказаў і пайшоў, а ў нас, як было, так і асталося. Потым пачаўся гэты культурны паход. Зайшлі, разумееце, комсамольцы, як убачылі, дык і ўзяліся за нашага Хаімку, за сына. Ён у нас у комсамоле. Вось яно і вышла— комсамольцы за Хаімку, а Хаімка за Чарну і кажа: „Як табе, мама не брыдка, з мяне ўвесь комсамол смяецца". А яна яму і кажа: „То няхай табе комсамол і пакой мые". І кожны дзень у іх непрыемнасці, сваркі. Ну, потым Хаімка здагадаўся і пашоў у палітаддзел, параіўся з начальнікам палітаддзела, што рабіць, з маткай-жа біцца нядобра. А той доўга з ім не гаварыў і даў яму гэтую вялікую лямпу. Бачыце?

**Рахуба.** Бачым.

**Мэер.** На табе гэту лямпу і няхай яна свеціць.—Дык што-ж з гэтага будзе?—пытаецца Хаімка.—Тады ўбачыш,—кажа начальнік палітаддзела, што будзе". Добра. Прынёс Хаім лямпу дамой, укруціў. Увечары яна як засвеціць, як заззяе—ахнулі мы. Мая Чарна аж вочы зажмурыла. Лямпа свеціць, а гразь на нас з усіх куткоў так і лезе, так і лезе. Як хопіць мая Чарна шчотку, як возьме анучу, як нагрэе яна гарачай вады. Яна мые, а лямпачка свеціць. Тыдзень прыбірала. Цяпер—бачыце: чыста і прыгожа, і паветра прыемнае. Вып'ем, таварышы, за электрычнасць, як яго, ну таго, ну гэтага самага... за добрае жыццё, я хацеў сказаць.

(Ліпкін і Рахуба пераглядаюцца).

**Ліпкін.** Медавуха?

**Рахуба.** Дык гэта-ж не медавуха, гэта-ж квас, а квас можна.

(П'юць).

**Мэер.** За электрычнасць. Вы толькі падумайце, таварышы. Калі ў шапачніка была электрычнасць?

**Ліпкін.** А вы хіба шапачнік?

**Мэер.** Зараз, дзякуй богу, не. Зараз я рыбалоў, ну, а раней, да Бірабіджана, быў шапачнікам. Гэта няшчасце, я вам скажу, а не прафесія, на кожную галаву ўгадзі і яшчэ ў бяду пападзеш. Калі часта моды мяняюцца, дык яшчэ абы як, праўда, упрогаладзь, але жыць можна, ну, а калі гігіена—тут дрэнна.

**Ліпкін.** Якія адносіны мае гігіена да шапачнікаў?

**Мэер.** А вось якія. Прыехаў быў у Смаргонь малады доктар. Дык ён, ведаеце, хацеў сябе паказаць вельмі разумным і пачаў чытаць лекцыі, што хадзіць без шапкі вельмі карысна для здароўя. Ну, яму, разумеецца, і паверылі, дык багатыя не куплялі шапак, клапоцячыся аб сваім здароўі, а бедныя не куплялі таму, што не было за што. Дык мяне гэта гігіена так прыціснула, што я чуць з голаду

не здох. А раз дык так здарылася, што яшчэ горш. Прыходзіць да мяне прыстаў і кажа: „Мэер, зрабі мне такі картуз, каб ён быў лепшы за ўсе ў горадзе". Дык калі прыстаў сказаў—папрабуйце не зрабіць, а ў мяне, як на той грэх, такой балванкі падыходзячай не было — бо ў яго галава, як піўны кацёл. Пашоў я да аднаго знаёмага токара і кажу яму: „Вазьміце дзерава памацней, скажам, дуб і зрабіце такога балвана, як прыстаў". Не ведаю, як гэта да прыстава дайшло, але дайшло. Дык вы думаеце, ён мяне не выжыў з мястэчка? Факт, што выжыў. Вось што значыць прафесія шапачніка!

**Рахуба**. А хіба рыбачыць лягчэй?

**Мэер**. Рыбачыць не лёгка, але затое гэта-ж калгас. А заработкі, калі перавесці на хлеб, дык выходзіць не менш пуда на працадзень. А сын таксама працуе. А мёд, а рыба, а грошай дзве з паловай тысячы. Калі небудзь шапачнік так зарабляў? Вып'ем таварышы, за калгас, г. зн. за рыбакоў, я хацеў сказаць.

(П'юць).

**Ліпкін**. Не. Мы не будзем. Нам пара ўжо.

**Чарна**. Пасядзіце. Ну я вас прашу, закусвайце!

**Рахуба**. Шчыра дзякую, трэба ісці. (*Падымаецца з-за стала.*)

**Чарна**. Дзякуй вам. Вялікае дзякуй! Перадайце прывітанне начальніку.

**Хася**. І ад мяне перадайце. Так і скажыце—прывітанне ад хавертэ Хасі.

**Ліпкін**. Дзякую, перадам.

**Чарна** (*дае яму ў рукі клуначак*). Вось, калі ласка, перадайце таму чырвонаармейцу, што сядзіць трое сутак. Тут трошкі яек, масла і піражкоў, няхай паласуецца. І скажыце яму, каб не крыўдзіўся, калі б я ведала, то не скардзілася-б. Падумаць толькі. Трое сутак за сырыя дровы... Калі ласка, перадайце і папрасіце начальніка, каб ён яго вызваліў.

**Мэер**. Заходзьце часцей. І таго з сабой прывядзіце.

**Ліпкін**. Усяго добрага.

**Рахуба**. Бывайце здаровы!

**Чарна**. І скажыце яму, што Мэер увечары прынясе мёду. Усяго добрага.

**Хася**. Так і перадайце начальніку, прывітанне ад хавертэ Хасі. Бывайце

Заслона.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пакой начальніка заставы. Сіневіч рапартуе аб выкананні даручэння. Вечарэе.

**Сіневіч**. Пакет пераданы на пяты пост. Літаратуру я захапіў. Атрымайце.

Начальнік заставы хутка перабірае газеты і часопісы.

**Нач. заставы**. Вельмі добра. Часопісы і газеты аднясіце ў ленкуток Скажыце, каб там падрыхтаваліся да гутаркі. Будзем гаварыць аб учынку Шадрына. Што новага на пасту, ціха?

**Сіневіч**. Усё ў парадку, таварыш начальнік. Ціха. Нічога асаблівага не было заўважана. Толькі а палове другой па Крывой пратоцы, з правага берага Амура перабегла дзве дзікіх казы, а так усё ціха.

**Нач. заставы**. Добра.

**Мэер** (*спявае за дзвярыма*). Отречемся от старого мира. Ай-я-яй! Ай-я-яй!

**Нач. заставы.** Хто гэта там гарланіць?

(Уваходзіць Мэер, за ім Мандрык. Відаць, што Мэер выпіўшы).

**Мандрык.** Дазвольце далажыць, таварыш начальнік, прышлося затрымаць старога.

**Мэер.** А а-а! Добры вечар, сынок! *(хоча падаць руку начальніку заставы)*.

**Нач. заставы.** Я вам не сынок, а начальнік заставы.

**Мэер.** Каму можа быць і начальнік заставы, а мне сынок. От-ре-чем-ся от ста...

**Нач. заставы.** Цішэй, дзед, нельга спяваць!

**Мэер.** Чаму нельга спяваць? А што мне плакаць? Чаму я не магу спяваць? Што ў мяне ў хаце холадна, ці есці няма чаго?

**Нач. заставы.** Тут застава. Разумееце? Нельга парушаць цішыню і парадак.

**Мэер.** А хто гэта сказаў, што калі чалавеку хочацца спяваць і ён спявае, дык гэта не парадак? Чаму я не магу спяваць? Што мне дрэнна жывецца?

**Нач. заставы.** І добра, што вам жывецца не дрэнна, але-ж крычаць тут усё такі нельга, застава.

**Мэер.** Не буду сынок, не буду... Я такі: сказаў не буду,—значыць не буду.

**Нач. заставы.** Ну вось і добра. Ідзіце дахаты і толькі не крычыце.

**Мэер.** Не буду Я такі,—сказаў, што не буду, значыць не буду. Толькі куды я мёд дзену?

**Нач. заставы.** Які мёд?

**Мэер.** Мая Чарна перадала чырвонаармейцу таму, што за дровы сядзіць. Так і загадала—перадай начальніку прывітанне, а мёд чырвонаармейцу і папрасі, каб таварыш начальнік яго вызваліў і яшчэ загадала, каб я з мёдам дахаты не варочаўся.

**Нач. заставы.** Вось яно што! Ідзеце, дзед, дахаты, і забірайце з сабой мёд, толькі не спявайце.

**Мэер.** Куды-ж я мёд дзену? Таварыш начальнік, калі ласка... Мяне-ж Чарна за гэта без солі з'есць! Вы ведаеце маю Чарну, таварыш начальнік?

**Нач. заставы.** Ого, яшчэ як ведаю! Бывайце здаровы, дзед! Таварыш Мандрык правядзіце яго далей ад заставы. А вы глядзіце, каб больш не спявалі.

**Мэер.** Не буду. Як нельга, значыць нельга. Я такі, сказаў што не буду, значыць не буду.

(Мэер і Мандрык выйшлі)

**Нач. заставы.** Добры стары, дрэнна вось толькі, выпіў залішне.

(Мэер за дзвярыма на ўвесь голас: „От-ре-чем-ся от ста-ро-го ми-ра“. „От-ре-чем-ся от ста-ро-го ми...“).

**Нач. заставы.** Зноў...

(У пакой зноў уваходзіць Мэер і Мандрык).

**Мандрык.** Таварыш начальнік, зноў спявае.

**Нач. заставы.** Эге-ге, дзед, вас прыдзецца аштрафаваць.

**Мэер.** А ты штрафуй, сынок, штрафуй. Што мне штраф?.. У мяне цяпер такія заработкі. Цяпер я магу... *(Дастае грошы)*. Колькі, сынок, пяцьдзесят, сто... Я магу, у мяне цяпер хопіць.

**Нач. заставы.** Мы такі штраф наложым, што не разлічышся.

**Мэер.** Разлічуся! А не хопіць у мяне, калгас дапаможа. У нас таварыш начальнік, ба-га-аты калгас, а там таго... як яно... ну гэтага...

самага... ударнік! Два разы прэмію атрымаў, дык калгас дапаможа мне і штраф заплаціць. Факт!

**Нач. заставы.** Папярэджваю апошні раз, ідзіце дахаты і без крыку.

**Мэер.** Іду. Я такі казаў, што іду, значыць іду. Толькі мёд вазьміце таму чырвонаармейцу і вызваліце. Што вам стоіць вызваліць!

**Нач. заставы.** Гэта немагчыма. Па-першае, а па-другое, калі вам трэба было пагаварыць на гэту тэму, трэба было цвярозым прыходзіць, а вы вось, наклюкаліся.

**Мэер.** А чаму мне не клюкнуць? Хаты цёплыя, усяго хапае, нават электрычнасць правялі, а тут яшчэ чырвонаармейцы прышлі, дроў прывезлі, пакалолі, склалі. Калі-небудзь так абыходзіліся з шапачнікам? Як-жа тут не клюкнуць... Пачаставаў я іх абедам... Паставіў гарэлкі, віна, а яны не п'юць, акрамя медавухі нічога... Прышлося аднаму... Вось і наклюкаўся.

**Нач. заставы.** Значыцца трэба ісці спаць. Ну, хутка, толькі не спявайце.

**Мэер.** Іду... Я такі... іду (*Ідзе і тут-жа ў дзвярах заспявау „Отречем-ся от ста-ро-го ми ра“*)

**Нач. заставы.** Грамадзянін! Прызываю да парадку, іначай вас прыдзецца пасадзіць!

**Мэер.** Пасадзіць? А чаму не?.. Чаму мне не пасядзець?.. Я такі люблю пасядзець. (*Садзіцца ў крэсла начальніка.*)

**Нач. заставы** (*разводзіць рукамі*). Ну што ты будзеш з ім рабіць?

**Мэер.** Сядайце, таварыш начальнік. Паталкуем і нават заспяваем разам.

**Нач. заставы.** О-о-о! Гэта ўжо занадта, да вы напэўна адчуваеце сябе як дома?

**Мэер.** А вядома, як дома. Чаму не? Гэта раней, ведаеце, было гадоў дваццаць пяць таму назад,— іду я, разумееце, па вуліцы, а насустрач мне ураднік Лопатаў. Здаравенны такі і кулакі ў яго як гарбузы. Ну дык вось... Ідзе ён і як закрычыць на мяне: „Ты чаму шапкі не здымаеш, жыдоўская морда“? І ў вуха мне. Я ўжо хацеў і шапку здымаць, а ён мне ў другое вуха. І адразу ў халодную... Тыдзень сядзеў, а цяпер на мяне ніхто не крычыць, не прымушае шапку скідаць, не б'юць, нават дровы дадому возяць і колюць, у крэсла пасадзілі, размаўляюць са мною. Ей богу заспяваю, таварыш начальнік. „От-ре-чем-ся от ста-ро-го ми-ра“.

**Нач. заставы.** Цішэй. Мандрык, адвядзіце яго! (*Мэеру*). Прыдзецца вас у нас пакінуць.

**Мэер.** Я такі застануся, што мне па марозу цягацца? І мёд вы не ўзялі, дык што мне Чарна скажа? Я такі застануся.

**Нач заставы** Мандрык, выведзіце.

**Мэер.** Спакойнай ночы, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Спакойнай ночы. Заўтра я вам скажу з добрай раніцай.

(Мандрык і Мэер выходзяць).

**Начальнік заставы** (*падыходзіць да тэлефона і звоніць*) Алло. Зараз прывядуць старога Райхельсона, ударніка Так, так. Ударнік... З рыбацкага калгаса, дык вы яго пратрымайце да раніцы, з перабежчыкамі... Не, не, там ёсць пакой, толькі глядзіце, syннік яму дайце. Цёпла будзе? Добра.

(У пакой уваходзіць Чарна.)

**Чарна.** Добры вечар, таварыш начальнік! Мэера майго не было?

**Нач. заставы.** Быў ваш Мэер. Што-ж вы за ім не даглядзелі? Занадта выпіў стары, крычыць тут, спявае, прышлося яго затрымаць, няхай праспіцца.

**Чарна.** І так добра. Я яму казала—не пі Мэер, а ён ведаеце, выпіў. А калі чалавек не п'яніца, дык ён вып'е дзве чаркі і ўжо... вы-ж разумееце, таварыш начальнік, чалавек з непрывычкі, калі вып'е, дык ужо і п'яны. А мёд ён перадаў?

**Нач. заставы.** Нельга гэтага рабіць, грамадзянка, вы парушаеце наш распарадак.

**Чарна.** Якое парушэнне? Калі нам хочацца пачаставаць чырвонаармейца мёдам, дык хіба гэта парушэнне? Таварыш начальнік! А можа быць вы вызваліце чырвонаармейца? Я вас прашу.

**Нач. заставы.** Вось няшчасце! Слухайце, грамадзянка. Зараз я дам распараджэнне адпусціць вашага мужа дахаты, забірайце яго і глядзіце, каб па дарозе не было спеваў і крыку. Заўтра на гэту тэму я пагутару ў вас у калгасе. Ідзіце зараз-жа. Гэта я вам загадваю.

**Чарна.** Бывайце здаровы, таварыш начальнік, бывайце! (*Выходзіць*).

**Нач. заставы.** Ну, ну! Змарыўся, быццам вагоны грузіў...

(У дзвярах паказваецца галава Ч а р н ы).

**Чарна.** Таварыш начальнік, а можа быць вы чырвонаармейца вызваліце. Я вас прашу...

**Нач. заставы.** Грама-дзян-ка.

(Галава Чарны хутка знікае).

**Голас Чарны** (*здалёк*). Спакойнай ночы, таварыш начальнік!

(Начальнік ухмыляецца).

**Нач. заставы.** Ну, ну...

З а с л о н а

## *КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ*

Казарма заліта электрычным светам. У пакоі некалькі чалавек чырвонаармейцаў. Двое іграюць у шахматы. Сіневіч спрачаецца з Рахубай.

**Сіневіч.** А можа ён і не так ужо вінаваты?

**Рахуба.** Як-жа не вінаваты?.. Сані перакуліў, калгасніцу чуць не забіў. Хіба-ж гэта жартачкі?.. Па мойму на чорную дошку дый годзі.

**Ліпкін.** Правільна.

**Рахуба.** Ды дзе-ж там вінаваты?.. Гэта-ж такія добрыя людзі, ні нам, ні начальніку спакою не даюць, усё просяць, каб Шадрын не сядзеў.

**Сіневіч.** Можа таму і просяць?.. Адчуваюць, што Шадрын не так ужо вінаваты.

**Рахуба** (*злуецца*). Вось упёрся, як баран у новыя вароты! Кажуць табе, што добрыя людзі... калгаснікі, што яны дарэмна на чырвонаармейца не будуць казаць.

**Сіневіч.** Ну, добра. Калі вы лічыце правільным занясенне Шадрына на чорную дошку за гэты ўчынак, паставім на абгаварэнне звяна.

**Рахуба.** Вось так будзе добра. І Шадрыну трэба сказаць пра чорную дошку, акрамя таго пасадзіць на трое сутак, дык тады зразумее, што дрэнна зрабіў. Я таксама аднойчы пяць сутак сядзеў.

**Сіневіч.** За што?
**Ліпкін.** І паразумнеў?
**Рахуба.** Ну, але. Даўно гэта было, мінулы год, як былі манеўры. Вось нас увечары паставілі да адной цёткі ў хату на нач. Пяць чалавек нас было. Кухня наша не прыехала, бо мы вельмі далёка зайшлі, а есці хочацца. Былі ў нас кансервы, а нам хацелася чаго-небудзь гарачага. Вось я і кажу гаспадыні: „Звары нам, цётачка, чаго-небудзь паесці", а яна і кажа: „Няма, родны, нічога".—„Ды за грошы,—кажу, а яна і кажа:—„І за грошы няма".—Плюнуў я з гора, ды пашоў на вуліцу пакурыць. Стаю, куру... падыходзіць да мяне адзін дзядок ды кажа: „Дай, таварыш, закурыць"! Закурылі, разгаварыліся.—„Што гэта за цётка"?—пытаю я ў дзеда.—„А што такое"?—кажа ён.—Ды кажу, есці нічога не хоча зварыць і грошы не бярэ. А, гэта хата вельмі скупая, яны, чэрці, падкулачнікі. У гэтай гаспадыні і дзед быў скупы, і бацька, і сама яна такая скупая. Сярод зімы і лёду не выпрасіш, а багатая—коні ёсць, тры каровы, свіней штук пяць, куры, гусі. Іх хацелі выслаць, чалавек яе зрабіў пакражу ў калгасе, зараз пад следствам сядзіць, хутка судзіць будуць, паказальны суд будзе... Толькі мне гэта дзед сказаў, я бягом у хату і крычу: „Гаспадыня, вары есці". А яна мне кажа: „Няма".—„Як так, кажу, няма? Тры каровы, пяць свіней, куры, гусі і каб есці не было? Яна стала, вылупіла на мяне вочы і кажа: „Адкуль вы гэта, таварыш, ведаеце?" Я кажу,—усё ведаю, бо я варажбіт.—Дык паваражыце, кажа мне.—А вячэра будзе?—Калі ўгадаеце, дык на ўсіх звару. У людзей пазычу, а звару.—Узяў я ў яе руку ды кажу: „Дзед быў у цябе скупы, і бацька скупы, а ты не такая, ты добрая. А чалавек твой зараз у казённым доме і прыедзе сюды адзін казённы служачы, і будзе твайму чалавеку у казённым доме за казённыя справы, за казённую маёмасць казённы суд, а пасля будзе яму і казённая дарога". Яна стаіць, вачыма лупае, а тады і кажа: „Вось, кажа варажбіт! Толькі ў хату зайшоў і ўжо ведае, што дзе ляжыць, што калі зрабілася"... Зарэзала яна нам гусака, падсмажыла яго з бульбай, вячэра на яць. Толькі з'еў я адну гусакову нагу і ўзяўся за другую як адчыняюцца дзверы і лезе ў хату чалавек дваццаць баб, каб варажыць! Я як сядзеў за сталом, так і падавіўся той гусінай ножкай. Што я ім буду казаць, калі ніводнай не ведаю! І хлопцы як сядзелі, так і пакаціліся з рогату. Варажы кажуць, а самі заліваюцца. Вось бабы і прысталі да мяне: „Варажы... кажуць, ты надта добра ўсё адгадваеш! „Я і туды, я і сюды, а выкруціцца нельга,—населі на мяне, варажы дый годзі. Дык я ім і кажу: „Без дазвола начальства не магу". Толькі я ім сказаў, усіх баб як ветрам з хаты выдула, пабеглі. Я сяджу і ем таго самага гусака. Тады зноў адчыняюцца дзверы, зноў уваходзяць бабы, а з імі палітрук. Тут я і зразумеў, што цяпер рабіць. А палітрук падышоў да мяне і кажа: „А ну, ну, паваражы, таварыш Рахуба, паваражы". „Ды я, кажу, не ўмею".—„А як-жа ты адной грамадзянцы варажыў? Раскажы толькі праўду". Сорамна мне, а трэба расказваць. Вось так і так, кажу, варажыў: і пра дзеда расказаў усю праўду і пра сябе. Хлопцы смяюцца, бабы смяюцца, а цётка сварыцца—гаспадыня. Ну што-ж сварыся, не сварыся, ужо нічога не паможа, гусака-ж мы з'елі. Стаю я як рак вараны і ў зямлю гляджу. Вось тады і ўзяў мяне палітрук у работу і ну сароміць і давай сароміць. А пасля кажа: „Пяць сутак гаупвахты

за тое, што ашукаў працоўных, бо гаданне ёсць жульніцтва і опіум народны, як і рэлігія". Ну я пяць сутак пасядзеў і дадумаўся, што дрэнна зрабіў. О, так будзе і з Шадрыным.

**Мандрык.** Рэбяты, сыграем!

Адзін з чырвонаармейцаў бярэ гармонік у рукі.

**Ліпкін.** Сыграем.

**Рахуба.** Ды чаго там іграць? Не верыце? Ей богу!

Чырвонаармеец іграе на гармоніку „Сербіяначку". Ліпкін скача перад Рахубай і падпявае.

**Ліпкін.** Што ты кулі заліваеш, сербіяначка мяне?
Хіба ты таго не знаеш, што не веру я табе?

Пасля без прыпева, толькі пад гармонік Ліпкін са смехам скача перад Рахубай.

**Рахуба.** Вось жа не вераць. Ей богу...

(Уваходзіць начальнік заставы).

**Нач. заставы.** Адпусцілі старога?

**Сіневіч.** Адпусцілі.

**Нач. заставы.** Не крычаў больш?

**Рахуба.** Ды не. Жонка па яго прыходзіла, а ён баіцца яе, як відаць, як агня. Як сказала яна яму сціхнуць, дык і сціх, як вады ў рот набраў.

**Начзаставы.** Вы таксама добрыя. Напаілі дзеда.

**Рахуба.** Ды не, ён сам піў.

**Нач. заставы.** А вы?

**Рахуба.** Мы не пілі, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Праўда?

**Рахуба.** Ей бо, не пілі! Вось запытайце Ліпкіна...

**Нач. заставы.** Праўда, Ліпкін? Не пілі?

**Ліпкін.** Праўда, таварыш начальнік, не пілі. Вось запытайце нават Рахубу.

**Нач. заставы** *(з ухмылкаю).* А медавуху? *(Ліпкін і Рахуба пераглядаюцца).*

**Рахуба.** Дык гэта-ж не медавуха, гэта-ж квас... квас можна.

**Нач. заставы.** Усё-такі не варта было піць. Ну добра. На першы раз дарую. Дровы адвезлі?

**Ліпкін.** Адвезлі, пакалолі і склалі, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Добра, вось гэта я люблю. Акуратнасць выканання, а за медавуху, так і быць, на першы раз дарую. Цяпер давайце-ка сюды бліжэй.

(Чырвонаармейцы акружаюць начальніка).

**Нач. заставы.** Зараз мы таварышы, пагаворым з вамі больш падрабязна і глыбока аб учынку таварыша Шадрына. Трэба вам зазначыць, што ўчынак Шадрына з'яўляецца, па-першае, недастойным звання чырвонаармейца, па-другое, з'яўляецца фактам недапушчальна грубых адносін чырвонаармейца да працоўных, па трэцяе...

(За сцэнай чутны два стрэлы).

**Нач. заставы.** У руж'я!..

Усе хутка ўскакваюць з месц, узбройваюцца. Чуцён яшчэ адзін далёкі стрэл, усе хутка выходзяць з пакою, за выключэннем Сіневіча. Мерна трашчыць тэлефон.

**Сіневіч.** Алло.. На Крывой пратоцы?.. Кантрабанда?.. Начальніка.. Ён пашоў ужо... Туды!

З а с л о н а.

## *КАРЦІНА ПЯТАЯ*

Габінет начальніка заставы. Перад сталом стаіць Лі-Сін. На падлозе некалькі цюкоў шоўку; на стале штук пяць вялікіх сазаноў. У пакоі некалькі чырвонаармейцаў.

**Нач. заставы**. Апошні раз папярэджваю, будзеце адказваць ці не?

**Лі-Сін** (*паказвае на вушы і рот*) Уа-а-о!

**Нач. заставы**. Вы не прыкідвайцеся глуханемым... Вам гэта нічога не дасць.

**Рахуба**. Прыкідваецца.

**Ліпкін**. Таварыш начальнік, калі мы яго схапілі, ён нешта крычаў па кітайску на другі бераг.

**Лі-Сін**. Уа-о-й!

**Нач. заставы**. Вы не прыкідвайцеся, нас гэтым не ашукаеце. Хто з вамі яшчэ быў? Гэта чый кажух і шапка? (*Паказвае на кажух і шапку, якія ляжаць на падлозе*).

**Лі-Сін**. Уа-о-й!

**Рахуба**. Ды што ты, контра, прыкідваешся? Кажы, калі цябе пытаюць, бо я дам... (*Замахваецца*).

**Нач. заставы**. Рахуба, гэта, што?

**Рахуба** (*выцягваецца ў струнку*). Вінават, таварыш начальнік. А толькі чаго ён, гад кантрабандны, маўчыць, калі яго пытаюць? Там крычаў і матам крыў, а тут бачыш і глухім і нямым адразу зрабіўся...

**Нач. заставы**. Вы адмаўляецеся адказваць? Чый кажух і шапка? Хто з вамі быў?

**Лі-Сін** (*паказвае рукамі на кажух і шапку, адмоўнаківае галавой і мычыць*). Уй-я-ій, о-к-а!

**Нач. заставы**. Як там было, таварыш Ліпкін?

**Ліпкін**. Мы, таварыш начальнік, з Рахубай праходзілі каля гарэлага пню. Стрэлы чутны былі далей. Мы згодна вашага загаду, узялі ад гарэлага пню ўлева, глядзім—бягуць двое. Крыкнулі:—Стой!.. Бягуць. Стрэлілі мы... Гэты застанавіўся, а другі шмыгнуў у кедрач. Я пабег за ім у кедры, а Рахуба застаўся з гэтым, тады чую гоман, стрэл... Варочаюся назад, а ён вырывае ў Рахубы з рук вінтоўку, ну я падбег, чуць узялі.

**Нач. заставы**. Супраціўляўся?

**Рахуба**. Ён так добра быў мяне за гарлянку схапіў, што каб не падбег Ліпкін, то можа і дрэнна было-б.

**Нач. заставы**. Як-жа другога выпусцілі?

**Ліпкін**. Я за Рахубу баяўся. Трэба было яго выручаць. Ды і той другі не збяжыць далёка, другі пост пайшоў па следу. Вось яго кажух і шапка. А раздзеты далёка не пойдзе, мароз!

**Нач. заставы**. Вы нарэшце будзеце адказваць?

**Лін-Сі**. А-о-а а!

**Нач. заставы**. Рахуба. Адвядзіце арыштаванага да дзяжурнага, добра абыскаць, кажух і шапку пакінуць тут.

**Рахуба**. Ёсць, таварыш начальнік. (*Бярэ за плячо Лі-Сіна. Пашлі*).

**Нач. заставы**. Ліпкін, вы зараз накіруйцеся з аддзяленнем на тое месца, дзе захапілі кантрабанду. Дапамажыце другому пасту абшарыць усе кусты і кедры. Добра абгледзьце пратокі. Без другога не варочайцеся.

**Ліпкін**. Ёсць, таварыш начальнік!

**Чарна**. Добрай раніцы, таварыш начальнік. Як гэта вам падабаецца?

**Нач. заставы**. Добрай раніцы, таварышы. Адкуль вы гэта? Хто гэта?

**Мэер**. Прывялі да вас на праверку. У яго ніякіх дакументаў няма, нічога няма, акрамя кантрабанды. Вось калі ласка, паглядзіце на яго... *(Паказвае звязку рыбы)*.

**Нач. заставы**. Дзе вы яго знайшлі?

**Чарна**. Разумееце, таварыш начальнік, устала я сягодня раніцай падаіць карову... Толькі вышла на двор, чую: „Добры дзень, хавертэ Чарна“.

**Хася**. Вось зусім і не так, не добры дзень, а добрай раніцы, хавертэ Чарна.

**Чарна**. Якая розніца, хавертэ Хася. Няхай будзе добрай раніцы. Гляджу я гэта, хавертэ Хася са мной вітаецца... Праўда, хавертэ Хася?

**Хася**. Праўда.

**Чарна**. Ну пастаялі, пагаварылі і вырашылі набраць вады. Амур-жа пад бокам...

**Нач. заставы**. Хутчэй, грамадзянка!

**Чарна**. Гляджу—чалавек па беразе ходзіць. Так... вось я і кажу Хасі: „Што ён тут робіць?“ А яна і кажа: „Ці мала што можа тут чалавек рабіць? Можа ён на шпацыр вышаў“.

**Хася**. І зусім не так сказала!

**Чарна**. Якая розніца, хавертэ Хася? Што значыць, кажу, на шпацыр вышаў? Што гэта, кажу я, Неўскі праспект? Гэта-ж мяжа! Падышлі мы да яго бліжэй і пытаем: „Добры дзень, што вы тут робіце?“ А ён кажа—„Рыбу лаўлю“—і паказвае гэтую вязку рыбы.

**Хася**. Цэлую вязку рыбы!

**Чарна**. Хавертэ Хася, прашу вас не перабівайце! І паказвае гэту вязку рыбы.

**Нач. заставы**. Грамадзянка, карацей!

**Мэер**. Адным словам, таварыш начальнік, у яго няма дакумантаў, а рыбу злавіў кантрабандай, мы яго затрымалі і даставілі сюды.

**Чарна**. Гэта-ж не Неўскі праспект, а мяжа.

**Нач. заставы**. Усё ясна. (*Звяртаючыся да кантрабандыста*). Прозвішча?

**Вахмін**. Вахмін Цяпан.

**Нач. заставы**. Кажух і шапка твая? (*Паказвае на кажух і шапку*).

**Вахмін**. Ды што казаць... Вядома мая.

**Нач. заставы**. А кантрабанда?

**Вахмін**. Кантрабанда Лі-Сіна, я толькі дапамагаў пераносіць.

**Нач. заставы**. А ён казаў, што кантрабанда твая.

**Вахмін**. Ілжэ, сволач! Дзеля чаго я павінен за ўсіх адзін адказваць? Яго кантрабанда, я толькі частку за перанос меў.

**Нач. заставы**. Ліпкін, адвядзіце! (*Ліпкін адводзіць Вахміна*).

**Нач. заставы** (*звяртаючыся да Райхельсонаў*). А вам, таварышы калгаснікі, вялікае дзякуй са садзейнічанне.

**Чарна**. Што вы, што вы!.. А як-жа іначай?.. Мы-ж суседзі, трэба дапамагаць друг другу. Гэта-ж не Неўскі праспект, а мяжа.

**Мэер**. Таварыш начальнік, у мяне да вас просьба.

**Нач. заставы**. Якая?

**Мэер**. Я тут учора пакрычаў, дык вось... непрыемна зараз... І перад вамі непрыемна, і перад калгаснікамі, дык вы таго... як яго... ну гэтага... самага... выбачайце, калі ласка.

**Нач. заставы.** Ну гэта дробязь. Гэта бывае. З ахвотай выбачаю. Толькі вы ўжо, калі ласка, у наступны раз у нецвярозым выглядзе на заставу не прыходзьце.

**Мэер.** Ведаеце, непрыемна, я амаль не п'ю, а тут разумееце прэмія... А тут дровы прывезлі, пакалолі... Ну потым жа было размеркаванне заработкаў... Ды якіх заработкаў... Ну галава і закружылася ад радасці... выбачайце, калі ласка.

**Чарна.** І калі можна, вызваліце таго чырвонаармейца, таварыш начальнік. Я вас прашу.

**Нач. заставы.** А вось гэта ўжо ніяк немагчыма.—Сіневіч, пакліч Шадрына.

(Сіневіч вышаў).

**Чарна.** Як-небудзь! Куды гэта варта, трое сутак за нейкія сырыя дровы і хавертэ Хасю.

**Хася.** Хавертэ Хасю? Прычым тут хавертэ Хася? Вы чуеце, таварыш начальнік?

(Уваходзіць Ш а д р ы н).

**Нач. заставы.** Вось, таварыш Шадрын, і ўчора, і сёння гэтыя грамадзяне просяць мяне вызваліць вас ад пакарання. Адчуваеце?

**Шадрын.** Адчуваю.

**Нач. заставы.** Сорамна?

**Шадрын.** Вельмі сорамна, таварыш начальнік. Выбачайце мяне і вы, грамадзянка, выбачайце.

**Чарна.** Ці варта аб гэтым гаварыць? Мала што па-суседству бывае.

**Нач. заставы.** Вызваліць яго ад пакарання не магу. Спадзяюся, Шадрын сам гэта разумее.

**Чарна.** Таварыш начальнік, а можа...

**Мэер.** Чарна, не прыставай. Значыцца так трэба. (*Да Шадрына*). А вы потым заходзьце да нас у госці, па-суседску. Бывайце здаровы!

**Нач. заставы.** Бывайце здаровы, таварышы! Вялікае вам дзякуй за садзейнічанне! Вось так і павінны рабіць калгаснікі. (*Да Шадрына.*) Дык як ты сябе адчуваеш, таварыш Шадрын?

**Шадрын.** Дрэнна, таварыш начальнік, вельмі сорамна.

**Нач. заставы.** То та-ж адчуў памылку... А добрыя суседзі... Яны мне галаву тут два дні грызуць за цябе, вызваляй, ды вызваляй.

**Шадрын.** Добрыя, ды ад гэтага мне яшчэ больш сорамна.

**Нач. заставы.** Вызваліць цябе не магу, ды і не трэба гэтага. Спадзяюся, выправішся.

**Шадрын.** Выпраўлюся... Ніколі ў другі раз так не зраблю.

**Нач. заставы.** Гэтага мала. Ты вось абяцай мне добрай службай і вучобай дабіцца ўсіх паказчыкаў на „выдатна“, і тады мы будзем з табой на дружаскую нагу.

**Шадрын.** Абяцаю, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** То-та-ж! Ну можаш ісці. Калі абяцаеш?

**Шадрын.** Ёсць, таварыш начальнік.

**Нач. заставы.** Вось і добра, цяпер ідзі.

(Шадрын выходзіць).

**Нач. заставы** (*здаволена*) Добрыя людзі, проста такі дзівосныя людзі (*у публіку*) Хіба не праўда?

З а с л о н а

Паўлюк Кавалёў

## ВЕЧАРАМ...

За мурожнаю, зялёнаю лагчынай
І ў далёкім, песенным бары
Цёплы дзень
Пайшоў на адпачынак,
Каб вярнуцца зноўку на зары.

І спакой паслаўся ў прасторах,
Туманы ля рэчкі паплылі...
Мы прывыклі прымячаць па зорах
Як плывуць далёка караблі.

Вецер сціх...
І каля стройных скірдаў,
Мы гаворым пра навіны дня.
Цёплы вечар зоры параскідаў,
Аксаміт пасланы на палях.

Мы гаворым...
Як плывуць далёка,
Комсамольцы па вярхоўі рэк.
Як рыхтуюцца героі да палёту,
Аб якім не марыў чалавек

І яшчэ...
Як лепей нам наладзіць
Дружбу нашу у сям'і сваей.
Усміхаўся вечар і парадзіць
Комсамольцам лепшага не смеў.

Усміхаўся вечар каля скірдаў,
Свежае, пахучае травы...
Вечар зоры ў небе параскідаў
І з'яднаў сяброўскі наш парыў.

22/VII-35 г.

**А. Петроў**

# У ТАЙЗЕ

## 1. Пад веснавым небам

### I

Надыходзілі цёплыя дні.

Стары паляўнічы Чунды ўжо не раз падоўгу, прыжмурыўшыся, глядзеў на неба і рэчку.

— Час пантаваць *),—аднойчы сказаў ён дзеверу.

— Бадай што час,—згадзіўся дзевер.

— Ты прынясеш мне з тайгі падарунак?—ласкаючыся да старыка, запытаўся шасцігадовы пляменнік.

— Безумоўна, прынясу. Цукеркі на дрэвах хутка паспеюць. Я натрасу поўны мяшок.

— Няпраўда, цукеркавых дрэваў няма!—весела крыкнуў хлапчук.

— Як няма? Адкуль-жа бяруцца цукеркі?

— Іх прадаюць у каапératыве.

— А адкуль яны ў каапэратыў пападаюць?

— З... я не ведаю.

Стары затросся ад нячутнага смеху і пахлопаў улюбёнца па патыліцы.

---

Быў ціхі вечар. У блакітным тумане зелянелі горы і звілістыя даліны з бліскучымі рачулкамі і рэшткамі веснавой вады ў лагчынах. Над кветкамі гулі пчолы і раі камароў таўкліся над нагрэтымі балотцамі.

Ізюбр-пантач усхапіўся на ногі і натапырыў вушы: яму здаўся трэск суччa. Ізюбр ляжаў на верхавіне гары, у багульніку. Гэта было надзейнае месца, добра закрытае і з крутым подступам.

Трэск паўтарыўся. Ён даносіўся з ракі. Нехта прабіраўся па беразе, рассоўваючы кусты. Чалавек ці звер? Ізюбр не мог рашыць. Потым усё змоўкла. Ізюбр доўга прыслухоўваўся да лясных гукаў. Нарэшце ён лёг і паклаў галаву на траву.

З кустоў вышаў Чунды. Ён нёс на плячах стрэльбу і кайстру, а правай рукой абапіраўся на сошкі.

„Нядрэннае месца для бівака,—аглядзеўшыся, падумаў ён.

---

*) Пантаваць—паляваць на пантачоў, г. зн. ізюбраў (аленяў), у якіх адрастаюць у весну рагі (панты). Гэтыя рогі скарыстоўваюцца ў медыцыне.

Стары няспешна прыставіў да дрэва бярданку і сошкі і, вызваліўшы з лямкі руку, звыклым рухам пляча скінуў на зямлю кайстру. Пасля гэтага ён выцяг з-за пояса сякеру і, пераваньваючыся, пайшоў у лес, па голле.

Праз гадзіну на беразе патрэскваў ужо агонь, над якім тырчэў акуратна выструганы таган. Каля агня размясціліся ў рад: задымлены кацялок, бляшанка ад кансерваў, якая была замест кубка, мяшочак з рысам, баначка з-пад гуталіна, у якім захоўвалася соль, кавалак сушанай рыбы і поўпліткі цвёрдага чаю.

Чунды пайшоў з кацялком на рэчку, але на абрыве спыніўся: на процілеглым беразе ішоў вялізны мядзведзь. Ён не падазраваў прысутнасці чалавека і спакойна паглядваў то на ваду, то на сляды звярыных ног на пяску. Яго поўсць, ужо пазбаўленая збітага ў бярлозе падшорстку, здавалася расчасанай нейчымі клапатлівымі рукамі.

Вочы Чунды так і ўтаропіліся ў велікана.

— Вялікі Чорнабуры!—прашаптаў ён.—Так, так, гэта ён. Ах ты свавольнік! Эге, ты яшчэ вырас з мінулага года...

Стары падышоў на край абрыва.

— Добры дзень, прыяцель!—весела крыкнуў ён, размахваючы кацялком.—Дзе зімаваў? Як спалася!

Мядзведзь уздрыгануўся і няўклюднай рыссю пабег у кусты.

— Увосень сустрэнемся! Глядзі, адкарміся добра!—крычаў яму ўслед Чунды. „Які дасканалы звер"—думаў ён, спускаючыся к рэчцы. „А хітры-ж, хітры! Ён спрытна ашукаў мяне ў Кабаняй падзі".

---

Вялікі Чорнабуры доўга бадзяўся ў зарасніку арэшніка. Ён быў неспакойны і часта прыслухоўваўся. Калі-ж сцямнела, ён спусціўся ў глыбокую лагчыну.

П'янючы пах чаромхі напаўняў паветра. На дрэвах і ў траве трашчалі нябачныя цыкады. Устрывожаны агнём на дальняй гары крычаў дзікі казёл. Вялікі Чорнабуры пачаў ласавацца падбелам, якога вельмі шмат расло каля раўчака. Ён зграбаў яго лапамі і, моцна цмокаючы, жаваў хрусцеўшыя на зубах тоўстыя сакавітыя сцяблы. Буйны жукрагач з разгону ўдарыўся яму ў лоб і шлёпнуўся на зямлю. Вялікі Чорнабуры нагнуўся над ім, але тут-жа затрос галавой, бо жук усімі лапкамі ўчапіўся яму ў губу.

На краю абрыва пачулася асцярожнае сапенне. Вялікі Чорнабуры быстра падняў галаву. У той-жа момант яго поўсць на хрыбце стала на дыбкі. Якая смеласць! Вон адсюль! Скокнуўшы разы два ён апынуўся на абрыве. Маленькі, белагруды мядзведзь кулем перакаціўся цераз лужок і хутка паімчаўся паміж кустоў. Вялікі Чорнабуры кінуўся быў у пагоню, але каля кустоў спыніўся: быстрае аддаленне трэску сушняка гаварыла аб тым, што белагруд не прэтэндаваў на падбел і ў належнай ступені прызнаваў перавагу працілўніка.

Вялікі Чорнабуры накіраваўся па ўвале да ракі. Па дарозе ён разрыў бурундукову нару і злавіў землярыйку, якая шнырыла ў сухім лісці. Пад карчом ён забіў тхара, але не стаў яго есці.

Каля рэчнога затона Вялікі Чорнабуры спыніўся. Сярод мноства пахаў, якія адтуль даносіліся, ясна выдзяляўся пах дзікай казы. Ён то знікаў, калі начны вецярок паварачваў у бок, то зноў з'яўляўся ў розных ступенях адчувальнасці. Востры і цепкі, ён раздражняў апетыт звера. Затон так густа аброс тальнікам, што падкрасціся да казы было

немагчыма. Вялікі Чорнабуры абнюхаў зямлю і знайшоў свежы казіны след. Ён вёў да затона. Мядзведзь звярнуў крыху ў бок і залёг у кустах. У начной шэрані самае вопытнае вока не адрозніла-б яго ад калоды або ламачча.

З-за затона пацягнуў вецярок. Ён паведаміў Вялікага Чорнабурага, што каза пакінула рачную мялізну і павольна перасоўвалася ў глыбіню затона—у чарот.

У лесе пачуўся шум. Нябачная каза зараз-жа перабегла з-за рэчкі. Вялікі звер набліжаўся да затона з боку гары. Ён мала клапаціўся аб цішыні, безуважна прадзіраючыся праз кусты. Каза заставалася ля ракі. Набліжэнне звера, відаць, не ўстрывожыла яе: яна абмежавалася тым, што крыху адступіла.

Вецер падуў уверх па рацэ. Пах казы знік, але затое з'явіўся другі, больш моцны—пах старога сахатага*). Жывёліна моцна плёхала па вадзе і пачала піць, фыркаючы і пускаючы пухіры.

Вялікі Чорнабуры папераменна чуў пах казы і сахатага, але яго ўвага была сканцэнтравана на казе: справіцца з сахатым, ды яшчэ старыком—было не так-та лёгка.

Напіўшыся і крыху пастаяўшы ў вадзе, сахаты павярнуў к берагу і пайшоў у тым-жа напрамку, адкуль прышоў.

Пах казы знік. З'явіўся і таксама знік пах янота. Аднекуль з логу пацягнула дзікім вяпруком.

Вялікі Чорнабуры ляжаў нерухома. Яму дапякалі машкара і камары, але ён толькі міргаў вачыма, калі прагныя крывасмокі дабіраліся да адчувальных мясцінак.

Ледзь улоўны шолах прымусіў яго настаражыцца. Праз тальнік лёгкім поступам прабіралася каза. Вялікі Чорнабуры ціха ўзняўся і сціснуўся ў камяк. Ён ужо бачыў казу, якая вярталася па старому следу. Ён сціскаўся ўсё больш і больш, пакуль каза не параўнялася з ім.

У гэтую мінуту каза заўважыла ворага. Позна, надта позна! Каза рванулася ў бок, але страшэнны цяжар наваліўся на яе і прыціснуў да зямлі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Наеўшыся ўволю свежага мяса, Вялікі Чорнабуры ўзняўся і рыгануў. Распёрты жывот затрудняў рухі. Хацелася піць. Мядзведзь напіўся ў затоне, і, вярнуўшыся да казы, заваліў яе галлём і мохам.

За гэтай работай яго засцігла раніца. Скрозь вадзяністае святло пачалі выступаць сілуэты кустоў і дрэваў. На гары закукавала зязюля. Вялікі Чорнабуры падняўся па схілу ў густы арэшнік. Ён доўга таптаўся ў ім, покуль не выбраў адпаведнае месца для лёжкі. Тут ён улёгся, прыціснуўшыся спіной да імшыстага каменя, і палажыў галаву на пярэднія лапы.

Над гарой з шумам пранёсся статак лебедзёў.

Вялікі Чорнабуры прыадкрыў вочы, але зараз-жа закрыў іх і заснуў моцным сном.

## II

На другі дзень, пасля сустрэчы з Вялікім Чорнабурым, Чунды накіраваўся на пантоўку. Ён аглядзеў частку горнага раёна і знайшоў лазы, па якіх прабіраюцца да вады ізюбры.

Як заўсёды, ён трымаў у руцэ сошкі—старажытныя сошкі, з якімі

*) Сахаты—лось.

ніколі не разлучаўся. Стары высока цаніў іх і не прамяняў бы ні на якія другія; з іх ён страляў, на іх абапіраўся пры хадзьбе, імі даследваў норы і дуплы, імі збіваў спелыя арэхі, абмацваў пры пераправах дно рэчак, прываблівау дзікіх качак, адганяў сабак, часаў сабе спіну, забіваў гадзюк.

Лёгка ступаючы кароткімі крывымі нагамі, Чунды спусціўся ў лагчыну. У ёй хараша пахла чаромухай і свежай травой. Каля раўчука Чунды заўважыў мядзвежы след.

„Ага, Вялікі Чорнабуры“—падумаў ён,—разгледзеўшы вялікія сляды пят і пальцаў. „Што ён тут рабіў?“

Здратаваны падбел без слоў адказаў на гэтыя пытанні.

— Ах, ты, ласун!—усміхнуўшыся, прагаварыў стары.—Еж, еж, табе трэба добра паправіцца. Але чаму ты раптам палез на абрыў, ды яшчэ ў такім стромкім месцы? Вялікі Чорнабуры не баязлівец, ён не спалохаўся. Чаму-ж ён палез?

Чунды з цяжкасцю ўзабраўся на абрыў.

— Тут другі мядзведзь быў,—рашыў ён, тыкаючы сошкамі ў траву.— Так, другі невялікі мядзведзь. Ён выйшаў з кустоў і падышоў да абрыва. Так, так... „Вялікі Чорнабуры напэўна пачуў яго і хацеў задаць лупцоўку. Ну, так, зразумела... Меншы мядзведзь уцёк у кусты, а Вялікі Чорнабуры пагнаўся за ім. Ай, ай, такі вялікі і такі дурны! Тфу, дурань“!—раззлаваўшыся, услых сказаў Чунды.

Мядзвежы след вёў у спадарожным напрамку. Чунды пайшоў па ім, адхіляючы перад сабою галлё сошкамі. Па дарозе ён лёгка дазнаўся аб начных прыгодах Вялікага Чорнабурага.

— Які дрэнны, несумленны звер,—думаў ён, стоячы над разрытай бурундуковай норкай. „Цяпер-жа не галодны час. Лаві коз, вяпрукоў... А навошта-ж маленькіх крыўдзіць?“

Калі Чунды наткнуўся на труп тхара, ён доўга ківаў галавой і дакараў Вялікага Чорнабурага за непатрэбнае забойства. Хіба-ж тхор перашкаджаў яму паляваць? Або скрыўдзіў яго? У нябожчыка засталіся дзеці... Хто будзе аб іх клапаціцца? Праўда, тхор пахне дрэнна, але ніхто-ж не прымушаў Вялікага Чорнабурага нюхаць яго. Дарэмна забіваюць толькі хунхузы, а Вялікі-ж Чорнабуры—мядзведзь.

Стары так расхваляваўся, што нават плюнуў.

Недалёка ад затона яму пачуліся дзіўныя гукі. Чунды падкраўся кустамі і разгледзеў мядзведзіцу з двума медзвежатамі. Сям'я была занята ежай. Мядзведзіца адрывала зубамі кавалкі казінага мяса і медзвежаты прагна рвалі іх, з вурчаннем і віскам, як шчаняты.

Твар Чунды расцвіў усмешкай. У гэтую мінуту з узвышша збег і кінуўся на снедаўшую сям'ю Вялікі Чорнабуры. Ён быў страшны: яго поўсць тырчэла дыбам і з ляпы вырывалася грознае вурчанне. Каза належала яму. Смерць дзёрзкім драпежнікам!

Мядзведзіца паглядзела на раз'юшанага самца. Штосці раптам астудзіла яго запал. Настырчаная поўсць апусцілася. Ён перайшоў на павольны крок і, выцягнуўшы шыю, пачаў нюхаць непрошаных гасцей.

Мядзведзіца не спускала варожых воч з яго. Калі Вялікі Чорнабуры наблізіўся крокаў на пятнаццаць, яна ўсхапілася і кінулася на яго. Не гледзячы на маленькі рост, яна дзейнічала надзвычай хутка і рашуча. Вялікі Чорнабуры не паспеў апамятацца, як атрымаў моцны ўдар па мордзе. Ён адступіў на крок, але атрымаў яшчэ дзве аплявухі—у нос і ў вуха. Ён заматаў галавой, але ўдары сыпаліся адзін за другім. Вялікі Чорнабуры апусціўся на зад і пачаў няёмка адмахвацца лапамі.

Дарэмна! Мядзведзіца біла без промаху, з аднолькавым спрытам дзейнічаючы правай і левай лапай. Раз-два! Раз-два! Раз... Вялікі Чорнабуры не вытрымаў. Ён кінуўся наўцёкі. Мядзведзіца пагналася за ім і некалькі раз укусіла за зад і за нагу. Пасля гэтага яна вярнулася да медзвежат.

Адбегшы на значную адлегласць, Вялікі Чорнабуры сеў у траве і паглядзеў у бок мядзведзіцы. Яна не звяртала на яго ўвагі. Але настолькі жывымі былі непрыемныя ўражанні ад сутычкі, што Вялікі Чорнабуры зноў заматаў галавой і замахаў лапамі, быццам адбіваўся ў выабражэнні ад сярдзітай матроны.

Гэтая сцэна вельмі распацешыла Чунды. Ён тросся ад смеху і нават выпусціў з рук сошкі.

— Ну і храбрая жанчына!—шаптаў ён.—Так, так! Бі яго! Малайчына! Рві яму штаны! Так, так! О-хо-хо! Будзеш ты другі раз перашкаджаць дзецям есці? Ах ты, дурная галава...

## III

Пасмяяўшыся досыта, Чунды спусціўся ў даліну ракі. Сярод лазы блішчэла азерцо, заросшае чаротам і асакой. Пры набліжэнні Чунды, з чароту, спалохана крэкчучы, узляцелі дзве пары качак.

Чунды абышоў азерцо і знайшоў сцежку, пратаптаную ізюбрам. Стары уважліва аглядзеў яе. Сцежка была свежая. Тут ізюбр піў ваду і ласаваўся мяккай аленевай травой, якая расла ў вадзе каля берага.

„Гэта асцярожны пантач“—падумаў Чунды: „Ён выбраў зручнае месца для жыравання“.

Падумаўшы, стары рашыў падсцерагчы пантача ў лесе, па дарозе да вады. У кустах чарнеў гнілаваты пень. Чунды абламаў з аднаго боку галлё, і сошкамі згроб ламачча, каб яно не трашчала пад нагамі. Кусты не перашкаджалі, але сядзець было нязручна. Чунды дастаў з кайстры мяшок і, згарнуўшы ў чатыры столкі, паслаў на пень.

„Ладна“,—падумаў ён і зняў з пляча бярданку. Ноч прадбачылася цёмная: таму Чунды надзеў на канец бярданкі белую мушку, майстэрскі выразаную з бярозавай кары.

Неўзаметку насунуўся змрок. Чунды вельмі хацелася закурыць але ён стрымаўся.

Спераду ўзвышаўся ствол ліпы. Чунды падняў галаву і на верхавіне ўбачыў вавёрку. Яна сядзела каля дупла і прыводзіла ў парадак свой туалет. Стары зацмокаў языком. Вавёрка спыніла работу і ўставілася ў яго круглымі, як пацеркі, вачыма. Чунды зацмокаў яшчэ мацней. Вавёрка ўзрушана забегала па суку. Потым яна схавалася за ствол і выглянула з-за яго ўжо метры на два ніжэй. Чунды зноў забалбатаў языком. Вавёрка парыўчата апусцілася яшчэ ніжэй. Дзівосны прадмет працягваў рухацца з нейкімі гукамі. Нічога падобнага вавёрка яшчэ не бачыла! Яна пабегла на канец галінкі і, зачапіўшыся кіпцюрамі, павісла над галавой Чунды. Яе вусатая мордачка з вытарашчанымі вочкамі выражала такое здзіўленне, што старык не вытрымаў і засмяяўся. Вавёрка завішчэла і рынулася на верхавіну дрэва.

„Дурненькая звярушка“,—хістаючыся ад смеха, падумаў Чунды. „Ну, што-ж цікавага ў языку? У цябе дзеці ў дупле, а ты бяжыш на прынаду!“

У лесе начныя цені згушчаліся хутчэй, чым на ўскраіне. Хутка Чунды перастаў адрозніваць кусты, якія раслі каля сцежкі. Пачаў пырскаць

цёплы веснавы дожджык. Час-ад-часу ў асацэ кракталі і плёхаліся качкі, ды недзе на гарах пераклікаліся начныя птушкі: лі-у, лі-у! Ван-ган-го! Чунды падумаў аб братах, якія адправіліся шукаць „Панцуя" і загінулі ў тайзе. Кажуць, што іх душы клічуць адна адну! Ха-ха! Ён, Чунды, калісці таксама шукаў Панцуя... Дурны! Хіба-ж можна знайсці чараўніка, які абарачаецца ў камень, звера, птушку? Магчыма, што вось тое дрэва,— Панцуй. Хто ведае!?

Пляменнікі гавораць, што Панцуя ніколі не было. Напэўна, яны правы. Ну, а калі-б ён існаваў? Што запатрабаваў-бы Чунды, калі-б заўладаў чараўніком? Багацця? Не, яму не трэба багацця, большэвікі зрабілі правільна, прагнаўшы кулакоў. Золата прыносіць няшчасце—і сабе, і другім. Няхай Панцуй верне яму маладосць. Праўда, ён яшчэ дужы; ён можа падняць на плечы выпатрашанага казла; але ён стамляўся ад доўгай хадзьбы. У яго часта ломіць у суставах і баліць сярэдзіна. „Чаго ты хочаш?"—гаворыць пляменнік. „Табе-ж, дзядзечка, не дваццаць год. „Вось тое-ж, што не дваццаць! А як проста быць дваццацігадовым: даволі толькі заўладаць Панцуем...

Чунды думаў аб гэтым, але яго вуха не мінаў ні адзін лясны гук. Каля азерца затрашчаў чарот. Галава Чунды мімаволі павярнулася ў той бок.

„Вяпрукі",—рашыў ён, прыслухаўшыся. „Вялікі вяпрук ідзе спераду, а за ім два меншых". Ён крыху паслухаў і вярнуўся да мысляў, якія яго цікавілі. Як усё мяняецца! Цяпер ён,—стары чалавек,—марыць аб маладосці, а да рэвалюцыі марыў аб грашах... Так, аб грашах, але не пра багацце. У яго ніколі не было грошай, хоць ён прамышляў больш, чым цяпер, а жыў куды горш. Ён быў у неаплатных даўгах крамнікам. Даўгі нараставі, як снежны груд: ён не меў уяўлення аб іх сапраўдных памерах. Хіба-ж Чунды мог разабрацца ў складаных процантах, якія налічваліся на кошт рэчаў, узятых у крэдыт? Ён за грошы аддаваў каштоўныя скуры, панты і жэнь-шэнь, хоць ведаў, што яго ашукваюць. Гэты тлусты Лі-Хун-дзян не ведаў літасці, а Дуньбас на Сітэ, а Ван-Дзінь-вей на Імане—усе яны былі аднолькавы. Ды што казаць пра кітайскіх ліхвяроў! Чым былі лепш рускія „капітаны"? Яны проста бралі тое, што ім падабалася. Скардзіцца? Каму? Тым-жа „капітанам"?

У лесе трашчала ламачча. „Каза... не, ізюбрыха... тфу! Безумоўна, каза!—уголас прагаварыў Чунды, злуючы на сябе за памылку.

Аб чым ён думаў? Так, аб ранейшым жыцці... Другія старыя ўздыхаюць па даўнейшым. Дурныя людзі! Хіба-ж ім жылося лепш, чым цяпер? Не, ён не дасць за мінулае і парванай вавёрчынай скуркі. Цяпер няма ні крамнікаў, ні „капітанаў". У яго няма ні капейкі доўга. Ён зарабляе столькі, што можа дапамагаць сваякам і нават пабалаваць сябе... Што таіць грэх! Зрэдку, у вясёлай кампаніі... Ён можа дачакацца лепшага паляўнічага часу і пасядзець дома, калі ад перамены надвор'я ломіць косці. На яго кніжцы...

У лагчыне пачулася вазня і прарэзлівы крык.

„Напэўна, ліс схапіў зайчанё",—падумаў стары.

Безумоўна, ён будзе хадзіць на паляванне, пакуль можа. Ён не ведае іншай справы і не хоча быць у цяжар нікому. Але ў яго ёсць пра запас цёплы кут—сям'я сястры Гулім. Калі яна была ў бядоце, ох, у якой бядоце—ён не раз дзяліўся з ёй апошнімі крошкамі. А цяпер—смешна падумаць! Старэйшы сын сястры—доктар; другі сын—інжынер, будуе чыгуначны мост цераз Бікін; дачка канчае школу і будзе настаўніцай. Астатнія таксама вучацца. Дзевер атрымлівае пенсію, як інвалід—удзельнік грама-

дзянскай вайны. Чунды жартуе, што Ленін аказаўся для гольдаў Панцуем: ён даў ім тое, аб чым да рэволюцыі яны не маглі і марыць.

Аднекуль, з-за ракі, данеслася працяглае—у-ау! У-ау!

— Пракляты тыгр!—нахмурыўшыся прамармытаў Чунды. Ён паспешна дастаў з-за вуха скручаны ліст табаку і палажыў на зямлю, у ахвяру богу Амбансо. Зразумела, багоў няма, але... у ночы з тыграм жарты дрэнныя. Ах подлы звер! Ён крычыць знарок, каб перашкодзіць яму забіць пантача. Чунды не хоча кепска адзывацца пра багоў (навошта толькі іх выдумалі машэннікі-шаманы?!) але бог Амбансо—злы, хітры бог: ён вечна патрабуе ахвяр і зусім разбэсціў тыграў.

Стары доўга злаваў і ў думках лаяў дрэннага бога.

Па верхавінах дрэў прашумеў вецярок. З лістоў пасыпаліся буйныя кроплі. Чунды настаражыўся: скрозь шум ветра ён улавіў гукі, якіх цярпліва чакаў. Са схілу спускаўся ізюбр. Чунды не бачыў яго, але, паварачваючы галаву, сачыў за яго рухамі. Вось чырыкнуў аб камень капыт; вось ізюбр закрануў куст; вось яго нага слізганула па мокрым лісці... Хрумснула галінка адзін, другі раз, цмокнула на балотцы вада. Чунды злавіў вокам белую мушку. Бадай, што так... крышачку лявей...

Загрымеў стрэл. Чунды ўсхапіўся з пня і перамяніў патрон. У кустах білася вялікае цела. Чунды вобмацкам падышоў да кустоў і з намогай запаліў адсырэлую запалку. Вецер патушыў яе. Ён запаліў другую запалку і разгледзеў мёртвага ізюбра з галіністымі пантамі.

Стары распаліў агонь. Цяпер ён мог разглядзець здабычу. Ого! Ён недарма прасядзеў пад дажджом да поўначы. На кожным розе па сем адросткаў!

Трэба было падзякаваць богу Сілі: павесіць на дрэва горла ізюбра. Але Чунды абмежаваўся тым, што толькі аб гэтым успомніў.

Да раніцы можна было адпачыць. Чунды адрэзаў тлусты ізюбравы хвост, акуратна разрэзаў яго ўздоўж на дзве палавіны і, пасаліўшы, наткнуў на палачкі. Потым крыху падсмажыў хвост над вугаллямі і стаў есці, адрэзваючы нажом маленькія кавалачкі. Хвост быў надзвычай смачны: ён так і раставаў у роце. Закусіўшы, стары напхаў люльку і доўга курыў, пазіраючы на перабягаўшыя па вугольчыках іскры.

## IV

Пасля прыкрай сутычкі з мядзведзіцай Вялікі Чорнабуры доўга блукаў па лесе. Яму было не па сабе. Калі сцямнела, ён вярнуўся да казы, хоць і не адчуваў голада. Ад казы засталіся адны аб'едзеныя косці. Вялікі Чорнабуры абнюхаў сляды мядзведзіцы і медзвяжат і, патаптаўшыся вакол, накіраваўся на рэчку. Ён праходзіў па пясчанай касе, калі Чунды выстраліў у пантача. Вялікі Чорнабуры паспешна перабраўся цераз рэчку і ўскраем леса прайшоў к балоту.

Ноч была цёмная, цёплая. Пырскаў дождж. Над балотам бялеў туман. Адтуль даносіўся прыглушаны адлеглацю канцэрт лягушак. У асацэ аднастайна гула птушка—бугай; яму на дальнім астраўку абзываўся другі.

Вялікі Чорнабуры з'еў на беразе церпкай чэрамшы. Потым ён пашоў цераз балота да ролкі. Пад яго цяжарам дрыгва апускалася і выціскала ваду, якая бурна закіпала пухірчыкамі паветра. За мядзведзем заставаўся шырокі след ад прымятых раслін. Ролка густа парасла лесам. На кожным дрэве чарнелі дзесяткі цапліных гнёздаў; каля іх, выдзяляючыся на шэраватым небе, нерухома тырчэлі непрыгожыя сілуэты цапляў. Паветра

было спёртае і атручанае задушлівым пахам аміяка. На зямлі валяліся птушаняты, выкінутыя з гнёздаў бацькамі або выпаўшыя па сваёй неасцярожнасці. Многія з іх былі жывыя і бездапаможна варушыліся ў траве.

Вялікі Чорнабуры з'еў з дзесятак буйных тлустых цаплянят і заняўся на лужку раскопкай мурашніка.

Надышла раніца. Туман заклубіўся і, калышучыся, узняўся ў неба. Цапліны горад прачнуўся. Узняўся аглушальны піск і гам. Адна за другою цаплі падняліся з дрэў і паляцелі за ежай сабе і птушанятам.

На краю ролкі Вялікі Чорнабуры сустрэўся з мядзведзем, такім-жа рослым, як і ён сам, але не бурым, а рыжаватым. Гэтага мядзведзя ён бачыў упершыню. Незнаёмец быў стары: яго левае вока выцякла і глыбокі шрам цягнуўся ад вочнай яміны да вуха.

Прычын для сваркі не было. Разгледзеўшы адзін аднаго, мядзведзі з вурчэннем разышліся. Вялікі Чорнабуры перабраўся цераз балота і залёг адпачываць у падлеску. Аднавокі таксама пакінуў ролку (хоць ён толькі што сюды ўзняўся) і накіраваўся ў лясістую даліну.

Сярод дня Вялікага Чорнабурага абудзіў страшэнны шум. Ён у момант усхапіўся на ногі. Ашалелая ад жаху ізюбрыха прарвалася праз куст у двух кроках ад яго лёжкі і паваліласа на калені. На яе спіне, учапіўшыся кіпцюрамі ў скуру, вісеў вялікі звер з чорнымі пісягамі на залаціста-жоўтай поўсці. Сваім цяжарам ён валіў ізюбрыху на бок.

Кожны валасок на Вялікім Чорнабурым узняўся дыбам. Гэтага нельга было сцерпець! Адважыцца патрывожыць яго на лёжцы! Ды яшчэ тыгру!

Ён рынуўся на ворага і ўдарам лапы сарваў яго з ізюбрыхі. Тыгр папаўся знячэўку: ён зусім не заўважыў мядзведзя. Гібкі, як кошка, ён ускочыў на ногі і зрабіў спробу ўцячы: сярод густых кустоў, без магчымасці манеўраваць, тыгр не меў шансаў на перамогу. Ён мятнуўся да кустоў, але Вялікі Чорнабуры паваліў яго і падмяў пад сябе. На месцы тыгра кожны звер быў бы асуджан на гібель. Але тыгр не ўступаў мядзведзю ў сіле і далёка перавышаў яго ў спрытнасці. Ён павярнуўся на спіну і стаў адбівацца кіпцюрамі і зубамі. Равучы і качаючыся ў траве, ворагі рвалі адзін аднаго да таго часу пакуль тыгру не ўдалося вырвацца. Ён быў пашарпаны і акрываўлены. Атласная поўсць на галаве і баках вісела клоччамі. Ён кінуўся ў прасвет кустоў і вялікімі скачкамі паімчаўся па схілу гары. Вялікі Чорнабуры галопам пагнаўся за ім, але хутка спыніў пагоню. Ён быў страшэнна ўзбуджаны і раз'юшаны. Нават праз гадзіну, калі ён далёка адышоў ад месца бою, кожны раз, як толькі ён аглядваўся, яго поўсць на хрыбце ўзнімалася і ён грозна вурчаў.

Інстынкт прымусіў мядзведзя знайсці глухое месца, дзе ён мог адляжацца і залізаць раны. Ён правёў тут чацвёра сутак. Глыбокай ноччу Вялікі Чорнабуры не надоўга пакідаў свой прытулак і спускаўся да раўчака піць ваду. Ён нічога не еў, апроч лекавых траў, якія знаходзіў ля раўчука.

На пяты дзень Вялікі Чорнабуры адчуў голад. Ён з апетытам наеўся карэнняў аіру ды сакавітых лясных слімакоў.

## V

Чунды чуў шум бітвы і нават бачыў тыгра, які ўцякаў у кедроўнік. „Атрымаў гасцінца?—зларадасна падумаў стары.

На наступны дзень ён наведаў поле бою. Па вытаптанай траве, клоччах поўсці і паламаных кустах Чунды аднавіў ход падзей.

„Вялікі Чорнабуры зрабіў правільна"—рашыў ён.—„Па-першае, тыгр парушыў яго супакой,—не можна-ж сапраўды валіцца на галаву таму, хто спіць! Па-другое, тыгр не мог не ведаць, што ў гэтых месцах палюе Вялікі Чорнабуры. Ён хацеў украсці чужую жывёліну ды яшчэ на вачах у гаспадара. Нарэшце, Вялікі Чорнабуры заступіўся за ізюбрыху, якая увесну клапоціцца пра дзіцянё. Тыгр кругом вінават: ён па заслугах атрымаў лупцоўку!"

Стары толькі што скончыў адказную справу—варку пантаў—і адчуваў душэўнае задаваленне. Так, ён яшчэ можа пацягацца з маладымі паляўнічымі. Няхай іх позірк вастрэйшы і слух танчэйшы... Ён, Чунды, уладае скарбам, якога не набыць за кароткі тэрмін:—непараўнаным вопытам, здабытым на працягу дзесяткаў год. Калі багі будуць міласцівымі... тфу, калі ён будзе здароў, ён здабудзе яшчэ не мала добрых пантаў.

---

Прайшло тры тыдні. Чунды забіў яшчэ чатырох пантачоў, з іх двух старых і пачаў думаць аб звароце дахаты. Курачы каля агня люльку, стары у думках падлічваў барышы.

---

Быў ціхі цёплы вечар. На лужках пахла ландышамі і язмінам. У падлеску пышна распускаўся бэз і вогненна-чырвоныя букеты півоні на схілах гор гарэлі ад касых праменняў сонца. У небе заліваліся нябачныя жаўранкі і кружыліся арланы-белахвосты.

Чунды ў апошні раз пайшоў на паляванне. У лесе ён пачуў як роў мядзведзь. Але які дзіўны, нязвычайны голас! Мядзведзь не біўся ні з кім. Ен нават не быў раздражнены, ён пакутваў і роў ад болю. „Што з ім?"—дзівіўся старык. Падкраўшыся, ён убачыў Вялікага Чорнабурага. Мядзведзь узабраўся на ліпу і спустошваў пчаліна̂е дупло. Пчолы хмарай абляпілі яго. Яны жалілі яго ў нос, у вочы, у губы. Узляталі і зноў кідаліся на ворага, грозна шумелі крыльцамі. Вялікі Чорнабуры матаў галавой і жаласна роў, але ўпарта запіхаў у ляпу янтарныя соты. Ён вымазаў мёдам морду, лапы, нават жывот, і бліщчэў, як лакіраваны. Не гледзячы на пякучы боль, ён з'еў мёд да апошняй кроплі. Потым ён паспешна спусціўся з дрэва і пачаў куляцца і качацца ў траве. Раззлаваныя пчолы не адставалі. Вялікі Чорнабуры ўсхапіўся і рынуўся ў кусты.

Гледзячы на яго Чунды смяяўся да слёз.

— Ох, ласун!—шаптаў ён.—Так табе і трэба! Дарослае дзіця... Ідзі.. памыйся і прыкладзі да морды халодны кампрэс!

Ён яшчэ доўга пасмейваўся, уяўляючы, як куляўся Вялікі Чорнабуры.

Каля рэчкі Чунды знайшоў нядрэнны лаз і засеў у тальніку. Сонца спускалася за лес. Рака зыбілася і ззяла на плыткіх перакатах. На мялізне з'явілася ізюбрыха. Яна пастаяла ў вадзе і зайшла за куст. Каза асцярожна спусцілася з берага і спынілася на ветрыку. Здалёк яна нагадвала рыжаваты корч. Над вадой, на галінцы, нерухомы сядзеў зімародак.

„Ты-б папаляваў у затоне,—параіў Чунды.

Зімародак раптам камянем упаў у ваду і ўзняўся з рыбкай.

„Малайчына"—пахваліў яго Чунды.—„Ты ведаеш сваю справу, еж на здароўе".

На беразе заварушылася трава і з яе высунулася доўгая белая морда з чорнымі палосамі з бакоў. Галава павольна павярнулася ў адзін, у другі бок. Маленькія вочкі падазрона аглядзелі раку. На пясчаную

касу вышаў барсук. Ён, валочачыся падышоў да вады і, напіўшыся, вярнуўся ў траву.

„Сур'ёзны, гаспадарлівы звер“,—ухвальна падумаў Чунды. „Ён жыве асабняком і не блытаецца ў чужыя справы“.

Пачуўся моцны ўсплеск. Вялікі срабрысты ліне́к некалькі раз падскочыў з вады. Над вадой мільганула нейчая цёмна-карычневая спіна.

Чунды пакруціў галавой.

„Гора для рыб“,—падумаў ён. „Выдра—як тыгр: яна забівае больш, чым можа з'есці. Несумленнае стварэнне!“

Надыходзіў змрок. Чунды зірнуў на процілеглы бераг і не паверыў вачам: сярод лазы выразна выдзялялася шыя і галава пантача. Напэўна яго даняў гнус, калі ён завідна пакінуў лёжку. Чунды нацэліўся ў шыю і выстраліў.

„Няўжо прамахнуўся?“—падумаў ён, пачуўшы тупат уцякаўшай жывёліны. Ён вышаў з тальніка і, абмацваючы сошкамі камяністае дно, пераправіўся цераз рэчку. „Не, ён не прамахнуўся“. Пантач ляжаў на тым-жа месцы, дзе яго ўбачыў Чунды.

„Уцякла ізюбрыха“,—рашыў стары.

---

Удача затрымала зварот дамоў. Затое Чунды мог дабавіць да сваіх паляўнічых трафеяў шостую пару дасканалых пантаў.

Адной шэрай раніцай Чунды нагрузіў на сябе багаж і накіраваўся па сцежцы на захад. Не гледзячы на цяжкую ношу, ён шоў звычайнай лёгкай паходкай.

Каля восыпа ён убачыў Вялікага Чорнабурага. Мядзведзь штосьці здабываў з-пад каменя.

— Да пабачэння, прыяцель!— закрычаў стары, размахваючы сошкамі.—Да восені.

Вялікі Чорнабуры варожа паглядзеў на чалавека. Потым з вурчэннем павольна пайшоў у лес.

## 2. Восенскія дні

I

У сярэдзіне верасня, перад захадам сонца, спелая кедравая шышка адарвалася ад галіны і з вялікай вышыні ўпала на груд буралому. Як кулі ад знарада, ва ўсе бакі пырснулі і зашуршэлі па лісці маленькія бліскучыя арэшкі. Шышка скацілася на зямлю і спынілася каля палына, страсянуўшы пры штуршку соннага жука.

Падзенне шышкі спудзіла шнырыўшага паміж кустоў бурундука *). Ён піскнуў і схаваўся пад ламачча. Але хутка ён высунуў з-пад яго вусатую мордачку і, убачыўшы шышку, якая яшчэ качалася з боку на бок, пабег збіраць арэшкі. Праз мінуту ён да адказу набіў аб'ёмістыя зашчочныя мяшкі і цераз лужок і мохавае балотца кінуўся ў норку.

Насустрач бурундуку з норкі выглянула бурундучыха. Абодва звяркі пабеглі адзін за адным, па цёмнаму халаднаватаму ходу. Глыбока пад зямлёй было гняздо з двума аддзяленнямі: у адным хавалася правізія другое, высланае мохам, служыла спальняй і дзіцячай. Бурундук склаў у кучу арэшкі і абнюхаў запасы. Грыбы пахлі нядобра. Выбраўшы сапса-

*) Бурундук—паласатая сібірская вавёрка.

ваныя, бурундук напхаў імі зашчочныя мяшкі. Тое самае зрабіла і бурундучыха. Звяркі выбяглі з нары і акуратна расклалі грыбы на пні. Пасля гэтага бурундучыха пабегла на промысел, а бурундук сеў каля ўвахода ў норку.

Сонца заходзіла за лес. Яго касыя праменні асляпляюча ззялі і іскрыліся паміж дрэў. У лесе бойка стукалі кедроўкі і дзятлы, а ў бледнай сіні неба, адзін за другім, з крыкам праносіліся на поўдзень статкі гусей.

У яру пачуўся трэск. Бурундук таропка шмыгануў у норку. З кустоў на адкрытае месца вышаў Вялікі Чорнабуры. Ён вельмі ад'еўся за лета. Надзвычай дасканалае футра калыхалася хвалямі, адліваючы на сонцы золатам. У павольных рухах мядзведзя адчувалася сіла здаровага, добра адкормленага цела. Ён звярнуў на ўвал, і скрозь зараснік багульніка вышаў на галубічнае балота.

Перапуджаны зайчык скочыў у кусты. Вялікі Чорнабуры не звярнуў на яго ўвагі: кожны год, за месяц-паўтара да надыходу зімы, ён траціў да мяса апетыт і жывіўся адной расліннай ежай.

На балоце мядзведзі пратапталі цэлы лабірынт сцежак. Вялікі Чорнабуры знайшоў непамяты зараснік і, апусціўшыся на зад, згроб лапамі бліжэйшы кусцік. Салодкія, шэравата-сінія ягады, закранутыя ранішнім марозам, прыемна раставалі ў роце. Вялікі Чорнабуры старанна прапускаў праз зубы кожную галінку. Час ад часу ён пераставаў есці і з дапамогай языка ачышчаў ляпу ад лісцяў і сцяблоў. Скончыўшы з адным кустам, ён узяўся ўжо за другі, але зараз-жа выплюнуў ягаду: разам з галубіцай ён раздушыў смярдзючага зялёнага клапа.

Непрыметна сцямнела. Начаваўшая на дрэве жаўна доўга чула скрозь сон чаўканне і шолах галубічных кустоў.

З узгорку пачуўся роў самца-ізюбра. Ён пачаўся з нізкай амаль басовай ноты, але зараз-жа пераскочыў на дзве актавы вышэй і, усё больш узмацняючыся, дасягнуў страшэннага напружання. Ён звінеў у вушах і прымушаў пакутліва вібраваць кожны нерв. Рэха падхапіла яго з розных бакоў і доўга, быццам гуляючы, перакідала ў далінах гор. Калі, нарэшце, у далячыні замер апошні гук, начная цішыня стала яшчэ глыбейшай. Але вось на гары зароў другі ізюбр, недзе за рэчкай—трэці. Лясы ажылі. Ізюбравыя галасы скрыжоўваліся і пераплятаrange, заціхалі і зноў грымелі па схілах гор. Часамі некалькі ізюбраў раўлі адначасова: іх галасы зліваліся ў дзікі канцэрт, ад якога прачыналіся птушкі. У-у-у-а-а-у,—у-у-у-у-а-а-а... Не паспявала змоўкнуць шумнае рэха, як зноў пачынаў раўці ізюбр, яго голас падхоплівалі нябачныя партнёры.

З-за лесу выплыў месяц. Ён заліў мяккім святлом горы і даліны. На лясных палянках мільгалі цені. То тут, то там трашчалі кусты і стукалі рогі: гэта біліся на смерць, перамагалі і ратаваліся, уцякаючы асьлепленыя страсцю самцы-ізюбры.

Калі на ўсходзе пачало шарэць, роў спыніўся. Дымка туману зацягнула галубічнае балота, але Вялікага Чорнабурага на ім ужо не было.

## II

Узышло сонца. Быццам разцом азначыліся сінія далі, горы, заросшыя шчаціннем лесу, звілістыя даліны і западзіны.

Па беразе камяністай рачулкі ішоў Чунды. Стары не змяніўся: тая-ж нізенькая каржакаватая фігура з крывымі нагамі, тая-ж сівеючая бародка і малюсенькія вочкі, схаваныя за выступамі скул... На ім красаваліся

абноўкі: суконная шапка і пояс з патроннай сумкай—падарунак дзевера.

Рачулка шумна каціласся з гор. Па крутых берагах гусцеў зараснік тальніка, а далей—у падлеску—залацілася лісцё бяроз і чырванела на сонцы рабіна.

На пясчанай касе відаць былі сляды ізюбравых ног.

„Вялікі бык і дзве маткі“,—рашыў Чунды. Ён падняўся па следу на ўвал. Тут ізюбры разыйшліся: самкі звярнулі ў падлесак, а самец застаўся на лужку.

„Чаго ён сердаваў?“—думаў стары, рассоўваючы сошкамі траву. „Айай, ён нават ламаў рагамі кусты. Ага! Напэўна ён пачуў другога быка. Ну, так, так! Другі бык хацеў адбіць матак, а гэты злаваў і крычаў: „не падыходзь, намну бакі!“

Кроках у дваццаці віднеліся выразныя сляды пабоішча. Каля куста унды падняў адламаны канец рога.

„Другі бык быў у лесе“,—рашыў ён.—Ён прыбег і напаў на гэтага быка. Дурны, дурны! Ты яшчэ малады, ну і гуляй з маладымі, а гэты бык—стары вопытны баец, ён не дазволіць адбіць матак. Вось ты і атрымаў чухранку. І добра!

У лесе Чунды падышоў да разбітай пяруном ліпы, пад якой напярэдадні паставіў лучок. Цеціва аказалася спушчанай. Чунды рассунуў каля камля траву і ўбачыў нару, майстэрскі схаваную паміж карэннямі. З яе тырчэў канец стралы. Стары стаў на калені і схіліўся над нарою. Канец стралы заварушыўся. Чунды ўсунуў у норку руку і з перасцярогай выцягнуў жывога собаля. Звярок злосна шыпеў і біўся ў руцэ. Чунды паклаў яго на зямлю і, не выпускаючы яго з рукі, прыціснуў каленам грудзі.

Собаль быў буйны, але сярэдняй вартасці. Чунды тут-жа зняў скурку, вывярнуў яе і прывязаў да пояса. Пасля гэтага ён зноў навёў і паставіў лучок.

„Яшчэ адзін прыбяжыць“,—упэўнена падумаў ён.

Згодна гольдскага паляўнічага звычаю, належала пахаваць труп собаля ў дупле. Чунды агледзеўся, але, не знайшоўшы дупла шпурнуў труп у раўчак. Калі багоў няма, то няма і бога Аджэха—апякуна сабалёў. Значыць, не будзе каму гневацца...

Чунды спусціўся ў сырую лагчыну. Сярод янтарна-залацістай, амаль у рост чалавека, папараці, чырванелі кусты смародзіны і маліны. Чунды на хаду сарваў некалькі ягад і, пераскакваючы з купіны на купіну, абыйшоў зарослую травой яміну. Раптам ён спыніўся: блізка пачуўся падазроны шолах. У момант Чунды зняў з пляча бярданку. У папараці нехта хаваўся—у гэтым не было сумнення. Рысіныя вочы старога таропка прабеглі па схіленых галінах. Ну, зразумела! Вось там, ля куста... ах, паскуднае, хітрае стварэнне! Яно хоча напасці неспадзеўкі, калі Чунды пройдзе міма...

— Выходзь, паласатая скура!—гнеўна закрычаў стары.—Ты думаеш, я не ведаю тваіх хітрыкаў? Нападай з-за спіны на коз і свіней... дрэнь!.. Балотная гадзіна! зараз-жа выбірайся, пакуль я не прадзіравіў тваёй круглай галавы.

Ён падняў сухую галіну і, размахнуўшыся, шпурнуў яе ў папараць.

З мора зелені выскачыла тыгрыца. Яна з вурчаннем кінулася на Чунды, але ўжо ў наступны міг адскочыла да кустоў і шалёна заскакала ўзад і ўперад, як цэпам малоцячы па галлі хвастом. У ёй змагаліся ненавісць і страх, крыважэрнае жаданне разарваць ворага і прыроджа-

ная асцярожнасць кошкі. Яна то кідалася на Чунды, растапырыўшы кіпцюрастыя пальцы, то адскаквала далёка ў бок, быццам натыкалася на небачную перашкоду. Яе страшныя вочы бліскалі маланкай, а на хрыбце шчаціннем пастала поўсць. Наперад... Назад... У бок... Зноў наперад... Скочыла цераз раўчак... Прысела як кошка—да самай зямлі... Зноў вялізны скачок да ворага, шалёнае гырчанне... І зноў паварот назад, і дождж лісця з кустоў ад размашыстых удараў хваста...

Расставіўшы ногі, Чунды не спускаў вачэй з ашалелага звера. У яго нахмураным твары можна было прачытаць злосць. Ён мог у любую мінуту забіць тыгрыцу. Не было нічога прасцей. Але Чунды не хацеў апаганіць сябе крывёй амбы—„нечыстага" стварэння, параджэння д'ябла. Як усе старыя паляўнічыя, ён адчуваў непераможную агідлівасць да тыграў і не забіваў іх без вялікай патрэбы. У былы час ён нават не здымаў з іх скур, хоць мог зарабіць вялікія грошы.

— Адыйдзі адсюль,—сказаў ён тыгрыцы.—Не перашкаджай мне паляваць у гэтых лясах. Для цябе і тваіх дзяцей хопіць дзічыны. Хто даў табе права пагражаць мне? Адыйдзі—я не хачу тваёй смерці, чуеш?

Ярасць штурхала тыгрыцу наперад. Яна пераскочыла цераз буралом і кінулася на Чунды збоку. Стары выстраліў. Тыгрыца перакулілася цераз галаву, усхапілася, але зараз-жа пасля другога стрэлу—сударгава павалілася ў высокай траве.

Чунды моўчкі глядзеў на агонію звера. Калі цела перастала варушыцца, ён падышоў да тыгрыцы.

— Ты сама вінавата,—сурова сказаў ён.—Ляжы-ж, падла, і хай вораны выклююць твае круглыя вочы.

Ён плюнуў на тыгрыцу і пачаў здымаць з яе скуру.

У поўдзень Чунды сеў адпачыць каля яра. Проста пад карэннямі чаромхі, насупроць, ён убачыў бурундукову нору. Каля ўвахода, прыціснуўшыся адзін да аднаго, сядзелі бурундук і бурундучыха. Звяркі грэліся пад восенскімі праменнямі сонца.

Твар Чунды асвятліўся ўсмешкай.

„Слаўныя звяркі",—падумаў ён.—„Яны нікога не крыўдзяць. Усё лета бегаюць па лесе і збіраюць харчы, а зімой гадуюць дзяцей".

Аднекуль зверху зляцела сінічка. Бурундукі ў момант схаваліся, а сініца напалоханая не менш, чым яны, паляцела ў лес.

Чунды задрыжаў ад смеху.

— Ай, да смельчакі!—сказаў ён нарэшце, выціраючы кулаком вільготныя вочы.

## III

Аднойчы Чунды падняўся на лясісты ўвал страляць ізюбраў. Стары прысланіўся спіною да дрэва і пазіраў на лясы, цудоўна расквечаныя восенскімі фарбамі. Якое празрыстае было паветра! Чунды адрозніваў на процілеглым схіле кожнае дрэва. Унізе, як змяя, выкручвалася рэчка; на яе берагах плямамі чырванела дзікая яблыня.

Сонца дакранулася седлавіны гары. Вячэрнія цені папаўзлі па далінах і палях, усё далей і далей, усё вышэй і вышэй, пакуль не закрылі верхавін гор. Вогненнае воблака над гарой зрабілася ліловым, потым шызым і бясследу злілося з небам. Над галавой адна за другой замігцелі зоры. Чунды знайшоў вачыма Палярную Зорку—гэтую верную памочніцу паляўнічых. Старыя кажуць, што яе стварыў бог Аямі, пасля таго, як заблудзіўся ў тайзе.

У траве пачуўся шолах, маленькае рыльца прынялося непакойліва сапці.

„Гэта я, вожык, — сказаў Чунды, — ідзі сваёй дарогай. Табе пара падумаць пра цёплую нару“.

На гары зароў ізюбр. Чунды ўстаў і затрубіў у рог, зроблены з кораня ліственіцы. Магутныя гукі пераляцелі цераз даліну, і, крыху пачакаўшы, вярнуліся назад, прыглушаныя адлегласцю. Чунды быў майстра падзываць ізюбраў; ён мог ашукаць самага асцярожнага быка. Ізюбр адказаў і Чунды зноў затрубіў. Як толькі змоўкла рэха, надышла доўгая цішыня: ізюбр не прымаў выкліку і вопытны Чунды чакаў патрэбны час. Потым ён павярнуўся тварам да гары і затрубіў з такой сілай, што рэха доўга перакачвалася ў лагчынах. Ізюбр зараз-жа адказаў. Гукі шуганулі з гары на гару. Каля ракі і на ролках зараўлі другія ізюбры. Чунды прыслухоўваўся і накіроўваў трубу то ў адзін, то ў другі бок.

Не больш чым за сто крокаў, зароў вялікі ізюбр. Чунды адказаў для зману, апусціўшы канец трубы. Пачуўся трэск кустоў. Чунды кінуў трубу і схапіў бярданку. Ізюбр імчаўся напрамкі. Бліжэй, бліжэй... На палянцы прамільгнуў цень. Аглушальны, але, на жаль апошні — роў устрасянуў паветра.

Калі адгрымеў стрэл, на краю палянкі зашуршэла лісце. З увала спешна спусціўся барс. Ён дарэмна страціў час, падкрадваючыся да ўяўнага ізюбра. Але хіба-ж барс ведаў, што чалавек можа раўці, як ізюбр?

---

Над лесам узышоў месяц. Расплаўленым срэбрам заззялі быстрыя рачныя перакаты. Глыбейшымі зрабіліся цясніны і чорныя цені папаўзлі к гарам, якія зараслі маўклівымі лясамі.

З глухога яру вышаў Вялікі Чорнабуры. Яго пышная поўсць была ўскалмачана і выпацкана зямлёй, быццам мядзведзь толькі што выбраўся з цеснага падзямелля. Так, ён амаль двое сутак рыўся ў яру, робячы для сябе зімняе логава. Яму пашанцавала: ён выпадкова знайшоў мясцінку, самою прыродай прызначаную для берлогі, —размыты веснавой вадой куток яру, да якога нельга было падыйсці інакш, як праціснуўшыся пад гарой буралому. Вялікі Чорнабуры зараз-жа ўзяўся за работу. Ён рыў без стомы і перагрыз мноства карэнняў, якія пранізвалі глебу ва ўсіх напрамках.

На другую ноч бярлога была гатова. Вялікі Чорнабуры вышаў з яра, каб падмацаваць сілы.

Месяц ярка асвятляў горы. То заціхаючы, то ўзмацняючы голас з усіх бакоў раўлі ізюбры. Справа затрашчала голле. Міма Вялікага Чорнабурага, закінуўшы на спіну рогі, як шалёны, праімчаўся малады ізюбр. Вялікі Чорнабуры ціха завурчэў: яго раздражніў імпэтны бег аленя.

Каля крынічкі ён наткнуўся на старога вяпрука. Вяпрук рыўся ў балоце. Да яго рудага шчаціння, якое блішчэла ад кедравай смалы, прыліплі кавалкі кары і ігліца. Убачыўшы мядзведзя, вяпрук некалькі разоў перасцерагальна хрукнуў: рро, рро! Вялікі Чорнабуры спыніўся. Яму не хацелася адыходзіць ад крыніцы, вакол якой расло шмат салодкіх ажэвін; разам з тым, ён хацеў ухіліцца ад сутычкі са злым секачом. Вялікі Чорнабуры нерашуча патаптаўся на месцы; потым двума-трыма моцнымі рухамі ўзабраўся на абрыў і пайшоў да рэчкі—ласавацца яблыкамі.

## IV

Чунды не раз бачыў Вялікага Чорнабурага, але мядзведзь у час заўважаў чалавека і знікаў.

„Трэба падсцерагчы цябе, сябра“,—думаў Чунды:—добрыя мядзвежыя скуры цяпер у цане.

Ен прышоў на галубічнае балота і, аглядзеўшы яго, засеў на краю пад бярозай.

Калі звечарэла, па балоце прайшла каза. Яна насцярожана варушыла вушамі і яе прыгожыя вочы на момант спыніліся на Чунды. Але ў гэтым шэрым пні яна не пазнала чалавека і спакойна прайшла міма.

У кустах пачуўся знаёмы шум. Чунды ціха ўстаў. Скрозь багульнік прабіраўся вялікі мядзведзь. Ён вышаў на балота і па сцежцы накіраваўся ўглыб галубічнага зарасніка. Пры слабым святле зорак Чунды бачыў цёмную масу. Стары палажыў стрэльбу на сошкі і, старанна прыцэліўшыся, выстраліў. Мядзведзь забіўся ў сударгах у галубіцы, але зараз-жа заціх.

„Прыкідваецца?“—падумаў Чунды, і доўга пазіраў на чорную пляму. Мядзведзь не варушыўся. Чунды прайшоў на балота і пры святле запалкі разгледзеў здабычу. Замест вялікага Чорнабурага ў галубіцы ляжаў незнаёмы рыжы мядзведзь з заросшым шрамам на мордзе.

Чунды нездаволена пацмокаў языком.

„Хітры звер“,—падумаў ён пра Вялікага Чорнабурага. — „Ён тры гады не даецца мне ў рукі.“

Стары распаліў агонь і прыгатаваў сабе чай. Прыхлёбваючы смярдзючую вадкасць, ён падагуліў вынікі восенскага палявання: тры собалі, два тхары і тры вялікія скуры—мядзвежая, ізюбровая і тыгровая. Апроч таго, груд сушанага ізюбровага мяса і добрыя рогі. Што-ж, ён недарма правёў час. „Саюза—пушна“ („Союзпушнина“) дасць за скуры нядрэнныя грошы. Як добра, што няма крамніка Лі-Хун-дзяна! Пракляты кулак узяў-бы ўсё у пакрыццё старых даўгоў. Але Лі-Хун-дзяна няма: ён уцёк у Манчжурыю. Няхай гандлюе там на здароўе! Ха-ха! Як ён спалохаўся, калі ля паселішча з'явіліся чырвоныя! Стары воўк у момант падабраў хвост. Ён нават пахудзеў, гаротны. Аднойчы ўночы ён прышоў да Чунды і назваў месца, дзе закапаў свае грошы. Ой, хітры чалавек! Ён добра ведаў, што Чунды не пакваліцца на яго золата.—„Слухай, дружа“,—сказаў ён.—„Я іду на час у Манчжурыю, покуль рускія або японскія капітаны не выганяць чырвоных валацуг. Але ў выпадку, калі я затрымаюся, ты аддасі грошы таму, хто прынясе другую палову гэтай палкі“. Тут Лі-Хун-дзян падаў Чунды зломак сваёй палкі. „Канцы павінны сыйсціся шчыльна“,—сказаў ён і абяцаў Чунды за паслугу скінуць палавіну доўга.

У тую-ж ноч ён уцёк з сям'ёй цераз Усуры. Чунды схаваў палку і забыўся аб ёй. Было не да гэтага: у ваколіцах чырвоныя біліся з белымі. За вошта яны біліся, ніхто ў паселішчы не ведаў. Трэба было ісці на паляванне, але Чунды баяўся пакінуць без абароны сям'ю сястры. Цярпелі голад і з'елі аднаго за другім усіх сабак.

Стары цяжка ўздыхнуў і наліў яшчэ кубак чаю.

Надышоў дзень, калі есці не было чаго. Ён пайшоў на паляванне і забіў казу. Калі ён вяртаўся дахаты, за гарамі пачалася перастрэлка. Сотні дзве чырвоных паспешна спусціліся да рэчкі. Чунды ведаў, што гэта чырвоныя, бо ў іх на плячах не было залатых палосак. Яны ўцякалі і на плыткім мейсцы перабраліся цераз раку. Чунды хацеў сха-

ваццa, але яго заўважылі. Іх „капітан“ папрасіў у яго правесці атрад на Сіту. Як мог Чунды адмовіцца? Ён баяўся гэтых людзей, апранутых у лахманы, але узброеных вінтоўкамі і нейкімі круглымі штучкамі, якія целяпаліся каля пояса. Чунды павёў іх горнымі сцежкамі і без усякіх здарэнняў вывеў на Сіту.

На апошнім біваку „капітан“ пасадзіў Чунды побач з сабой і пачаў расказваць, чаму чырвоныя хочуць знішчыць белых. „Капітан“ гаварыў так ясна, што Чунды ўсё зразумеў. Чырвоныя ваявалі за тое, каб у бедных паляўнічых не было даўгоў і каб крамнікі адпускалі тавары па сходных цэнах. Белыя і іх цар абаранялі крамнікаў. Чырвоныя забілі цара і замест яго зрабілі самым галоўным „капітанам“ Леніна. Напэўна гэта быў добры паляўнічы, бо „капітан“ часта успамінаў пра „драпежнікаў і звяроў“.

Цяпер Чунды ведаў, за што ваююць чырвоныя. У сваю чаргу ён доўга расказваў „капітану“ аб цяжкім жыцці гольдаў. На развітанні „капітан“ падараваў яму мяшок сухароў і так моцна пацісну́ў руку, быццам яны былі даўно знаёмыя.

Каля паселішча Чунды акружылі казакі і пачалі пытацца, куды адышлі чырвоныя. Яны думалі, што ён спалохаецца і скажа. Зразумела, ён спалохаўся, калі іх капітан навёў на яго рэвольвер, але сказаў, што не бачыў ніякіх чырвоных. Яго збілі бізунамі і адабралі ў яго сухары.

Ох, цяжка было! Дзевер пайшоў да чырвоных і клопаты пра сям'ю ляглі на Чунды. Чаго толькі не прышлося перажыць. Але прайшоў час і стала лепш, чым пры цары. У паселішчы замест крамы Лі-Хун-дзяна з'явіўся кааператыў. Потым большэвікі адкрылі школу. Пляменнікі пачалі вучыцца і нават—свавольнікі!—задумалі навучыць грамаце яго, старыка. Чунды добрасумленна прайшоў буквар да слова „нара“, але пайшоў на паляванне і забыўся ўсе літары.

Гэты ўспамін так рассмяшыў Чунды, што ён расплюскаў чай і доўга трэсся ад смеху.

— Так і не навучыўся грамаце!—вымавіў ён.—А шкада: з кніжак можна дазнацца аб цікавых рэчах.

Неяк увосень прыехаў з горада таварыш (цяпер усе называлі адзін аднаго таварышамі), ён сказаў, што дзяржава адчувае патрэбу ў грашах, каб будаваць школы і нейкія „заводы“. Чунды ўспомніў пра грошы Лі-Хун-дзяна. Навошта ім ляжаць у зямлі? Праўда, Чунды абяцаў Лі-Хун-дзяну зберагчы іх. Але цяпер ён ведаў, што крамнік—вораг савецкай улады. Значыць Чунды быў вольным ад дадзенага ім абяцання. У дадатак ён аддаваў грошы дзяржаве, а не забіраў сабе. Чунды запрасіў пяць паважаных паляўнічых і разам з прыезджым таварышом спусціўся ў яр. Там яны адкапалі шкатулку, напоўненую залатымі і срэбнымі манетамі.

З таго дня прайшло шмат зім. Аднойчы да яго прышоў незнаёмы чалавек і моўчкі падаў кавалак палкі. Чунды выняў са скрыні другі кавалак і склаў іх. Канцы сышліся шчыльна. „Пойдзем“,—сказаў Чунды, і павёў незнаёмца ў яр. „Тут ляжалі грошы Лі-Хун-дзяна“—сказаў ён, паказваючы на звернуты з месца камень. „Перадай яму, што на гэтыя грошы пабудавана шмат школ і заводаў. Хай Лі-Хун-дзян парадуецца, што яго багацце пайшло на добрую справу...

У лесе запішчала начная птушка. Чунды зірнуў на неба і соладка пазяхнуў.

„Трэба адпачыць“,—падумаў ён і, паклаўшы пад галаву кайстру, лёг каля агню.

## V

У адну халодную ноч узнялася бура. Яна пазбівала з дрэў рознакаляровае убранне. Лясы стаялі пустыя і панурыя.

„Хутка пойдзе снег“,—падумаў Чунды, пазіраючы на нізкія хмары.

Стары зрабіў дальнюю выведку і наткнуўся на ачышчаны ад кары дубец. Ён ляжаў упоперак звярынай сцежкі.

„Асцярожна! Упоблізу пастаўлен лучок,—папярэдзіў ён.

Чунды абышоў кустамі і знайшоў лучок. Ён быў пастаўлен на буйнага звера, але страла з металічным наканечнікам паказалася Чунды надта лёгкай. Тонкая цёмная вяровачка цягнулася ад спуска цераз сцежку. Стары уважліва агледзеў лучок.

„Яго паставілі нядаўна“—думаў ён. „Хто гэты паляўнічы? Ён малады, неспрактыкаваны. Ай-ай! Хіба-ж можна так прымацоўваць вяроўку?“

Чунды паправіў дэфект і пайшоў углыб лесу. Неўзабаве ён убачыў берасцяны шалаш. Перад ім у дзеравянай плашцы тырчэла страла. Калі-б яе ўваткнулі коса, гэта значыла-б: „гаспадар пайшоў на некалькі дзён.“ Калі-б страла ляжала ўпоперак пня, кожны падарожнік ведаў-бы, што шалаш пакінут да наступнага паляўнічага сезона. Але страла тырчэла проста ўверх і ясна гаварыла аб тым, што гаспадар палюе недалёка і хутка вернецца.

Каля шалаша сохлі на жэрдцы скуры ізюбра, двух ваўкоў і лісы-беладушкі. Чунды бегла агледзеў іх і ўвайшоў у шалаш. У ім віселі дробныя скуркі, у тым ліку рэдкая па сваёй прыгожасці—серабрыстага собаля. Яна была такой дасканалай, што Чунды ў захапленні зацмокаў языком.

„Яна каштуе не менш тысячы рублёў“,—ацаніў ён і, падзівіўшыся са скуркі, беражліва павесіў яе на месца.

На мяшку ляжаў пучок табачных лісцяў. Чунды выняў адзін ліст і ўзамен палажыў кавалачак цвёрдага чаю.

Шалаш стаяў на беразе горнай рэчкі. Чунды сеў каля вады і закурыў.

На лісці вадзянай расліны сядзела маленькая бурая жаба і вытарашчанымі вачыма глядзела на павука, які папраўляў над ёй павуціну. У празрыстай вадзе затона не спяшаючы плавалі лінькі. Калі сонечныя праменні прарываліся скрозь хмары, луска рыбы ярка ўспыхвала серабрыстым бляскам.

„Хутка вам, сябры, прыдзецца ладзіцца на зіму“,—у думках звярнуўся да іх Чунды.—Вы, рыбы, спусціцеся ў Бікін і будзеце зімаваць пад ільдом у глыбокіх месцах. Ты, жаба, зарыешся ў гразь. А куды дзенешся ты, павук? О, ты таксама не загінеш: залезеш у норку, або ў гнілую калоду і заткнеш шчыліну павуцінай. Усім вам будзе някепска. Ха-ха! Раней думалі, што аб жывёлінах і людзях клапоцяцца багі: аб мядзведзях—Мапа, аб аленях—Сіллі, аб птушках—Маната, а аб людзях—Аямі. Казкі, вядома... Але хто-ж клапоціцца, калі багоў няма? Ніхто? Чаму-ж кожнае стварэнне мае ўсё, што яму патрэбна? Так, так, і людзі, і звяры, і птушкі... нават гэты павук, нават п‘яўка ў балоце! Скажам, чалавек: для яго ёсць розная дзічына, дрэва—для жылля і печы, рэкі, сонца, зямля... А ў зямлі—жалеза, золата... Усё для яго! Калі ён хоча паласавацца,—ёсць ягады, мёд, а вясной—салодкі бярозавы сок. Калі ён захварэе—у лесе знойдзе лекавыя травы. Нават ёсць прыгожыя кветкі, каб чалавек мог імі любавацца. А жывёліны? Хіба-ж яны горш забяспечаны? Для адных ёсць сакавітая зелень, для другіх—арэхі

або казяўкі, для трэціх—драпежных—больш слабыя жывёліны. Ніхто не пакрыўджан, для ўсіх нарыхтавана даволі. Але-ж хто-ж зрабіў так добра, калі няма багоў?

„У кніжках пішуць, што ўсё на свеце робіцца згодна законаў. Зразумела, згодна законаў. Як-жа інакш? Ад таго ўсё добра, ва ўсім парадак: арэхі паспяваюць якраз у той час, калі бурундукі і вавёркі робяць запасы харчоў; старыя таполі робяцца дуплістымі, каб у іх маглі зімаваць мядзведзі-белагруды; рыба падымаецца па рэках улетку, калі яе можна сушыць на сонцы і людзі яшчэ не заняты паляваннем на пушнога звера... Ніколі не бывае так, каб ізюбры нараджаліся зімой, а мядзведзі—летам. А чаму? Закон! Вось павук... або жаба... маленькае стварэнне, але і яно павінна жыць па законах. Клапаціцца аб дзецях—першы закон; не перашкаджаць другім паляваць—другі закон; не забіваць без патрэбы—трэці закон. А як-жа інакш? Без законаў не было-б парадку. Так, так! Але хто ж даў законы? Вось запытанне“...

Старык пачаў думаць аб гэтым, але чым далей ён думаў, тым мацней заблытваўся у супярэчнасцях.

Тук-тук-тук... тук-тук...—пачулася над галавой. Стракаты дзяцел дзёўбаў сасновую кару. Ён упёрся хвастом у ствол і з такой энергіяй працаваў дзюбай, што кавалкі кары падалі на зямлю. Чаму ты не здабываеш насення?—запытаў яго Чунды—зірні, галіны гнуцца ад шышак.

Дзяцел відаць і сам падумаў аб гэтым. Ён узляцеў за кусты і падняў спелую шышку.

— Цяпер зашчамі яе ў кары,—падказаў Чунды.

Дзятла не трэба было вучыць. Ён умацаваў шышку ў расколіне і, пакруціўшы галавой, стаў выдзёўбаць насенне. У гэтую мінуту з суседняга дрэва прыбегла вавёрка. Яна была страшэнна раззлавана. Дзяцел крадзе ў яе насенне! Вон, вон, зараз-жа вон! Вавёрка з ваяўнічым выглядам скокнула на ствол і прагнала дзятла.

Стары абурыўся да глыбіні душы.

— Прагная скупендзя!—сказаў ён, ківаючы галавой.—Мала табе насення? Напэўна ты ўжо даверху натаптала дупло... І хіба-ж шышкі належаць адной табе? Дзяцел—старанная птушка, але ён не можа рабіць запасаў. Тфу, сумлення ў цябе няма!

Ён доўга і дакорліва паглядваў на вавёрку, а яна, як ні ў чым не бывала, скакала па галінках.

У лесе трывожна застракатала сарока.

„Яна ўбачыла чалавека“,—падумаў Чунды. „Ох, гэтая ўжо трашчотка! Яна крычыць знарок, каб папярэдзіць звяроў“...

Аднак чалавек не з'яўляўся. Напэўна яго штосьці затрымала ў лесе. Чунды вырваў з пня стралу і прысланіў яе вострым канцом да шалаша. Калі гаспадар разбіраецца ў лясной грамаце, ён зразумее, што быў госць і што госць прыдзе ў другі раз.

## VI

Ідучы назад, Чунды нечакана сустрэўся з Вялікім Чорнабурым. Мядзведзь брыў у бярэзніку, нізка апусціўшы галаву. Убачыўшы перад сабою чалавека, ён ашчацініўся. Чунды у момант рассунуў сошкі і палажыў на іх бярданку. У лоб ці ў вока?.. За пятнаццаць крокаў цяжка прамахнуцца... Ен спешна прыцэліўся ў лоб і націснуў спуск. У гэтую секунду ножка сошак саслізнула з каменя. Міма!.. Вялікі Чорнабуры раўнуў і кінуўся на Чунды. Стары справіўся стрэліць другі раз з рукі

і хацеў зноў тузануць затвор, але не паспеў. Вялізная мядзвежая галава з ашчэранай ляпай апынулася на ўзроўні яго грудзей. Ён зрабіў спробу адскочыць, але кулем пакаціўся па каменнях. Страшэнны ўдар у галаву... Пякучы боль у плечы і цяжар на спіне, ад якога нельга было дыхнуць. Моцна зазвінела ў вушах... Халодная хваля пракацілася ад твару да грудзей і пакрыла скуру потам...

„Ай-ай, здаецца, канец“,—прамільгнула ў галаве Чунды. Але нейкае шостае пачуцце, выпрацаванае поўвекавым вопытам, сказала старому, што самае страшнае ўжо мінулася, што мядзведзь сарваў гнеў і не будзе крамсаць непарушнае цела ворага.

Пачуццё не ашукала Чунды. Вялікі Чорнабуры падняўся і шумна выдыхнуў паветра. Потым, крыху пастаяўшы, павольна пайшоў у кусты.

Чунды сеў і агледзеўся. У яго кружылася галава. Ён правёў па ёй рукой і намацаў на цемені вялізны гуз, які ўсхапіўся ад удару аб камень. Левая рука была ў крыві і ў плячы балела. Чунды з цяжкасцю ўзняўся на ногі. Трэба было перавязаць рану. Ён падняў бярданку і сошкі і спусціўся да раўчака. Там ён раздзеўся па пояс. Дзве доўгія крывавыя паласы цягнуліся ад пляча да локця. Такія-ж раны, але даўно зажыўшыя—памяткі звярыных кіпцюроў і зубоў,—бялеліся на грудзях і баках Чунды, а на грудзях, з правага боку тырчэла некалі зломаная сахатым рабрына.

Чунды абмыў раны і, як мог, перавязаў іх анучай.

„Глупства, драпіны“,—спакойна падумаў ён, нацягваючы на сябе куртку.

Аднак ён два дні праляжаў на біваку. Яго трасла ліхаманка і да моташнасці балела галава.

---

Вялікі Чорнабуры забраўся ў арэшнік, каб залізаць раны. Адну з іх—на сцягне—ён ледзь заўважыў; затое другая—ніжэй калена—непакоіла яго некалькі дзён. Ён пераваліў цераз горны хрыбет і прабраўся ў даліну да суседняй ракі. Там ён знайшоў непачаты запас галубіцы, салодкай віткой актынідыі і вінаграду.

Надвор‘е зусім сапсавалася. Халодны паўночна-ўсходні вецер гнаў хмары адну за другой. Далечынь усё часцей зацягвалася заслонай дажджу. Тайга пачарнела і быццам вымерла.

У адну дажджлівую раніцу вецер павярнуў з поўначы, рэкі каля закраіны берагоў пакрылісяільдом і па лісці зашуршэлі сняжынкі.

Вялікі Чорнабуры зараз-жа падняўся з лёжкі і, падначальваючыся інстынкту, накіраваўся ў бярлогу. Залегчы да снегу—значыла не пакінуць здрадніцкіх слядоў. Для перасцярогі ён абышоў усю гару, але не сустрэў слядоў чалавека. Бярлога была ў парадку. Вялікі Чорнабуры нагроб кучу лісця і моху, і заткнуў з сярэдзіны ўваход. Заставалася легчы, як найвыгадней і..., дрэмлячы пяць доўгіх месяцаў, прыслухоўвацца да шуму ветра. Вялікі Чорнабуры выцягнуўся ва ўсю даўжыню. Неўзабаве ў бярлозе стала цёпла. Мядзведзя пацягнула да сна; ён перамяніў позу і заплюшчыў вочы.

У той-жа дзень над бярлогай прайшоў Чунды. Ён быў цяжка нагружан, але бадзёра ступаў па пушыстаму снегу.

„Вялікі Чорнабуры напэўна ўжо залёг“—падумаў старык.—„Ой, хітры звер. Ён зноў выслізнуў... Ды яшчэ ледзь не паламаў мяне“.

Снег валіў усё мацней. Ён з ціхім шолахам падаў на зямлю і белай пеленкай пакрываў горы і даліны. Калі праз пяць дзён узняўся буран, над мядзвежай берлогай выраслі гурбы, якія амаль зраўнялі берагі яру.

---

**Я. Чайкоўскі**

# ЧАЛАВЕК-ТАКТЫК

Цяпер Распівін ясна разумеў, што ён нагаварыў шмат лішняга. Яно-то гэта усе ведаюць, але нашто, каб іменна ён першы званіў аб ім, у той час, калі многа лепей стаяць у баку, назіраючы за ходам падзей і, у залежнасці ад вынікаў барацьбы, вызначаць сваю пазіцыю. Так не толькі лепей, спакайней, але і выгадней многа.

Хто-ж яго ведае, як павернуцца падзеі ў гэтай сумятні жыццёвых прыгод. Цяжка, вельмі цяжка сказаць, на чыім баку акажацца праўда і каго прызнаюць вінаватым. Гэта-ж залежыць не толькі ад аргументаў ваюючых бакоў, але, і ў вельмі значнай ступені, ад ваяўнічых здольнасцей асобных людзей, ад іх увароткасці, умення сабраць і адпаведным чынам згрупаваць факты, дзе трэба сказаць з запалам трыбуна, а дзе „чыстасардэчна“, прызнаць свае памылкі, бо „не памыляецца-ж толькі той, хто не працуе“.

Тактыка, тактыка вырашае справу.

Ого, Мікалай Сяргеевіч гэта добра разумее, яго не трэба вучыць законам жыцця. Ён гэтыя законы вывучыў сам і вывучыў не дрэнна, нават многім іншым згадзіўся-б у настаўнікі. Але вось ліха яго ведае, часамі, проста як дзіця, уваткнеш свой нос у чужую справу, а потым і сам не рад. Усё слабасці чалавечыя.

І Мікалай Іванавіч Распівін асцярожна, трымаючыся за плот, намацвае нагамі слізкую сцежку. Кругом жудасная цемень асенняй начы, у якой то там, то тут блішчаць асветленыя вокны мястэчковых хат. Плот падгніўшы, часта паасобныя калы адрываюцца і тады Мікалай Сяргеевіч, не ўтрымаўшыся на абслізганай многімі сотнямі ног сцежцы, саступае проста ў гразь, якая вохкаючы прагна чапляецца за боты. Але вось пад канец знаёмы ганак і за варотцамі ярка свеціцца акно, завешанае кружаўнымі фіранкамі і да палавіны, для абароны ад цікавых вачэй, якіх заўсёды знойдзецца дастаткова, застаўленае газетай.

Вандраванне скончана.

Лоро—так звалі жонку Мікалая Сяргеевіча, маладую поўную і даволі прыгожую кабету,—сядзела з нагамі на дыване і аблакаціўшыся на стол, не спяшаючыся піла з сподачка кофе, горача ўстаўляючы ў яго апавяданне свае заўвагі. Яе поўны круглы твар увесь пачырванеў, чорныя некалі пранырлівыя вочы глыбока схаваліся ў мякаці твару і блішчэлі адтуль двума спелымі чарніцамі. У гэтым твары было нешта круглае, падобнае на месяц, што не парушалася нават тады, калі яна, адставіўшы сподачак, пачынала злосна папракаць мужа.

— Ты ў мяне цаца, усюды ўлезеш,—горача сыпала яна.—Што табе даўся гэты Жолуд? Бачыш ты, знайшоўся законнік. Абойдзецца і без цябе.

— Ну чаго ты, чаго ты?—перабіваў Мікалай Сяргеевіч.—Так здарылася. Я цяпер і сам разумею, але...

І ён, не зважаючы на штуршкі, прабуе, як заўсёды, дацягнуцца рукой да пушыстых валасоў Лоры.

... У мястэчка прыехаў новы чалавек і Мікалай Сяргеевіч зайшоў да яго, каб пазнаёміцца і пагутарыць. Пасля звычайных у такіх выпадках пытанняў (адкуль прыехалі? дзе працавалі? ці даўно працуеце тут?), у выніку якіх высвятлілася, што Распівін раней працаваў гідратэхнікам, але гэтая справа яму надакучыла і ён перайшоў на больш спакойную працу бухгальтара і што Алёшын прыехаў з другога раёна, дзе ён працаваў старшынёй сельсовета. Гутарка зацягнулася і перайшла на местэчковыя тэмы.

— У нас глуш,—ахвотна расказваў Мікалай Сяргеевіч, павольна выпускаючы шэры дымок і разглядаючы сухі адкрыты твар субяседніка.—Прызнацца, наша Карчэва толькі завуць мястэчкам, а так гэта вёска ды і ўсё.

— Не разумею, чаму вы лічыце, што ў вас глуш,—перапытаў Алёшын, якому пачынала ўжо надакучваць нудная гутарка і ён збіраўся куды-небудзь выйсці, каб пазбавіцца ад яе.—Я вось усяго адзін дзень пажыў тут, а бачыў шмат такога, што зусім не гаворыць аб адсталасці: новая школа, баня, дом соцкультуры ды ці мала чаго. Вам-жа гэта самому добра вядома.

— Дзіва, што вядома,—паспешна ўставіў Распівін,—усё гэта мы самі строілі і ганарымся гэтым. Але,—дабавіў ён крыху цішэй і неяк патаемна,—мы ведаем і яшчэ некаторыя справы.

— Давайце, паслухаем.

— Ды яно-ж гэтак, будзеце жыць, то пачуеце,—ухіліўся Распівін.

— А ўсё-ж?

Распівін вагаўся. Але нейкая ўпартая сіла штурхала яго ўперад, так і падбіваючы да гутаркі і ён яшчэ нехаця ўставіў:

— Ну, ды што там казаць. Вось узяць хоць бы старшыню нашага Жолуда Сцяпана, ён такія тут справы робіць, што...

— Да вы расказвайце, расказвайце,—штурхаў Алёшын.

І ён пачаў. А калі пачаў апавяданне, то перарваць цяжка. Доўга апавядаў Мікалай Сяргеевіч пра справы Жолуда. І чым далей апавядаў, тым сам болей упэўніваўся, што Жолуд Сцяпан чалавек шкодны, выпадковы і што яго неабходна найхутчэй выкрыць. Тут справы і з каровай, і з веласіпедам, і з сенакосам. Многа, вельмі многа спраў. Аднак няма каму узяцца—з Жолудам ваяваць кепска.

Алёшын сядзеў, абапершыся на стол, прагна зацягваўся едкім махорачным дымам, і толькі час ад часу ўстаўляў свае заўвагі, уносячы неабходную яснасць.

— Вось яно як,—працягнуў ён задуменна, калі апавяданне было скончана.—А чаму вы нікуды не напішаце пра такія злоўжыванні?—звярнуўся ён раптам.

Пытанне было такім нечаканым, што Распівін зразу нават збянтэжыўся.

— Пісалі людзі, як-жа пісалі,—схамянуўся ён, цярэбячы галстук.—Тады таксама справы былі і не меншыя, аднак не вышла. Выкручвацца ён умее вось што. А раз не вышла, значыць трымайся. Жолуд чалавек такі, што ён праз тры гады напомніць пра слова сказанае; ды так

напомніць, што доўга муляцца будзе, а адкуль што ўзялося і не зглядзіш, будзьце упэўнены. Многім пісаўшым выехаць прышлося.

Алёшын моўчкі разглядаў акруглены ўсмешкай твар Распівіна, а потым, пацягнуўшыся, рашуча прамовіў:

— Што-ж праверым і калі гэта акажацца так, то баяцца мы не будзем. Вы-ж, вядома, гэта заўсёды падмацуеце? Ну, бывайце,—дабавіў ён падаючы руку заспяшаўшаму Распівіну.

---

... Ларыса Рыгораўна яшчэ доўга выказвала сваё абурэнне і гэта было невыносна. Распівін сам добра разумеў сваю памылку і моцна непакоіўся аб яе выпраўленні, а тут яшчэ жончыны дакоры, якіх сам святы не выцярпіць.

— Супакойся ты, Лора,—вінавата гаварыў ён,—сам ведаю, што зрабіў кепска. Не,—дадаў ён падумаўшы,—больш я нічога казаць не буду. Так і заяўлю: нічога, моў не ведаю, разбірайцеся самі і кропка.

Аднак супакоіцца было нельга і праз мінуту ён зноў павярнуўся да жонкі, якая гусіным пяром калупала ў зубах.

— А ведаеш, Лора, справа не так ужо і дрэнна. Алёшын хлопец настойлівы і Жолуда могуць зняць. А? Як ты думаеш? Справы-ж вельмі сур'ёзныя і іх схаваць цяжка. А тады старшынёй зробяць Алёшына, бо больш-жа нікога няма. Вось і будзе справа.

Гэта думка нават узрадвала Мікалая Сяргеевіча і крыху супакоіла жонку, якая, праўда, сумнявалася, але ўсё-ж голас яе памякчэў і яна, зірнуўшы на гадзіннік, пачала папраўляць пасцель.

— Але трэба быць паслядоўным,—думаў, разуваючыся Мікалай Сяргеевіч.—Не вечна-ж Жолуд будзе так удала выкручвацца, некалі і яго прыцісну͡ць. Праўда, урос ён у гэтым сельсовеце моцна, нават вельмі моцна. Але і не такія пні карчуюць.

Пад мяккай коўдрай было цёпла і ўтульна, аднак назойлівыя думкі адганялі салодкую дрымоту.

„Не, Жолуда не знімуць, ні за што не знімуць"—канчаткова пераканаўся Мікалай Сяргеевіч. „Вось так і будзе, як было. Пагаворацъ, можа вымову дадуць, а на рабоце пакінуць, бо дзе-ж людзей вопытных набярэш. Ну, а раз пакінуць то, тады трымайся. Алёшын, што, ён чалавек пералётны. А табе непрыемнасцяй не абярэшся".

Думкі Мікалая Сяргеевіча закруціліся калясом. Ад супакоенасці, што была з'явілася разам з думкай аб тым, што Жолуда знімуць, нічога не засталося. Зноў усю яго істоту ахапіў непакой. Хацелася пракінуцца з кім-небудзь словам, падзяліцца думкамі і ён звярнуўся да жонкі, гарачае цела якой адчуваў побач.

— А ўсё-ж, Лора, не знімуць Жолуда. Выкруціцца ён і на гэты раз, будзьце ўпэўнены,—прагаварыў Распівін з трывогай у голасе.

—Што? Чаго табе?—прачынаючыся, азвалася тая.—Не знімуць? Ну канешна не знімуць, я-ж табе гэта ўвесь час гаварыла. Заўсёды ты куды-небудзь улезеш. Ці даўно была справа Воўкава? Ці даўно ты сам з Жолудам піў і я ад жыцця адбілася, пакуль адвучыла.

Цяпер—пашла. Мікалай Сяргеевіч ужо ведаў, што жонка зарадзіла надоўга і яе цяпер так лёгка не спыніш, нават і не прабуй, бо яшчэ горш будзе. Цяпер яна пералічыць усе яго былыя і якіх ніколі не было грахі і грашкі. Напомніць і пра выпіўкі частыя з першым сустрэчным, і пра тое, што кожны месяц дваццаць рублёў на аліменты адлічваюць, і пра долю сваю дрэнную, прымусіўшую яе выйсці за гэтага чалавека, у той час, калі яна магла выйсці многа лепей і жыць

спакайней. Цяпер усё разам выслухаеш і пярэчыць не прабуй. А яно добра разабраўшыся, дык ён і не вінават ні ў чым. Хіба-ж можна вінаваціць чалавека, які з нуды вып'е часам з таварышамі. Нельга-ж жыць канторскімі справамі, або захапляцца грамадскай работай. Гэта ўсё толькі, як неабходнасць, ад якой адмовіцца нельга. Або вось хоць бы справа з аліментамі. Грашкі маладосці, ад якіх ніхто не застрахаваны. Патрэбна-ж было намокшаму на рабоце гідратэхніку заехаць куды-небудзь абагрэцца, выпіць, паабедаць сытна. Ну, адзначыць адным словам. А тут яшчэ дарэмна ўсё гэта. Праўда, дзяўчына была ўпэўнена, што ён яе возьме і плакала потым, а ўсіх-жа абяцанняў не выканаеш. Ці варта ўспамінаць?

Нарэшце Ларыса Рыгораўна крыху супакоілася, відаць зразумеўшы бескарыснасць сваёй прамовы, а можа проста стаміўшыся.

Супакоіўся і Мікалай Сяргеевіч. Цяпер ён моўчкі глядзеў у столь і абмяркоўваў план далейшых мерапрыемстваў. „Трэба выкручвацца але як?..“ Нарэшце з'явілася зусім простая думка, якая зразу праясніла ўсю справу. Распівіну стала лёгка і ён весела аклікнуў жонку:

— А ведаеш, Лора, я прыдумаў вельмі простае рашэнне. Заўтра зайду вечарам да Жолуда і за шклянкай чаю папярэджу яго аб падрыхтоўцы падкопа.

Назаўтра Мікалай Сяргеевіч асцярожна пастукаў у знаёмыя дзверы.

— Што-ж паглядзім?—прагаварыў Жолуд, выслухаўшы апавяданне.— Алёшын не першы... Пакруціцца ды зноў на тым-жа месцы сядзе.

— Ды гэта будзьце ўпэўнены,—заспяшаў Распівін, расплываючыся ўсмешкай.

Жолудзіха накрывала стол.

* * *

Распівін больш да Алёшына не заходзіў. На што гэта? Усё роўна з яго справы нічога путнага не выйдзе,—а Жолуд можа яшчэ падумаць што-небудзь. Добра склаліся справы: выйграе Жолуд.

— Распівін вітае, даб'ецца Алёшын свайго—і гэта не кепска, бо хто-ж яму першы расказаў, калі не Мікалай Сяргеевіч. Тактыка!

І Мікалай Сяргеевіч спакойна гартае свае рахункі, ставіць на іх нумары, сартуе. Нават выпіваць перастаў, чым асабліва задаволена жонка.

Але вось аднойчы яго стрэў Алёшын. Мікалай Сяргеевіч яшчэ здалёк заўважыў шэрую шапку, з-пад якой упарта выбіваліся чорныя кучаравыя валасы, і хацеў завярнуць убок, але было ўжо позна, яго заўважылі.

— Добры дзень,—прагучэў цвёрды голас Алёшына, і ён, як стары знаёмы, моцна паціснуў руку Распівіну.

— А, нядрэнны,—адказаў Мікалай Сяргеевіч, аглядаючыся навокал і мяркуючы куды-б адыйсці: тут на віду ў людзей няёмка гутарыць з Алёшыным. Нашто гэта, каб яшчэ людзі падумалі. А там вунь і жонка Жолудава пайшла. Яна то праўда і не пазірае сюды, але бачыць добра, будзьце ўпэўнены. І Мікалай Сяргеевіч спяшае—не чакаюць справы, бачыце.

— Ды куды вы ўцякаеце?—перапыніў Алёшын.—Я вас даўно хацеў бачыць, але ўсё знайсці не мог. Ведаеце, я праверыў і аказваецца, што тут чорт ведае што робіцца. Гэта, што казалі вы, усё праўда, але ёсць справы і яшчэ горшыя. Я проста дзіўлюся, як гэта Жолуд вісіць так доўга ў вас. Здаецца, ужо даўно восень прышла і маразы пача-

— Я-ж вам казаў, я-ж казаў,—не пераставаў азірацца Распівін: жонка Жолуда спынілася з нейкай кабетай ля студні і завяла, відаць, бясконцую гутарку. Мікалай Сяргеевіч ніякавата пераступаў з нагі на нагу і нервова ламаў у кішэні каробку з-пад запалак.

Між тым Алёшын зусім не разумеў паводзін гэтага кароткага, рухавага чалавека, увагу якога так захапіла далёкая постаць. Ён гаварыў крыху паніжаным голасам, але ўпэўнена і горача:

— Сёння я быў у раёне і гаварыў там з некаторымі работнікамі. Усе аж не вераць нават, што тут такое робіцца. Некаторыя проста мяркуюць, што тут паклёп і больш нічога. Але гэта не ўсе так. Вось рэдактар, той мяркуе гэту справу падняць. Ведаеце, я напісаў вялізны артыкул на цэлую старонку і дні праз тры гэта будзе надрукавана. Галоўнае—масы падняць, разгарнуць самакрытыку, якую тут Жолуду задушыць удалося, а тады справа пойдзе. Вось гэты артыкул і зробіць належны пачатак. Ну, бывайце! Вы толькі аб артыкуле, вядома, не кажыце нікому. Яно то гэта не сакрэт, але ўсё-ж ляпей застаць Жолуда не падрыхтаваным. Вы дарэмна думаеце, што людзі змоўчаць. Хай толькі з'явіцца газета, а ўжо тады ўсё іначай стане.

Хістанні Распівіна павольна зніклі.

Пад канец ён ужо з захапленнем глядзеў у твар Алёшыну, моцна паціскаючы яму на развітанне руку. Увесь ён быў захоплен надыходзячымі справамі і зусім не цікавіўся тым, што робіцца там ля калодзежа.

— А наконт сакрэтнасці,—ужо на ўздагон сыпаў Мікалай Сяргеевіч,—дык вы будзьце ўпэўнены.

Ён яшчэ доўга пазіраў услед адыходзячаму чалавеку ў чорным паліто і пашоў толькі тады, калі постаць Алёшына схавалася за вуглом хаты.

Канчаўся дзень і на захадзе чырванелі краі цяжкіх валавяных хмар, якія глыбамі былі раскіданы па небе. З ракі дзьме свежы вецер, сурова па асенняму абяваючы твар і пралазячы пад полы паліто. Ісці болей не было куды і Распівін завярнуў дадому.

— Дзіўны чалавек гэты Алёшын,—разважаў ён дарогай.—Вось глядзі, ён на сваім паставіць, будзьце ўпэўнены. Ды як-жа іначай можа быць? Вельмі ўжо разышоўся гэты лысы і цяпер яго крыху супакояць. Вось я раскажу Алёшыну пра кабана яшчэ, ды пра сад, што некалі папу належыў. А добра гэта ён прыдумаў цэлы артыкул у газету напісаць.

Мікалай Сяргеевіч так разышоўся, што і не заўважыў, як пачаў размахваць рукамі і схамянуўся толькі тады, калі заўважыў здзіўленне на твары стрэчнага хлопчыка.

Лора корпалася з прымусам, відаць збіраючыся рыхтаваць каву на вячэру. Сіняватым полымем гарэў спірт. Яе поўны стан быў туга перавязаны паскамі замурзанага фартуха, што надавала яе постаці нешта асінае.

— Ну, ведаеш, як справы паварачваюцца?—яшчэ з парога загаварыў Мікалай Сяргеевіч.

— А што? Якія справы?

— А вось такія, што гэтага Жолуда ўсё-ж з работы знімуць, будзьце ўпэўнены.

— Ты што-ж ізноў пачаў малоць абышто?—настарожана запыталася жонка.

— Ды не мялю, а гэтак і будзе,—упэўнена адрэзаў Распівін і расказаў па парадку сваю гутарку з Алёшыным.

— Цяпер, будзьце ўпэўнены, яму выкруціцца не ўдасца,—закончыў ён сваё апавяданне.

Аднак на здзіўленне Мікалая Сяргеевіча яго словы зусім не выклікалі захаплення ў Лоры. Яна моўчкі выслухала і, сеўшы на стул, з дакорам пазірала на мужа.

— І чаму ты так скора робіш вывады. Фактычна-ж новага табе Алёшын нічога не сказаў, а ты ўжо і загарэўся ўвесь. Вось убачыш, што Жолуд даведаецца аб газеце, а ў гэтым я ўпэўнена, бо ад яго нічога не схаваеш, і тым болей такую важную для яго справу, пагаворыць з рэдактарам і ніякага артыкула не будзе. Нельга-ж зразу падрываць аўтарытэт чалавека, не праверыўшы фактаў. А пры праверцы Жолуд, вось убачыш, выкруціцца. Гэта ўжо як піць даць.

Распівін некаторы час маўчаў.

— І то праўда,—ужо нерашуча ўставіў ён,—магчыма, што яно і будзе так.

Довады жонкі пачыналі яго пераконваць і ад былой упэўненасці нічога не засталося.

— Ды хутчэй за ўсё, што будзе так. Сапраўды, давай глядзець аб'ектыўна: нельга зразу паверыць новаму чалавеку, які лёгка можа памыліцца і падарваць аўтарытэт карыснага працаўніка. Другая справа, што ён не карысны, а шкодны, але-ж гэта трэба даказаць, а гэта не так проста.

Цяпер Мікалай Сяргеевіч бачыў, што захады Алёшына ні да чаго. Усё гэта як мыльная бурбалка.

Назаўтра Распівін зноў стукаў у дзверы Сцяпана Кандратавіча.

* * *

І ўсё-ж такі гэта здарылася. Дарэмна Жолуд ездзіў у раён гаварыць з рэдактарам газеты, дагаварыцца яму не ўдалося. Назад ён вярнуўся злосны і, не заходзячы ў сельсовет, проста накіраваўся да дому: артыкул у раённай газеце быў надрукован і ў адказ на яго пытанне яму працягнулі пахнучую фарбай газету. Справа набывала сур'ёзны абарот і жартаваць не было калі. Вось чаму такі абураны, адкінуўшыся на спінку крэсла, сядзіць Жолуд. Тоненькім струменчыкам уецца дымок папяросы, а попел падае на чысты сіненькі гарнітур.

Мікалай Сяргеевіч убачыў газету ў праўленні калгаса, куды ён зайшоў па службовых справах. Газета чыталася нарасхват. У сельсовеце, у калгасе, на вуліцы усюды чыталі гэты нечаканы артыкул. Ды як не чытаць такую незвычайную рэч. Сцяпана Жолуда, якога тут усе так баяліся, якога прызвычаіліся лічыць вялізным аўтарытэтам, разносілі ўшчэнт. Ды не абыяк. Артыкул займаў цэлую старонку, а зверху вялізнымі чорнымі літарамі крычаў загаловак: „Шкурніку Жолуду не месца ў совецкай установе". „Шкурніку не месца ў совецкай установе", гэта, брат, не хаханькі. Над гэтым можна падумаць.

Артыкул выклікаў у мястэчку цэлую буру розных толкаў. Калгаснікі збіраліся кучкамі, каторы ўжо раз перачытвалі артыкул і голасна абгаварвалі, у большасці вітаючы выказаныя там думкі. Былі праўда, і такія, каторыя стаялі за Жолуда, але іх было значна меней.

Прадказванні Алёшына збываліся. Мікалай Сяргеевіч спачатку збянтэжыўся, а потым некалькі разоў перачытаўшы артыкул і ўпэўніўшыся, што гэта так сапраўды, шпарка закрочыў да Алёшына.

— Не, гэта чалавек надзвычайны,—разважаў ён дарогай.—Гэтакую

справу заварыў. Не, цяпер Жолуд не выкруціцца, будзьце ўпэўнены, цяпер няйначай старшынёй сельсовета выбяруць Алёшына. Другой-жа кандыдатуры і няма.

Хацелася спыніць першага сустрэчнага і расказаць яму, што гэта ён, Распівін Мікалай Сяргеевіч, а не хто-небудзь іншы навучыў Алёшына напісаць у газету. Не будзь яго, можа-б нічога і не здарылася і маўчалі-б мястачкоўцы так, як маўчалі дагэтуль, не мяшаючы гэтаму прыкраму чалавеку рабіць свае агідныя справы. Да і сам сабе Мікалай Сяргеевіч пачынаў здавацца нейкім больш значным чалавекам. Пачакай, хай прыедзе камісія, тады ён наробіць яшчэ не гэтакіх спраў. Ён выступіць смела і пры ўсіх раскажа яшчэ такое, чаго няма ў газеце.

Нажаль, Алёшына дома не аказалася. І Распівін накіраваўся дадому, каб падзяліцца навінамі з Лорай.

* * *

Справу Жолуда разбіралі на адчыненым партыйным сходзе. Яшчэ з раніцы ўсе местачкоўцы, прачытаўшы аб'яву, абгаварвалі магчымыя вынікі. Многія выказвалі думку, што Жолуду „усыплюць“, што цяпер яму не апраўдацца перад рубам пастаўленымі фактамі. Факты ўпартыя, і з імі змагацца цяжка. Аднак, не меншасць, а можа нават і большасць схіліліся да думкі адваротнай. Слухаючы іх, выходзіла, што Жолуд апраўдаецца і на гэты раз таму, бачыце, што ён добры адміністратар і мае вялікі стаж. Акрамя таго, гэты чалавек пабыў не ў адной пераплалцы і прызвычаіўся ўжо да іх, навучыўшыся лоўка жангліраваць фактамі. Па іх думцы выходзіла, што кожны факт можна было трактаваць па рознаму, а разбіраемы чалавек зубы з'еў на гэтай справе. Былі і такія, якія нічога не гаварылі, а моўчкі паціскалі плячыма, абяцаючы пажыць і паглядзець. Адно было бясспрэчна: і калгаснікі, і саматужнікі, і нават служачыя—усе былі задаволены ходам падзей. Урэшце-ж канчаецца бескантрольнае гаспадаранне абнаглеўшага Жолуда. З яго як бы спала вопратка ранейшай няпрыступнасці і ён прадстаў перад вачыма ўсіх, як самы звычайны злачынец. Праўда, амаль усё гэта было вядома многім, але то былі чуткі, а цяпер справа прымае афіцыйныя формы.

Мікалай Сяргеевіч моўчкі хадзіў па вуліцах, уважліва прыслухоўваўся да гутарак і ваяўнічы настрой яго паступова спадаў. Ён і сам не заўважыў, як пад уплывам няўпэўненасці гутарак, яго жаданне выступіць з новымі разаблачэннямі зусім выветрылася „усё можа быць“,— цвярдзіў ён сабе. Вось раптам акажацца, што Жолуд нарабіў памылак, але ён іх можа выправіць і яго трэба пакінуць на рабоце, даўшы адпаведныя спагнанні. Ну, а раз пакінуць на рабоце, значыць... справа ясная...

Пад уплывам падобных разважанняў настрой Мікалая Сяргеевіча зусім паў. Ён болей не гаварыў сваё „будзьце ўпэўнены“, а нейкі прыбіты соваўся па канцылярыі, дымячы махоркай.

Вечарам разам з суседзямі Мікалай Сяргеевіч накіраваўся на сход, мяркуючы ў ролі гледача прасядзець увесь вечар. Аднак, яшчэ не даходзячы да каапераціі, іх дагнаў Сцяпан Жолуд.

— Мікалай Сяргеевіч,—паклікаў ён голасам, у якім ужо не было ранейшай упэўненасці,—я з вамі хацеў крышку пагаварыць.

— Калі ласка, калі ласка, Сцяпан Кандратавіч.

Яны адышлі крыху ў бок і спыніліся ля плота. Жолуд прыніжана ўсміхаючыся, церабіў Мікалая Сяргеевіча за адварот паліто і ціха гаварыў:

— Такая справа, Мікалай Сяргеевіч, сёння мяне разбіраць будуць. Дык вось я хацеў з вамі пагаварыць, каб вы пару слоў закінулі там, адным словам вы ведаеце як. Вы-ж чалавек аўтарытэтны і вашы словы значаць многа. Вы вось скажыце аб сенажацях, аб веласіпедзе і іншым. Увогуле спачатку-ж буду гаварыць я і вы пасля гэтага падмацуеце. Ладна, а, Мікалай Сяргеевіч?

Распівін маўчаў.

— А галоўнае не падаць духам. Справа не так страшная і абойдзецца. Я ўжо дагаварыўся, каб хлопцы выступілі. Ну, вымову дадуць на дрэнны канец, і ўсё. А там будзем жыць, то неяк-жа сквітаемся. Яно-ж па суседску заўсёды адзін аднаму памагаць трэба. Вось там сенакосы якія, гароды... Ды ці мала што. Дык добра?

— Добра, добра, Сцяпан Кандратавіч,—заківаў галавой Распівін. Я, будзьце ўпэўнены...

— Дык я спадзяюся—ужо на хаду прагаварыў Жолуд і шпарка закрочыў на рынак.

„Лоўкі ён хлопец гэты Жолуд,—думаў Распівін.—Выкруціцца, вось убачыце, што выкруціцца. Ну а калі выкруціцца, значыць...“

У доме соцкультуры было поўна людзей і Мікалай Сяргеевіч ледзь прабіўся наперад. Ужо калі ён мерыўся сесці на месца, вызваленае ветлівым хлапчуком, нехта тузануў яго за рукаў: збоку стаяў Алёшын.

— Ты-ж глядзі, Распівін—прагаварыў ён чамусьці пераходзячы на ты,—сёння рашаючы дзень. Ты павінен выступіць у спрэчках і падмацаваць факты. Галоўнае важна, каб ты пачаў, а потым пойдзе ўжо.

Алёшын прыгнуўся да вуха Распівіна:

— Я гаварыў з хлапцамі і ўпэўнен, што справа пойдзе хутка. Ты адно глядзі, не качай,—дабавіў ён напаследак,—крый праўду і ўсё.

Мікалай Сяргеевіч адчуваў сябе зусім дрэнна, але... вочы Алёшына глядзелі проста і ўпэўнена.

— Я, таварыш, Алёшын, што-ж... Я будзьце ўпэўнены...

— Ну глядзі,—і постаць Алёшына заківалася далей, знікаючы у натоўпе.

Віхрам ляцелі думкі і разабрацца ў іх не было ніякай магчымасці. Ад шуму балела галава і па целу разлівалася зморанасць. Мікалай Сяргеевіч цяжка апусціўся на лаўку і выцер хустачкай спацеўшы лоб.

— А так і быць. Паслухаем, што казаць будуць,—адмахнуўся ён ад назойлівых думак.

Хацелася адмахнуцца ад гэтых спраў і спакойна адпачыць. Не, гэта апошні ўрок, болей так не будзе.

Нарэшце адкрылі сход.

Першым гаварыў рэдактар, які коратка і выразна вылажыў сутнасць справы. Яго голас быў рашучы і рэзкі, а рухі энергічныя, што надавала яго прамове надзвычайную пераканальнасць. Часамі ён спыняўся і праводзіў рукой па курчавых валасах, як бы здзіўляючыся, што вось ён, прыезджы, расказвае людзям пра іхныя справы. Прамова была нядоўгая і канчалася прапановай выступіць усім грамадзянам і разгарнуўшы большэвіцкую самакрытыку дапамагчы разабрацца ў справе.

Мікалай Сяргеевіч уважліва слухаў кожнае слова аратара, жадаючы па іх прадбачыць вынік разбора. „Так, Алёшын праў“—падумаў ён, з палёгкай уздыхнуў і, адкінуўшыся на спінку лаўкі, хустачкай выцер буйныя кроплі пота, выступіўшыя на носе.

Наступнае слова далі самому Жолуду. Лёгкі шумок прабег па зале і раптам зрабілася мёртвая цішыня. Жолуд павольна вышаў на сцэну

і як звычайна пачаў прамову. Гаворыць ён гладка і ўпэўнена, на хаду адказваючы на рэплікі з месц.

І прывычны выгляд гэтай упэўненай постаці, умелае аперыраванне фактамі робяць на Распівіна велізарнае ўражанне.

— Не, не можа быць, каб ён не апраўдаўся. Апраўдаецца, іменна апраўдаецца,—пераконваецца Мікалай Сяргеевіч. Бачыш, як лоўка ён выкручваецца з веласіпедам... Чаго працей—заднім чыслом запісаць у інвентарную кнігу. А з гародамі... галава!

Прамова Жолуда ідзе к канцу. Вось ён абагульняе сказанае, зараз сядзе. Тады слова дадуць жадаючым і трэба будзе выступіць Распівіну, каб... Што „каб"? Што сказаць у адказ на погляд дзвёх пар вачэй? Сказаць праўду?! А калі апраўдаецца?

Па целу Распівіна забегалі мурашкі.

— Не, лепей пайсці дадому... Забалела, моў, галава і толькі.

Мікалай Сяргеевіч устае і праціскаецца к выхаду.

— Дадому, скарэй дадому!

Май, 1935 г.

С. Я. Вальфсон

# ЛЕЎ ТАЛСТОЙ*)

Калі 7 год назад Савецкі Саюз урачыста святкаваў 100-годдзе нараджэння Л. Н. Талстога, прыходзілася часта сустракацца з неўразуменнымі пытаннямі. Часам недаўмявалі, чаму краіна пролетарскай дыктатуры, краіна, у якой пануе дыялектычна-матэрыялістычны светапогляд, шануе найвялікшага праціўніка ўсякага насілля, у тым ліку і рэволюцыйнага; ворага ўсякай дыктатуры, у тым ліку і пролетарскай; крайняга метафізіка, ідэаліста і наскрозь рэлігійнага мысліцеля.

Магчыма, што і цяпер, калі СССР з вялізарным размахам адзначае 25 годдзе смерці Талстога, у некаторых таварышоў узнікаюць пытанні такога парадку. На гэтых-жа незразуменнях спрабуе «спекульнуць» і класавы вораг. Так, напрыклад фашысцкія моські з гебельсаўскай падваротні ўжо паспелі брахнуць на старонках «Ангрыфа» нешта там наконт «двудушнасці» «дэмагогіі» большэвікоў, якія спраўляюць юбілей свайго ворага...

Нашым абавязкам з'яўляецца ўнесці максімальную яскравасць у гэтае пытанне, паказаць шырокім працоўным масам нашай соцыялістычнай радзімы, у чым вялізарны палітычны сэнс і культурнае значэнне таго юбілею Талстога, які ў нас праводзіцца.

Раней за усё трэба падкрэсліць тую вялізную розніцу паміж буржуазнымі і нашымі савецкімі юбілеямі. Буржуазны юбілей зводзіцца звычайна да пышнага цараманіалу некрытычных усхваленняў: «медоточивых фраз». Таму яны часта носяць фальшывы, двудушны характар, які быў злосна высмеян яшчэ Беранжэ:

„Мы преследуем их, убиваем
И статуи потом воздвигаем..."

Не тое з нашымі савецкімі юбілеямі. Для нас юбілей—гэта гістарычная дата, якая дае повад крытычна ацаніць месца, належачае юбіляру ў гістарычным развіцці чалавецтва, падвергнуць усебаковаму аналізу яго дзейнасць і творчасць, вызначыць значэнне яго культурнай спадчыны, даследваць яго моцныя і слабыя бакі, папулярызаваць першыя і выяўляць другія—адным словам даць сапраўдную ацэнку яго гістарычнага месца і сучаснага значэння ў святле марксізма-ленінізма. Толькі будучы асветленай гэтым святлом, стане перад намі ва ўвесь свой гіганцкі рост манументальная фігура Льва *Талстога* са ўсёй яго сілай і бяссіллем, са ўсімі магутнымі ўзлётамі яго геніяльнай думкі і раз'ядаўшымі яе супярэчнасцямі.

*) Даклад, прачытаны на паседжанні БелАН, НКА і ССПБ 25-XI.

«Супярэчнасці ў поглядах Талстога—не супярэчнасці яго толькі асабістай думкі, а адлюстраванне тых у вышэйшай ступені складаных, супярэчлівых умоў, соцыяльных уплываў, гістарычных традыцый, якія вызначалі псіхалогію розных класаў і розных слаёў рускага грамадства ў парэформенную, але дарэволюцыйную эпоху. І таму правільная ацэнка Талстога магчыма толькі з пункту гледжання таго класа, які сваёй палітычнай роллю і сваёй барацьбой у час першай развязкі гэтых супярэчнасцей, у час рэволюцыі, даказаў свае прызванне быць правадыром у барацьбе за свабоду народа і за вызваленне мас ад эксплаатацыі» *), г. зн. з пазіцый рэволюцыйнага пролетарыята.

Адзначаючы 25 гадавіну смерці Талстога, мы павінны ўспомніць тую абстаноўку, у якой яна адбылася і той грамадскі рэзананс, які яна сустрэла.

Талстой памёр на мяжы пераходу ад перыяда глыбокай рэакцыі да ўздыму рэволюцыйнага руху. Яшчэ рабіў свае расправы над рабочымі і сялянамі крывавы царскі сатрап Петр Сталыпін. Чорнасоценная дзяржаўная дума служыла арэнай пагромных нацкаванняў, хуліганскага ёрнічання Пурышкевічаў, аперацыйнай базай для контррэволюцыйных здзелак ліберальствуючых кадэтаў са сталыпінскім рэжымам. Буржуазная інтэлігенцыя па вушы пагразла ў богашукальнай містыцы, у падноўленым на рускі манер ніцшэанстве, у пропаведзі «малых спраў». У літаратуры панавалі андрэеўскія мешчанскія «жахі» і арцыбашаўская парнаграфія. Учорашнія прагрэсісты пакорна замальвалі грахі сваіх «рэволюцыйных» захапленняў і складалі хвалу казацкаму бізуну. Бердзяевы і Гершэнзоны панічна крычалі: «Якія мы ёсць, нам не толькі нельга марыць аб зліянні з народам... баяцца яго мы павінны больш усіх козняй улады і благаслаўляць гэтую ўладу, якая адна сваімі штыкамі і турмамі яшчэ абараняе нас ад ярасці народнай» («Вехи»).

Але пачалі ўжо вызначацца першыя адзнакі павароту і ўздыму рэволюцыйнага руху. Большэвіцкая партыя (пад кіраўніцтвам Леніна), ідэйна усё больш згуртоўвалася; пачаў перамагацца і арганізацыйны разброд у партыйных радах... Усё часцей выбухалі эканамічныя стачкі, якія сведчылі аб тым, што рабочы клас пачынае пераходзіць у наступленне; разыгрываліся паасобныя маніфестацыі, красамоўна казаўшыя аб пачынаючымся рэволюцыйным бражэнні...

На гэтым фоне і адбылася смерць Талстога, абкружаная арэолам трагічнасці яго бегства з дому, гэтай своеасаблівай талстоўскай дэманстрацыяй супроць свету эксплаатацыі і прыгнечання...

Бяссільны і бясплодны трагічны жэст 82-гадовага старыка, тое ўражанне, якое смерць Талстога зрабіла на масы, спрабавала скарыстаць буржуазная інтэлігенцыя царскай Расіі, каб нажыць на ім палітычны капітал. Адзіным фронтам—ад дзяржаўных рэптыліяй да ліберальна-апазіцыйных выданняў—праліваў над магілай Талстога кракадзілавыя слёзы буржуазны друк. Падручныя вешацеля Сталыпіна на старонках «Голоса Москвы» лірычна апісвалі «всероссийскую скорбь», якая ахапіла краіну ў сувязі са смерцю Талстога; Іудушка-Меншавікоў у «Новом Времени» даказваў, што Талстога адлучылі ад царквы па намаганнях яўрэяў і ператварыў Талстога ў паплечніка папа Іоана Кранштадскага... Ліберальныя Балалайкіны залівалі старонкі кадэцкіх газет патокамліцамерных фраз

*) Ленін, Зб. тв., том XIV, стар. 402.

аб «мировой совести», аб «сеятеле правды», салаўем заліваліся, апяваючы «учителя жизни», «апостола любви и братства»...

За друкам кадэтаў і прагрэсістаў пятушком заспявалі і «герои оговорочки» з меншавіцка-ліквідатарскага лагера, таксама не шкадуючыя квяцістых і шаблонных славечак аб «великой совести», часам даходзячы нават да спроб «злучаць» Талстога з Марксам.

Патрыётычна-ліберальнае словаблуддзе плакальшчыкаў буржуазнага друку сустрэла сакрушальны адпор з боку В. І. Леніна. Ленін паказаў масам сапраўдны сэнс ліберальнага нацкавання аб «великой совести», мяркуючы прыкрыць падтрымку, якую кадэты аказвалі прыгнятальнікам і насільнікам; ён выкрываў «сплошную фальшывасць» ліберальных панегірыкаў Талстому пры замоўчванні абураючых супярэчнасцей талстоўшчыны; ён заклайміў двурушнікаў і жулікаў, якія спрабавалі зрабіць з Талстога святога; ён выявіў ліквідатарскую беспрынцыпнасць у ацэнцы Талстога, замазванне слабых і рэакцыйных бакоў яго вучэння.

Але смерць Талстога выклікала не толькі струмень ліберальнага пустаслоўя. Пад яе ўплывам выйшлі на вуліцы Пецербурга і Масквы дзесяцітысячныя дэманстрацыі. У дзень пахавання Талстога баставалі рабочыя дзесяткаў заводаў і фабрык. Ленін ацаніў гэтае з'явішча як «пачатак павароту».

> «Пралетарыят пачаў. Дэмакратычная моладзь працягвае. Рускі народ прасынаецца да новай барацьбы, ідзе насустрач новай рэвалюцыі» *).

Ускрываючы ліберальную ідэалізацыю Талстога, Ленін ускрыў яго непаслядоўнасць, яе класавыя карэнні і гістарычную абумоўленасць, паказаў сацыяльныя прычыны талстоўскіх супярэчанняў, выявіў дзе сіла і ў чым слабасць Талстога, у чым яго вялікасць і ў чым абмежаванасць, даў непараўнаўчыя ўзоры дыялектыка-матэрыялістычнага падыходу да Талстога, яго ацэнкі з пазіцый рэвалюцыйнага пралетарыята. Над магілай Талстога Ленін заклікаў рабочы клас вывучаць геніяльныя мастацкія творы Талстога; разам з тым ён заклікаў перадавы пралетарыят растлумачыць масам працоўных значэнне талстоўскай крытыкі капіталізма для таго, каб яны ўзняліся на рашаючы рэвалюцыйны бой з буржуазна-памешчыцкім ладам, за пабудову сацыялістычнага грамадства.

* *
*

Талстой быў памешчыкам, панам, арыстакратам не толькі па нараджэнню і выхаванню. Доўгія гады ён быў не толькі сынам рускага дваранства, прадстаўніком яго арыстакратычнай вярхавінкі, але і яго паэтам, яго *спеваком*. Як дваранін і радавіты пан, апісваў Т. «Детство, отрочество и юность», любоўна адлюстроўваючы барскую абстаноўку, у якой ён рос і выхоўваўся. Як дваранін і пан, ствараў ён бяссмертныя палотны «Войны и мира», гэтую эпапею рускага дваранства, яго славы і вялічча. У сваім геніяльным рамане ён даваў яскравы малюнак нраваў і быта дваранства, стварыў яго як героіку свайго класа. Колькі любові, захаплення і гордасці сваім класам уклаў Талстой у тамы «Войны и мира». З якой сімпатыяй і пяшчотнасцю паказвае ён Растовых, Балконскіх, Безухавых, усю гэту непадражаемай мастацкай сілай адлюстраваную галерэю графаў, князей, белакостных арыстакратаў,—арыстакратычную верхавінку царскай імперыі.

---

*) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 393.

Усё што было за межамі гэтага класа мала цікавіла графа Льва Нікалаевіча Талстога, памешчыка і кансерватара, упэўненага ворага дэмакратаў і рэволюцыянераў, з пагардай глядзеўшага на «клопаваняючых» пісьменнікаў-разначынцаў. Вобраз-жа Платона Каратаева, з гэткай любоўю створаны Т., адыграе у яго не самастойную, а так кажучы, *падсобную* ролю,—як «просветитель» і «спаситель» Пьера Безухага.

У неапублікаванай прадмове да «Войны и мира» ён пісаў:

«У творах маіх дзейнічаюць толькі князі, якія гавораць і пішуць па французскі, як быццам усё рускае жыццё таго часу групавалася ў гэтых людзях... Жыццё чыноўнікаў, купцоў, семінарыстаў і мужыкоў мне не цікава і напалову незразумела».

Але на пэўным этапе свайго жыцця Талстой *павярнуў* ад таго света, з асяроддзя якога ён вышаў, якому ён аддаваў лепшыя фарбы сваёй мастацкай творчасці, не толькі павярнуў ад яго, але і пайшоў супроць яго:

> «Па нараджэнню і выхаванню,—гаворыць Ленін,—Талстой належаў да вышэйшай памешчыцкай знаці ў Расіі,—ён парваў з усімі прывычнымі поглядамі гэтага асяроддзя і, у сваіх апошніх творах абрушыўся з страстнай крытыкай на ўсе сучасныя дзяржаўныя, царкоўныя, грамадскія, эканамічныя парадкі, заснаваныя на прыгнечанні мас, на жабрацтве іх, на зруйнаванні сялян і дробных гаспадароў наогул, на насіллі і ліцамерыі, якія зверху да нізу прапітваюць усё сучаснае жыццё» *).

Што-ж абумовіў гэты пераварот у светапоглядзе Талстога, чым і як ён быў выклікан?

Безумоўна, што рашаючы штуршок у гэтых адносінах быў дадзен Талстому патрасеннем эканамічных асноў рускага дваранства, ідэолагам якога ён быў. Гэта прывяло і да крушэння ідэалагічных і маральных асноў геніяльнага пісьменніка, гаворачы яго ўласнымі словамі ў «Исповеди» Т. «адчуў, што тое, на чым я стаяў, падламілася, што мне стаяць няма на чым, што таго, чым я жыў—ужо няма, што мне няма чым жыць»...

Узмоцнены рост капіталізма пахіснуў феадальна-прыгонніцкую аснову старой, патрыярхальнай Расіі. На векавыя барскія сядзібы пачаў наступаць прамысловы і фінансавы капітал, ствараўшы акцыянерныя таварыствы, будаваўшы чыгункі, фабрыкі і заводы, насаджаўшы банкі. Радавітае барство з апаскай і пагардай старанілася перад купцом, фабрыкантам, банкірам. Буржуазія з напорыстасцю расчышчала сабе шлях да эканамічнага панавання. Яе крокі чуюцца ўжо на шмат якіх старонках «Анны Карениной», на якія падаюць злавесныя цені Рабініных і Шуцбургаў—новых «гаспадароў жыцця», папіраючых «дваранскія гнёзды» бяднеючай знаці.

Капітал забіраў у кабалу мільённыя масы зруйнаваных сялян—невычарпальны рэзервуар таннай рабочай сілы. Вострая ломка феадальна-прыгонніцкага ладу і пераход да буржуазных умоў, адбыўся на становішчы мас новымі бядотамі і зруйнаваннем, новымі формамі прыгнечання і эксплаатацыі. Класавыя супярэчнасці абвастрыліся і ў горадзе, і ў вёсцы. І тады Талстой зненавідзеў гэты новы лад, узнікаўшы ў выніку вострай і хваравітай ломкі старых асноў. Ён стаў яму ў апазіцыю, зрабіўся яго страстным крытыкам і абвінавальнікам.

Процілегласць паміж узрастаючым багаццем кучкі чужаедаў і страшнай галечай шырокіх мас, складае тое цэнтральнае пытанне, развязаць

*) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 405.

якое Талстой імкнуўся ўсю апошнюю палову свайго жыцця. Незадоўга перад смерцю Леў Нікалаевіч пісаў: «Здавалася-б, што тыя знадворныя варункі, у якіх знаходзяцца людзі нашага часу, павінны былі-б давесці яго добрабыт да найвышэйшай ступені. Зямлі, прыгоднае для вырабу, ў людзей столькі, што ўсе яны мелі-б магчымасць са збыткам карыстацца на ёй усім, што патрэбна ім у жыцці. Сродкі перадачы думак і сродкі зносін (друк, пошта, тэлеграф, чыгункі, паравыя і электрычныя рухавікі, аэропланы і інш.), г. зн. сродкі таго, што найбольш забяспечвае добрабыт людзей, сродкі яднання, дашлі да высокай ступені дасканаласці. Сродкаў барацьбы з прыродай, палегчання працы прыдумана столькі, што, здавалася-б, усе людзі маглі-б у поўнай меры здаволіць свае патрэбы, без напружанасці працы, пазбаўляючай адпачынку і шкодзячай здароўю. Усё ёсць для таго, каб дабрабыт людзей павялічыўся, але, замест гэтага людзі нашага часу пакутуюць, мучацца і целам, і душою, як ніколі ў старыя часы не пакутвалі і не мучыліся, і пакуты і мукі гэтыя павялічваюцца з кожным годам» *).

Талстой біўся над пытаннем аб тым бяздонні, што існуе «паміж людзьмі з чыстымі нагцямі, устаўнымі зубамі, з далікатнай вопраткай, ядой, убраннем памяшканняў, дарагімі швачкамі,—людзьмі, якія трацяць, не кажу ўжо штодзённа сотні рублёў, па пяць, тры, два рублі штодня, і полуголымі, напаўгалоднымі, бруднымі, не маючымі адпачынку, непісьменнымі і ў заўсёднай залежнасці ад галечы людзьмі, якія працуюць па 16 гадзін штодня за 2 рублі ў тыдзень. Адносін паміж гэтымі людзьмі, калі не станамі, дык разрадамі людзей, інакш яно і не можа быць, няма ніякіх, апрача загадаў, кары і выпадковай, каб змарнаваць час, нікчэмнай добрачыннасці з боку людзей з чыстымі нагцямі і пакорлівага выканання, выпрошвання і захаванай зайздрасці і ненавісці з боку людзей, маючых мазолістыя, брудныя рукі» **).

Талстой падвяргае сакрушальнай крытыцы ўвесь капіталістычны лад. Ён ускрывае, высмейвае, кляйміць, кляне капіталістычную дзяржаву, яе армію, яе суд і паліцыю, яе сям'ю і царкву, навуку і маёмасць, школу і мараль.

Ён абураецца супроць паразітызма багатых і галечы бедных, супроць паругання і калецтва чалавечаскай асобы капіталістычным ладам, супроць хлусні буржуазнай цывілізацыі. Усё гэта з вялізарнай сілай упэўненасці, з вялізарнай шчырасцю і страстнасцю, з бесстрашнай смеласцю, з геніяльнай мастацкай выразнасцю.

Ненавіснаму і праклятаму ладу, які яго абкружаў, Талстой супроцьстаўляў свой ідэал новага грамадскага ладу:

«Знішчыцца павінен лад капіталістычны і замяніцца соцыялістычным; знішчыцца павінен лад мілітарызма і замяніцца разброеннем і арбітрацыяй; знішчыцца павінен сепаратызм вузкай нацыянальнасці і замяніцца космапалітызмам і ўсеагульным брацтвам; знішчыцца павінны ўсякія рэлігійныя забабоны і замяніцца разумнай, рэлігійнай, нравственнай свядомасцю; знішчыцца павінен усякага рода дэспатызм і замяніцца свабодай; адным словам, знішчыцца павінна насілле і замяніцца свабодным і любоўным яднаннем людзей» (Л. Талстой. «Аб існуючым ладзе»).

Здавалася-б, што, абвясціўшы сваім ідэалам знішчэнне капіталізма і замену яго соцыялізмам, Талстой павінен зрабіцца прыхільнікам рэво-

*) Л. Н. Толстой. Полн. собр. соч., изд. 1913 г., т. XXI, стр. 24—5.
**) Там же, стр. 54.

люцыі і перайсці на пазіцыі таго класа, які высунут гісторыяй на ролю тварца і гегемона соцыялістычнай рэволюцыі, г. зн. пролетарыята. Як мы ведаем, гэтага не толькі не здарылася, але мела месца адваротнае з'явішча. Талстой усё свае жыццё быў упэўненым праціўнікам рэволюцыі, смяротным ворагам гвалтоўнай перабудовы грамадства, ён не зразумеў ролі рэволюцыйнага руху рабочага класа, адмаўляў класавую барацьбу, да пролетарыята адносіўся з халоднай абыякавасцю, а часта з пагардай і нават варожасцю.

Да рэволюцыйнага руху Талстой адносіўся рэзка адмоўна. Рэволюцыю ён уяўляў сабе як вынік падбухторвання дзесяткаў і сотняў фанатыкаў, сляпым аружжам у якіх з'яўляюцца цёмныя, зышоўшыя з шляху правідловага сяляне:

> «Толпа озлобленных, одуренных крестьян, подбитых революционерами, сожжет усадьбу, вырубит лес, убьет приказчика, помещика; отбившиеся от деревни и заболтавшиеся в городе крестьянские ребята, наученные революционерами, ограбят винную лавку, почтовую контору, убьют купца»—

так прымітыўна уяўляў сабе і гэтак карыкатурна адлюстроўваў Талстой рэволюцыйную барацьбу сялянства з памешчыкамі.

У рэволюцыйнасць сялянства ён наогул не верыў, і лічыў, што ўзняць на рэволюцыю «можна загіпнатызаваных фабрычных рабочых, але не мужыкоў» (з гутаркі з сынам Ільёй Нікалаевічам, запісанай д-рам Маковіцкім).

Да рабочых Талстой адносіўся з дрэнна ўтойваемай пагардай. І калі Талстому прыходзілася адлюстроўваць рабочага або рэволюцыянера, ён здраджваў самому сабе як геніяльнаму мастаку. Кудысь-ці знікае звычайная талстоўская праўдзівасць, выветрываецца мастацкі такт, і замест пластычнага вобраза, бясконцая галерэя якіх створана геніем Талстога, атрымоўваецца плоская карыкатура, накшталт тых фабрычных, якія адлюстраваны п'янчугамі і здраднікамі у «Войне и мире», накшталт Кандрація Маркелава ў «Воскресеньи», накшталт Прахожага—злодзея і прапойцы ў пасмертнай п'есе «От ней все качества».

На сваіх мастацкіх палотнах Талстой акарыкатурвае рэволюцыянераў: у сваіх філасофска-публіцістычных творах адмяжоўваюцца ад іх. «Я хутка 30 год з усіх бакоў паўтараю адно і тое-ж»—пісаў Талстой Трэгубаву ў 1901 годзе, «што ўся справа ў духоўным стане людзей, што ўсякае насілле ёсць грэх, а наяўнасць тых, якія змагаюцца супроць насілля, ёсць вар'яцтва. І таму шчыры чалавек не зблытае мяне з насільнікамі-рэволюцыянерамі»....

Думка аб тым, што яго могуць «зблытаць» з рэволюцыянерамі, што яго крытыка капіталізма можа быць прыраўнена да рэволюцыйнай, пролетарскай, марксісцкай, як відаць, вельмі непакоіла Талстога. І таму ён адмяжоўваецца ад апошняй самым рашучым чынам:

> «Мы часта ашукваем сябе тым, што, сустракаючыся з рэволюцыянерамі, думаем, што мы стаім блізка,—радам.
>
> «Няма дзяржавы!»—«Няма дзяржавы!», Няма ўласнасці!»—«Няма ўласнасці!», «Няма неравенства!»—«Няма неравенства!» і шмат інш. Здаецца, ўсё адно і тое-ж. Але розніца ёсць вялікая і *нават няма больш далёкіх ад нас людзей.* Для хрысціяніна няма дзяржавы,—для іх трэба знішчыць дзяржаву: для хрысціяніна няма ўласнасці, а яны зруйнаваць хочуць уласнасць; для хрысціяніна

ўсе роўны, а яны хочуць знішчыць неравенства. Гэта—два канцы несамкнутага пярсцёнка. Канцы радам, але знаходзяцца адзін ад аднаго на большай адлегласці, чым усе астатнія часткі пярсцёнка: (трэба абыйсці увесь пярсцёнак для таго, каб злучыць тое, што на канцах!» («Спелые колосья»).

Калі Талстой быў такі далёкі ад рэвалюцыі і такі варожы да пролетарыята, то ўзнікае пытанне, з якіх-жа пазіцый ён страстна крытыкаваў капіталізм, ідэолагам якіх класаў ён выступаў гарачым пратэстантам супроць света капіталістычнага прыгнечання і эксплаатацыі?

Выдатным артыкулам Леніна аб Талстом мы абавязаны вычарпальным адказам на гэтае пытанне.

Ленін паказаў, што Талстой—выказнік настрояў тых працоўных мас, якія *ўжо* пранікліся нянавісцю к існуючаму ладу, але якія *яшчэ* не дайшлі да свядомай і непрымірымай барацьбе з ім. Ён разглядаў Талстога, як ідэолага гэтых, галоўным чынам сялянскіх мас, стыхійна змагаючыхся супроць ладу прыгнечання і эксплаатацыі, але ў гэтай барацьбе яшчэ недастаткова свядомых і абмежаваных вузкім гарызонтам.

Талстой разгортвае крытыку капіталізма, стоючы на пазіцыях «патрыярхальнага, наіўнага селяніна», ахопленага роспаччу пры наступленні капітала, пратэстуючага супроць яго, але не ўступаючага на шлях рэволюцыйнай барацьбы, а абмяжоўваючагася рэзанёрствам і ўздыханнямі.

Такім чынам Талстой, які называў сябе «адвокатом 100-миллионного земледельческого народа», выражаў настроі не той перадавой часткі сялянства, якая станавілася на шлях рэволюцыйнай барацьбы, а яго атсталых, прымітыўна-патрыярхальных мас.

«Яго (Талстога—С. В.) гарачы, страстны, нярэдка бязлітасна-рэзкі пратэст супроць дзяржавы і паліцэйска-казённай царквы перадае настроі прымітыўнай сялянскай дэмакратыі, у якой стагоддзі прыгонніцкага права, чыноўніцкага самаўпраўства і рабунку, царкоўнага іезуітызма, ашуквання і маны накапілі горы злабы і ненавісці. Яго няўхільнае адмаўленне прыватнай пазямельнай уласнасці перадае псіхалогію сялянскай масы ў такі гістарычны момант, калі старое сярэдневяковае землеўласніцтва і памешчыцкае і казённа—«надзельнае» зрабілася канчаткова нецярпімай перашкодай далейшаму развіццю краіны, і калі гэта старое землеўладанне няўхільна падлягала самаму крутому, бязлітаснаму разбурэнню. Яго непарыўнае, поўнае самага глыбокага пачуцця і самага палкага абурэння, ускрыццё капіталізма перадае ўвесь жах патрыархальнага селяніна, на якога пачаў насоўвацца новы, нябачны, незразумелы вораг, які ідзе адкуль-та з гораду або адкуль-та з-за мяжы, разбурае ўсе «асновы вясковага быта, нясе з сабою небачанае руйнаванне, галечу, галодную смерць, адзічанне, прастытуцыю, сіфіліс,—усе бядоты эпохі «першапачатковага накаплення», абвостраныя ў сто разоў перанясеннем на рускую глебу саманавейшых прыёмаў рабунку, выпрацаваным панам Купонам» *).

Талстой ідэалізуе сялянства, ідэалізуе яго пакорлівасць лёсу, яго разумную вытрыманасць, яго міралюбівасць і несупраціўленне злу. Яго ўлюбёны герой той, хто выяўляе маральны пачатак на вёсцы, старэнькі селянін. Ён, які не ведаў умоўнасцей культуры, які не быў папсаваны капіталізмам, які жыве, як належыць жыць земляробу і потым здабывае сабе хлеб,—ён быў для Талстога будаўніком царства боскага на зямлі.

*) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 401.

Талстой, які з'яўляўся «выкупляючым» грахі свайго класа панам, увасабляўся ў мужыка, пачынаючы з павярхоўнага апрошчэння,—з саматканай кашулі і таго, што хадзіў босым—канчаючы тым, што свой светапогляд накіроўваў на шлях шматвяковага, мужыцкага, земляробчага светаразумення. Тыя свае мастацкія хваробы, што зіхацелі найпрыгажэйшымі колерамі кахання і спачуцця, аддаваў Талстой тым, у якім ажыццяўляўся сялянскі дух адвечнае пасіўнасці—Платону Каратаеву ў «Войне и мире», «косноязычному» Акіму ў «Власти тьмы», Алешы Горшку і іншым «ідэальным мужычкам»...

У капіталізме Талстой бачыў толькі адмоўныя бакі. Ён крытыкаваў яго з пункту погляду *мінулага*, а не *будучага*. Ён не здолеў падыйсці да яго па гістарычнаму. Ён ведаў, што капіталізм прыносіць няшчасце народным масам, ён бачыў, што капіталізм дарэшты псуе патрыархальна-прымітыўны сялянскі быт, ён бачыў, што крэпасць капіталізму—гэта горад. І Талстой зненавідзеў горад—царства д'ябала, праклаў гарадскую культуру, пераклаў на сваю этыка-рэлігійную мову словы пушкінскага Алека аб гарадах, «где мысли гонят, любви стыдятся, торгуют волею своей, главы пред идолами клонят и просят денег да цепей».

У горадзе—«плоды просвещения», на вёсцы—власть тьмы». Талстой злосна здзекуецца, над гэтымі «плодами просвещения», над паследкамі гарадское цывілізацыі. І снуе ад сябе духоўныя ніці да вясковай «власти тьмы».

Горад псуе нявіннасць вясковага жыцця, горад робіць распуснікамі вясковых хлопцаў і дзяўчат,—і Талстой сумуе аб гэтым таксама, як дзесяткі год да яго сумавалі рускія народнікі.

Каючыйся дваранін, ён імкнуўся пераўвасобіцца ў селяніна. З якой гордасцю ён гаварыў Максіму Горкаму: «Я больш вас мужик и лучше чувствую по мужицки». І гэта не было какетнічаннем. Ленін таксама гаварыў аб Талстым: «Да гэтага графа сапраўднага мужыка ў літаратуры не было»... *).

Крытыкуючы капіталізм з пазіцый адсталага патрыархальнага сялянства, Талстой супроцьстаўляў яму, як мы ўжо бачылі, соцыялістычны лад. Але соцыялізм, які прапаведваў Талстой, бясконца далёкі ад сучаснага сапраўднага соцыялістычнага грамадства, адзінымі дзвермі ў якое, па выражэнню Энгельса, з'яўляецца дыктатура пролетарыята. Не рэволюцыйны соцыялізм, за які вядзе жорсткую гераічную барацьбу сусветны пролетарыят пад кіраўніцтвам Комінтэрна, пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, не соцыялізм, за які ўжо пры жыцці Талстога пралілася гарачая кроў парыжскіх комунараў і краснапрэсненскіх пролетараў,—прапаведвае Талстой.

Ён прапаведвае рэакцыйны, *феодальны* соцыялізм. Гэта з'явілася натуральным вынікам таго, што Талстой выступаў не як ідэолаг класа, які ідзе на гістарычную змену буржуазіі, а наадварот, адбіваў настроі *аджываючага* класа.

Увесь філасофскі светапогляд Талстога з'яўляецца ідэалогіяй прымітыўнага, патрыярхальнага селяніна, які разгубіўся на вялікім гістарычным раздарожжы.

Гэта—ідэалогія бегства ад рэчаіснасці, апеляцыі к духу містыцызма і рэлігійнасці.

Талстой і стаў глашатаям гэтай рэакцыйнай містыка-ідэалістычнай ідэалогіі.

---

*) Ленін аб мастацтве (мемуары), скл. Добін. Ленінград, 1934, стар. 96.

Для Талстога свет—пасіўны, нядзеяльны, інэртны, кіруецца воляй, што стаіць над ім і ім кіруе.

Адной з характэрных рыс ідэалістычнага светапогляду з'яўляецца страх перад смерцю. Ад прыгнятаючае думкі, што гібель тваёй асобы няўхільна ідэалісты і містыкі шукаюць паратунку ў веры, што смерць знішчыць толькі іхнюю земную, матэрыяльную абалонку, але душу знішчыць нельга, душа—вечная, душа—няўміручая.

Адносіны Талстога да пытання аб смерці з'яўляюцца надзвычайна паказальнымі для яго ідэалістычнага светапогляду. Праблема смерці з выключнай сілай усё жыццё ганялася за Талстым.

Пачынаючы з «Севастопольских рассказов» і «Войны и мира», канчаючы «Смертью Ивана Ильича», «Тремя смертями», Талстой лепшыя старонкі сваёй мастацкай творчасці аддаваў ёй. У момант крызіса пытанне смерці стала перад Талстым з небывалай сілай. Ён пытаўся ў сябе: «Няхай я дасягну найвялікшых благ, якія магчымы для чалавека,—навошта ўсе яны, калі ўсё гэта скончыцца пагібеллю, зніштажэннем, смерцю!» Не ўмеючы развязаць гэтага злошчаснага пытання, Талстой гатовы быў скончыць жыццё самагубствам. Выйсце, што ён знашоў, казала: «Жыццё—сон. Смерць—прабуджэнне». Гэта быў, бязумоўна, хітра сплецены софізм, які абвяшчаў, што сапраўднае жыццё пачынаецца там, дзе яно ў рэчаіснасці канчаецца. Гэта было мнімае выйсце, і гэтага не мог не разумець Талстой. Горкі ў сваіх успамінах апавядае, што калі ён гутарыў з Талстым наконт смерці, дык яму здавалася, што ён гуляе з смерцю, жартуе з ёю і стараецца неяк ашукаць яе: «Я цябе не баюся, я цябе люблю, я чакаю цябе». А сам востранькімі вочкамі заглядае: «Я якая ты? А што па-за табой, што далей? Зусім ты знішчыш мяне, ці нешта застаецца жыць?»

Гэта падваенне было абумоўлена дваістасцю Талстога. Талстой, які быў «язычнікам» да мазгоў касцей, які прагнуў жыцця, любіў усе яго радасці і асалоды, які навучаў не шкадаваць цела і аскетычна пазбаўляць сябе самага неабходнага, мог знайсці толькі знадворнае выйсце, веручы ў няўміручую душу. Яму патрэбна была няўміручасць цела, але ён ведаў, што такой бессмертнасці няма. І гэтая свядомасць зрабілася крыніцай вялікай пакуты Льва Нікалаевіча.

Як крайні ідэаліст Талстой навучаў, што «наша сапраўднае жыццё гэта не тое, знадворнае, матэрыяльнае, якое адбываецца тут, на зямлі, на нашых вачах, а ўнутранае жыццё нашага духу, для якога тое жыццё, што мы бачым, толькі рыштаванні, патрэбныя, каб пабудаваць гмах нашага духоўнага ўзросту».

«Пад нагамі мёрзлая, цвёрдая зямля».—кажа Талстой, наўкола вялізныя дрэвы; над галавой—хмарнае неба; цела сваё адчуваю; адчуваю боль галавы; заняты думкамі, але тымчасам ведаю, адчуваю ўсёй істотаю, што і моцная, мёрзлая зямля, і дрэвы, і неба, і маё цела, і мае думкі, што усё гэта толькі створана маімі пяцьма пачуццямі, гэта—маё уяўленне, свет, пабудаваны мной»...

Ідэалізм Талстога наскрозь прасякнуты суб'ектывізмам. Ён абвяшчае, што ўвесь акаляючы яго свет—толькі плод яго органаў пачуцця.

«Людзі», дзівіцца ён, «ніяк не могуць пагадзіцца з нерэальнасцю ўсяго матэрыяльнага. Усё-такі стол ёсць і заусёды... ён ёсць, і для ўсіх ён ёсць, такі самы, як і для мяне, кажуць звычайна. Ну, а як закруціш два пальцы да качаеш адзін шарык, дык бясспрэчна адчуваеш два? І вось таксама кожны раз, калі я так вазьму шарык, дык будзе два.

і для кожнага, хто возьме такой шарык—будзе два, а тымчасам двух шарыков няма. Таксама і стол для закручаных пальцаў маіх пачуццяў—стол, а ён, мо', паўстала, адна тысячная частка стала, зусім нават не частка стала, а нешта зусім іншае».

Такім чынам свет для Талстога—гэта нешта нерэальнае, што выклікаецца да жыцця ігрой нашых пачуццяў і прадстаўленняў. Гэта нешта таемнае, няпрыступнае для нашага разумення, што знаходзіцца за сямю замкамі боскае таемнасці. Сапраўднае разуменне света канчаецца ў Талстога разуменнем уласнае асобы. Свет, які бачыць Талстой,—гэта—свет, створаны яго прадстаўленнямі аб свеце.

Як мы бачым, у філасофскай галіне Талстой з'яўляецца паслядоўным суб'ектыўным ідэалістам, паўтараючым тое, што за два стагоддзі да яго гаварыў епіскоп Джордж Берклі, і што было да канца абвергнута наступнай філасофскай думкай. Талстой, як і Берклі, абвяшчае нашы адчуванні адзіным аб'ектам і крыніцай пазнання, раствараe аб'ект у суб'екце і дакатваецца да недарэчнасцяй соліпсізма з яго прызнаннем адзінай рэальнасцю свайго ўласнага *я*.

Філасофскі светапогляд Талстога наскрозь рэлігійны. Ён—заснавальнік, апостал новай рэлігіі, якую можна назваць неа-хрысціанствам, рэлігіі, вызваленай ад элементаў культу, абраднасці, але ані не вольнай ад веры ў бога-стварыцеля, бога-кіраўніка, бога-гаспадара. «Я—парабак, а гаспадар—бог!».

Талстым кіруе «жывое пачуццё бога». Па-за богам няма жыцця. Па-за богам няма радасці. Па-за богам няма свету. Галоўнае ў гэтым пачуцці—адчуванне поўнае забяспечанасці, адчуванне таго, што ён ёсць, што ён—добры, ён мяне ведае, і я ўвесь абкружаны ім, ад яго прышоў, да яго іду, складаю частку яго, дзіця яго».

Сваім філасофска-рэлігійным светапоглядам Талстой зноў-такі адлюстраваў настроі забітага адсталага селяніна, які папаў з няволі прыгонніцтва ў сець капіталістычнай эксплаатацыі і якога соцыяльная прыдаўленасць і бездапаможнасць у барацьбе з капіталізмам штурхаюць у бок рэлігіі.

Сваю ідэалістычную філасофію Талстой распаўсюджвае і на галіну грамадскіх адносін, на соцыяльнае жыццё.

Вызваленне чалавецтва ад уціску і эксплаатацыі павінна з'явіцца па Талстому не вынікам развіцця гістарычнага працэса, абумоўленага зменай вытворчых сіл грамадства, не вынікам барацьбы класаў і соцыялістычнай рэволюцыі. Вызваленне чалавецтва Талстой уяўляе выключна, як у рэзультаце змены маральнасці. «Спасенне нашае цяпер у адным», кажа Талстой: «у перакананні, што сапраўднае жыццё наша не ў целе нашым, а ў тым духу боскім, які жыве ў нас, і што для таго, усе гэтыя высілкі, якія пакладалі раней на палепшанне нашага цялеснага—як асобнага, гэтак і грамадскага—жыцця, мы можам і мусім пакладаць на адну патрэбную і важную для чалавека справу,—на тое, каб кожнаму ў самым сабе выхоўваць і замацоўваць любоў («Любите друг друга»).

У артыкуле «Единая заповедь» Талстой кажа: «... каб было паміж людзей яснае разуменне таго, чаго яны не павінны рабіць, дык не магло-б ужо далей трымаць тое звярынае, прыкрае і розуму, і пачуццю жыццё, якім мы жывем цяпер».

Вось думка, якая з'яўляецца галоўным стрыжнем усіх выступленняў Талстога па грамадскіх пытаннях. Поўная пагардлівасць да матэрыяльных умоў сучаснасці, якім супроцьстаўляецца прасвятленне свядомасці і

павышэнне маральнасці. «Шчасце не залежыць ад знадворных прычын»— лейт-мотыў, які чуцен на тысячах старонак талстоўскіх твораў. Вялікая маральная ідэя—вось адзіны вагар, пры дапамозе якога Талстой хацеў вызваліць чалавецтва ад таго соцыяльнага ўціску, пад якім яно знемагае.

У Талстога маральная ідэя, якая знаходзіцца ў галаве і ў сэрцы асобы, з'яўляецца фактам абсалютнай вартасці. Таму ён строга ганьбіць усякую спробу чалавека падначаліць сваёй волі грамадскі працэс.

Гэтая тэндэнцыя досыць выявілася ўжо у «Войне и мире». Наполеон у Талстога—нікчэмны і мізерны. Наполеон у яго гіне дзякуючы таму, што ён хоча падначаліць сваёй волі чалавецтва, таму, што ён уявіў сябе архітэктарам гісторыі. Кутузаў у Талстога—вялікі і перамагае таму, што ён пасіўны, таму, што ў ім ажыццяўлены каратаеўскі пачатак няволь-ніцкай пакорлівасці лёсу, бо як казаў Платон Каратаеў, «все в мире происходит не нашим умом, а божьим судом». Пасля крызісу гэтая тэн-дэнцыя выкрышталізоўваецца усё выразней. Талстой ненавідзіць кожнага, хто будуе грамадскае жыццё, яго змяняе, яго перабудоўвае (можа дзіўным выглядае выказ «Талстой ненавідзіць», але ўсё любячы Талстой умеў не-навідзець усёй сілай сваёй палкай натуры). Талстой—прапаведнік сузірання жыцця і маральнага самаўдасканалення. Талстой не хоча перабудоўваць заган жыцця—ён хоча ўцякаць ад іх. І не дарма самай шчырай любоўю кахае ён тых сваіх герояў, якія ад соцыяльнага зла, ад людской крыўды, ад грамадскага ўціску ўцякаюць у келлі, пустыні і скіты. З якім жаласным замілаваннем апавядае Талстой аб старцу Фёдару Кузмічу, былым ім-ператары ўсерасійскім, які зрабіўся пустыннікам, аб айцу Сергіі, пакінуў-шым шайтанава царства і пашоўшым у манаскі скіт, аб усіх тых, што ў аскетычным самакатаванні пакутуе за грахі таго класа, да якога ён на-лежаў. І не дарма наступнікі Талстога лічаць за апофэоз усяго яго жыцця ўцёкі з дому.

Так, уцёкі—гэта быў адзіны вывад з светапогляду Талстога. Не зма-гацца, не перабудоўваць, не змяняць, а ўцячы ад крыўды людской, вы-ратаваць сябе ад яе, захаваць незаплямленай сваю белую вопратку і крышталёвую чыстасць свае душы, сваю асабістую святасць. Вось і ўсё.

Максім Горкі, які нейкі час быў блізкі да Талстога, добра яго ведаў, добра вывучыў і моцна, моцна любіў, Горкі, які паводле яго ўласных слоў, пры спатканні з Талстым, гатовы быў крычаць усім і кожнаму: «глядзеце, які дзіўны чалавек жыве на зямлі!»,—вось што Горкі кажа аб Талстым: «Мяне заўсёды адхіляла ад яго гэтае ўпартае дэспатычнае імк-ненне абярнуць жыццё графа Льва Нікалаевіча Талстога ў «житие иже во святых отца нашего боярина Льва»...

Для Талстога (як для ідэаліста-мэтафізіка) ісціна была адзінай, адвечнай, неппераходнай: не гневайся, не аддавайся похаці, не кляніся, не гвалтуй, любі ворагаў,—вымагаў Талстой ад людзей. Маральны кодэкс Талстога не ведаў эпох, народаў, класаў: так—так; не—не,—звыш гэтага «ад лукавага». Хто з правага боку, хто з левага, хто з богам, хто з д'яб-лам. Бязмежная просталінейнасць Талстога не ведала ніякіх кампромі-саў, засцярог, зігзагаў. Не гневайся—вымагаў Талстой, і гэта вымаганне сваё адрасаваў да ўсіх, усіх... «Міліярдэр, кароль, кат, турэмшчык, жаб-рак, міністар, злодзей, пісьменнік, манах,—хто-б ты ні быў—спыніся», заклікаў Талстой. Ад убійц і іх ахвяр, ад гвалтаўнікоў і гвалтаваных, ад павукоў і мух вымагаў Талстой аднаго таго самага. «Не гневайся, адказ-вай на гвалт любоўю, любі ворага», заклікаў апостал нова-хрысціянства. Гвалт—зло, ведаў Талстой. І гвалт быў для яго заўсёды злом. Ён вінава-ціў цароў і міністраў, якія гвалтам прыгнятаюць народ, але ў той самай

меры ён вінавацїў і народ, які пробаваў на гвалт адказаць гвалтам. «Агню нельга патушыць агнём, гвалту нельга спыніць гвалтам», навучаў Талстой.

Талстоўская пропаведзь непраціўлення злу насіла рэакцыйна-утапічны характар. Ён даказваў сялянам, што яны не атрымаюць зямлі сілай; ён пераконваў рабочых, што яны сілай не забяруць у капіталістаў фабрык, і таму ім застаецца чакаць палепшання свайго становішча ад жыцця «па воле боскай»; ён заклікаў рэволюцыянераў не змагацца за змену грамадскіх умоў, а ўхадзіць у свой унутраны мір і ў сабе саміх шукаць прычыны акаляючага зла; ён прапаведваў, што ўсе людзі браты, і што калі прыйдуць дзікія Зулу, каб зжарыць вашых дзяцей, адно што вы павінны зрабіць «унушыць Зулу, што гэта яму невыгадна і нядобра, унушыць, пакараючыся яму па сіле».—Метафізічная мараль Талстога прыводзіла яго к таму, што ён больш сумаваў аб маральным падзенні гвалтаўніка, чым аб становішчы гвалтуемага. І кожны раз, калі Талстой выступае супроць той або іншай формы прыгнечання, гвалту і прыгнету, адзін з яго асноўных довадаў у тым, што гэта нравственна калечыць прыгнятальніка і гвалтоўніка. Дрэнна, вядома, што пакутуе прыгнечаны, але галоўнае ў тым, што маральна ўродуецца прыгнятальнік. І з уласцівай яму рашучасцю і паслядоўнасцю Талстой заяўляе ў лісце да Генрыха Сенкевіча, што калі прускі ўрад прыгнятае сялян-палякаў, то «у гэтай справе мне шкода больш тых людзей, якія наладжваюць гэты рабунак і будуць прыводзіць яго ў выкананне, чым тых, каго рабуюць».

Талстоўскі заклік змяняць свет на шляхах нравственнага самаўдасканалення і непраціўлення злу—быў утопіяй. Гэта утопія таксама грала на руку рэакцыі, як і талстоўскі лозунг: «няма ў свеце вінаватых». Непраціўленцтва Талстога і яго маральны нейтралітэт у барацьбе прыгнечаных з прыгнятацелямі азначалі фактычную падтрымку таго самага ладу эксплаатацыі, супроць якога ён выступаў.

Тут мы ўступаем у паласу тых трагічных супярэчнасцей Талстога, аб якіх будзем яшчэ гаварыць ніжэй. Пакуль што спынімся на яшчэ адным яркім узоры талстоўскай рэакцыйнай метафізікі. Я маю на ўвазе адносіны Талстога да навукі і мастацтва.

Геніяльны мастак і адукаванейшы чалавек Талстой убачыў, якой моцнай прыладай у руках класа прыгнятацеляў з'яўляюцца навука і мастацтва, як выкарыстоўваюць эксплаататарскія класы грамадства свае веды, каб падняволіць эксплаатуемых; ён убачыў, як пануючыя класы бяруць да сябе на службу дасягненні навукі, і тады Талстой зрабіў так, як і мусіў быў зрабіць паслядоўны метафізік: ён пракляў навуку і мастацтва.

Талстой з'явіўся абсалютным адмоўнікам навукі. Ён злосна, не па-талстоўску злосна, кпіў з сучаснай навукі і з яе жрацоў. У гутарцы з Горкім Талстой неяк сказаў: «Навука—злітак золата, прыгатаваны ашуканцам-алхімікам. Вы хочаце зрабіць яе больш простай, зразумелай усяму народу,—значыць: выбіць шмат фальшывай монэты». Талстой быў паслядоўным у сваёй метафізічнай закасцянеласці і дзеля гэтага прыходзіў да недарэчных софізмаў, якія межаваліся з скептыцызмам невука. У лісце да селяніна, пад назваю «О ложной науке» (1 жніўня 1909 г.) Талстой пісаў: «Людзі, якія займаюцца цяпер навукай і лічацца вучонымі, вывучаюць усё на свеце. І гэтых вывучэнняў, што называецца навукай, такая вялікая колькасць, што наўрад ці ёсць на свеце такі чалавек, які не тое, каб ведаў усе гэтыя так званыя навукі, але мог-бы хаця пералічыць іх... І ўсе гэтыя навукі, маючыя самыя дзіўныя, выдуманыя грэцкія ці

лацінскія назвы, лічацца аднолькава-важнымі і патрэбнымі. Яны (вучоныя—С. В.) з аднолькавай стараннасцю і важнасцю даследжваюць пытанне аб тым, колькі важыць сонца і ці не сойдзецца яно з такой восьці гэтай зоркай, і якія казюлькі дзе жывуць, і як плодзяцца і што ад іх можа зрабіцца, і як зямля зрабілася зямлёй, і як пачала расці на ёй трава, і якія на зямлі ёсць звяры і птушкі і рыбы, і якія былі раней і які цар з кім ваяваў, і з кім быў жанаты, і хто калі складаў вершы і песні, і калі, якія законы патрэбны, і чаму патрэбны турмы і шыбеніцы, і як і чым замяніць іх, з чаго складаюцца якія камені і якія металы, і як і якая пара бывае, і як застывае, і чаму адна хрысціянская царкоўная рэлігія сапраўдная, і як рабіць электрычныя рухавікі і аэропланы і падводныя лодкі, і інш., і інш., і інш. І ўсе гэта навукі з самымі дзіўнымі, вычварнымі назвамі. І ўсім гэтым даследванням, якія перадаюцца адно аднаму з надзвычайна вялікай важнасцю, канца няма і не можа быць таму, што справа мае пачатак і канец, а глупству не можа быць і няма канца»...

Талстой разумеў тое, што так старанна адмаўляе і затушоўвае буржуазія—класавы характар навукі. Ён казаў: «Калі-б разбойнікі, якія жывуць рабункамі, або зладзеі, што жывуць зладзействам, склалі сваю навуку, дык навука іхняя не магла-б быць нічым іншым, як толькі веданні аб тым, як найвыгаднейшым спосабам рабаваць, красці ў людзей, якія трэба мець на гэта прылады і як з найбольшай прыемнасцю карыстацца нарабаваным. Тое самае і з навукай нашага пануючага стану». Да канца паслядоўны, Талстой адвярнуўся ад навукі, якая служыць паразітычным класам, а разам з тым адвярнуўся спіной да ўсякай навукі. Ён не зразумеў таго, што так геніяльна проста высвятліў Маркс, а іменна, што навука з спосабу *падняволення* народных мас, павінна зрабіцца фактарам іхняга *вызвалення*, што трэба стварыць такія грамадскія ўмовы, калі яна не будзе ўжо манаполіяй пануючых дзесяткаў, а павінна зрабіцца ўласнасцю працоўных мільёнаў.

Талстой не заўважыў, што біялогія, і хімія, і астраномія, і медыцына, і іншыя навукі, адносна якіх ён казаў, што яны здавальняюць гультайскія цікавасці і забіваюць галаву людзей глупствам,—што ўсе гэтыя навукі вядуць да перамогі чалавека над сляпымі стыхіямі прыроды, што яны дапамогуць зрабіць з нашай планеты замест царства пакуты і плачу, царства радасці і гармоніі. Ён не заўважыў, нарэшце, што толькі навука здолее асвятліць чалавецтву шлях, які накіроўвае да таго, што ён сам лічыў найгалоўнейшай мэтай чалавецтва, што толькі соцыялогія, палітычная эканомія і іншыя навуковыя дысцыпліны, якія Талстой з пагардай разглядаў як несапраўдную навуку, высвятляць чалавецтву, як яно пяройдзе ў тую паласу свайго развіцця, калі «не будзе людзей галодных або пазбаўленых магчымасці карыстацца зямлёй, на якой яны радзіліся, не будзе жанчын, аддаючых на здзек свае цела, не будзе спакусы, п'янства, алкаголю, опіуму... не будзе падзелу на варожыя народы, не будзе забойстваў на вайне людзей чужых народаў і свайго народу на гільоцінах і шыбеніцах, не будзе рэлігійнага ашуканства і шмат чаго іншага». Але для гэтага неабходна, каб яны зрабіліся сапраўднымі навукамі, значыцца былі перабудаваны на глебе дыялектычнага матэрыялізма, былі ачышчаны ад усёй фальшы, якой іх пакрыла буржуазія, зрабіліся зброяй пазнання і змянення свету ў руках самага перадавога класа—рабочага.

Нежывая метафізічная догма панавала над жывым творчым мазгом Талстога, калі ён выказваў свае развяжанні аб навуцы. Яна паралізавала

яго самыя цвярозыя думкі па гэтаму пытанню. Часамі здаецца, што Талстой зразумеў, што не навука, як такавая, служыць справе прыгнечання і падняволення, але яму служыць навука, якую захапілі пануючыя класы і зрабілі з яе апору сучаснага соцыяльнага ладу.

Не памыляецца, зусім правы Талстой, калі кажа: «Мы вельмі рады і хвалімся тым, што наша навука дае нам магчымасць карыстацца энергіяй вадаспаду і прымусіць гэтую сілу працаваць на фабрыках, або таму, што мы прабілі тунэлі ў гарах і інш. Але, на наша ліха, гэтую сілу вадаспаду мы прымушаем працаваць не на карысць людзей, а дзеля ўзбагачэння капіталістаў, якія вырабляюць рэчы раскошы або прылады для знішчэння людзей». Адсюль, здавалася, натуральна зрабіць вывад, які сам сабою прыходзіць на думку,—гэта вывад аб тым, што чалавецтва павінна ўстанавіць такі грамадскі лад, калі сіла вадаспаду будзе служыць на агульную карысць, калі дынамітам будуць прабіваць тунэлі, а не ўзрываць людзей, і г. д. і г. д.; што справа, значыцца, не ў навуцы, але ў тых грамадскіх абставінах, у якіх яна мусіць развівацца.

Талстой жорстка кпіў з тых вучоных, якія лічаць, што «навука толькі тады навука, калі чалавек у лабараторыі пералівае з шклянкі ў шклянку вадкасць, раскладае спэктр, рэжа жаб і марскіх свінак, разводзіць на асаблівым навуковым жаргоне нявыразныя, для яго самога незразумелыя, тэолагічныя, філасофскія, гістарычныя, юрыдычныя, палітыка-эканамічныя карункі ўмоўных фраз». Ён клікаў іх ад гэтай несапраўднай навукі перайсці да навукі сапраўднай, той, «якая сапраўды заслугоўвала-б тае павагі, якой цяпер вымагаюць сабе людзі адной, найменш важнай, галіны навукі.—Даведацца, як трэба і як нельга наладзіць сумеснае жыццё людзей, як наладзіць родавыя адносіны, як выхаваць людзей, як карыстацца зямлёю, як урабляць яму самому, не прыгнятаючы другіх людзей, як адносіцца да чужаземцаў, як адносіцца да жывёлы і шмат чаго другога, важнага ў жыцці людзей».

Талстой не разумеў, што тая самая навука, якую ён называў *адзінай сапраўднай*, якая паказвае, як надыйдзе новы грамадскі ўклад жыцця, пры якім не будзе ні страшэннай смяротнасці сярод дзяцей, ні прастытуцыі, сіфілісу, ні выраджэння цэлых пакаленняў і класавага забойства чалавека,—што гэта навука да яго часу ўжо нарадзілася ў выглядзе той навуковай магутнай тэорыі, імя якой марксізм і якую Талстой кінуў, як непатрэбнае рыззё ў кучу псеўданавуковых тэорый. Марксізму, гэтаму чорназёму навуковае думкі, адзінай глебе, на якой ужо ў часы Талстога магчыма было толькі рабіць карысную працу ў галіне даследванняў аб грамадскім чалавеку,—Талстой проціставіў набожную веру ў тое, што «сапраўднай навукай можа быць і будзе толькі тая навука, у аснову якой будзе пакладзена рэлігійна-маральнае вучэнне аб душы чалавека, аб богу і маральнасці»...

Як бесканечна далёка гэта агульна-метафізічнае адмаўленне навукі ідэолагам патрыархальнага сялянства ад канкрэтна-дыялектычнага падыходу да яе з боку ідэолагаў рэволюцыйнага пролетарыята. Маркс і Энгельс, Ленін і Сталін паказалі, што навука павінна быць рабочым класам *адваявана* ў паразітаў, крытычна асвоена і пастаўлена на службу барацьбе за соцыялізм. Талстоўскія адносіны да навукі збіваюцца на фарс утапічнага «непрыятия» яе, прасякнуты рэакцыйнай пагардлівасцю да навукі і незразуменнем яе вызваленчай ролі.

Талстой правільна убачыў прыгонніцкі характар і эксплаататарскую службу навукі ва ўмовах капіталізма, але ён не зразумеў яе сапраўднай

вялікай рэвалюцыйнай ролі,—ролі аб якой тав. Сталін гаварыў на Ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў:

> «Навука таму і называецца навукай, што яна не прызнае фетышаў, не баіцца падняць руку на аджыўшае старое і чула прыслухоўваецца да голасу вопыту практыкі».

Мо' нікому не пашанцавала так, як Талстому, абмаляваць той нікчэмны і ганебны стан, у якім знаходзіцца мастацтва пры капіталістычным ладзе,—ладзе, што з твораў мастацтва робяць «пацеху, якой у такой вялізнай колькасці займаецца армія прафесіянальных мастакоў». Жыць так,— пісаў Талстой у сваім вядомым артыкуле «Што такое мастацтва»,—як жывуць багатыя гультаі, асабліва жанчыны, далёка ад прыроды, ад жывёлы, у штучных умовах, з атрафіраванымі, або ненатуральна-развітымі гімнастыкай мускуламі і аслабленай энергіяй жыцця нельга было-б, каб не было таго, што называецца мастацтвам, не было-б тае забавы, пацехі, якая хавае ад вачэй гэтых людзей бяссэнснасць іхняга жыцця, ратуе іх ад стомнай нуды. Адбярэце ад усіх гэтых людзей тэатры, канцэрты, выстаўкі, ігру на фортэп'янах, рамансы, раманы, якімі яны займаюцца, упэўненыя, што занятак гэты ёсць вельмі далікатны, эстэтычны і таму добры занятак, адбярэце ад мецэнатаў мастацтва, якія купляюць карціны, апякуюцца над музыкамі, маюць сувязь з пісьменнікамі, іхнюю ролю пратэктараў важнае справы мастацтва, і яны не будуць мець магчымасці жыць далей і ўсе загінуць ад нуды, маркоты, бо ўразумеюць бяссэнснасць і незаконнасць свайго жыцця» *).

Такім чынам Талстой бачыць адзіную грамадскую функцыю мастацтва ў тым, каб *забаўляць* і *асалоджваць* гультаёў-эксплаататараў. З вялікім сарказмам адбівае ён оперныя пастаноўкі з іх глупымі касцюмамі, бяссэнсным маханнем рук, чувственнымі гірляндамі жанчын, з процінатуральным вывёртваннем членаў, з тошнатворнымі рэчытатывамі...

Талстой уяўляў сабе мастацтва прадуктам выключна класавага, эксплаататарскага грамадства. Ён пераконваў, што наша дасціплае мастацтва магло ўзнікнуць толькі на рабстве народных мас і можа працягвацца толькі да таго часу, пакуль будзе гэтае рабства,—толькі пры ўмове напружанай працы—пісьменнікі, музыкі, танцоры, акторы могуць даходзіць да той утончанай ступені дасканаласці, да якой яны даходзяць... Вызваліце рабоў капітала і нельга будзе праводзіць такога ўтанчонага мастацтва» **).

Як і навуку, Талстой мысліць мастацтва выключна ў рамках капіталістычнага грамадства, ва ўмовах панавання буржуазіі. Ён праклінае, ускрывае і кляйміць гэтае мастацтва, усалоджваючае гультаёў. Але адзінае, што ён можа проціставіць яму—гэта прымітыўнае мастацтва першабытнасці, мастацтва поўдзікіх паляўнічых і пастухоў. Як вядома супроць «задзіраючых сюжэтаў» Золя або Ібсена, «Гамлета ў выкананні Россі», «сто першай санаты Бетховена», іншых відаў «другога мастацтва» Талстой аддаваў перавагу паляўнічай пантаміме вогулаў.

Такім чынам і тут мы сутыкаемся з дзіўнай метафізічнай слепатой Талстога, якая не дазволіла яму ўбачыць, *што* нясе соцыялізм мастацтву. Талстой не зразумеў таго, што ведалі заснавальнікі навуковага комунізма: таго, што мастацтва і навука ў соцыялістычным грамадстве будуць у адзінстве з працай, што з сродка закабалення мас і забавы паразітаў

*) Лев Толстой, полн. собр. соч., М., 1913, т. XIX, стр. 116.

**) Там жа, стр. 49.

яна ператварыцца ў сродак стварэння новага прыгожага жыцця, што сваімі творчымі талантамі, увасобленымі ў лініі і гукі, у паэмы і ізваянні, майстры мастацтва будуць адчыняць перад мільённымі масамі новыя крыніцы радасці, натхнення, эмоцыі, што яны будуць рабіць чалавека многагранным і поўнацэнным. Усё гэта мы ўжо сёння бачым на гістарычным прыкладзе Совецкага Саюза. Гэта даўно прадбачылі геніяльныя творцы марксізма-ленінізма. Гэтага не зразумеў геніяльны мастак, які знаходзіўся ў палоне прымітыўнай сялянскай ідэалогіі, містычнай і метафізічнай.

Ужо таго, што мы казалі аб Талстым, дастаткова, каб убачыць, як раздвоен ён быў, якія крыклівыя супярэчнасці раздзіралі яго думку, яго творчасць.

Напомню толькі класічную характарыстыку гэтых супярэчнасцей, дадзеных Леніным у яго артыкуле «Лев Толстой как зеркало русской революции»:

«С одной стороны, гениальный художник, давший не только несравненные картины русской жизни, но и первоклассные произведения мировой литературы. С другой стороны—помещик, бодрствующий во Христе. С одной стороны—замечательно сильный, непосредственный и искренний протест против общественной лжи и фальши,—с другой стороны «толстовец», т. е. истасканный, истеричный хлюпик, называемый русским интеллигентом, который публично, бия себя в грудь, говорит: я скверный, я гадкий, но я занимаюсь нравственным самоусовершенствованием, я не кушаю больше мяса и питаюсь теперь рисовыми котлетами.

С одной стороны, беспощадная критика капиталистической эксплоатации, разоблачение правительственных насилий, комедии суда и государственного управления, вскрытие всей глубины противоречий между ростом богатства и завоеваниями цивилизации и ростом нищеты, одичалости и мучений рабочих масс; с другой стороны—юродивая проповедь «непротивления злу» насилием. С одной стороны, самый трезвый реализм, срывание всех и всяческих масок;—с другой стороны—проповедь одной из самых гнусных вещей, какие только есть на свете, именно: религии, стремление поставить на место попов по казенной должности, попов по нравственному убеждению, т. е. культивирование самой утонченной и потому особенно омерзительной поповщины»*).

З геніяльнай прастатой і яснасцю Ленін ускрыў супярэчнасць Талстога, агаліў яе карэнні, паказаў, што яна не з'яўляецца прадуктам асабістых асаблівасцей Талстога, што яна абумоўлена *не* якімі-небудзь яго індывідуальнымі ўласцівасцямі, *а* з'яўляецца адлюстраваннем жыццёвых умоў тых мільённых сялянскіх мас, выказнікам настрояў якіх стаў Талстой, адбівае супярэчлівасць расійскай гістарычнай рачаіснасці перадрэволюцыйнай эпохі.

«Великое народное море, взволновавшееся до самых глубин, со всеми своими слабостями и всеми сильными своими сторонами отразилось в учении Толстого» **).

Талстой па майстэрску адлюстроўваў ненавісць сялянства к царызму, памешчыцка-капіталістычнаму рэжыму, народны пратэст супроць прыгнечання, яго рэволюцыйны імпэт, пераплецяны з палітычнай несвядо-

*) Ленін, зб. тв., т. XII, сатр. 332.
**) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 407.

масцю, абмежаванасцю, баязлівасцю «хозяйственного мужичка» і рэзанерскай марнасцю. У гэтым сэнсе Владзімір Ільіч і гаварыў аб Талстым, як аб люстры рускай рэволюцыі:

> «Толстой поразительно рельефно воплотил в своих произведениях и как художник, и как мыслитель и проповедник, черты исторического своеобразия всей первой русской революции, ее силу и ее слабость *).

Супярэчлівасць талстоўскай творчасці ўплывала і на супярэчлівую гістарычную роль, якую адыгрываў Талстой.

Мастацкі геній Талстога даваў яму поўную магчымасць непараўнальна маляваць ва ўсёй яго нагаце быт царскай Расіі і тым самым абуджаць нянавісць да гэтага быту. Тыя старонкі, на якіх Талстой апавядаў аб экзекуцыях, карах смерцю, дзе ён казаў аб паразітызме пануючых, дзе ён маляваў трагічную камедыю суда, дзе ён даваў вобразы чыноўнікаў, тупых і самаўпэўненых палкаводцаў, самаўлюблёных інтэлігентаў,— гэтыя старонкі ва ўмовах царскай Расіі *мімаволі* Талстога або, больш праўдзіва, супроць яго волі, гралі ролю самых лепшых рэволюцыйных пракламацый. Гэтыя старонкі ў той час, калі Талстой навучае не пярэчыць злу, гвалтам, абуджае ў чытача адваротнае імкненне проціпаставіць рэакцыйнаму гвалту рэволюцыйную сілу.

Мастак Талстой вельмі часта быў няўмысным, але магутным агітатарам, які заклікаў да барацьбы з рэжымам уціску, зніштажэння і прыдушэння чалавечае асобы. Але філосаф Талстой, мараліст Талстой да гэтай барацьбы не толькі не заклікаў, але і сурова ганьбіў. «Не магу маўчаць», казаў Талстой, «бачучы тое, што робіцца наўкола». Але не ўмеўшы і не хацеўшы маўчаць, ён утапічна верыў у тое, што «царства д'ябла» будзе пераможана яго рэлігійна-аскетычным вучэннем. Ён з гэтымі навучаннямі звяртаўся да ўсіх, аж да Александра III і Пятра Сталыпіна, да якіх пісаў вялізныя лісты, поўныя евангельскіх угавораў. Аб Талстым апавядае, што аднойчы, заўважыўшы, як у цэнтры Масквы гарадавы цягнуў за каўнер 12-гадовую дзяўчынку, якая адбівалася ад яго, Леў Нікалаевіч падышоў да гарадавога і запытаўся ў яго: «Што ты робіш? Ты, братка, чытаў евангелле?» Гарадавы зірнуў на яго з пагардай, ды адказаў: «А ты, братка, чытаў інструкцыю Маскоўскім гарадавым?»

Утапізм Талстога выяўляўся ў тым, што ён думаў, нібы «інструкцыя гарадавым» згіне ў выніку апеляцыі да боскай маралі.

Калі адносна шмат якіх мастацкіх твораў Талстога трэба сказаць, што яны мелі рэволюцыйнае значэнне, дык прасякнутыя метафізікай яго філасофскія развагі, супроць волі Талстога, нібы як кпіны над Талстым, з'яўляліся карыснымі той самай рэакцыі, супроць якой Талстой абураўся.

Для царскіх дзяржымордаў Талстой быў рэлігійным навучальнікам, рэзонерам, на прыкрыя напамінанні якога аб евангеллі магчыма было адказаць вокрыкам аб «інструкцыі гарадавым». Сталыпіны і Маклаковы, да якіх Талстой адрасаваў свае лісты, як да «возлюбленных братьев во Христе», якім ён казаў, што сорам вешаць і нядобра катаваць, адносіліся да гэтых абвінавачванняў зусім так, як крылоўскія ваські: Ваські контррэволюцыі слухалі і каталі... Паколькі-ж талстоўская пропаведзь не супраціўляцца злу насіллям даходзіла да чулай успрыймальнай моладзі, яна ліла ваду на млын рэакцыі. Яна схіляла моладзь да таго, што

*) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 400.

пытанні соцыяльнае перабудовы грамадства будуць развязаны толькі шляхам маральнага самаўдасканалення. Такім чынам, моладзь навучалася не ісці на шлях актыўнай рэволюцыйнай барацьбы з грамадскім злом, а спадзявалася перамагчы гэтае зло уцёкшы ад жыццёвага паскудства.

Ёсць карціна, не памятаю мастака, чыя яна, якая завецца «Видение Толстого». На ёй намалёваны 80-гадовы дзядок, слабы, недужы, прыгнечаны гадамі, цяжкімі думкамі і пакутай. Наўкола гэтага дзядочка—здань: павешаны селянін, труп якога целяпаецца на папярэчыне; азвярэлы казак, які падняў нагайку над галавой безабароннае жанчыны; галодныя дзеці з уздутымі жывоцікамі—іх шмат, зданяў, наўкола маленькага беспараднага дзядочка, які ў цяжкім раздуммі бяссільна схіліў галаву...

Гэтая карціна нібы ілюструе беспараднасць Талстога, яго бяссілле што-небудзь змяніць у акаляючым яго свеце панавання капітала і прыгнечання мас, свеце жорсткай класавай барацьбы, яго поўную разгубленасць перад аблічцам суровай сучаснасці, звярыны твар якое ён так хваравіта адчуваў, так геніяльна маляваў, і так па дзіцячаму наіўна, так ўтапічна спадзяваўся яго змяніць.

Талстой—вялікі утапіст, які марыў аб вызваленым з нявол і вольным чалавецтве. Ён не знайшоў гістарычнага шляху, які вядзе да гэтага ідэалу. Ён блукаў па пустыні рэакцыйных утопій, метафізікі, рэлігійнасці. У гэтай пустыні ён загінуў;—далёка ад таго шляху, якога напружана шукаў. Але гэта не шлях Талстоўскага самапалепшання і грамадскай пасіўнасці, а цяжкі, цярністы, і пераможны шлях бязлітаснай класавай барацьбы, соцыялістычнай рэволюцыі, пролетарскай дыктатуры і пабудовы бескласавага соцыялістычнага грамадства. Той шлях не Льва Нікалаевіча Талстога, а шлях Маркса—Энгельса—Леніна, па якому цяпер вядзе працоўнае чалавецтва Іосіф Вісарыонавіч СТАЛІН.

Гісторыя паказала, што гэта адзіны шлях знішчэння той галечы мас, іх галадання і жабрацтва, беспрацоўя і паўперызма, супроць якіх змагаўся Талстой.

«Наша пролетарская рэволюцыя,—кажа тав. СТАЛІН на нарадзе стаханаўцаў,—з'яўляецца адзінай у свеце рэволюцыяй, якой давялося паказаць народу не толькі свае палітычныя рэзультаты, але і рэзультаты матэрыяльныя... Характэрная асаблівасць нашай рэволюцыі заключаецца ў тым, што яна дала народу не толькі свабоду, але і матэрыяльныя блага, але і магчымасць заможнага і культурнага жыцця».

Верны ленінскім заветам аб культурнай спадчыне, совецкі пролетарыят авалодвае гэтай спадчынай і крытычна асвайвае яе. Мы ведаем, які складаны працэс гэтага асваення, як небяспечна і шкодна левацкае адкідванне культурнай спадчыны мінулых эпох або некрытычнае капітулянцтва перад ёй, якая тонкая дыялектыка патрабуецца гэтым працэсам.

Асаблівая тонкасць, асобнае ўменне ў карыстанні марксісцка-ленінскай дыялектыкай патрабуецца ў падыходзе да вялікай культурнай спадчыны такога супярэчлівага мысліцеля, як Леў Талстой.

Нельга механічна разразаць Талстога на мастака і філосафа, ізаліруючы аднаго ад другога, тут бачучы суцэльную рэволюцыйнасць, там суцэльную рэакцыйнасць. У сапраўднасці шмат *мастацкіх* вобразаў Талстога пакалечаны яго *маральнай* тэндэнцыяй, пастаўлены ёй на службу і абяскроўлены. У той жа час некаторыя філасофска-публіцыстычныя творы Талстога даюць яркую крытыку капіталістычнага ладу, страстнае абвінавачванне класавага грамадства. Але таго і іншага нельга, вядома, і перабльітваць або атоесамляць. Трэба адрозніваць магутнасць мастацкага генія Талстога і яго філасофскае бяссілле, прагрэсіўнасць яго мастацкай

творчасці і рэакцыйнасць яго светапогляду. Усё гэта трэба браць у тым дыялектычным адзінстве, якому вучыць сваімі артыкуламі аб Талстым ЛЕНІН,—разбіраючыся ў складаным перапляценні станоўчых і адмоўных, рэволюцыйных і рэакцыйных момантаў у Талстога, умеючы знаходзіць у мастацкіх вобразах і ў філасофскай пропаведзі Талстога адлюстраванне дыялектыкі мінуўшай гістарычнай рэчаіснасці з усімі яе жыццёвымі супярэчнасцямі.

Гаворачы аб асваенні совецкім пролетарыятам гіганцкай культурнай спадчыны Тастога, мы маем на ўвазе яго мастацкую скарбніцу. Філасофска-публіцістычныя творы Талстога маюць для нас гістарычную, даследчую каштоўнасць. Іх рэакцыйна-ўтапічны бок нам шкодзен і варожы. Тое, што было у іх для свайго часу прагрэсіўнага, ішоўшага па лініі крытыкі капіталізма, для нас з'яўляецца ўстарэлым і непераканаўчым—занадта вялікая гістарычная дыстанцыя адлучае нас ад эпохі, калі гэта пісалася, занадта далёка унёс нас лакаматыў пролетарскай рэволюцыі ад часоў Талстога.

Але у мастацкай спадчыне Талстога совецкі пролетарыят можа і будзе знаходзіць невычарпальную крыніцу культурнага ўзбагачэння, эстэтычных асалод і радасных эмоцый.

Асаблівай рысай твораў Талстога з'яўляецца іх мастацкі рэалізм. Рознастайнасць жыцця, якую адлюстроўвае Талстой; людзі, якіх ён выводзіць, прырода, якую ён апісвае,—усё гэта настолькі рэалістычна, настолькі праўдзіва, што толькі вельмі нямногіх майстраў мастацкага слова можна ў гэтых адносінах, параўнаць з Талстым—Бальзак, Гётэ, Стэндаль, яшчэ 2—3 імёны і ўсё. Чалавек, якога адлюстроўвае Талстой, *жыве* на старонках яго раманаў—вы ўяўляеце сабе яго знадворны выгляд, адчуваеце яго голас, бачыце яго касцюм, ведаеце яго паходку, усё гэта дадзена з такой вобразнай сілай, што ён робіцца вашым добрым знаёмым. Талстой адлюстроўвае сваіх герояў так праўдзіва, так рэльефна, так «пластычна», што, як выразіўся Максім Горкі, іх часта хочацца «крануць рукою». І таму дзесятак год пасля чытання талстоўскага твору вам здаецца, што вы прысутнічалі пры зборах Наташы Растовай на бал, што вы чулі, як заікаецца Акім з «Власти тьмы», што вы бачылі крывавую спіну катуемага салдатататарына з «После бала», што вы гутарылі з князем Нехлюдавым з «Воскресенья» і сядзелі ў смяротнага адра Івана Ільіча.

Глыбокі і тонкі псіхалагічны аналіз, пазбаўлены ўсякага «душевного ковыряния», дазваляе Талстому дасягнуць такой рэалістычнай сілы, так паказаць унутраны мір яго герояў, іх гора і радасць, іх шчасце і няўдачы, што чытач аказваецца ў палоне іх страсцей. Ён хвалюецца разам з Аннай Карэнінай, марыць разам з Андрэем Балконскім, гаруе разам з Кацюшай Маславай,—негадуе разам з Федарам Пратасовым.

Часамі бывае дастаткова двух—трох рысаў геніяльнага майстра, каб стварыць незабываемы мастацкі вобраз, як напр., прыдуркаватай купецкай дачкі з «Отца Сергия» або Машы з «Живого трупа».

Глыбокі рэалізм Талстога не вычэрпваецца адлюстраваннем людзей. Талстоўскае адлюстраванне прыроды не мае сабе роўных у сусветнай літаратуры. Прырода, па выражэнню Пляханава, не *апісваецца*, а *жыве* ў Талстога. Хто з мастакоў змог так адлюстраваць блакіт бясконцага неба, белыя грамады снежных гор і іх ружаватыя вяршыны, зеляніну лугоў і шум леса так, як гэта рабіў Леў Талстой—мастак, які меў права гаварыць аб сабе, што «красота через глаза вливалась мне в душу».

Нарэшце, талстоўскі рэалізм у адлюстраванні рэчаў, прадметаў быта, вопраткі—ад белых дымкавых сукенак на розавых шоўкавых чэх-

лах з разанамі ў карсажы, у якіх выязджалі на бал маладыя графіні Растовы ў «Войне и мире» да чырвонай паневы сялянкі Сцяпаніды з «Дьявола»...

Талстоўскі мастацкі рэалізм можа быць шмат чым карысны нашай совецкай літаратуры, паспяхова рэалізуючай высунуты тав. СТАЛІНЫМ лозунг соцыялістычнага рэалізма, шмат чаго тут могуць «асвоіць», вядома, крытычна нашы совецкія пісьменнікі.

Пры гэтым, вядома, нельга забываць таго, што Талстоўскі рэалізм быў аднабокім, так сказаць ушчэмленым, што з яго аб'ектаў выпадаў рабочы клас, выпадалі класава-варожыя і незразумелыя Талстому групы. Соцыялістычны-ж рэалізм, даючы ўсебаковы ахоп рэчаіснасці, павінен сістэматычна раскрываць асноўныя працэсы эпохі.

Талстой—непараўнальны майстар масавых сцэн. Яго мастацкі геній з дзіўнай магутнасцю валодае агромнымі людскімі масамі, паказвае развароты калектываў, рух тысяч, дынаміку талпы, рытм людскога зборышча. Дастаткова напомніць паляванне Растовых, святочнае катанне, бітву пры Аўстэрліцы, самасуд над Верашчагіным, паніку ў Аўсгецкай плацінь ў «Войне и мире», сцэну уборкі сена ў «Анне Карениной» і інш., і інш.

Талстой стварыў вялічэзныя літаратурныя помнікі расійскай памешчыцка-капіталістычнай поўпрыгонніцкай дзяржавы ў *па*рэформенную і *да*рэволюцыйную эпоху. Ён даў таксама непараўнальныя карціны гэтай эпохі, стварыў такую выдатную галерэю тыповых для яе персанажаў, так ярка адлюстраваў яе паліцэйска-чыноўніцкі апарат, так верна перадаў настроі яе прыгнечаных мас, што ўсім гэтым па ацэнцы Леніна, быў зроблен «крок наперад у мастацкім развіцці ўсяго чалавецтва» *). Калі Энгельс у свой час указваў, што творы Бальзака далі яму для зразумення французскай гісторыі эпохі 16—48 гадоў больш, чым кнігі ўсіх прафесіянальных гісторыкаў, эканамістаў і статыстыкаў гэтага перыяда, разам узятых, то і адносна мастацкіх твораў Талстога можна сказаць, што яны даюць для зразумення дарэволюцыйнай эпохі ў Расіі больш многіх спецыяльных даследванняў.

Майстэрства мастацкай формы дасягае ў Талстога вялізарных вяршын. Мова і стыль яго твораў з'яўляюцца класічнымі ў лепшым сэнсе слова. Чыстата і вобразнасць талстоўскай рэчы, яго простая і сакавітая мова з'яўляюцца беспрыкладнымі. І не дарма Максім Горкі ў сваёй несупыннай барацьбе за культуру мовы, за чыстату мовы выстаўляе ў якасці ўзора, па якому належыць раўняцца, іменна Талстога. У злічэнні з поўнасочнымі жывымі вобразамі мова Талстога прыдае яго творам асобную мастацкую дзейснасць. Незабываемы таму велічавы эпос «Войны и мира» и «Анны Карениной», натуральная безштучнасць «Севастопольских рассказов» і «Холстомера», адчувальная выразнасць «Смерти Ивана Ильича» и «Хаджи Мурата», чароўная праўдзівасць «После бала», паўнакроўная жыццёвасць «Дьявола», мастацкая магутнасць дзесяткаў іншых твораў Талстога.

Вялікі мастацкі геній Талстога. Я хочу прывесці тут эпізод, які паказвае як цаніў яго Ленін. Горкі неяк прышоў да Леніна ў Крэмль. На стале Ільіча ляжаў том «Войны и мира»:

— Да, Толстой! Захотелось прочитать сцену охоты, да, вот, вспомнил, что надо написать товарищу...

Усміхаючыся, прыжмурыўшы вочы, ён з асалодай выцягнуўся ў крэсле і, панізіўшы голас, хутка працягваў:

---

*) Ленін, зб. тв., т. XIV, стар. 400.

— Какая глыба, а? Какой матёрый человечище! Вот это, батенька, художник...

Потым, гледзячы на мяне прыжмуранымі вачамі, запытаўся:

— Кого в Европе можно поставить рядом с ним?

Сам сабе адказаў:

— Нікога.

І, паціраючы рукі, засмяяўся задаволены *).

Вучыцца трэба ў Талстога ўменню працаваць—культуры працы. Ёсць людзі, якія думаюць, што можна стаць вучоным або пісьменнікам толькі адной дапамогай таленту і натхнення. Гэта шкодная думка пагубіла не аднаго здольнага пачынаючага работніка. Дараванні і здольнасці—неабходная прадпасылка. Патрэбна к ім яшчэ праца ўпартая, неспынная. У Талстога ёсць чаму павучыцца ў гэтых адносінах. Справа не толькі ў тым, што ён пакінуў 95 тамоў літаратурнай спадчыны. Але важней, што 7 разоў была перапісана Анна Карэніна, што ён творы свае прапускаў праз 5—10—15 рэдакцый, што рукапісы аднаго «Воскресенья»—планы, варыянты, наброскі і інш. займаюць цэлы куфар.

Аддаючы должнае мастацкаму генію Талстога, заклікаючы вучыцца ў яго мастацтву афармлення, культуры слова, тэхніцы майстэрства, мы ў той жа час не павінны забываць і той небяспекі, якая таіцца ў мастацкай магутнасці Талстога.

«Як у балагане выскаквае на двор паяц і паказвае розныя фокусы для таго, каб прыцягнуць публіку ўнутр, дзе сапраўдны паказ, так і мае мастацкія творы адыгрываюць такую-ж ролю: яны прыцягваюць увагу да маіх сур'ёзных рэчаў» **). Так казаў аднойчы Талстой, разумеючы пад «сур'ёзнымі рэчамі» свае філасофскія творы і наўмысна зменшаючы кошт сваёй мастацкай творчасці. Мастацкі геній Талстога не «паяц», зусім не «паяц». Але Талстой быў правы ў гэтых адносінах: чары талстоўскага майстэрства часамі ствараюць небяспеку некрытычных адносін да яго твораў, небяспеку агульнага бязумоўнага прыняцця «усяго» Талстога; гэта значыць захаплення яго рэакцыйна-утапічнымі філасофскімі ідэямі. Аб гэтай небяспецы нельга забываць.

Вядома, гэта небяспека не з'яўляецца грознай. Ужо першая рэвалюцыя 1905 г. прынесла гістарычны канец талстоўшчыне, пазбавіла яе харчовых крыніц. Далейшы ход рэвалюцыі, перарастанне яе з буржуазна-дэмакратычнай у соцыялістычную цалкам апраўдала славутае прадбачанне Леніна аб тым, што

> «не толькі соцыялістычны пролетарыят, але і дэмакратычныя масы сялянства будуць няўхільна высоўваць усё больш загартаваных барацьбітоў, усё менш здольных упадаць у наш гістарычны грэх талстоўшчыны ***).

Вялікая пролетарская рэволюцыя і пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва пазбавілі таўстоўшчыну соцыяльнай глебы—народныя масы з усёй відавочнасцю ўбачылі, на практыцы пераканаліся, што шлях соцыялістычнай рэволюцыі і пролетарскай дыктатуры—адзіны шлях іх вызвалення, на вопыце пазналі, які утапічны і рэакцыйны шлях, які прапаноўваў ім Талстой.

---

*) М. Горький. В. И. Ленин, Гихл. 1931, стр. 40.

**) Н. И. Гусев. Два года с Л. Н. Толстым. Труды толстовск. музея., М. 1928, стр. 284.

***) Ленін, зб. тв., том XII, стар. 335.

Аднак, гэта не значыць, што розныя класава-варожыя элементы не могуць скарыстоўваць філасофскія і этычныя ідэі Талстога ў сваіх контррэволюцыйных мэтах. Наадварот, мы маем гэтаму яркі прыклад у дзейнасці розных антысовецкіх талстоўскіх сект, узнікаўшых ужо ў гады рэволюцыі. Талстоўская этыка, яе своеасаблівы анарха-пацыфізм часткова адыгрывалі прагрэсіўную, праўда вельмі абмежаваную, ролю, калі іх вастрыё было накіравана супроць панаваўшага памешчыцка-капіталістычнага ладу. Але ў совецкіх умовах гэтае вастрыё накіроўваецца супроць дыктатуры пролетарыята і значыць яе роля робіцца контррэволюцыйнай.

У сучасны момант, калі азлобленыя рэшткі класавага ворага спрабуюць падарваць справу соцыялізма, і калі ад нас патрабуецца павышаная рэволюцыйная пільнасць, асабліва злобаднеўнымі з'яўляюцца паказанні тав. Леніна аб той вялікай шкодзе, якую можа прынесці ўсякая спроба ідэалізацыі вучэння Талстога.

Гэтае вучэнне прывівае масам якасці, не толькі чужыя, але і варожыя совецкаму грамадзяніну, будаўніку соцыялізма. Нам патрэбны цвярозы, навуковы матэрыялістычны светапогляд.

Талстой прапаведвае містычны, рэлігійна-этычны погляд на свет.

Нам патрэбны яснасць мэты, цвёрдасць характара, настойлівасць, творчая актыўнасць.

Талстой прапаведвае туманныя ідэалы «царствия божия внутри нас», бяздзейнасць, лятуценную пасіўнасць, рабскую пакорлівасць лёсу.

Нам патрэбна непрымірымая рэволюцыйная ненавісць да класавага ворага, да капіталіста, да фашыста.

Талстой прапаведвае метафізічную любоў к бліжняму і евангельскую гатоўнасць падставіць левую шчаку, калі б'юць у правую.

Нам патрэбна моцная стальная пролетарская дыктатура, ахоўваючая соцыялістычнае грамадства.

Талстой прапаведвае рэакцыйны анархізм, рэлігійнае братэрства, непрацiўленства...

Вось—непрымірымая варожасць вучэння Талстога нашай ідэалогіі—навуковай і ўсесільнай тэорыі марксізма-ленінізма.

* * *

25 год аддзяляе нас ад смерці Талстога—гістарычна мізэрны працяг часу, які не дасягае трэцяй часткі таўстоўскага жыцця. Але як фантастычна-грандыёзна, як неперадаваема змянілася за гэты час жыццё краіны, дзе нарадзіўся, працаваў і памёр Талстой, як змяніўся яе твар!..

На яе абшарах не палююць больш графы Растовы, не меняюць дваравых на чырвонапегіх сабак Ілагіны, не рэзанерствуюць Нехлюдавы, не наладжваюць крывавых экзекуцый Іваны Васільевічы і не юродствуюць Касацкія.

Тыя дзесяткі тысяч цэркваў, у якіх чорная рать праваслаўных папоў, гэтых жандараў у расах, праклінала Талстога, прэдаючы яго імя «анафеме»,—цяпер пертвораны ў дамы соцыялістычнай культуры, клубы, таэтры і бібліатэкі. У іх масы чытаюць мастацкія тварэнні Талстога.

На гэтых абшарах кіпіць, бурліць, пераліваецца праз край новае чароўнае, радаснае жыццё вызваленых мільёнаў.

Яго твораць не «блаженные мужички», не Платон Каратаеў, не Акім, не Алеша Гаршон, а будаўнікі совецкіх калгасаў, майстры калгасных палёў, героі высокай ураджайнасці Дземчэнкі і Гнаценкі. Сяляне-калгаснікі атрымалі на вечнае карыстанне зямлю не па талстоўскім рэцептам, а па сталінскаму статуту.

У краіне перамог соцыялізм—канчаткова і беспаваротна. Толькі не

той рэакцыйны, містычны, феадальны лжэ-соцыялізм, які прапаведваў Талстой, а сапраўды, вызваляючы чалавецтва, маркса-ленінскі навуковы соцыялізм. Яго будуюць пад мудрым кіраўніцтвам гераічнай партыі Леніна—Сталіна, той самы рабочы клас, да якога з такой халоднай варожасцю адносіўся яснапалянскі граф Талстой, адлюстроўваў яго ў вобразе распусных хлапцоў, тупых фанатыкаў, азлобленых масцеравых, п'яных фабрычных»... На тыя карыкатуры Неустроевых і Прахожых, у якія Талстой увасабляў пролетараў, гісторыя адказала імёнамі Івана Бабушкіна, Васіля Молакава, Алексея Стаханава, першага маршала Совецкага союза Кліма Варашылава, тысячамі іншых пролетараў—герояў і пачынальнікаў новага, раней невядомага чалавецтву, жыцця.

Магутны ўздым стаханаўскага руху лішні раз паказаў, якія гіганцкія запасы творчай энергіі, сілы, вынаходства, настойлівасці, свядомасці і героізму таяцца ў гэтым незразумелым для Талстога класе.

Талстой, як ідэолаг адсталага класа, не зразумеў пролетарыята і яго гістарычнай ролі. Але толькі пролетарыят, як самы перадавы і рэволюцыйны клас чалавецтва, можа правільна ацаніць гістарычнае месца Льва Талстога, крытычна разабрацца ў яго культурнай спадчыне, адкінуць у ёй усё гнілое і рэакцыйнае, асвоіць жывое і станоўчае.

Пры жыцці Талстога, мастацкія творы Л. Н. былі здабыткам таго тонкага грамадскага ладу нашай краіны, той адукаванай меншасці, якая ва ўмовах капіталізма адна толькі мела доступ да крыніц культуры. Ленін таму недарма падкрэсліваў, што для таго «каб зрабіць яго вялікія творы сапраўды здабыткам *усіх*, патрэбна барацьба і барацьба супроць такога грамадскага ладу, які асудзіў мільёны і дзесяткі мільёнаў на цемру, забітасць, катаржную працу і галечу, патрэбен соцыялістычны пераварот». Разам з тым В. І. указваў, што вызваленыя ад капіталістычнага прыгнечанныя масы будуць заўсёды цаніць і чытаць мастацкія творы Талстога.

Практыка нашай соцыялістычнай радзімы цалкам апраўдала гэтае прадсказанне. Талстой—адзін з самых любімых і чытаемых пісьменнікаў краіны.

Дзяржава пролетарскай дыктатуры выдае 95 томнае акадэмічнае выданне твораў Л. Н. Талстога. Яна арганізуе ўсенародныя шанаванні яго памяці.

Усё гэта таму, што пролетарыяту чуждае левацкае сектанства, што ён адчувае сябе дастаткова спелым і моцным для таго, каб не баяцца нават класава-чужых яму гігантаў гістарычнага мінулага: адсякаючы іх рэакцыйныя элементы і тэндэнцыі, ён абагашчае сябе—у выніку крытычнай перапрацоўкі,—тым вялікім і рэволюцыйным, што маецца ў іх культурнай спадчыне.

Тут у наяўнасці вялізарная розніца паміж адносінамі да культурнай спадчыны мінулых стагоддзяў маладога, узнімаючагася, рэволюцыйнага пролетарыята і старэчай, аджыўшай свае гады, рэакцыйнай буржуазіі. Баючыся сваёй уласнай цені, буржуазія адмаўляецца ад уласных сыноў, якіх нарадзіла ў гады сваёй гістарычнай маладосці і прагрэсіўнасці. Яна топча ў граз іх імёны і ратуецца ў абдымках сярэдневяковых варвараў і містыкаў. Яна выдае культуру на паток і рабунак фашысцкім бандам, якія пад вясёлыя спевы гімна сутэнеру Хорсту Весселю, паляць лепшыя творы вялікіх чалавечаскіх розумаў.

Для характарыстыкі адносін да культуры двух класаў мне здаецца вельмі характэрным факт, апублікаваны ў друку ў дні талстоўскага юбілея.

У 1919, у адзін з самых напружаных момантаў грамадзянскай вайны, калі дзенікінская армія набліжалася да Тулы, прэзідыум ВЦВК, побач з самымі вострымі пытаннямі абароны краіны, абгаварваў пытанне аб лёсу Яснай Паляны, якая можа быць знішчана ў час надыходзячых баёў. У пратаколе прэзідыума ВЦВК РСФСР № 61, кастрычнік 1919, запісана пастанова—звярнуць увагу Рэввоенсовета на неабходнасць прыняць меры да аховы гэтага помніка жыцця Талстога. На другі-ж дзень Рэввоенсовет вывеў з Яснай Паляны расквартыраваны там кавалерыйскі атрад і прапанаваў белагвардзейскаму камандаванню выключыць Ясную Паляну з карты ваенных дзеянняў. Адказа ад дзенікінцаў не было. А ў той жа час віднейшы ідэолаг белагвардзейшчыны Шульгін публікуе артыкул «Смертная казнь», у якой даказвае, што Расія гібне з-за лібералізма царскага ўрада, які не знішчыў твораў Талстога, якія атручваюць масы антыўрадавай прапагандай.

У заключэнне я хацеў-бы яшчэ адзначыць наступнае значэнне нашага юбілея.

Шанаванне памяці Талстога, якое адбываецца за гэтыя дні ў Савецкім Саюзе, акрамя ўсяго іншага паказальна і для таржаства ў нас пралетарскага інтэрнацыяналізма.

Есць вялізарны сэнс у тым, што ўсе народы і нацыянальнасці, якіх вызваліў Кастрычнік і якім ленінска-сталінская нацыянальная палітыка прынесла ўсебаковы росквіт, што гэтыя нацыянальнасці шануюць цяпер Талстога.

Талстой—прадстаўнік дарэвалюцыйнай велікарускай культуры, але мы ведаем, што ў гэтай культуры былі дзве культуры—рабаўладальніцкая, прыгонніцкая з аднаго боку, прагрэсіўная і дэмакратычная—з другога. Талстой прадстаўляе гэтую другую.

Гэтага геніяльнага майстра рускай мастацкай літаратуры шануюць зараз дзесяткі нацыянальнасцей якія пакутвалі раней, у разбуранай пралетарыятам, царскай турме народаў. За гады рэвалюцыі Талстой у нас выдаваўся на 40 мовах, яго творчасць робіцца агульным дастаяннем народаў СССР, як ім робіцца і творчасць Тараса Шэўчэнка або Шота Руставелі.

Цяпер, калі выкарчаваны ў нашай краіне нацыянальныя прыгнечанні і нацыянальныя прывілеі, калі няма ў ёй нацыяналістычнай грызні, калі свабодна спяваюць на сваёй роднай мове Пастэрнак і Ціханаў, Сулейман Стальскі і Якуб Колас, Паола Яшвілі і Ізі Харык,—калі на ўсіх шматлікіх мовах неабсяжнай краіны гучыць адна пераможная песня соцыялізма—мы можам сказаць, што літаратурная спадчына Талстога—агульны здабытак усяго вялікага совецкага народа.

З гэтай гордай свядомасцю мы праводзім юбілей Талстога.

**— Няхай жыве той клас, які зрабіў наша жыццё такім радасным і натхняючым, які ўзняў яго на вялізарныя вяршыны культуры, які выратоўвае культурнае багацце чалавецтва з акрываўленых фашысцкіх лап азвярэла гібнучай буржуазіі.**

**Няхай жыве тая гераічная партыя, якая мудра кіравала і кіруе гэтым класам у яго гістарычнай барацьбе за сусветны соцыялізм!**

**Няхай жыве слаўны маршал неперияможнай соцыялістычнай арміі, чый творчы геній асвятляе народам шлях новага жыцця, любоў і гордасць сусветнага пролетарыята—вялікі СТАЛІН.**

М. Жук

# АПОВЕСЦЬ Я. КОЛАСА „ДРЫГВА“ Ў СВЯТЛЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА РЭАЛІЗМА

У беларускай літаратуры Якуб Колас выступіў напярэдадні рэвалюцыі 1905 года. Становішча асноўных мас сялянства, ад імя якога выступае Колас, было непамерна цяжкім. У выніку пранікнення ў сельскую гаспадарку капіталізма адбываецца распластаванне сялянства. Большасць сярэдняга сялянства паўперызуецца і папаўняе бядняцкія пласты вёскі і вясковага пролетарыята і толькі нязначная частка ператвараецца ў капіталістычныя элементы вёскі—кулацтва. Беларусь у тыя часы была ў становішчы калоніі Расійскай імперыі і таму працоўныя масы Беларусі знаходзіліся пад падвойным соцыяльным і нацыянальным уціскам.

Працэс разбурэння і паўперызацыі сялянства, яго забітае бяспраўнае становішча, яго імкненне да вызвалення ад соцыяльнага і нацыянальнага ўціску знайшлі свае мастацкае выражэнне ў творчасці беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы гэтага перыяду.

Выступаючы як рэволюцыйны сялянскі дэмакрат, Якуб Колас у сваёй творчасці адбіў ідэалы, імкненні і жаданні рэволюцыйнага сялянства, якое выступала супроць тагочаснага палітычнага ладу, супроць паноў і самаўладства за зямлю, за волю, за вырашэнне асноўных задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Хаця Колас на гэтым этапе сваёй творчасці, выступаючы ад імя ўсяго сялянства, без класавай яго дыферэнцыяцыі, і не падняўся да правільнага разумення сутнасці буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, якая магла толькі рашчысціць шлях для шырокага развіцця капіталізма, але не магла даць сапраўднага соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення, не магла знішчыць класавую няроўнасць, усё-ж зрываючы маску з самаўладства, высмейваючы сутнасць царскай канстытуцыі, выражаючы шырокую веру ў перамогу і заклікаючы да рашучай барацьбы, як адзінага сродку вызвалення, ён даў вялікую колькасць высока-мастацкіх твораў, якія выхоўвалі працоўныя масы ў духу барацьбы супроць існуючага ладу. Пад уплывам ліберальна-буржуазнай ідэалогіі „Нашай нівы“ нацыяналістычныя адценні паступова пачынаюць займаць цэнтральнае месца ў творчасці Якуба Коласа. Пасля часовага паражэння рэволюцыі, у цяжкія годы чорнай рэакцыі, замест бадзёрых матываў і закліку да барацьбы ў творчасці Якуба Коласа пераважаюць сантыменталізм, упадніцтва, пасівісцкае аплакванне цяжкага становішча селяніна. Пісьменнік пачынае гаварыць аб „адраджэнні бацькаўшчыны“ шляхам культурнай працы, ідэалізуе ўсё „роднае бела-

рускае“. Але, не гледзячы на перавагу рэакцыйных нацыяналістычных матываў, Якуб Колас і на гэтым этапе не парваў канчаткова з дэмакратычнымі коламі вёскі. У паасобных творах пісьменнік у высока-мастацкіх вобразах адлюстроўвае непрымірымасць інтарэсаў памешчыкаў і працоўных мас сялянства, выяўляе яго рэвалюцыйныя настроі і заклікае да рэвалюцыйнай барацьбы супроць панства і царызма з яго чыноўніцтвам і паліцэйшчынай. Гэтыя, хаця і паасобныя, творы сведчаць аб тым, што і ў гады чорнай рэакцыі, у гады адыходу беларускай інтэлігенцыі ў бок буржуазна-ліберальнай ідэалогіі „Нашай нівы“, Якуб Колас не страціў сувязі з працоўнымі масамі.

Уздым рэвалюцыйнага руху робіць плённы ўплыў на творчасць Якуба Коласа. З 1912 года пісьменнік усё часцей і часцей падае гучны голас пратэсту супроць соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, верыць у прыход новай вясны і заклікае быць цвёрдымі ў барацьбе.

Імперыялістычную вайну 1914 года Якуб Колас спачатку ўспрыняў, як агульна-нацыянальнае няшчасце. Але пазней ён правільна зразумеў класавую прыроду імперыялістычнай вайны і выступіў супроць катаў— сапраўдных віноўнікаў сусветнай бойні, хаця і не падняўся да разумення неабходнасці ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую.

З вялікім захапленнем пісьменнік вітае лютаўскую рэволюцыю. Якуб Колас не зразумеў яе чыста буржуазнай сутнасці, не ўсвядоміў, што толькі пролетарская рэволюцыя здольна знішчыць класавую няроўнасць і ўсякую эксплаатацыю; не бачыў, што лютаўская рэволюцыя не здольна вырашыць аграрнае і нацыянальнае пытанні. Гэтыя неправільныя погляды прывялі да таго, што Якуб Колас успрыняў Кастрычніцкую рэволюцыю, як новы нацыянальны прыгнёт.

У часы белапольскай акупацыі Якуб Колас—у палоне буржуазнага нацыяналізма. Моцна трымаецца ён на пазіцыях нашаніўскага адраджанізма і ў першыя гады аднаўленчага перыяда. У яго творах гэтага перыяду („У глыбі Палесся“ і „У Палескай глушы“) выяўляецца тая-ж місіянская роля інтэлігенцыі, „просветительство“, абуджэнне „нацыянальнай свядомасці“, захапленне і ідэалізацыя прыроды Палесся і паляшукоў як „носьбітаў беларускай самабытнасці“. Але і тут яго герой Лабановіч паступова расчароўваецца ў сваіх чыста адраджэнскіх ідэалах і пачынае замыкацца ў свае „я“. У яго няма ўмоў, каб ажыццявіць нашаніўскія ідэалы. Каб не даць магчымасці Лабановічу завязнуць у балоце мяшчанства, супроць якога так рэзка выступае пісьменнік, Якуб Колас кідае яго ў другое месца, каб выратаваць для рэволюцыйнай работы. Гэта гаворыць за тое, што аўтар шукае выйсця, але яшчэ не можа пазбавіцца ад буржуазна-нацыяналістычнага ўплыву „Нашай Нівы“.

Пошукі выхаду, спробы набліжэння да „пераацэнкі каштоўнасці“ больш ярка выяўляюцца ў яго зборніку „На прасторах жыцця“ (1926 г.) праз паказ новай вёскі з пачаткамі новай культуры, праз паказ жыцця і працы вясковай моладзі і совецкага студэнцтва.

Ідэйна-творчая перабудова пісьменніка ў большай меры выяўляецца ў яго зборніку „На рубяжы“ (1924 г.), які можна лічыць пераходным на шляху правільнага асваення і рэалістычнага паказу расстаноўкі класавых сіл і гераізма барацьбы Чырвонай арміі за совецкую ўладу, за дыктатуру пролетарыята. Не гледзячы на наяўнасць моманту дробнабуржуазнага гуманізма, неправільнага разумення сутнасці Кастрычніцкай рэволюцыі, як стыхіі, Колас здолеў у высока-мастацкіх вобразах даць рэалістычны паказ глыбокай любові беднаты да Чырвонай арміі, пра-

вільна ўскрыў соцыяльную сутнасць кулакоў (Раман, Рыгор), якія чакаюць прыходу старой улады. Гэтым праўдзівым паказам класавай дыферэнцыяцыі вёскі аўтар выступае супроць сваіх ранейшых установак у сваёй творчасці, калі ён падаваў вёску, як маналітнае цэлае. Вялікім спачуваннем і цяплынёй авеян яго першы вобраз комуніста-змагара на фронце, стойкага барацьбіта і арганізатара ў грамадзянскай вайне—Сяргея.

Контррэволюцыйнаму кулацтву проціпастаўляецца вобраз бедняка Пятра, як надзейнай апоры совецкай улады на вёсцы. Правільнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі абумовіла рашучы паварот Якуба Коласа ў бок совецкай улады, у бок соцыялістычнага будаўніцтва. Рост пролетарскай літаратуры ў сваю чаргу зрабіў вялікі ўплыў на лепшых прадстаўнікоў „старога пакалення" пісьменнікаў (Якуб Колас, Янка Купала і др.) і абумовіў рашучы перагляд сваіх палітычных і творчых пазіцый. У сувязі з гэтым апошнія творы Якуба Коласа вызначаюцца канкрэтнасцю тэматыкі, з якіх асабліва выдзяляецца аповесць „Адшчапенец", якая з'яўляецца паказальнікам той „пераацэнкі каштоўнасцяй", якая адбываецца ў самога аўтара. Колас, пры ўсіх сваіх сімпатыях да старой вёскі, спрабуе пераглядзець свае старыя погляды ў адпаведнасці з тымі новымі гіганцкімі зрухамі, якія адбываюцца ў калектывізаванай вёсцы. Пры радзе недахопаў, якія ёсць у аповесці, усё-ж яна мае вялікае значэнне, як на шляхах перабудовы самога аўтара, так і для беларускай мастацкай літаратуры. Гэта ёсць спроба аўтара ў мастацкім творы рэалізаваць сваё выказванне ў прадмове да новага трэцяга выдання паэмы „Новая зямля": даць вобраз „новага Міхала на сапраўды новай калгаснай зямлі", паказаць адзіна-правільны шлях для дробнай сялянскай гаспадаркі—шлях калектывізацыі. Так, ідучы па шляху перамагання нацыяналістычнага светапогляду, Якуб Колас паступова набліжаецца да правільнага асваення сутнасці нашай рачаіснасці і робіць каштоўны ўклад у нашу совецкую літаратуру, якім з'яўляецца яго аповесць „Дрыгва".

„Дрыгва"—аповесць аб беларускім Палессі эпохі грамадзянскай вайны. У процілегласць контррэволюцыйным нацдэмам Якуб Колас сваёй аповесцю сказаў новае слова аб Палессі. І зусім не выпадкова фонам для паказу гераічнай барацьбы працоўных супроць белапольскіх акупантаў пісьменнік бярэ Палессе з яго непраходнымі балотамі і дзікімі пушчамі. Палессе Коласа ў аповесці „Дрыгва"—гэта не тое Палессе, у якім нацдэмы шукалі „сівых дзядоў і сівых бабулек"—нібыта „носьбітаў беларускай самабытнасці". Сівы дзед Талаш—гэта смелы, адважны і мужны барацьбіт за вялікую будучыню. Высоўваючы цэнтральнай фігурай аповесці дзеда Талаша, які зрабіўся правадыром партызан, барацьбітом за совецкую ўладу, Якуб Колас б'е нацдэмаў іх-жа зброяй.

Пісьменнік з вялікай мастацкай сілай паказвае сапраўды новую соцыялістычную зямлю, новае роднае паэту совецкае Палессе з яго новымі гаспадарамі і кіраўнікамі—совецкімі людзьмі.

Асноўнай сюжэтнай лініяй аповесці з'яўляецца паказ партызанскага руху на Палессі супроць белапольскіх акупантаў, прычым партызанскі рух паказан у цеснай сувязі з барацьбой Чырвонай арміі пад кіраўніцтвам пролетарыята і комуністычнай партыі. У аповесці, як жывыя, праходзяць перад намі рознастайныя вобразы партызан з іх бязмежнай адданасцю справе рэволюцыі, з іх невычарпальнай мужнасцю і адвагай. З другога боку, у плане едкай сатыры Якуб Колас падае цэлую галя-

рэю вобразаў контррэволюцыі і яе класавай апоры на вёсцы— кулакоў.

Дзед Талаш—гэта рэальна існуючы жывы чалавек, які ў часе белапольскай акупацыі пры дапамозе комуністаў—работнікаў Чырвонай арміі, зразумеў сапраўдны сэнс грамадзянскай вайны, пайшоў па шляху актыўнай барацьбы з акупантамі, сапраўды быў кіраўніком партызанскага атрада, на грудзях якога зараз квітнее ордэн Чырвонага сцягу.

Сам дзед Талаш піша: „Мне зараз восемдзесят пяць год. Я чытаў „Дрыгву“ разоў тры. І не гледзячы на тое, што імёны некаторых людзей, пра якіх там гаворыцца, зменены, я пазнаю сваіх старых сяброў. У вобразе Мартына Рыля паўстае для мяне мой найбліжэйшы памочнік Аляксей Кніга, які потым загінуў без вестак на фронце. Моцны і баявы быў чалавек і шмат мы з ім дзялілі радасці і нядолі“. („Звязда“ № 4, 1934 г.)

Пазнае дзед Талаш і камандзіра, што жыў у яго хаце, і камісара, пазнаў Саўку Мільгуна і прыпамінае праўдзіва апісаныя эпізоды барацьбы партызан. Адсюль мы бачым, што Якуб Колас у сваёй аповесці даў мастацкае абагульненне ў вобразах канкрэтных асоб, у канкрэтных гістарычных умовах.

У вобразе дзеда Талаша Якуб Колас паказвае, што ў бядняцкай частцы дарэволюцыйнай вёскі была затоена вялікая нянавісць супроць царызма і імперыялістычнай вайны. Спачатку дзед Талаш не разумее сутнасці падзей, яны здаюцца яму бессістэмнай, бескарыснай калатнёю, ён глядзіць на рэчаіснасць вачыма селяніна-патрыарха.

„Многа падзей адбылося за апошнія часы. Калі дзед Талаш успамінае аб іх, то яны здаюцца яму нейкім недарэчным вычварным сном. Вайна, рэволюцыя, зноў вайна. Навошта яно ўсё гэта? Чаго не падзеляць людзі? Завіхурылася жыццё і бурліць, як чорны вір. Калі-ж будзе той спакой? Што будзе далей?“

Дзед Талаш не разумее, за што ідзе вайна. Ён марыць аб спакоі, жадае цвёрдага парадку. Яму неяк „трохі страшна“, што „няма ніякай улады“. З жалем успамінае дзед Талаш пра чырвоных і пра камандзіра, які кватараваў у дзедавай хаце, „чым дужа ганарыўся дзед Талаш“. Чырвоны камандзір першы скідае павязку з дзедавых вачэй:

„Рабочы і селянін, вось, кажа, хто павінен кіраваць сваім жыццём і быць поўным гаспадаром свае дзяржавы. Паны, купцы, папы і розныя багацеі, гэта ўсё нашы ворагі“.

Колас паказвае нам, што Чырвоная армія не толькі са зброяй у руках змагалася супроць ворагаў рэволюцыі, але і вяла вялікую палітыка-выхаваўчую работу сярод працоўнага насельніцтва.

Шлях дзеда Талаша—гэта шлях уцягвання ў рэволюцыю працоўных мас вясковай беднаты. Паказ праўдзівы, рэалістычны.

Дзед Талаш уцягваецца ў рэволюцыйную барацьбу і становіцца атаманам партызанскага атрада не ў выніку голай агітацыі, а ўсім ходам падзей. На канкрэтных фактах жыцця пачынае ён усведамляць сутнасць падзей. Стажок сена—гэта першы факт, які адчыняе вочы дзеду Талашу.

Ен яшчэ нават не разумее, чаму белапалякі бяруць яго апошні стажок, а не шукаюць кулакоў Бусыгаў, у якіх сена ёсць у запасе, але каторыя з'яўляюцца панскімі „падбрэхічамі“. Ен не разумее, што з класавым ворагам трэба гаварыць сілаю зброі і, стоячы на каленях наіўна зварочваецца да жаўнераў:

„Паночкі, не бярыце апошняга сена, у людзей ёсць у запасе, а гэта мой апошні стажок...“

І толькі тады, калі ўбачыў, што ніякія просьбы і ўніжэнні не могуць выратаваць яго стажок ад грабежнікаў, калі на яго просьбу і ўніжэнні жаўнер ускіпеў і з лаянкай: „Ідзь до д‘ябла, стары пес!“—штурхануў дзеда ў грудзі—гэты „сталы,ураўнаважаны і разважлівы да пэўнай граніцы“ дзед Талаш са спрытам маладога дзяцюка ўсхапіўся з кален і з крыкам—„сабака!“—замахнуўся сякераю на жаўнера. Празмерна вялікая была крыўда і злосць, каб можна было яе цярпліва знесці.

Штуршок у грудзі з‘явіўся апошняй гранню паміж яго пакораю, як вынікам мінулага, і тым „гордым“ „зацятым“, як дзікі арол, якім стаў дзед Талаш пасля таго, як ад свайго сына Пачаса даведаўся аб дзікіх расправах польскай ваеншчыны. Пад уплывам гэтых навін „яго ўласная крыўда“ заціралася і адступала на задні план, а на першае месца выпіналася агульнае ліха „сялянскай галечы“, калі дзед Талаш зразумеў, што „яму ніяк не можна варочацца дадому“ і ён канчаткова вырашыў, што ён больш ніколі не будзе кланяцца панам.

Замах дзеда Талаша сякераю на жаўнера—гэта яшчэ не цалкам палітычна свядомы акт класавай барацьбы. Гэта першы крок па шляху вырашэння, пастаўленай Коласам праблемы нараджэння і росту новага чалавека. На працягу ўсёй аповесці пісьменнік раскрывае, як ва ўмовах рэволюцыйнай практыкі свядомасць селяніна ачышчаецца ад шлака дробнабуржуазнай абмежаванасці.

У артыкуле „Вялікі мастацкі замысел“ (газета „ЛІМ“ №56, 1934 г.)—таварыш Сокал высоўвае, як недахоп у вобразе дзеда Талаша, што „Колас зняважліва схіляе дзеда Талаша на калені перад рабаўнікамі, што каленапракланенне больш уласціва дробнаму шляхцічу, былому рыцару, выхаванаму ў духу пакоры і вернасці свайму сюзэрэну.“ „Павяржэнне на калені Талаша,—гаворыць таварыш Сокал,—з‘яўляецца тым больш ненатуральным і штучным, што па характару ён, як падкрэслівае часта сам аўтар, быў горды і зацяты, як дзікі арол.“ З такой трактоўкай згадзіцца ніяк нельга.

Колас схіляе на калені перад рабаўнікамі не Талаша-партызана, а Талаша-селяніна, які не разумее сутнасці рэволюцыйных падзей і не ведае, што так змагацца з класавымі ворагамі нельга. Дзед Талаш на працягу сямідзесяці гадоў выхоўваўся ва ўмовах царызма пад уплывам царквы, якая не толькі ў фізічна-слабых людзей, а і ў дужых і спрытных, але цёмных і няпісьменных выхоўвала пакору перад „сильными мира сего“.

Штуршком ускіпеўшага жаўнера Колас нанёс першы рашучы ўдар па абмежаванасці дзеда Талаша і паказаў, што ніякая пакора, ніякія ўніжэнні не могуць выклікаць літасці ў класавага ворага. Было-б ненатуральна прывесці дзеда Талаша з лесу і паставіць на калені перад ворагамі, але-ж Колас гэтага не зрабіў, бо дзед Талаш, атрымаўшы добры урок, „горды і зацяты, як дзікі арол“, з абурэннем заяўляе: „рэзаць, сеч, паліць іх гадаў на агні“.

Рост класавай свядомасці дзеда Талаша адбываецца паступова. Вырваўшыся ад жаўнераў, ён яшчэ думае, што магчыма, лепш было-б, калі-б ён не зрабіў замаху.

„Паразважаўшы, прыходзіць да думкі, што трохі разгарачыўся... было-б горай, калі-б ён засек жаўнера. Але калі дзед Талаш пачынаў прыпамінаць, як абыйшліся з ім жаўнеры, то злосць з новаю сілаю

агортвала яго і тады ён шкадаваў, чаму не расшчапіў галоў гэтым грабежнікам“.

Пасля сустрэчы дзеда Талаша з Мартынам, які расказаў яму аб тым, з якою жорсткасцю распраўляецца польская ваеншчына з беднатой, з асобамі, якія замечаны ў большэвіцкай рэволюцыі, што адказам на гэтыя здзекі выбухаюць сялянскія паўстанні: „слухаў дзед Талаш і трэсся ад злосці на паноў, на польскую ваеншчыну, на несправядлівасць“.

„Гэта нянавісць і злосць агнём расцякаліся па яго жылах і поўніла ўсе закарнашкі яго душы. Слоў не знаходзіў дзед Талаш, каб выказаць усю гэту навалу свайго абурэння і нянавісці супроць акупантаў“.

Так, паступова нянавісцю да акупантаў запаўняе Я. Колас „усе закарнашкі“ сялянскай душы. Дзед Талаш становіцца на шлях свядомай барацьбы з эксплаатататарамі.

Працэс росту класавай свядомасці дзеда Талаша падаецца і па лініі паказу яго перажыванняў у сувязі з арыштам яго сына Панаса.

Дзед Талаш разумее, што палякі арыштавалі Панаса, каб прымусіць яго самога з'явіцца ў рукі дыфензівы і думае, ці не аддацца яму самому ў іх рукі, але тут-жа, праўда, пад уплывам выказанай Мартынам думкі, што: „не можна ім, паганцам, веры даваць“ дзед Талаш прыходзіць да думкі, што: „У лес трэба перабірацца, ды не сядзець там, злажыўшы рукі, ды не пазіраць спакойна з боку, як яны тут гаспадараць і распараджаюцца намі“.

Дзед Талаш канчаткова становіцца на шлях узброенай барацьбы.

Дзед Талаш ужо добра разумее, што іх сіла ў арганізацыі шырокіх мас працоўных супроць акупантаў, што „параскіданыя па адным, яны—пыл, сухі ліст, што вецер ганяе па полю“.

З другога боку пісьменнік паказвае, што дзед Талаш яшчэ не пазбавіўся сялянскай забабоннасці: дзед Талаш яшчэ верыць у сілу праклёнаў і думка аб вызваленні Панаса з'яўляецца дамінуючай у яго планах. Толькі пасля таго, як яго Панас з Нупрэям і Круглым быў накіраваны ў Высокую Рудню, „дзед Талаш палічыў сваім абавязкам не пакідаць Нупрэя і партызан і ён цвёрда пастанавіў падпарадкаваць свае асабістыя інтарэсы інтарэсам агульным“.

Сваё рашэнне дзед Талаш пацвярджае тым, што даручае раненага Панаса партызанам, а сам прымае актыўны ўдзел у Ганусаўскім паходзе.

Дзед Талаш скромна, пад бадзёрыя і дружныя выгукі ўсіх партызан прымае на сябе званне атамана з уяўленнем вялікай адказнасці за дачаны яму ўчастак работы.

Ярка і праўдзіва, рэалістычна пададзена пісьменнікам эволюцыя дзеда Талаша—шлях росту новага чалавека.

Досыць ярка і праўдзіва пісьменнік характарызуе дзеда Талаша, як клапатлівага селяніна. У яго заўсёды застаецца месца для думак аб доме, аб харчы для жывёлы, аб бабцы Настусі. Ён і партызан і клапатлівы селянін. Пісьменнік трапна паказаў тыповыя рысы селяніна-бедняка ў тыповых абставінах яго соцыяльнай практыкі.

Дзед Талаш выступае перад чытачом, як добры арганізатар і вопытны камандзір. У кароткай і простай прамове „не шкадуючы гарачых, як агонь, слоў і яркіх фарбаў“ ён даводзіць грамадзянам Высокай Рудні не „грэць пуза на печы, не чакаць покі прыдзе паляк і стукне даўбешкай па галаве“, а ісці памагаць „нашаму чырвонаму войску прэч выгнаць панскую псарню, каб не паны, а мы самі, каторыя бедната і рабочыя з таварышамі большэвікамі былі тут таварышамі, па свойму ладзілі сваё жыццё“.

Колас правільна паказвае, што большэвізм і пролетарская рэволюцыя на Беларусі, гэта не „вецер з усходу“, як гэта сцвярджалі контррэволюцыйныя нацдэмы, а родная кроўная справа вясковай беднаты і пролетарыята.

Дзед Талаш, як кіраўнік партызан, апіраецца на масы, прыслухоўваецца да думкі грамады, але ён не цягнецца ў хвасце масы, а кірue ёю. Ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам у партызан. І самастойна дарue жыццё Саўку з словамі: „Ідзі, ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы, жыві“, у той час, як на папярэднім абмеркаванні гэтага пытання большасць партызан выказвалася за знішчэнне Саўкі, як свайго заядлага ворага.

На радзе момантаў аўтар правільна паказвае ўзаемаадносіны партызан з Чырвонай арміяй. Чырвоная армія ў паказе Якуба Коласа з'яўляецца кіраўніком і арганізатарам партызанскага руху. Ад першага баявога „хрышчэння“ партызан у фольварку Іркуцці, праз Ганусю, захоп партызанамі польскай батарэі і кулямётаў у час адступлення белапалякаў да пераправы ў лодках батальёна Шалёхіна з выспы на другі бераг Прыпяці, Якуб Колас у захапляючых вялікасных карцінах дае паказ узаемадзеяння партызан з Чырвонай арміяй, што робіць іх непераможнымі. Чырвонаю ніткаю праходзіць гэта сувязь праз усю аповесць.

Коратка, але досыць яскрава і правільна раскрыта Коласам ідэя пролетарскага інтэрнацыяналізма. На факце вызвалення з-пад арышта Панаса пры садзейнічанні польскага вартавога, дзед Талаш пачынае бачыць, што „аднае дабраты з боку польскага салдата яшчэ мала“, каб рызыкаваць вызваленнем арыштаванага, што прычына тут у класавай прыналежнасці польскага салдата, што працоўныя палякі пад прымусам служаць у польскай арміі. А таму пасля разгрому батальёна Крулеўскага дзед Талаш над трупам забітага Мартына паказвае на Крулеўскага, як на заклятага класавага ворага, а да палонных салдат зварочваецца з цёплым бацькаўскім пытаннем: „А вы, сынкі,—што-ж? паны ці панскія слугі, што прышлі занявольваць нас, гарапашніцкую галечу?“

Палонныя пачынаюць пераходзіць на бок партызан, Панас пазнае вызваліўшага яго салдата і дзед Талаш правільна заяўляе: „Бачыш, панятвае салдаты на наш бок пераходзяць і ўсе яны пяройдуць, калі даэнаюцца праўду“.

Колас правільна паказвае, што Чырвоная армія і партызаны, вядучы жорсткую барацьбу за справу пролетарскай рэволюцыі, умелі добра адрозніваць сваіх сапраўдных класавых ворагаў ад людзей, што пад прымусам трапілі ў рады контррэволюцыйных інтэрвентаў, ці былі абмануты буржуазіяй і яе прыспешнікамі.

У сваёй аповесці Якуб Колас паказвае, што ў беларускай вёсцы адбывалася жорсткая класавая барацьба і законы гэтай класавай барацьбы пададзены ім у найбольш характэрных вобразах аповесці.

Дзед Талаш ведае, як варожа ставіцца да беднаты кулак. Ён разумее, што не аб інтарэсах беднаты Васіль Бусыга—былы кандыдат у валасныя старшыні—з панам Крулеўскім вядуць гутарку, якая спыняецца пры набліжэнні дзеда Талаша. Невымернай злосцю, класавай ненавісцю і выражэннем непрымірымай помсты гучаць у вуснах дзеда Талаша словы: „Ну, добра“—калі Максім і бабка Наста сказалі яму аб шпіонскай змове кулакоў і фальшывым партызанстве Саўкі Мільгуна. З ясным усведамленнем, непрымірымасцю сваіх інтарэсаў з кулацтвам і польскай „дэмакратычнасцю“, дзед Талаш прапануе сваёй сям'і сысці з дому і накіроўвае Максіма ў партызаны.

„Покуль вы будзеце ліпець тут, чакаючы кожан дзень бяды, то і мяне і Панаса будзе цягнуць хата і позна ці рана паловяць нас, і літасці нам не будзе.“

Так дзед Талаш канчаткова развязвае сабе рукі для барацьбы з кулакамі і польскімі рабаўнікамі.

Дзед Талаш не памыліўся. Вока польскай дэфензівы, пры шырокім удзеле кулацтва, пранікала ва ўсе закуткі і дзед Талаш нечакана трапляе ў рукі трох узброеных легіянераў, з якімі ён пасля ўдала расправіўся.

За суровай постаццю дзеда Талаша чытач адчувае многамільённае працоўнае сялянства, якое паўстала супроць эксплаататараў,—кулацтва і буржуазіі.

Выразна паўстае перад чытачом гераічная барацьба слаўнай Чырвонай арміі, адчыняецца адна з старонак барацьбы за савецкую Беларусь.

Любоўна і праўдзіва раскрывае аўтар вобраз Чырвонай арміі, як свядомую надзейную сілу вернага барацьбіта за пролетарскую рэволюцыю. Падаючы карціну быта Чырвонай арміі ў часе адпачынку, аўтар правільна паказвае, што па-за службай узаемаадносіны паміж камандзірамі і чырвонаармейцамі самыя цёплыя, таварыскія, асновавыя на высокай палітычнай свядомасці і правільнай свядомай дысцыпліне.

Раскрываючы сілы пролетарскай рэволюцыі, Якуб Колас побач з асноўным героем аповесці—вобразам дзеда Талаша—падае цэлы рад хвалюючых вобразаў партызан. Бліжэйшым памочнікам дзеда Талаша з'яўляецца Мартын Рыль. У вобразе Мартына Рыля Колас паказвае, што тое пакаленне вясковай беднаты, якое вынесла на сваіх плячах цяжкасці імперыялістычнай вайны, лягчэй уключаецца ў рэволюцыйную барацьбу. Мартын Рыль—не такі цёмны і забіты, як дзед Талаш. Ён правільна разумее сутнасць соцыялістычнай рэволюцыі, ведае, што польскія акупанты для беднаты нясуць новыя ланцугі няволі і ўціску, ад якіх вызваліла беднату Кастрычніцкая рэволюцыя. Мартын адразу варожа ставіцца да белапольскай ваеншчыны і як „небяспечны“ чалавек падпадае пад арышт польскай паліцыі. Мартын—з вялікай сілай волі, дужы, адважны і поўны глыбокай ненавісці да ворагаў рэволюцыі. Вялікім абурэннем і гатоўнасцю да барацьбы гучаць яго словы па адрасу штурхнуўшага яго легіянера: „Што пхаешся, панская падэшва, ды я цябе як пхну, дык ты і касцей сваіх не збярэш.“

Не „прыродная рахманасць і пакорлівасць, абумоўленая геаграфічнымі ўмовамі“, як сцвярджалі нацдэмы, напаўняла „лагодныя“ сэрцы беларускай беднаты, а непрымірымая варожасць да сваіх класавых ворагаў і гатоўнасць да змагання. Шлях Мартына Рыля—шлях маладога пакалення вясковай беднаты. Даючы падрабязна біяграфію Мартына, на яго ўзаемаадносінах з Аўгіняй, пісьменнік характарызуе маральныя асаблівасці яго характара: як чалавека смелага, мужнага, адважнага і вытрыманага, для якога неўласцівы песімізм і ўпадніцтва.

Колас правільна паказвае, што вясковая бедната была моцнай апорай савецкай улады на вёсцы, што змаганне за рэволюцыю для вясковай беднаты было змаганнем за сваю родную кроўную справу, за права вольна будаваць свае жыццё пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і пролетарыята. Гэтым пісьменнік разбівае нацдэмаўскую хлусню аб тым, што ў беларускай вёсцы не было ўнутраных сіл для апоры пролетарыята, што сялянству з пролетарыятам не па дарозе. Гісторыя паказала ўсю контррэволюцыйную сутнасць нацдэмаўскай хлусні. Бедната, а за ёю і серадняцкія масы, пад кіраўніцтвам комуністычнай

партыі пашлі за пролетарыятам, рашуча і беспаваротна сталі на шлях соцыялізма.

У вобразе Мартына Я. Колас падае нам не толькі бесстрашнага героя партызана, але і чалавека з сваімі асаблівымі маральнымі якасцямі і як клапатлівага сем'яніна.

„Мартын Рыль таксама думаў аб сваім доме, аб жонцы і дзецях, аб сваёй гаспадарцы". Гераічная смерць Мартына, авеяная непаддзельным лірызмам выклікае ў чытача вялікае спачуванне да партызан-змагароў і абурэнне супроць паноў Крулеўскіх, пазбавіўшых жыцця гэтую светлую фігуру героя-партызана.

Правільна даючы паказ рухаючых сіл рэволюцыі аўтар імкнецца паказаць і асноўную кіруючую сілу—натхніцеля і арганізатара пролетарскай рэволюцыі—комуністычную партыю.

У вобразе рабочага-комуніста падпольшчыка Невіднага аўтар імкнецца даць тып комуніста-барацьбіта ва ўмовах падполля, ва ўмовах грамадзянскай вайны.

Ужо ў першай гутарцы з дзедам Талашом пісьменнік паказвае разуменне Нявідным усёй велічы пастаўленых перад ім задач, як комуніста, выяўляе яго высокую класавую пільнасць арганізатара адказнейшай справы. „Цікавыя рэчы расказвае Невідны дзеду Талашу і не мог не згадзіцца дзед Талаш, слухаючы, што перад ім выступае праўда."

Якуб Колас падкрэслівае, што комуністычная партыя з'яўляецца асноўным арганізатарам партызанскага руху.

„Найбольш грунтоўную дапамогу дзеду аказаў Невідны". Невідны добра ведае законы класавай барацьбы, ён прасякнуты глыбокай верай у перамогу рэволюцыі, і гэта дае яму вялікую смеласць і ўпэўненасць.

Правільна падана карціна допытаў і катаванняў Невіднага белапалякамі і яго гераічная смерць, вартая стойкага, мужнага і да канца вытрыманага барацьбіта-комуніста. З поўнай яснасцю і разуменнем свайго становішча Невідны да канца захаваў веру ў перамогу рэволюцыі і мужна аддаў свае жыццё за справу прыгнечаных. Невідны да канца захаваў велізарнейшую класавую ненавісць супроць сваіх класавых ворагаў.

„Ён, не хаваючы сваей агіды да іх (агентаў), маўчаў і не пазіраў на іх".

На допыце Невідны насміхаецца над сваімі катамі і польскай „дэмакратычнасцю". Ён не даў ніякіх паказанняў, акрамя таго, што яго хаўруснікамі з'яўляюцца мільёны паўстаўшых прыгнечаных мас і мільёны прыгнечаных Польшчы. Праўдзіва, рэалістычна пададзена карціна жудасных катаванняў. Пісьменнік правільна паказвае, на якія нечалавечыя зверствы здольна буржуазія ў дачыненні да тых, хто хоча скінуць з сябе цяжкае ярмо эксплаатацыі і зрабіць канец панаванню буржуазіі. Невідны мужна знёс невымерна цяжкія катаванні.

Невідны знайшоў дастаткова мужнасці ў апошнія хвіліны свайго жыцця, каб голасна сказаць зняволеным: „Прашчайце, таварышы, няхай жывуць Советы." Карціна моцная, хвалюючая, прасякнутая вялікай сімпатыяй аўтара да Невіднага і ненавісцю да катаў. На жаль, прыходзіцца адзначыць, што з вобразам Невіднага звязаны найбольш слабыя месцы аповесці. Кіраўніцтва комуністычнай партыі ў грамадзянскай вайне пісьменнік імкнецца паказаць праз адзін вобраз комуніста падпольшчыка Невіднага. Сапраўды-ж нельга праз адзін вобраз падаць усю складанасць палітыка-выхаваўчай працы і кіраўніцтва партыі, не паказаўшы ўсёй складанасці работы ў падполлі, не паказаўшы калектыва. Дзейнасць падпольных арганізацый і іх роля ў грамадзянскай вайне ў аповесці не разгорнуты. Невідны—гэты „сейбіт буры і змагання" хутчэй нагад-

вае, як гаворыць праф. Піотуховіч, народавольцаў-семідзесятнікаў з іх „хождением в народ", чым сапраўднага большэвіка-падпольшчыка эпохі грамадзянскай вайны."

Вобраз Невіднага не індывідуалізаваны, а таму досыць схематычны. У самім партрэце Невіднага відна нейкая неакрэсленасць. Невідны—малады чалавек, адзеты напалову ў ваеннае, напалову ў штацкае, з акамянелым і застыглым тварам. Часцей аўтар проста называе яго: „невысокі, хударлявы чалавек".

Канкрэтная работа Невіднага, як комуніста-падпольшчыка, не раскрыта. Пісьменнік расказвае, што ў Невіднага ёсць і адозвы да сялянства і інструкцыі для падпольных большэвіцкіх арганізацый і некаторыя дакументы акупацыйнай польскай улады, але раскрыць усю складанасць работы партыі ва ўмовах падполля, паказаць на канкрэтных фактах, адкуль і як Невідны гэтыя адозвы і інструкцыі атрымлівае, як і праз каго іх распаўсюджвае, і нарэшце, якія ад гэтага атрымаліся вынікі, аўтару недастаткова ўдалося.

Пісьменнік больш расказвае, што Невідны быў цесна звязан з беднатою, а ў якіх канкрэтных формах гэта сувязь выяўлялася—не паказана. Суха, з некаторым адценнем злосці сустракае Невідны паведамленне аб правале партыйнай ячэйкі. Ніякіх эмоцыянальных перажыванняў Невіднага ў сувязі з разгромам партыйнай арганізацыі не паказана. Невідны абмяжоўваецца кароткім сухім загадам сабраць сход і арганізаваць партызанскі актыў, а як гэта канкрэтна прарабіць, так і не даведаўся ад яго Нічыпар.

Калі Нічыпар не ўпэўнены ў тым, што пасля такога „інструктавання" ён зможа наладзіць работу, хоча ісці за Невідным, апошні холадна загадвае: „Аставайся тут і рабі тое, што я табе казаў".

Зусім выпадкова пападае Невідны на сход партызан, на якім ён у кароткай, з вялікай колькасцю цяжка зразумелых для сялян слоў, прамове правільна гаворыць аб сутнасці барацьбы, яе мэтах і задачах і агітуе партызан на змаганне. Але далей агітацыі яго дзейнасць сярод партызан не паказана. Ідэйна-палітычная накіраванасць Невіднага зусім правільная, але недастаткова разгорнуты паказ практычнай дзейнасці Невіднага і ўсёй сістэмы падпольнай работы комуністычнай партыі. Гэта тлумачыцца недастатковым веданнем пісьменнікам комуніста ва ўсіх складаных момантах яго жыцця, працы і змагання, але відаць шчырае жаданне пісьменніка даць абагульняючы вобраз большэвіка.

На вобразе Цімаха Будзіка пісьменнік паказаў, што пролетарская рэволюцыя пры ўмелым кіраўніцтве комуністычнай партыі, падпарадкоўвала стыхійныя сілы вёскі, арганізоўвала іх, падпарадкоўвала іх стыхійную злосць разумнай волі кіраўнікоў і накіроўвала іх на барацьбу супроць ворагаў рэволюцыі.

„Цімох Будзік—чалавек не малады: яго запалыя цёмна-сінія вочы і горкая ўсмешка на тонкіх сціснутых губах сведчаць, што гэты чалавек зазнаў у жыцці многа гора і крыўды". Празмерны ўціск ва ўмовах капіталізма зрабіў з яго бунтара-падпальшчыка панскіх маёнткаў. Але гэты гарачы пратэстант без правільнага кіраўніцтва заставаўся бунтарам адзіночкай. На горкім вопыце крыўды і здзекаў вырасла ў Будзіка вялікая нянавісць да эксплаататараў. Ен правільна зразумеў, што пролетарская рэволюцыя абараняе інтарэсы беднаты, якая „век працавала і нічога не мела".

У яркай эмацыянальнай, праўда, занадта, вобразнай для селяніна прамове да партызан Цімох Будзік падае жудасныя карціны рабавання і здзе-

каў з боку акупантаў над працоўным сялянствам. Ён добра ведае, што ніякае літасці з боку ворагаў чакаць нельга і заклікае партызан да бязлітаснай барацьбы супроць іх.

„Няма ў іх літасці да нашага брата. Дык няхай-жа, браткі, і ў нас не будзе літасці да іх. Біць, знішчаць, паліць іх трэба пякучым агнём пажараў".

Будзік не падняўся да поўнага разумення неабходнасці арганізаванай экспрапрыяцыі. Стыхія разбурэння займае значнае месца ў яго характары. Ён захапляецца сваім спосабам барацьбы—падпаламі панскіх маёнткаў. Ён гатоў быў нават „здабыткі людское працы" пусціць з дымам, каб толькі знішчыць „змяіныя гнёзды яго адвечных класавых ворагаў".

З вялікай мерай мастацкага абагульнення падае Я. Колас у аповесці вобраз сялянкі Аўгіні. На вобразе Аўгіні Коласам паказан працэс уцягнення ў рэволюцыю працоўнай жанчыны. З вобразам Аўгіні звязаны найбольш лірычныя раздзелы аповесці. Вясёлая, жывая, дураслівая штукарка, яна ўмела добра жартаваць, але ўмела быць і сталаю, сур'ёзнаю. Аўгіня кахае Мартына, ёй шкада яго, але яна пабаялася век жыць у галечы і ўжо цяжарная ад Мартына вышла замуж за кулака Бусыгу. Жыццё і навакольнае асяроддзе, насычанае рэволюцыйным рухам, зрабіла яе актыўным змагаром на баку партызан. Спачатку яна не разумее той соцыяльнай грані, якая аддзяляе яе ад мужа. На глебе арышта Мартына, якога яна кахае, пачынаецца праясненне свядомасці. З агідай і абурэннем глядзіць яна на войтаўства мужа, па даносу якога быў арыштаваны Мартын. Аўгіня пачынае ўсвядамляць, што пагнаўшыся на Васілёва багацце, яна зрабіла вялікую памылку і што яна сама ў гэтым вінавата.

Аўтар правільна паказвае, як на канкрэтных фактах жыцця і барацьбы расце класавая свядомасць працоўнай жанчыны. На адносінах Аўгіні да Васіля і Мартына аўтар правільна вырашае праблему асабістага і грамадскага і паказвае, што ў перыяд абвостранай класавай барацьбы асабістае адступае перад грамадскім—фарміруецца класавая свядомасць.

Пісьменнік паказвае і хістанні, уласцівыя сялянскай абмежаванасці. „Аўгіня гатова была пайсці на згоду і сама першая рабіла адпаведныя захады", але Васіль аставаўся глухім да яе захадаў і Аўгіня канчаткова становіцца на шлях актыўнай дапамогі партызанам. Яна прыгожа і гераічна выкарыстала ўсю сілу свайго жаночага хараства: Кандрат Бірка ў адказ на аўгініны лагодныя вочы расказаў пра камбінацыю з кулацкім выведчыкам Саўкам Мільгуном і яна своечасова паведаміла партызан. Ненавісць да Васіля на глебе яго контррэволюцыйнай дзейнасці паступова перамагае абавязкі жонкі. „Горшай гадзюкі, як ты, няма"—кідае яна Васілю, калі той дапытвае, чаго яна хадзіла да бабкі Насты. Аўгіня ўжо ясна разумее, што дзейнасць яе мужа накіравана на карысць белапольскай ваеншчыны супроць працоўных мас і лічыць, што лепш у лес ісці, як зрабіў Мартын і дзед Талаш, чым быць войтам і тапіць бязвінных людзей. Горкім раскаяннем і крыўдай гучаць яе словы да Васіля: „Дык няхай жа ён агнём пойдзе твой хлеб і твая адзежа. Лепш-бы я батрачкаю засталася". Аўгіня каецца, што пазарылася на багацце і цвёрда рашае не варочацца да Васіля. Свой лёс Аўгіня звязвае непасрэдна з ходам рэволюцыйнай барацьбы.

На вобразе Саўкі Мільгуна пісьменнік імкнецца развязаць праблему перавыхавання і ўцягнення ў карысную грамадскую дзейнасць людзей, пакалечаных капіталістычным ладам. Саўка Мільгун—„размашысты чалавек, шырокая натура і гультай". Яго можна было наймаць на любую

справу і кулакі выкарыстоўваюць Саўку ў сваіх контррэволюцыйных мэтах. Ён за выпіўку і абяцаную ўзнагароду згаджаецца сачыць за партызанамі і даносіць кулакам.

Спачатку Саўка не задумваецца над узятымі на сябе абавязкамі шпіона. Ён думае толькі, як бы звязацца з партызанамі і захаваць ад іх сваё здрадніцтва. Саўка не здолен быў на работу па раней абдуманаму плану, а выяўляў сваю дзейнасць па натхненню, пад уплывам мінуты. Колас правільна падае характар Саўкі, цёмнага, абяздоленага чалавека, па сутнасці вясковага люмпен-пролетарыя.

На сваю здрадніцкую справу ён глядзіць, як на сродак да жыцця. Ён не мае нічога супроць Талаша і тых людзей, за якімі ён узяўся сачыць, і нават гатоў ім спачуваць. У ім яшчэ захаваліся рэшткі класавага сумлення, і гэтыя рэшткі сумлення заварушыліся, калі Саўка ішоў з лесу ад дзеда Талаша. Саўка пачынае думаць аб тым, што яго здрадніцкая работа горшая чым красці коней, бо тут ён павінен прадаваць людзей, якія ніколі не бачылі дабра, але як чалавек хісткі і непаслядоўны, ён зноў пакладаецца на „авось“ і ні да якіх пэўных рашэнняў не прыходзіць, заспакойваючы сябе тым, што яшчэ яго злачынства не адбылося.

Прышоўшы ў хату кулака Біркі, Саўка ясна ўсведамляе сабе, што кулакі выкарыстоўваюць яго ў сваіх інтарэсах, што ён ім нераўня і калі-б не іх уласныя інтарэсы, яны не звярнулі-б увагі на Саўку. Пад уплывам мінуты Саўка „даў бой“ кулакам і апынуўся ў руках дэфензывы. З вялікаю сілай мастацкасці падае пісьменнік усе жудасці, на якія здольна польская дэфензыва. Жыццё паказала Саўку, чаго варты кулакі, якія яго паілі і давалі грошы, але калі ён не здзейсніў іх надзей, яны паказалі свой сапраўдны твар і аддалі яго на нечуваныя здзекі і катаванні.

Аўтар паказвае далейшы рост класавай свядомасці Саўкі: „Горш за ўсё яго мучыць ужо не тое, што яго катавалі, а тое, што волю яго, упартасць, зацятасць зламалі і прымусілі рабіць так, як ім было трэба“.

Саўка ўжо з жахам глядзіць на агіднасць тае справы, за якую ён узяўся так лёгкадумна. Горш за ўсё ён баіцца суда людскога, але-ж Саўка не знайшоў у сабе дастатковай мужнасці, каб перанесці катаванні і не даканчыць сваю здраду. З кандаламі на руках ён вядзе жандараў да шалаша. Цяжэй смерці ўразілі Саўку суд дзеда Талаша і яго апошнія словы: „Ідзі, ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы. Жыві!“

Моцна ўрэзаліся яны ў пакалечаную соцыяльным ладам душу Саўкі. Пасля моцных перажыванняў і раскаянняў перад Цімахом Будзікам Саўка шчыра заяўляе, што „хоча стаць чалавекам“. Краіна советаў ведае не мала прыкладаў уключэння ў барацьбу за соцыялізм соцень і тысяч людзей, пакалечаных капіталістычным ладам. Колас правільна ставіць праблему неабходнасці перавыхавання і ўцягнення ў працу людзей, падобных Саўку, але не даводзіць да канца яе развязванне. Замест таго, каб кінуць Саўку ў асяроддзе, пад уплывам якога Саўка мог-бы стаць чалавекам, аўтар пакідае яго з самім сабой і Саўка, шчыра жадаючы загладзіць сваю віну, зноў ідзе на няправільны шлях—крадзе кулацкую жывёлу для перадачы партызанам. Пакінуты адзін, Саўка, як цень ходзіць за партызанамі. Яму хочацца стаць чалавекам, але ніхто не паказаў яму правільнага шляху, акрамя таго, да чаго ён дайшоў сваім уласным вопытам. Саўка так і не пасмеў падыйсці да партызан, калі адбываўся апошні суд над панам Крулеўскім.

Паказаўшы рухаючыя сілы рэволюцыі, аўтар падае нам цэлую гале-

рэю вобразаў контррэвалюцыі. Пісьменнік правільна паказвае, што асноўным імкненнем кулака з'яўляецца ўмацаванне сваёй улады над беднатою, каб мацней закаваць вёску ў ланцугі сваёй кулацкай кабалы.

Кулак у паказе Якуба Коласа разумее, што капіталістычная ўласнасць з'яўляецца асноўным сродкам для эксплаатацыі другіх людзей, а таму ён так варожа ставіцца да савецкай улады і беднаты, якая пагражае яго капіталістычнай уласнасці. Васіль Бусыга добра разумее, што большэвікі „прыціскалі тых, хто трохі жыў багацей“, г. зн. іх—кулакоў. І аўтар правільна паказвае, што кулацтва радасна сустракала польскіх інтэрвентаў. Васіль Бусыга першым выходзіць сустрэць пана Крулеўскага. Яны вельмі хутка сходзяцца, як свае, бо іх класавыя інтарэсы таксама сходзяцца. Ведаючы, што пролетарская рэволюцыя нясе гібель кулаку, Бусыга ў польскіх інтэрвентах бачыць уладу, якая наладзіць „парадак“ і абароніць яго ад тых, якія хочуць парушыць яго ўласнасць.

Кулак Бусыга разумее, што пролетарская рэволюцыя перашкодзіла яму стаць валасным старшынёю, пазбавіла яго палітычнай улады. Пісьменнік паказвае кулака, як панскага падбрэхіча, як „вернага памочніка пана Крулеўскага—свата польскай дэмакратычнасці“.

Наадварот у Васіля Бусыгі, як бы выраслі крыллі, у яго акупацыя выклікала ружовыя надзеі. Ён бачыць, што польская ваеншчына, адзначыўшая свае з'ўленне ў вёску грабяжом бедняка Талаша, для кулака Бусыгі і другіх, як ён называе, „самавітых гаспадароў“ нясе за сабою „парадак, закон і ўпэўненасць у заўтрашнім дні“.

Рабаванне маёмасці беднякоў з боку польскай ваеншчыны Бусыгу ніколькі не турбуюць. Горш за ўсё яго непакоіла думка і „браў страх“, каб зноў не вярнуліся большэвікі. Колас правільна паказаў, што кулак ніколі не можа стаць на бок савецкай улады, паколькі ён бачыць, што савецкая ўлада кладзе канец яго эканамічнаму і палітычнаму панаванню над працоўнымі масамі. Кулак гатоў усімі сродкамі дапамагаць польскай ваеншчыне, якая шампаламі, расстрэламі і турмамі хацела задушыць савецкую ўладу на Беларусі і аднавіць уладу капіталістаў, памешчыкаў і кулакоў.

Кулак Бусыга паказваецца, як хітры палітык. Ён правільна з сваіх кулацкіх пазіцый ацэньвае склаўшуюся палітычную сітуацыю, бачыць, што праз камісаржа Крулеўскага ён можа ўмацаваць сваю палітычную і эканамічную ўладу, а таму з'яўляецца з візітам да Крулеўскага і тонка намякае, што на вёсцы „блізка няма начальства“, якое-б сачыла за паводзінамі „веснякоў“. Яго контррэволюцыйнае нутро праяўляецца і ў мове, з якою ён падрабляецца пад польскую мову, каб мацней падкрэсліць сваю адданасць і гатоўнасць служыць на карысць акупантаў. Колас правільна паказаў, што інтарэсы кулакоў і памешчыкаў шчыльна пераплятаюцца. Пан Крулеўскі таксама бачыць у кулаку сваю надзейную апору і прызначае Васіля на пасаду войта. З твора ясна відаць, што кулак на пасадзе войта—гэта не пасіўны выканаўца загадаў польскай улады, а самы хітры, самы зверскі, самы актыўны вораг пролетарскай рэволюцыі. Апынуўшыся на пасадзе войта, Бусыга зараз-жа выяўляе сваю ініцыятыву па вылаўліванні рэволюцыянераў і хітра прадае ў рукі польскай ваеншчыны Панаса, каб прымусіць з'явіцца дзеда Талаша, у якім ён сапраўды бачыць свайго небяспечнага ворага. Кулак Бусыга не толькі сам становіцца актыўным шпіонам польскай дыфензівы, але і мабілізуе вакол сябе сваіх прыяцеляў па класу—Бруя, Бірку і другіх „паважаных гаспадароў“—апору інтэрвентаў.

Вельмі трапна пераканаўча падаецца пісьменнікам контррэволюцый-

ная тактыка кулакоў з подкупам Саўкі Мільгуна на яго „партызанства“. Кулак гатоў актыўна дапамагаць буржуазіі і памешчыкам любой нацыянальнасці, любой краіны, абы толькі самому сядзець на спіне і смактаць кроў свайго суседа.

Не гледзячы на самазаспакаенне кулакоў, аўтар паказвае і іх асуджанасць. Іх моцна непакоіць „тулянне“ дзеда Талаша, разбраенне польскага канвоя, ганусанскія падзеі, пажар у маёнтку пана Длугошыца. Асабліва моцна адчувае кулак сваё адзіноцтва, сваю ізаляванасць ад грамады. Працоўныя масы добра разумелі ролю войтаў і іх прыяцеляў і чакалі зручнага часу, каб „адплаціць за ўсё“. Нават жонка Бусыгі Аўгіня не толькі не спачувае яго войтаўству, а сустракае яго варожа і канчаткова рве сямейныя адносіны з мужам-кулаком.

„Войт,—гаворыць аўтар,—адчувае сваю ізаляванасць і сваю асуджанасць, ад таго ён можа і пануры такі“.

Карцінай пажара ў маёнтку пана Длугошыца пісьменнік з новай сілай напамінае ўсёй контррэволюцыйнай зграі, што партызанскі рух пусціў глыбокія карэнні ў народзе акупаваных зямель, што ён вядзецца ўпарта, шырока, арганізавана і жорстка. Недарма ў бляcках пажара „чыталі яны засцярогу сабе і свой уласны прысуд“.

Колас паказвае нам кулака ў розных сувязях і апасрэдваннях. На адносінах з жонкаю Аўгіняй пісьменнік паказвае яго драпежніцкае нутро ў дачыненні яго да сям'і і яго кулацкія погляды на жанчыну. Ён на жонку глядзіць, як на сваю ўласнасць, як на нявольніцу, „не залазіць сам у яе дробныя справы і знаходзіць лішнім раіцца з ёю ў сваіх планах і гаспадарчых меркаваннях“. У яго жонка не мае права пераступаць пэўны парог і ўмешвацца ў важныя справы.

„Былі ў яго межы, за якія бабе наогул пераступаць не палагаецца. Ставіў-жа ён Аўгіню перад тым, ці іншым канкрэтным выпадкам, як перад фактам, які не падлягае ніякаму абмеркаванню, ніякай дыскусіі“.

Раскрываючы сілы контррэволюцыі, аўтар не абмяжоўваецца толькі паказам контррэволюцыйнай ролі кулака. Соцыяльным антыподам дзеда Талаша з'яўляецца памешчык Крулеўскі. Аўтар мала спыняецца на дэталях гэтага вобраза, а больш на паказе таго соцыяльнага лада, які нясе польская ўлада з сваей дэмакратычнасцю, якой не бачыў свет. Крулеўскі „небяспечны, моцны, па свойму разумны і ідэйны вораг пролетарскай рэволюцыі“. Гэта вялікая сіла процілеглага класа, гэта заядлы вораг працоўных, „сват польскага дэмакратызма“, іначай не называе большэвікоў, як барбары, захлёбваецца ад задавальнення паваротам падзей. Крулеўскі хітры палітык, які сваім драпежным вокам хутка знаходзіць і мабілізуе на барацьбу супроць рэволюцыі ўсе контррэволюцыйныя сілы: беларускае кулацтва, шляхту, інтэлігенцыю, рэлігію, друк. Недарма першым яго пытаннем да кулака Бусыгі з'яўляецца:

„А як становяцца вяскякі да польскай улады?“

Праз усю сістэму агентуры і шпіянажу ён сочыць за працоўнымі масамі, ён добра бачыць непрымірымую варожасць шырокіх працоўных мас да польскай улады і адчувае ў гэтым вялікую небяспеку, адсутнасць апоры ў масах, свой уласны прысуд. Нават у такіх урачыстых выпадках, як банкет, які ён „ужондзіў“ для распальвання патрыятызма і мабілізацыі ўсіх варожых сіл на барацьбу з большэвікамі, ён ахалоджвае патрыятызм паноў, далёка зайшоўшых у сваім захапленні поспехамі польскай дэмакратычнасці сваім пытаннем:

„Але, пся крэў, хлопы не заспакоены. Цо то бэндзе?“

Колас паказвае, што, спраўляючы пышныя банкеты ў гонар поспехаў

польскай ваеншчыны, паны адчувалі сваю асуджанасць ва ўмовах усё ўзрастаючай актыўнасці партызанскага руху. Паказваючы Крулеўскага, як хітрага, жорсткага, небяспечнага ворага пролетарскай рэволюцыі, аўтар падае і некаторыя індывідуальныя рысы яго характару, хаця асноўны ўпор зроблен на паказ яго контррэволюцыйнай сутнасці.

Едкай сатырай прасякнут малюнак зборышча дзікіх каршуноў— „грамады ўзаконеных марадзёраў“, як называе іх пісьменнік. У плане кантраста з енкамі і стогнамі беднаты „ад еўрапейскай культуры“ аўтар падае рэалістычную карціну дзікай пляскі адурэўшай ад шавіністычнага ўгару шляхецкай моладзі і афіцэрства. Няват „свентыя ойцы“ з прычыны важнасці і ўрачыстасці палітычнага моманту дазвалялі сабе некаторыя вольнасці ў дачыненні да „паблеклых ад часу дам, якія кружыліся каля ксяндзоў, як мухі перад дажджом каля гаршкоў, з якіх нядаўна вылілі зацірку і не паспелі яшчэ вымыць і вышарваць рагожай“.

Не абышлося гэтае „ігрышча“ і без контррэволюцыйных нацдэмаў, якія ніколі не прымушалі сябе доўга чакаць з сваёй контррэволюцыйнай палітыкай прадажы Беларусі оптам і ў розніцу. Не шырока, але досыць яскрава нацдэм Галініч раскрывае контррэволюцыйны змест беларускага нацыянал-дэмакратызма.

У сваёй прамове нацдэм Галініч яскрава паказвае прадажніцкі твар беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Колас правільна паказаў, што ў сваёй барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі нацыяналісты ўсіх масцей сходзяцца.

Нацдэма Галініча ніколі не засмучаюць енкі і пакуты беларускай беднаты пад уладай польскай дзяржаўнасці. Ён заўсёды гатоў прадаць інтарэсы працоўных мас дзеля сваіх уласных інтарэсаў. Нацдэмам не падабаецца, што ў выніку Кастрычніцкай рэволюцыі працоўныя Беларусі атрымалі самую шырокую магчымасць будаваць сваю ўласную культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зместу. У „ адраджэнні“ буржуазна-нацыяналістычных ідэалаў „Нашай нівы“ бачыць ён сапраўдную культуру. Ён завярае прадстаўнікоў польскага фашызма ў сваёй гатоўнасці „падтрымліваць палякаў у змаганні з большэвікамі востраю зброяй слова“.

Незадаволенасць паноў тым, „што Галініч ставіць на адну роўніцу польскі народ з беларускім“ яскрава гаворыць чытачу аб тым, што чакала беларускія працоўныя масы пад уладаю польскага фашызма. Аб гэтым яскрава сведчыць той соцыяльны і нацыянальны ўціск, які церпяць працоўныя Заходняй Беларусі, пад уладаю польскага фашызма, але гэта не засмучала контррэволюцыйных нацдэмаў. Для іх інтарэсы буржуазіі былі асноўнай мэтай іх барацьбы.

Контррэволюцыйная дзейнасць каталіцкага духавенства паказана ў асобе іезуіта-ксяндза Пацэйкоўскага. Аўтар падае яго, як агітпропа польскай контрразведкі і паказвае, што рэлігія з'яўляецца ідэалагічнай зброяй эксплаататарскіх класаў, сродкам адурманьвання працоўных мас, зацямнення іх класавай свядомасці, сродкам затушоўвання класавай барацьбы на карысць эксплаататарскіх класаў. Колас паказаў, што рэлігія не „прыватная справа“, а з'яўляецца адным з відаў духоўнага прыгнёту. Пацэйкоўскі не абмяжоўваецца вузкімі рамкамі касцёльнага амвона для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці. Гэты шпік у ксяндзоўскай сутане прасоўвае свае шчупальцы ва ўсе галіны жыцця і барацьбы. Ён падае цэлы праект змагання з пролетарскай рэволюцыяй. Па яго праекту ў барацьбе супроць большэвікоў павінен прыняць удзел не толькі „косцёл свенты“, але і антысовецкая прапаганда праз друк. Ён высоў-

вае неабходнасць арганізацыі паўстанняў у тылу Чырвонай арміі, наладжванне шпіянажу і ўцягвання ў больш актыўную барацьбу імперыялістаў Англіі і Францыі. Аўтар правільна паказвае, што пролетарская рэволюцыя ў Расіі мела міжнароднае значанне, чаму і выступалі супроць рэволюцыі драпежнікі ўсяго імперыялістычнага свету.

Мы маем у аповесці масавыя карціны переважна з жыцця і баявой дзейнасці Чырвонай арміі і партызан. Яны ў многім напамінаюць адпаведныя карціны з аналагічных па тэме твораў „Жалезны паток“ Серафімовіча, „Чапаеў“ Фурманава, хаця масавыя сцэны ў апошніх займаюць дамініруючае месца. Жыва, эмацыянальна, з вялікай любоўю падае аўтар карціны быта, паходнага жыцця чырвонаармейскага атрада, начлегу ў смалакураўскіх шалашах, збор партызан па сігналах „пастушыных“ труб, апошнюю пераможную сутычку дзеда Талаша з батальёнам пана Крулеўскага і выратавання партызанамі атрада чырвонаармейцаў, запёртых на выспе.

На старонках храстаматыі гэтыя карціны выканаюць вялікую ролю ў справе выхавання ў сэрцах маладога пакалення глыбокай павагі і любові да герояў-партызан і класавай нянавісцю да ворагаў працоўных мас.

У аповесці „Дрыгва“ Якуб Колас выступае, як вялікі майстар пейзажа. Калі ў такіх творах, як „ У Палескай глушы“, „У глыбі Палесся“ мы маем у плане нацыяналістычнай рамантыкі падкрэсліванне аўтарам „самабытнасці“ Палесся, знаходзячы ў прыродзе Палесся „сваю павабнасць і хараство“, якое „непасрэдна ўплывае на характар беларуса“, то ў аповесці „Дрыгва“ прырода выкарыстоўваецца аўтарам для падмацавання соцыяльных супярэчнасцяй, як фон, на якім разгортваюцца падзеі. Ужо ва ўступе, даючы малюнак вёскі, пісьменнік падкрэсліваннем дэталяй „і хаты няроўныя тут, як і людзі“, паказвае дыферэнцыяцыю вёскі.

Прырода заўсёды імпаніруе думкам, настроям і пачуццям герояў.

„Нерухома стаяў густы амярцвелы лес... ні звер, ні чалавек, ні птушка не парушалі яго зімняга спакоя... ішлі моўчкі (дзед Талаш і Мартын), углыбіўшыся ў свае самотныя думкі“.

Бадзёраму, жыццерадаснаму аптымістычнаму настрою чырвонаармейцаў і партызан пасля арышту белапалякаў у фольварку Віркуцці імпаніруе малюнак іх начлегу ў смалакураўскіх шалашах.

„Чырвонаармейцы жыва нанасілі дроў, разлажылі касцёр. Прыветліва загаманіў агонь і залатым бляскам расцёкся па тоўстых, шурпатых камлях“.

Наадварот, сумным думкам дзеда Талаша аб вызваленні Панаса адпавядае малюнак дзікай пушчы старога леса.

„Панура і грозна зяўрылі сваімі цёмнымі адтворынамі смалакураўскія шалашы, як пасці пачварных страшылішч“.

Элементы пейзажа трапна змантыраваны з другімі момантамі сюжэта, неадрыўны ад іх. Часта ў адным абзацы разгортванне падзей ці псіхалагічных перажыванняў, настрояў пераплятаюцца так шчыльна, што ствараюць непадзельнае адзінства, адно другім дапаўняемае. Малюнкі прыроды разбіваюць старую трактоўку Палесся, выкрэсліваючы містыку, страхі і яе „самабытнасць“.

„Балота балоту, лес лесу перакідалі водгулле невыразнага гуду...“

Трапная рука вялікага мастака відна ў выкарыстанні пісьменнікам пейзажа для стварэння ў чытача пэўнага настрою к успрыманню разгортваемых аўтарам падзей. Імкненне да барацьбы, упэўненасць у пера-

мозе над акупантамі Колас папярэджвае жывой дынамічнай карцінай веснавой прыроды.

„Тысячамі дарог у розных кірунках збягае веснавая вада... ёсць нейкія зваблівыя чары, паэзія і хараство ў гэтых дарогах-ручаях, у вясёлым гомане і грозным шуме... яны бягуць несціханна, бягуць бязупынна, дзе шпарчэй, дзе павальней, абыходзячы перашкоды і проста зносячы іх з сваёй дарогі, бягуць покі не сальюцца ў бурлівыя патокі, покі не ачысцяць зямлі ад снягоў, каб магутным разводдзем пралажыць шырокі шлях для яе новага жыцця“...

„Тысячамі дарог і ў розных кірунках ідуць і людзі, шукаючы сабе прастору, волі, усяго таго, што называюць яны сваёй радасцю і шчасцем.

На фоне ажыўлення веснавое прыроды аўтар падае падрыхтоўку штабаў да новых ваенных аперацый і пашырэнне партызанскага руху.

„Вясна—маладыя, бурлівы вір жыцця, імклівы, неспакойны рух у неакрэсленыя прасторы, шырокія як сама воля, і неясныя, як засмучаныя іх далечы; рух, якому падпарадкуюцца людзі і жывая прырода... рухавей павялі сваю работу ваенныя штабы“.

Рыхтуецца да рашучай схваткі з катамі і працоўнае насельніцтва акупаванага Палесся.

„Гуляе паводка, адбіваючы ў сабе чыстае неба і бліскучае сонца... носіць вадзяная пустыня на ўлоннях сваіх быстрыя востраносыя чаўны і лёгкія чайкі-душагубкі... патаемная змова туліцца пад стрэхамі занялых хат. Хутка ловяць гукі спасцярожлівае вуха і зорка ўглядаецца ў далечы вострае вока“.

Бадзёрасцю, аптымізмам, з лёгкім лірычным адценнем вее ад малюнка прыроды новага, соцыялістычнага Палесся, у яго ідзе „новы савецкі чалавек...“ каб абярнуць іх (балоты) у багатыя лугі і нівы“.

Вялікасны ўзбуджаючы малюнак становіць сабой паказ пачатку новага наступлення, калі ўрачысты спакой і цішыня, лёгкі подых паветра, таемны шэпт маладых лістоў пераходзяць у трывожнае... што? што? што? (паскоранне). Потым невыразны гук і ўздрыгванне зямлі, неспакойная насцярожанасць звяроў і птушак, урэшце гром і цяжкае буханне, уздых і ўздрыгванне ўсёй зямлі разгортваецца ў гарачыя дзеянні людзей „удзельнікаў“ гледачоў і актораў вялікай соцыяльнай драмы, дзе вырашаецца лёс мільёнаў. Такімі экспазіцыямі, як-бы ўвертурамі, падрыхтоўвае аўтар чытача да ўспрымання важнейшых падзей.

Разгортванне сюжэта аповесці характарызуецца строгай паслядоўнасцю разгорвання падзей у часе. Асобныя сюжэтныя лініі моцна скампанаваны. Часта для большай акрэсленасці аўтар робіць паказанне на час адбываючыхся падзей.

1. „І было гэта ўлетку, калі прышоў царскі загад аб мабалізацыі“.
2. „Было гэта ў той дзень, калі дзед Талаш прышоў на ўмоўленае месца спаткання з Панасам“.
3. „А пад вечар таго самага дня ў вёсцы з'явілася група польскіх жаўнераў“.
4. „У той, прыблізна час, калі Васіль Бусыга варочаўся ад павятовага камісаржа... Аўгіня думала схадзіць у Вепры ці не“.

Прыём завязвання своеасаблівых кампазіцыйных вузлоў ярка выяўляецца ў стрэлах з лесу ў час пагоні і забойства белапалякамі Кандрата Буса і інш.

Чытач з напружанай цікавасцю сочыць за тым, каб знайсці адказ на пастаўленае перад ім пытанне: хто-ж пасылаў з лесу кулі ў легіянераў?

І толькі праз значны адрэзак часу чытач даведваецца, што страляў Мартын Рыль.

Неабходна адзначыць, што разгортванне падзей і паасобных сюжэтных ліній ідзе ў плане своеасаблівых перакрыжоўваючыхся кампазіцыйных кругоў. Мы бачым, што характарыстыка вобраза Аўгіні пачынаецца з паказу яе ўзаемаадносін з Мартынам і канчаецца падкрэсліваннем яе кахання да загінуўшага Мартына.

Таксама каардынацыя дзеянняў Чырвонай арміі і партызан пачынаецца з паказу дапамогі камбата Шалёхіна дзеду Талашу ў арганізацыі партызанскага атрада і канчаецца дапамогаю атрада дзеда Талаша батальёну Шалёхіна выбрацца з выспы.

Агульным, як бы абрамляючым разварот паказа ўсёй барацьбы кругам з'яўляецца пытанне: „чый ты цяпер падданы?“

Гэта першае пытанне, якое пачуў дзед Талаш ад пана Крулеўскага і гэтым-жа пытаннем дзеда Талаша да пана Крулеўскага зачыняецца круг іх барацьбы. Гэта гаворыць аб вялікім уменні, удумлівасці, строгай планавасці і напружанай працы аўтара над аповесцю.

У аповесці „Дрыгва“ мы наглядаем удалую трансфармацыю аўтарам стылевых вобразаў сваёй ранейшай творчасці. Буру і другія стыхійныя з'явы прыроды раней аўтар ужываў, як сімвал стыхійнасці рэволюцыі. У аповесці „Дрыгва“ яны напоўнены новым соцыяльным зместам і выкарыстоўваюцца аўтарам для падкрэслівання класавай барацьбы і вялікіх соцыяльных рушэнняў.

„Праз буру прыдзе новы лад і народзіцца новы чалавек“.

Жывасці, яркасці і эмацыянальнай насычанасці вобразаў аўтар дасягае не толькі адпаведным выкарыстаннем прыроды і бытавых карцін, але і ўмелым падборам слоўна-мастацкіх сродкаў.

Мова аповесці вызначаецца перш за ўсё сваёй прастатой, эмацыянальнасцю і даступнасцю для шырокіх працоўных мас.

Мастацкія сродкі для характарыстыкі знадворных і ўнутраных якасцей асобных герояў пісьменнік падбірае адпаведна соцыяльнай прыналежнасці данага героя і адносін да яго аўтара.

Постаць дзеда Талаша пісьменнік параўноўвае з дубам.

„Дзед заняў пазіцыю пад старым прысадзістым, каржакаватым, як і сам дзед Талаш, дубам“.

Першая прамова дзеда Талаша да партызан пасля выбару яго атаманам атрада характарызуе вузкасць яго кругагляду. Значна шырэй разгортваюцца погляды дзеда Талаша на рэчаіснасць у яго прамове на сходзе партызан і яшчэ больш удала пабудавана поўная лірызма яго прамова над трупамі забітых партызан і свайго вернага памочніка Мартына.

Для выражэння прыхільных адносін дзеда Талаша да людзей, блізкіх яму па свайму соцыяльнаму становішчу, дзед Талаш часта ўжывае такія звароты:

„Галубы, голубе, нябога, хлопча, сокалы“ і інш.

У гэтых словах не толькі адчуваецца прыхільнасць, цёплыя адносіны, але яны яскрава гавораць і аб тым, што гэта гаворыць стары чалавек-селянін. Наадварот, сваіх класавых ворагаў дзед Талаш называе: поскудзь, грабежнікі, гвалтаўнікі, каты, з частым пажаданнем: „ах, згінь іх доля“.

Для характарыстыкі прадстаўнікоў контррэволюцыі аўтар скарыстоўвае зусім іншыя мастацкія сродкі. Партрэт генерала— „з доўгімі як у маржа вусамі.“

Прадстаўнікоў польскай контрразведкі Колас малюе наступнымі фарбамі:

1. „Адкормлены, рыжавусы, тоўстаморды чалавек зверскага віду“.
2. „Кароценькі, шустры, з крываватым носам і гладка падбрыты... ён увесь варушыўся, гатовы, здаецца, пралезці ў самую маленькую шчылінку“.
3. „Доўгі, худы і пануры, з зямлістым колерам твару“.
4. „Рыжавусы зневажліва павярнуў... разбойніцкую морду і на гэтай мордзе адбілася пагардлівасць“.

Удалы падбор аўтарам мастацкіх сродкаў у абмалёўцы саміх партрэтаў выклікае агіду ў чытача да сваіх класавых ворагаў.

Соцыяльна-насычана і індывідуалізавана мова кулакоў у гутарках паміж сабою ў адносінах з акупантамі і ў сям'і, а таксама аўтар трапна выкарыстоўвае словы, характарызуючыя іх драпежніцкае нутро, іх знадворны выгляд і характары.

Для Васіля Бусыгі большэвікі і партызаны—гэта „галадранцы, разбойнікі, грабежнікі, вар'яты“.

У адносінах да жонкі і дзяцей праз мову выяўляецца яго кулацкае нутро дэспата-эксплаататара, а ў гутарцы з панам Крулеўскім яго падробленая пад польскую мова раскрывае яго як падхаліма-прадажніка.

Усе асноўныя вобразы і іх мова маюць пад сабою моцную мастацкую базу працоўнага фольклора.

1. „Лепей спазніцца, чым не ў час схапіцца“.
2. „Каб і сена было цэлае, каб і козы былі сытыя“.
3. „Покі жаніцца, загаіцца“.
4. „Хто сее вецер, той пажынае буру“.
5. „Чырвонаармейцы елі мёд... выходзячы з правіла, што салдацкі жывот пераварыць шрубу, гайку і ружэйнае сала“.

Ёсць звароты, пабудаваныя ў плане народных казак:

1. „Ні звер, ні чалавек, ні птушка, не парушалі яго (лесу) ранішняга зімняга спакою“.
2. „Ад чалавека да чалавека, ад сяла да сяла вандравалі яны (весткі) тысячамі дарог і сцежак і расказвалі аб падзеях, што тварыліся на Палессі“.

Ёсць моманты, якія моцна нагадваюць матывы народнай песні, як напрыклад, „а ў гэтых чаўнах, а ў гэтых чайках шнуруюць ад вёскі да вёскі... сыны Палесся“.

Пісьменнік у аповесці „Дрыгва“ на канкрэтным гістарычным матэрыяле разгарнуў рэалістычны паказ жыцця і змагання канкрэтных жывых класавых людзей, праўдзіва ўскрыў сутнасць грамадзянскай вайны і яе класавы характар і падняўся на высокую ступень мастацкага абагульнення. Аўтар не расказвае, а паказвае ў мастацкай форме соцыяльную практыку класавых людзей у тыповых абставінах, рэзка супроцьстаўляе сілы пролетарскай рэволюцыі сілам контррэволюцыі, чым у значнай ступені наблізіўся да выканання выказванняў Энгельса, што „асоба характарызуецца не толькі тым, што яна робіць, але і тым, як яна гэта робіць“.

У сваёй аповесці Я. Колас не канстатуе асобныя факты, як пасіўны назіральнік, а як актыўны ўдзельнік соцбудаўніцтва раскрывае асноўную вядучую накіраванасць псіхалогіі і паводзін сваіх персанажаў у іх соцыяльнай абумоўленасці—адштурхоўваецца ад абстрактнага псіхалагізма і дае вобразы класавага чалавека. Я. Колас зусім па новаму зірнуў на

Палессе і зусім па новаму трансфармаваў свае старыя вобразы, напоўніўшы іх новым соцыяльным зместам.

У аповесці „Дрыгва“ Я. Колас выступае, як вялікі майстра мастацкай дэталі, якая ў яго трапна ўплятаецца ў агульную канву твора.

Кампазіцыя і элементы стыля вызначаюцца дынамічнасцю, лакалічнасцю. Яснасць мовы і сатырычнае адценне ў паказе класавых ворагаў робіць кнігу цікаваю, жывою і вельмі лёгкаю для ўспрымання.

Мастацкая літаратура павінна стаць адным з вялікіх вагароў па выкарчоўванню рэштак капіталізма ў свядомасці людзей.

Аповесць „Дрыгва“ ў гэтым сэнсе заняла досыць пачэснае месца сярод другіх твораў не толькі беларускай, але і рускай совецкай літаратуры.

---

К. Губарэвіч

# А. ВОЛЬНЫ

(Творчы партрэт)

Кінематаграфічныя творы заслужанага дзеяча мастацтва. Ан. Вольнага даюць поўнае права казаць аб выразна акрэсленай творчай мэтаімкнёнасці яго. Яна акрэслілася як у напрамку ідэйнага росту, а таксама і ў напрамку выбара свайго жанра. А. Вольны—кіно-драматург.

Праўда, творчая дзейнасць А. Вольнага даволі багатая сваёй рознабаковасцю. Хто не ведае А. Вольнага як майстра вострых таленавітых фельетонаў, вядомых у савецкай прэсе?

У літаратуру ён прыйшоў з гарачай лірычнай задушэўнасцю паэта. З цягам часу ад лірыкі А. Вольны пераключыўся на рамантычны эпас апісання гераічных дзён партызанскай барацьбы і грамадзянскага фронта на Беларусі. Яго аповесць „Два" вядома і за межамі Савецкага Саюза.

І нарэшце, у беларускай савецкай кінематаграфіі А. Вольны вядомы, як аўтар цэлага шэрагу сцэнарыяў. Як кіно-драматург А. Вольны бадай болей вядомы чым паэт і белетрыст у літаратуры. Не таму, вядома, што кінематаграфічныя работы занялі найбольшае месца ў яго творчасці, а таму, што работа ў кінематаграфіі стала яго сталбавой дарогай. У гэтым напрамку А. Вольны з'яўляецца першым пісьменнікам не толькі ў беларускай, а і ва ўсёй саюзнай літаратуры, аддаўшым асноўную ўвагу для стварэння кінематаграфічных твораў. І калі казаць аб творчым шляху А. Вольнага, дык у першую чаргу трэба казаць аб яго сцэнарыях і карцінах, таму, што яны ў канечным выніку склалі сабой яго творчую сістэму.

З 37 мастацкіх карцін, пастаўленых Белдзяржкіно за 10 год свайго існавання, аўтарству А. Вольнага належыць пяць карцін. Гэта наступныя карціны: „Хвоі гамоняць"—рэж. Малчанаў (1928 г.), „У агні народжаная"—рэж. В. Корш (1929 г.), „Сонечны паход"—рэж. В. Корш (1932 г.) і „Радзіма"—рэж. Эд. Аршанскі (1935 г.). У 1931 годзе А. Вольны напісаў сцэнарый „Справа 222", але гэты сцэнарый па некаторых прычынах не быў пастаўлены.

Шостай пастаўленай карцінай па сцэнарыю А. Вольнага быў кінонарыс „Знойдзеная зямля"—рэж. Вайншток (1929 г.). Усе яны, пастаўленыя ў розны час і рознымі рэжысерамі, увасобілі сабой не толькі асаблівасці творчага росту самаго Вольнага і рэжысераў, але яны былі адначасова і паказальнікамі тых этапаў росту беларускай і ўсёй савецкай кінематаграфіі, калі гэтыя карціны ставіліся.

Але кожная з іх паасобна з'яўляецца бясспрэчным дакумантам фарміравання творчага метаду А. Вольнага, з'яўляецца дакумантам і паказальнікам палітычна-мастацкага росту ўсёй беларускай кінематаграфіі. Ніжэй мы застановімся на знаменальным палітычным значэнні ўсіх гэтых карцін на пэўных этапах развіцця беларускай кінематаграфіі, але і зараз ужо можна сказаць, што на першых этапах ідэйнага станаўлення беларускай кінематаграфіі карціны А. Вольнага адыгралі вялікую ролю. Іх значэнне было-б куды большым, каб мастацка-творчае станаўленне А. Вольнага не было такім зігзагаабразным, што значна падоўжыла яго шлях да авалодання майстэрствам рэалістычнага стыля.

Калі можна падзяліць творчую гісторыю мастака на нейкія асобныя этапы, дык такіх этапаў у А. Вольнага будзе—два. Першы з іх—гэта рэволюцыйна-рамантычнае апісанне героікі партызанскага руху і грамадзянскай вайны на Беларусі. З гэтым перыядам звязаны яго сцэнарыі карцін „Хвоі гамоняць“, „Отэль Савой“ і „У агні народжаная“. Для другога этапа характэрны пералом у бок рэалістычнага майстэрства. З гэтым этапам звязаны карціны „Сонечны паход“ і „Радзіма“.

Рознахарактэрныя па ўзроўню стылёвай і ўсёй кінематаграфічнай культуры гэтыя два этапы аб'яднаны ўсё-ж адзінай ідэйнай магістраллю.

Тав. Дзінамаў у сваім дакладзе аб беларускім кіно-мастацтве сказаў: „Соцыялістычная радзіма, любоў да яе—вось што самае дарагое для кіномастацтва Беларусі“. І калі даць азначэнне таго, што-ж сабой уяўляе гэтая ідэйная магістраль, аб'яднаючая розныя этапы творчасці А. Вольнага, дык гэта і будзе любоў да соцыялістычнай радзімы.

Усе яго карціны дышуць гэтай любоўю. І тут дарэчы неабходна падкрэсліць у сувязі з гэтым адну надзвычайна важную для мастака асаблівасць: гэта тэма: літаратурная і драматургічная творчасць А. Вольнага не ведае так званых „бакавых“ тэм. Ідэйнай крыніцай для тэматыкі А. Вольнага заўсёды было жыццё соцыялістычнай краіны, жыццё палымнеючае сваімі лепшымі падзеямі, яркае лепшымі вобразамі свайго часу.

Тут да рэчы трэба зазначыць, што для кінематаграфіі, болей бадай як для другога мастацтва, мае значэнне ідэйна-соцыяльная глыбіня тэмы. Мастацтва кіно—самае масавае. Кожны кіно-твор адрасуецца не к сотням, тысячам, а к мільённай аўдыторыі і—аўдыторыі самай рознастайнай па свайму соцыяльна-культурнаму складу. Адну і тую-ж карціну можа глядзець і акадэмік і плытагон. Трэба, каб у таго і другога карціна абудзіла аднолькавыя соцыяльныя эмоцыі. А для гэтага ў аснове ідэйнага фундаменту карціны павінны ляжаць глыбокая і вострая соцыяльная праблема, аднолькава цікавая для акадэміка, плытагона, інжынера і конюха. „Чапаеў“—ідэальны прыклад гэтаму. Няўдача сцэнарных работ некаторых пісьменнікаў выцякала з таго, што яны бралі менавіта „бакавыя“ тэмы, якія да некаторай ступені цікавы былі толькі для адной якой-небудзь катэгорыі людзей, або—тэмы мінулай актуальнасці, як скажам эволюцыя старай дарэволюцыйнай інтэлігенцыі к соцыялізму ці інш. Самая ўдзячная задача пісьменніка-драматурга—знайсці вострую, актуальную для мільённай кіно-аўдыторыі тэму, пры ўмове, канечна, яе высока-мастацкага вырашэння.

І А. Вольны адразу стаў на шлях пошукаў такой тэмы.

Гераічнае змаганне і смерць большэвікоў Гомельскага рэўкома

ў час стрэкапытаўскага паўстання ў 1919 г. у карціне „Отэль Савой“, героіка партызанскай барацьбы працоўных Беларусі з белапольскімі акупантамі („Хвоі гамоняць“), нараджэнне Беларускай Совецкай Рэспублікі ў агні імперыялістычнай і грамадзянскай вайны („У агні народжаная“), гады вялікага пералому совецкай вёскі на шлях калгаснага будаўніцтва („Сонечны паход“), соцыялістычная дапамога брацкіх рэспублік Совецкага Саюза калгаснаму будаўніцтву БССР („Радзіма“)— вось тэмы кінематаграфічных работ А. Вольнага і іх соцыяльныя крыніцы.

Што з‘яўляецца важным і знаменальным у пералічаных творах? Гэта—імкненне мастака ісці па галоўнай магістралі эпохі, гэта проба сябе на яе мужных перадавых ідэях.

Гётэ аднойчы сказаў: „Чалавек, які жыве лепшым свайго часу будзе жыць заўсёды“. І вось гэтае імкненне—самае каштоўнае для совецкага мастака, калі ён хоча „жыць заўсёды“. Праўда, каб замацаваць свой голас над вякамі мастак павінен лепшае свайго часу ўвасобіць у вобразах вялікай мастацкай сілы. Але гэта бывае тады, калі арсенал творчай узброенасці мастака таксама багаты і разнастайны, як багата і разнастайна рэчаіснасць эпохі: гэтая адпаведнасць дасягаецца напружанейшай барацьбой мастака за авалоданне ідэйным багаццем эпохі, за авалодванне мастацтвам рэалістычнага майстэрства.

І на барацьбу за авалоданне рэалістычным мастацтвам А. Вольны аддаў усю сваю творчую маладосць. Гэта быў перыяд пошукаў свайго стыля, пошукаў самаго сябе і свайго голасу, які прышоў да яго разам з творчай спеласцю. Карацей кажучы—гэта была барацьба за майстэрства творчага ўвасаблення перадавых ідэй, наблізіўшая А. Вольнага к стылю соцыялістычнага рэалізма.

Якія-ж перамогі і паражэнні ў гэтай барацьбе, што з сябе ўяўляе канкрэтны творчы ўклад А. Вольнага ў беларускую і ва ўсю совецкую кінематаграфію з пункту погляду яго творчага майстэрства?

Усе пяць карцін, пастаўленых па яго сцэнарыях, і выяўляюць крывую ўздыму гэтага майстэрства.

Праўда, першыя тры сцэнарыі А. Вольнага „Хвоі гамоняць“, „Отэль Савой“ і „У агні народжаная“, пры ўсім сваім стылевым і жанравым разліччы стаялі на адным і пры тым—невысокім узроўні творчай культуры. Але гэтыя сцэнарыі адыгралі вялікую ролю ў творчым станаўленні А. Вольнага.

„Хвоі гамоняць“—першы сцэнарый А. Волнага. Як першы сцэнарый ён больш ярка выявіў несамастойнасць творчага метаду А. Вольнага. У гэтам сцэнарыі перакрыжаваліся самыя разнастайныя ўплывы стылей і жанраў. Тут соцыяльная рамантыка і звычайная любоўная меладрама, эпас вялікіх соцыяльных падзей і стандартны амерыканскі дэтэктыў.

Партызанскі атаман Аса ўзначаліў сялян уцёкшых у лясы ад жудасці белапольскага тэрору. Партызаны арганізуюцца для актыўнага ўзброенага выступлення супроць белапалякаў. У гэты час Аса захапіў у плен паню з дачкой. Пану Аса прад‘яўляе ультыматум, што пакуль пан не зверне сялянам адабраны ў іх хлеб — Аса не адпусціць жонку і дачку.

Панскай дачцы спадабаўся адважны атаман Аса. Яна пачала ўжо непакоіцца за небяспеку Асы і своечасова папярэдзіла Асу аб пагрозе нечаканага налёту палякаў на партызанскі стан. Аб адносінах панскай дачкі да Асы дазнаецца Алеся—вясковая дзяўчына, якая любіла яго, і пачынаецца новая сітуацыя з рэўнасцю.

Так перакрыжаваліся лініі розных жанраў. Але дамініруючай тэндэнцыяй аказалася лінія прыгодніцкага жанра. Вось чаму спружынай развароту падзей з'яўляюцца прыгодніцкія перэпетыі партызанскага атамана Асы. Гэта ён улюбляе ў сябе дачку польскага графа, гэта ён прабіраецца ў графскі палац і, захапіўшы з сабой раней напісанае аднаму шпіёну рэкамендацыйнае пісьмо ў дэфензіву, з'яўляецца туды і атрымоўвае поўнамоцтвы на спайманне... Асы. Ён усюды можа пранікнуць, як „шапка-невидимка", ён неўлавімы, ён ратуецца з любога рызыкоўнага становішча і ратуе другіх.

Так па законах жанра, прадыктаванага амерыканскай кінематаграфіяй, уплыў каторай у той час быў яшчэ вельмі значны, на пярэднім плане аказаўся дытэктыў, які зацямніў сабой падзеі барацьбы працоўных Беларусі з белапольскімі акупантамі.

— Але ў гэтай карціне,—кажа т. Дзінамаў у сваім дакладзе аб беларускім кіномастацтве,—як гул набата гучыць тэма звароту абшарніка на зямлю і ўсё тое, што нясе гэты зварот працоўным Беларусі. Гэты матыў багата ў чым акупляе недахопы карціны"...

І тое, што яна так прагучэла ў карціне, гаворыць ужо за ўменне Вольнага надаць ідэйную актуальнасць сваёй тэме. Але разам з гэтым А. Вольны на карціне „Хвоі гамоняць" практычна пераканаўся ў неадпаведнасці багацця ідэйна-творчага замыслу і сродкаў яго мастацкага раскрыцця. Урок гэтай неадпаведнасці быў улічаны А. Вольным у наступных работах. Але зноў-такі ў пошуках правільнага метаду ён не пазбег другой не менш небяспечнай крайнасці. Не знайшоўшы (таму, што пошукі ішлі не па правільнаму шляху) мастацкіх сродкаў раскрыцця замысла ў асобным чалавеку, А. Вольны пачаў шукаць іх у цэлым калектыве людзей, маналітна злітаваных ідэяй рэволюцыйнай барацьбы.

Такім калектывам стала група гомельскіх большэвікоў, мужна загінуўшых у барацьбе з контррэволюцыйным стрэкапытаўскім паўстаннем у 1919 годзе. Гэта мужная смерць гомельскіх большэвікоў стала тэмай другога сцэнарыя А. Вольнага „Отэль Савой", таксама натхненнага гераічнымі днямі класавых баёў грамадзянскага фронта на Беларусі.

У сцэнарыі „Отэль Савой" ужо няма, як у „Хвоі гамоняць", „героя" і „масы". Нібы-то з апасення высунуць каго-небудзь з герояў наперад—усе падзеі сцэнарыя размеркаваны паміж чалавецкімі вобразамі, амаль роўнамерна. Група большэвікоў Гомельскага рэўкома забарыкадыравалася ад стрэкапытаўцаў у отэлі „Савой". Іх чакае немінучая смерць. Яны гэта добра ведаюць, але з чалавецкай упартасцю рэўкомаўцы адстрэльваюцца да астатняга патрона.

Усе яны аднолькава адухоўлены воляй барацьбы за пролетарскую рэволюцыю, аднолькава гераічны, абараняючы рэўком ад шалёнага напору стрэкапытаўскіх банд, аднолькава гераічна гінуць і ўсе яны, такім чынам, прайшлі па карціне просталінейнай шарэнгай. Тут ужо не асобны „герой", а „герой-маса" як у Эйзенштэйнаўскай „Стачцы", якая мела бясспрэчны ўплыў на карціну „Отэль Савой". Гэты ўплыў ішоў па двух напрамках. У напрамку драматургічнай арганізацыі падзей і ў напрамку рэжысёрскай трактоўкі іх. „Отэль Савой" была першай самастойнай пастаноўкай маладога рэжысера Файцымера. Імкнучыся ператварыць у сваёй творчай практыцы пазіцыі школы Эйзенштэйна, Файнцымер ўсё-такі сыйшоў на дробныя фармалістычныя эксперыменты. Праход па пляцу малога дзіця, якое адстала ад маткі, у Файнцымера вырас у самастойны антракцыён. Гэтае дзіцё знята апаратам з усіх бакоў і самае „ўдарнае"—здымкі гэтага дзіцяці з вышыні дзесятага паверху

дома. Ледзь прыкметнай кропкай яно паўзе па шырокім і пустым пляцы. Віртуозныя пункты апарата, бессэнсовае і надаедлівае смакаванне малазначных дэталей аселі ў карціне густым фармалістычным налётам, надаўшым ёй адпаведны колер.

У канечным-жа выніку творчы напрамак карціны вырашыў усё-такі творчы метад А. Вольнага.

Гэты метад быў таксама не менш, калі не больш, пагрозным сваімі вынікамі. Калі ў сцэнарыі „Хвоі гамоняць“ падзеі аб'ядналіся за лік развіцця псеўда-рэвалюцыйных тэндэнцый чалавечага вобраза, дык у „Отэль Савой“ чалавечыя вобразы аб'ядналіся звычайнай нівеліроўкай.

Праўда, пагроза прыніжэння ролі жывога чалавечага вобраза ў сцэнарыі „Отэль Савой“ не так яшчэ выпуклялася. Нават і пры такой нівеліроўцы ў некаторых вобразах была захавана іх індывідуальнасць. Але гэтая пагроза канчаткова выспела ў трэцім сцэнарыі А. Вольнага „У агні народжаная“.

Тэндэнцыя на выжыванне чалавечага вобраза з мастацкага твору ў гэтым сцэнарыі набыла сваё канчатковае завяршэнне. Тут ужо няма канкрэтнага чалавечага вобраза. Замест вобраза—паняцці, падабраныя па прынцыпу лагічнага развіцця ідэі. Ідэя сцэнарыя—паказаць соцыялістычнае нараджэнне Совецкай Беларусі з агня імперыялістычнай і грамадзянскай вайны. Спачатку аўтар робіць гістарычны экскурс у далёкае мінулае Беларусі—у часы панавання беларускіх князёў Гедымінаў. І вось—Беларусь тагочасная. Непраходныя балоты, засмактаўшыя вёскі, нявольнікаў-сялян і ўсё іх жыццё. Першабытнае дзікунства. Сяляне моляцца перад дрэвам, з якога тапаром выцесана абліччa паганскага бога.

І над усім гэтым—князь Гедымін, для якога сярод балот і нетраў нявольнікі-сяляне будуюць грунтаваную дарогу, усцілаючы яе сваімі касцямі. Увесь гэты эпізод карціны—моцны сімвалічны фрагмент, які ілюструе сабой ідэю цяжкай гістарычнай мінуўшчыны Беларусі.

Далей падаецца другое паняцце: Беларусь у часы белапольскай акупацыі. Дзве далёкія эпохі аказаліся незвычайна падобныя адна на другую. У першай феадал Гедымін усцілае свае дарогі касцьмі нявольнікаў-сялян, у другой—белапольскія драпежнікі таксама ўсеялі свае дарогі па Беларусі касцьмі працоўных Беларусі. Асацыяцыйнае супастаўленне двух далёкіх эпох мела адну мэту паказаць цяжкі пакутны шлях працоўных Беларусі, якім ішлі яны да свайго вызвалення. У карціне ёсць усё: ёсць сярэдневяковае дзікунства, балоты, смерць, ёсць масы, рэволюцыйныя падзеі, палкі, вырасшыя з рабочых і сялянскіх добраахвотнікаў, узняўшы зброю супроць інтэрвентаў, ёсць банды Булак-Балаховіча, але канкрэтнага чалавечага вобраза, вырастаючага з падзей і рухаючага іх—у сцэнарыі няма.

Замест канкрэтнага чалавека ў цэнтры ідэйна-мастацкага замыслу стаіць сімвалічная ідэя—нараджэнне новай Беларусі, Соцыялістычнай.

Па замыслу свайго творчага раскрыцця гэта ідэя павінна была выліцца ў патэтычную паэму аб нараджэнні рэспублікі. Язык гэтай паэмы—не звычайны язык рэалістычнага апавядання аб простым і канкрэтным. Гэта хутчэй за ўсе—усхваляваная песня аб незвычайным, але шчаслівым нараджэнні чагосьці новага.

Каб замысел карціны быў рэалізованы ў якім-небудзь літаратурным жанры, дык там кожны назоўнік пачынаўся-б з вялікай літары. У карціне гэтыя назоўнікі таксама набываюць сваю сімвалічную велі-

чыню. Велізарны сялянскі карагод вакол купальскіх агнёў і пошукі „шчаслівай кветкі“ папаратніка—у карціне гэта не раскрыццё дзікунскага паверʻя, гэта сімвал адвечных, беспасляховых пошукаў шчасця абяздоленым сялянствам. Вякамі яно шукала сваё шчасце ў „шчаслівай кветцы“ папаратніка, не ведаючы таго, што сапраўднае шчасце—не ў кветцы, а ў барацьбе з прыгнётам эксплаататараў.

Ї вось грамадзянская вайна. Сяляне, якія стаяць каля сваіх сох, рабочыя—каля станкоў—з наплыва ўжо сядзяць чырвонаармейцамі на канях. Адзін чырвонаармеец множыцца ў полк, полк вырастае ў бязлікія рады чырвонай конніцы. Наплывы і прызматычныя множыцелі тут выходзяць не ад апаратарскай віртуознасці. Гэтыя тэхнічныя прыёмы таксама выконваюць функцыю сімвала. Ї амаль кожны кадр гэтай карціны зʻяўляецца сімвалічным знакам.

Па сваім стылевым прыёмам і канструкцыі „У агні народжаная“ вельмі блізка да „Звенігоры“—Даўжэнка і „Октября“ Эйзенштэйна.

А ўсе яны разам узятыя і падобныя ім паўтарылі ў кінематаграфіі касмічныя парывы літаратурнай „Кузніцы“. Ї калі „Кузніца“ ў літаратуры аформіла сабой нейкую стылёвую тэндэнцыю, дык у кіно гэтая тэндэнцыя загінула ў сваім зародку. Глыбока рэалістычнай прыродзе экрана зусім не спрыяе абстрактная рассудачнасць і беспрадметная сімволіка.

Вось чаму яны разам узятыя не пакінулі ў кінематаграфіі прыметнага следу, апрача вялікай рэжысёрскай культуры „Октября“, „Звенігоры“ і „Арсенала“.

Але для беларускай кінематаграфіі „У агні народжаная“, таксама, як і „Хвоі гамоняць“ і „Отэль Савой“ мелі даволі вялікую ўдзельную вагу сваёй палітычнай значнасцю.

Перыяд выпуску гэтых карцін у беларускай кінематаграфіі быў самым знаменальным у сэнсе разгортвання ў ёй класавай барацьбы.

Выпускам першай сваёй карціны „Лясная быль“ Тарыча беларуская кінематаграфія пачала сваю ідэйна-мастацкую гісторыю. „Лясная быль“—была першай карцінай аб вызваленні Беларусі ад белапалякаў і першая карціна паказала невычэрпнае багацце гэтай тэмы, багацце, якога хопіць на дзесяткі і сотні твораў любога віда мастацтва, а кінематаграфіі—у асаблівасці.

Ї здавалася, што такая тэма стане асноўнай у беларускай кінематаграфіі пасля ўдалага выпуску „Лясной былі“. Але на некаторы час „Лясная быль“ засталася адзінокай спробай. Нацдэмы пастараліся інтэрніраваць яе за межамі мастацтва. Даказвалі, што „Лясная быль“ гэта зусім не мастацкі фільм, а недобраякасны мантаж хранікальных эпізодаў, якія нічога агульнага не маюць з сапраўдным мастацтвам. Пры гэтым яны старанна не хацелі бачыць таго энтузіязма працоўных Беларусі, які выклікала зʻяўленне на экранах „Лясной былі“.

Падрыхтаваўшы такім чынам пазіцыі для наступлення на беларускую кінематаграфію, нацдэмы актыўным ужо ўмяшацельствам павярнулі яе ўвагу ад тэматыкі грамадзянскай вайны на Беларусі.

Гэта ўвага сканцэнтравалася на „Кастусі Каліноўскім“, „Гіршы Лекерце“ і „Песні вясны“. Перыяд выпуску гэтых карцін—перыяд адкрытага наступлення беларускага нацдэмакратызма на Белдзяржкіно.

Ї вось, у самы разгар гэтага наступлення зʻяўляюцца „Хвоі гамоняць“, „Отэль Савой“ і „У агні народжаная“—А. Вольнага. Карацей кажучы, тэма гераічных дзён партызанскай барацьбы і грамадзянскага фронта на Беларусі карцінамі А. Вольнага дала рэванш.

Праўда, і гэтыя карціны нацдэмы хацелі зацкаваць, але цяжка ўжо было схаваць у нацдэмаўскім мяшку вострую палітычную тэму беларускай кінематаграфіі.

У сцэнарыях А. Вольнага гэта тэма рэабілітавалася. Але раней зазначалася, што ўсе гэтыя карціны, асабліва „Ў агні народжаная“—былі характэрнымі этапамі яго творчага станаўлення.

„У агні народжаная“ дала магчымасць А. Вольнаму пераканацца ў сваёй другой крайнасці, дайшоўшай да адмаўлення мастацкага чалавечага вобраза. Зараз перад ім паўстала задача: паміж гэтымі двума працілегла накіраванымі сіламі знайсці трэцюю „ровнадействующую“. Гэта азначала—знайсці жывы чалавечы вобраз, які-бы ў фокусе сабіраў праменні, выходзячыя да ідэйнага замыслу і ўвасабляў-бы іх у форме нейкага канкрэтнага мастацкага твору.

Гэта спроба была зроблена ў наступным сцэнарыі А. Вольнага „Сонечны паход“.

Цэнтральным вобразам сцэнарыя быў селянін Халімон—серадняк. У гады вялікага пералому савецкай вёскі на шлях калгаснага будаўніцтва перад Халімонам паўстала пытанне: куды і з кім пайсці? Ці то пайсці ў калгас, у комуну, ці то застацца на сваіх вузенькіх жабрацкіх палосках і цягнуць адвечную дзедаўскую лямку? Халімон вырашае ўсёткі хоць паглядзець як жывуць калгасы і комуны. Ён зайшоў у суседнюю комуну. Перад яго вачыма праходзяць надзвычайныя жывёлагадоўчыя фермы з адкормленымі свіннямі, цялятамі, каровамі, коньмі, ён бачыць машыны, замяніўшыя пякельную працу аднаасобніка, ён спрабуе смачны абед комунараў, якія жывуць шчаслівым заможным жыццём. І толькі пасля ўсяго гэтага ён пераконваецца ў калгасным жыцці і, звярнуўшыся ў сваю вёску, першым запісваецца ў калгас. У гэтым сцэнарыі А. Вольны не змог яшчэ арганічна ўплесці вобраз серадняка ў рэчаіснасць. У даным выпадку рэчаіснасць для А. Вольнага была толькі ілюстрацыйным матэрыялам для доказу сваёй ідэі і прытым—матэрыялам тэндэнцыйна падабраным. Аўтар выбраў самую лепшую комуну, дзе самыя лепшыя машыны, коні, каровы, свінні, самыя лепшыя абеды і наогул—самае лепшае жыццё. Усё гэта ў парадным карэ прайшло перад вачыма Халімона, каб уздзейнічаць на яго аднаасобніцкую псіхіку. Сам-жа Халімон апынуўся ў ролі параднага пасіўнага наглядальніка. Але ў даным выпадку не гэта можа быць важна. Важна тое, што А. Вольны імкнуўся падзеі рэчаіснасці паказаць цераз чалавечую псіхіку, важна тое, што А. Вольны ўбачыў узаемаўздзеянне чалавека і рэчаіснасці, акаляючай яго. Важна, нарэшце, тое, што была зроблена спроба паставіць у цэнтр мастацкага твору жывы чалавечы вобраз, вобраз вырастаючага чалавека, якога беспаспяхова шукала тады ўся савецкая кінематаграфія. І гэта як раз у той перыяд савецкай кінематаграфіі, калі ў большасці карцін замест жывога мастацкага вобраза фігуравалі публіцыстычныя тэзісы. Гэта быў так-званы перыяд агітпропфільма—родны брат літфронта ў літаратуры.

Праўда, не пазбегла агітпропаўскага ўплыву і карціна „Сонечны паход“. Некаторыя яе мастацкія аргументы падменены тэзісамі. Але гэта не перашкодзіла А. Вольнаму інстынктам мастака знайсці нарэшце тое, чаго ён так доўга шукаў у сваіх мінулых работах—чалавечы вобраз.

У гэтым напрамку карціна „Сонечны паход“ для А. Вольнага мела этапнае і рашаючае значэнне. Ад яе пачынаецца новы этап творчага станаўлення А. Вольнага на пазіцыях рэалістычнага мастацтва. І самым

характэрным у гэтым напрамку быў сцэнарый „Салікамск“, па якому зараз пастаўлена гукавая карціна „Новая радзіма“ (рэж. Аршанскі). Дзяржвыдавецтва выдала гэты сцэнарый як кіно-аповесць. І вось, ледзь не адначасова з друку вышла аповесць „60-я паралель“, а з вытворчасці на беларускай кіно-фабрыцы вышла карціна „Новая радзіма“. Так што чытач аповесці будзе і глядачом карціны.

Праўда чытач, на вялікі жаль, не ўсё тое ўбачыць у карціне, аб чым ён чытаў у сцэнарыі і кіно-аповесці „60-я паралель“. Ен не ўбачыць прыгожых салікамскіх пейзажаў, якімі пачынаецца сцэнарый, не ўбачыць некаторых цёплых лірычных фрагментаў, якія не ўвайшлі ў карціну і яшчэ багата чаго не ўбачыць ён. Багата чаго не ўвайшло са сцэнарыя ў карціну, але і багата чым дапоўнен сцэнарый у пастановачным перыядзе, дзе мела месца і новая рэжысерская трактоўка асобных вобразаў. Ніжэй будзе прааналізавана рэжысерская інтэрпрэтацыя сцэнарыя, а зараз-жа неабходна адзначыць адно: пры ўсіх несупаданнях некаторых месц карціны і сцэнарыя—агульны ідэйна-эмацыянальны вынік таго і другога даволі высокі. Тут у першую чаргу трэба падкрэсліць удачу ідэйнага замысла сцэнарыя. Гэты замысел рэалізаваны ў глыбока-рэалістычных вобразах, жыццёвая праўдзівасць якіх настолькі пераканаўчая, што кожны нязначны эпізадычны вобраз сцэнарыя і карціны жыве сваім самастойным жыццём, якое бачыш і бадай фізічна адчуваеш. Сіла рэалістычнай праўды вобразаў сцэнарыя ўмела захавана рэжысерам і ў карціне, што дае права казаць аб нейкай мастацкай адэкватнасці сцэнарыя і карціны. Але гэтая роўназначнасць дасягнута не тым, што рэжысер перазняў на плёнку ўвесь сцэнарый такім, якім ён быў, а тым, што ён удала раскрыў сцэнарны падтэкст і абчысціў сцэнарый ад літаратурна-апісальнага наносу, якога ў сцэнарыі было даволі багата.

У сувязі з гэтым зараз неабходна прааналізаваць карціну па асобных яе драматургічных этапах. Гэта дасць магчымасць папершае—прасачыць станаўленне сцэнарнага замысла ў кінематаграфічных вобразах, а падругое—паказаць, як сцэнарый трансфарміраваўся ў рэжысерскай рэалізацыі. Дакладней кажучы тут трэба паказаць наколькі тонка і ўсебакова трэба ўлічваць кіно-драматургу аб'ём кінематаграфічнага твору. Удала пазбягаючы апісальнай экспазіцыі карціна адразу пачынаецца аглядам калійных шахт прадстаўніком нямецкага калійнага сіндыката інжынерам Бертхольдам. Перад вачыма Бертхольда праходзіць імпэтнанапружанае жыццё шахт, абсталяваных самай навейшай тэхнікай. Бертхольд бачыць і людзей, авалодаўшых гэтай тэхнікай. Яго знаёмяць з лепшымі ўдарнікамі шахты—Мікітам Андрэевічам. (Тут да рэчы трэба зазначыць, што роля Бертхольда і Мікіты Андрэевіча выконваецца адным і тым-жа народным артыстам Гардзіным. І трэба адзначыць, што апаратар майстэрскі зняў сцэну знаёмства Бертхольда і Мікіты Андрэевіча). Бертхольд не з тых, хто свядома не прымячае соцыялістычных поспехаў Совецкага Саюза. У гэтых шахтах, людзях ён бачыць зусім рэальную пагрозу свайму сіндыкату. Для Бертхольда ўжо зразумела, Совецкі Саюз абыйдзецца без нямецкага калія.

І вось, у наступным эпізодзе карціны Бертхольд, пад маркай карэктнага застольнага тоста на вечары ў галоўнага інжынера шахт—нямецкага спецыяліста Кельвіга, прапануе нямецкім спецыялістам вярнуцца „ў родную Германію, к любаму, культурнаму нямецкаму языку“. Тут ужо раскрываецца сапраўдная мэта прыезду Бертхольда ў Салікамск. Гасцёўства ў Кельвіга гэта толькі шырма, пад якой хаваўся контр-

рэволюцыйны фашысцкі намер—адабраць у совецкіх шахт тэхнічнае кіраўніцтва і гэтым самым абяскровіць іх.

Паміж гэтымі двума эпізодамі ёсць сцэнка камедыйнай размовы Мікіты Андрэевіча з брыгадзірам-немцам. Пры ўсёй сваёй камедыйнасці гэтая сцэнка не ўдалася. У ёй занадта выпірае штучна прыём характарыстыкі героя. Аўтарам трэба было адрэкамендаваць глядачу Мікіту Андрэевіча як лепшага ўдарніка. Але для гэтага вобраза не патрэбна залішняя афішыроўка. І гэтая сцэна проста не патрэбная.

Праўда, для асноўнай завязкі гэта зусім нязначная накладка. Яна не перашкаджае развіццю асноўнай лініі.

Далей Бертхольд намагаецца ўздзейнічаць на жонку Кельвіга і сваю племянніцу Эмілію, каб яна ўгаварыла свайго мужа паехаць назад у Германію. Эмілія катэгарычна адмовілася ад Германіі. Папершае— у Кельвіга яшчэ не скончыўся кантракт, а падругое—яна працуе лабаранткай і вельмі задаволена сваёй работай і жыццём. Эмілія і Кельвіг паступова пачалі ўрастаць сваімі пачуццямі, думкамі і жыццём у соцыялістычную справу. Праўда, аўтарам не зусім удалося паказаць тое, што так прывязвае Эмілію да жыцця на совецкіх шахтах. Калі ў сцэнарыі былі сцэны, паказваючыя Эмілію за работай у лабараторыі, дык у карціне і гэтага няма. Але Эмілія ўсё-ткі вымушае верыць сваім словам. Магчыма, што вымушае верыць не столькі вобраз Эміліі, колькі артыстка Гербанеўская, надаўшая гэтаму вобразу пераканаўчую цеплыню.

Бертхольд абезброены. Надзейная карта выбіта з яго рук. Але ён вырашае зрабіць апошні ўдар. Тонка сатканай размовай з эканомкай Кельвіга аб закаханні Эміліі ў совецкага інжынера Рудніцкага, Бертхольд абуджае ў Кельвіга рэўнасць. Гэта пачуццё разгараецца з кожным днём. Эмілія да таго-ж і сапраўды з шчырай таварыскай прыязню адносіцца да Рудніцкага. Праўда, адносіны іх не ідуць далей іх агульнай справы па шахтах, але Кельвіг надае ім асаблівае значэнне. Тым болей, што Эмілія не рэдка ўжо праводзіла свой час на кватэры ў Рудніцкага (што таксама між іншым не зусім адпавядае маральна-псіхалагічнаму характару Эміліі).

Пачуўшы ў руках надзейныя канцы Бертхольд яшчэ мацней зацягвае вузел. Таксама з тонкім і скрытым намерам ён прапануе ў дырэкцыі выбраць Эмілію дэлегатам ад нямецкай калоніі ў склад дэлегацыі ў Беларусь. На чале дэлегацыі быў Рудніцкі. Эмілія з прыемнасцю згадзілася паехаць у БССР, не гледзячы на тое, што Кельвіг вырашыў ужо ехаць у Германію, каб выратаваць Эмілію ад кахання Рудніцкага. Эмілія паехала. Душэўны канфлікт Кельвіга дасягае крытычнай стадыі. У запале рэўнасці Кельвіг адмяняе распараджэнні Рудніцкага аб свярленні карналітавых пластоў. Гэта выклікае газавую катастрофу, рэжысерскі надзвычай удала зробленую. Бертхольд запалохаў Кельвіга шкодніцтвам. Кельвіг ужо згаджаецца на тое, каб хутчэй дабіцца візы на выезд у Германію, пакуль яго не арыштавалі тут.

А ў гэты час Эмілія выступае з шчырай прамовай у Доме Ураду ў Менску, едзе з Рудніцкім у калгас да яго бацькоў, разам з Мікітам Андрэевічам. І тут адбываецца незабываемая сваёй вострай і таленавітай выразнасцю сцэна размовы бацькі Рудніцкага з Мікітай Андрэевічам. Да чаго ярка і пераканаўча раскрыліся ў гэтай размове сапраўдныя гаспадары свайго соцыялістычнага жыцця.

І гэтая сцэна ўзнімае бадай увесь маладзейны і не зусім удалы эпізод Эміліі ў калгасе.

З Беларусі Эмілія шле Кельвігу пісьмо, якое ён проста баіцца

чытаць, каб не ўбачыць там тое, аб чым Кельвіг так непакоіцца. Але выпадковая размова па тэлефону з інжынерам Марусяй Карнікавай нечакана для Кельвіга робіць карэнны пераварот у яго душы.

Маруся выходзіць замуж за Рудніцкага. К Кельвігу звярнулася мінулая вера і пачуццё к Эміліі, любоў да сваёй работы і жыцця. Прыезд Эміліі канчаткова развязвае вузел, завязаны блытанымі інтрыгамі фашыста Бертхольда.

На выкрыцці Бертхольда па сутнасці канчалася драматургічная лінія карціцы, але яшчэ не хапала нейкай ідэйнай кропкі, якая сама па сабе напрошвалася з папярэдняга развароту падзей. Гэта і было грамадзянскае ўсынаўленне Эміліі і Кельвіга ў сям'і працоўнага Совецкага Саюза, цікава і маляўніча паказанае ў бадзёрых аптымістычных эпізодах бала на глыбіні трохсот метраў пад зямлёй. Мікіта Андрэевіч з цёплай гумарыстачнай урачыстасцю ўручыў Эміліі і Кельвігу совецкія пашпарты па іх хадайнічанню. Буйны нямецкі спецыяліст, прыехаўшы ў Совецкі Саюз на часовую работу па кантракту, знайшоў у Совецкім Саюзе сваю новую радзіму.

Так выглядае сюжэтна фабульная аснова карціны, спрэсаваная і ачышчаная ў пастановачным перыядзе. Ачышчаўся матэрыял літаратурна-апісальнага характару і наогул матэрыял не арганічны і не дзейны. Так, напрыклад, у сцэнарыі былі два вобразы, якія не ўвайшлі ў карціну: дзед Пахом і хлапчук Лёшка. Гэтыя два вобразы ў сцэнарыі мелі свой самастойны шлях развіцця, незалежны ад логікі сюжэта. У карціну Лёшка зусім не ўвайшоў, а Пахом цалкам уліўся ў вобраз Мікіты Андрэевіча. Па сцэнарыю Мікіта быў чалавекам, прыехаўшым у Салікамск з Беларусі. У карціне ён ператварыўся ў салікамскага старажыла.

Так адбылася своеасаблівая творчая амальгама двух мастацкіх вобразаў, ад чаго карціна выйграла і ў сваёй кампазіцыйнай цэльнасці і ў паўнаце вобраза Мікіты Андрэевіча, які зараз ярчэй за ўсіх запамінаецца ў карціне. Разам з Пахомам і Лёшкай адышло багата дробных сцэнарных фрагментаў з іх размовамі, падзеямі і г. д.

І не толькі з імі. Наогул уся рэжысерская інтэрпрэтацыя сцэнарыя ішла па лініі максімальнай кандэнсацыі дзейнага матэрыяла за лік матэрыяла статычнага, размоўнага і інш. У сцэнарыі вельмі багата Рудніцкі расказваў аб сваім мінулым, вельмі доўга апісваўся і паказваўся калгас, дзе жылі бацькі Рудніцкага, Кельвіг быў залішне перагружаны бесканечнымі псіхалагічнымі паузамі і г. д. У карціне ўсё гэта набыло сваю кампазіцыйную прапорцыю і форму энергічнага развіцця падзей, ад чаго, зноў-такі, карціна толькі выйграла.

Асабліва карціна выйграла ў сваёй ідэйна-тэматычнай акрэсленасці. Прагледзеўшы карціну, зусім не прыходзіцца дагадвацца: аб чым менавіта аўтары хацелі сказаць, як гэта прыходзіцца здагадвацца ў некаторых карцінах. Тут-жа ўвесь час адчуваеш моцны ідэйна-тэматычны ствол. Тэма — СССР — інтэрнацыянальная радзіма працоўных усяго свету.

Праўда, для совецкай кінематаграфіі гэтая тэма не новая. Можна налічыць цэлы шэраг карцін, якія імкнуліся так ці інача вырашыць гэтую тэму („Рубікон“, „Хлапец з берагоў Лекуры“, „Дэзертыр“, „Прыгожае жыццё“ і інш.).

Творчая практыка яе вырашэння стварыла ўжо свае традыцыі, каноны і рэцэпты перараджэнства. А Вольнаму і Эд. Аршанскаму неабходна было ўсё гэта ўлічыць, каб не паўтарыць мінулых штампаў і памылак.

І трэба сказаць, што аўтарам удалося ўнікнуць пагрозы штампу і рэцыдыву традыцыі. Праўда, гэта ўдалося не зусім. Дзе-ні-дзе і тут занадта ўжо выпірае ўтрыроўка „пад заграніцу“. Залішняя вычурнасць манер, гаворкі, панежная выпраўка постаці,—усё гэта зроблена з прэтэнзіяй на „заграмічны лоск“, які часта ў нашых карцінах прыкрывае сабой адсутнасць самаго элементарнага ўяўлення пра бытавую рэчаіснасць капіталістычнага Захада.

Тым не менш, аўтарам удалося ўсё-такі неяк арыгінальна падыйсці да тэмы. Арыгінальнасць гэтая хаваецца ў самой сюжэтнай аснове. Узята, трывіяльная, на першы погляд, сітуацыя любоўнага трохкутніка. Кельвіг рэўнуе Эмілію да Рудніцкага. Але гэтая рэўнасць патрэбна была фашысту Бертхольду. Гэта ён выдумаў „любоў“ Эміліі да Рудніцкага, каб Кельвіг хутчэй звярнуўся ў Германію, ратуючы сваё жыццё і жонку ад „кахання“ Рудніцкага.

І такое, здаецца, бяскласавае пачуццё, як рэўнасць скарыстана ворагам, як сродак класавай барацьбы. Вось гэта і надае карціне нейкую арыгінальнасць, свежасць, што рэдка можна сустрэць у другіх карцінах на гэтую тэму.

Акрамя ўсяго карціна яшчэ мае адну выключную і рэдкую асаблівасць—гэта непасрэдная шчырасць і цяплыня чалавечых вобразаў. Ёй сагрэты кожны, нават нязначны эпізадычны вобраз, незалежна ад яго акторскага выканання.

Аб акторскім ансамблі карціны трэба сказаць, што ён наогул не высокі, за выключэннем Гардзіна, даўшым як і заўсёды, непараўнальны ўзор акторскага майстэрства. З надзвычайнай і завіднай лёгкасцю стварыла яшчэ вобраз інжынера Марусі Карнікавай засл. арт. рэспублікі Р. Свярдлова. Затое далёка няўдала акторскае выкананне ролі Кельвіга (арт. Барысаглебскі), Рудніцкага (арт. Калініс), дырэктара камбіната (акт. Кемскі) і інш.

Тым не менш усе гэтыя вобразы адразу абуджаюць даверлівасць, сімпатыю і пачуццё мастацкай праўдзівасці. У вобразах загаварыла пераканаўчая рэалістычная праўда мастацтва. А гэта самае галоўнае і самае важнае ў творчым станаўленні мастака.

Для А. Вольнага адгэтуль пачынаецца новы этап творчага росту, этап станаўлення на пазіцыях соцыялістычнага рэалізма. Трэба думаць, што ў наступнай сцэнарнай рабоце аб Дукорскіх партызанах А. Вольны стане ва ўвесь рост рэаліста-мастака.

---

## БІБЛІЯГРАФІЯ

„Атака". Альманах четвертый. Государственное Издательство Белоруссии. Минск 1935 г. Стр. 174, цена 3 рубля.

1934-1935 гг. адзначыліся ў нашай ваенна-абароннай літаратуры з'яўленнем раду новых, даволі значных твораў. „Шахімарданская мячэць" Крапачова, яго-ж —„Пясок гарыць", п'есы Глазырына, кніжкі вершаў: „Таварыш", „Ян Рэндзя", „Дзержынцы" Шапавалава і, асабліва ягоны раман „Большэвікі граніцы"—усё гэта каштоўныя здабыткі, дасягненні нашых чырвонаармейскіх паэтаў і пісьменнікаў. Творы абароннае тэматыкі мы сустракаем за гэты час і ў „нечырвонаармейскіх" пісменнікаў. Варта ўспомніць зборнік навел Б. Мікуліча, апавяданні Я. Ліманоўскага, „Лётнае лета" А. Александровіча.

Характэрна ў ваенна-абаронным сектары нашае літаратуры за апошні час з'яўляецца тое, што пераважная большасць твораў адлюстроўвае сёнешні дзень гераічнай Чырвонай арміі, яе вучобу, быт і жыццё байца, камандзіра, палітработніка. І „Большэвікі граніцы", і калектыўны зборнік „Баявыя будні" (пра варашылаўскія манеўры 1934 г.) і абедзве кніжкі Ал. Шарапава, і „Раніца ў разведцы" М. Кручкіна, і „Скрыпка і ордэн" Е. Садоўскага, па сутнасці, прысвечаны ўжо сучаснай Чырвонай арміі.

У плане разгортвання ваенна-абароннай тэматыкі і вылучэння новых кадраў непасрэдна з чырвонаармейскіх радоў вялікую ролю адыгрывалі альманахі „Атака". Іх выпушчана за 1935 г. чатыры: тры—на беларускай і адзін (апошні)—на рускай мовах. Бясспрэчнай дадатнай якасцю „Атакі" з'яўляецца іменна тое, што гэты альманах друкаваў побач з „апрабаванымі", выяўленымі чырвонаармейскімі пісьменнікамі БССР, і творы маладых, пачынаючых аўтароў—з розных часцей Беларускай Ваеннай Акругі, спрыяючы тым самым пашырэнню масавага літаратурнага руху.

Што-ж уяўляе сабою апошні, чацверты альманах „Атака"?..

Ён адкрываецца „фрагментамі" Ів. Шапавалава „Одна ночь". Адна ноч з жыцця чырвоных пагранічнікаў... Ів. Шапавалаў скупымі рысамі, сапраўды фрагментарна, паказвае тут начальніка заставы Андрэя Лунгіна—у быту і на рабоце. У аснове такая калізія: у начальніка заставы праз некалькі гадзін павінна нарадзіць жонка, ён выязджае за акушэркай, але па дарозе чуе стрэлы, змяняе маршрут і ў выніку забівае ўцекача-„нарушыцеля" і выратоўвае чырвонаармейца. Забіты, да рэчы, аказваецца дзядзькам Андрэя Лунгіна, кулаком, які ў свой час збіваў малога пастушка Андрэя... За час гэтай аперацыі Даша, жонка Лунгіна, пры дапамозе кухара Каратуна, абыходзіцца без акушэркі.

„Одна ночь" чытаецца з цікавасцю і хваляваннем. Яна падкупляе прастатою і чалавечнасцю рысаў выведзеных удзельнікаў апавядання. Яна цікава і тым, што ў ёй ёсць спроба паказаць камандзіра ў сям'і, паказаць яго жонку, бытавыя ўзаемаадносіны. А пытаннямі сям'і, трэба сказаць, савецкая літаратура займаецца вельмі недастаткова. У нас яшчэ існуе пэўная недаацэнка сямейных калізій, як палітычнай, сацыяльнай праблемы. Гэта датычыць і ваенна-абароннай літаратуры —і, магчыма, у яшчэ большай меры.

Стылістычныя і моўныя даныя твору Ів. Шапавалава прымушаюць, праўда, жадаць значна лепшага. Вось, напрыклад, сказ, дзе некалькі губляецца пачуццё мастацкага густу.

„С северо-запада, из-за границы, из-за леса, который чуть различим на горизонте и похож тепер на черные челюсти какого-то гигантского гниющего, готового сожрать, рта, медленно ползет, слизывая одну за другой звезды, тяжелая туча" (ст. 3).

Гэта—залішняя гіпербалізацыя. І шкада. Бо Ів. Шапавалаў можа даць скампанаваную, прыгожую і моцную фразу.

Аўладанне дыялогам, а галоўнае—пашырэнне слоўніка, вось задача, што вымагаецца ад ,в. Шапавалава ўсім развіццём яго творчасці.

Праблеме ўзаемадзеяння асабістага з грамадскім, валявога з пачуццёвым прысвечаны таксама „фрагменты" (але тут ужо, на нашую думку, гэтае азначэнне жанра не апраўдана...) М. Кручкіна „Комвзвод Шиханов".

Дзякуючы залішнім прыдзіркам на глебе рэўнасці, камандзіра ўзвода Шыханава пакідае жонка Аля. Шыханаў забараняў ёй іграць на сцэне, сустракацца з таварышамі па рабоце;—ён глядзеў на Алю вачыма ўласніка—і ў выніку запіска:

„Я так жить с тобой не могу. Ты стал злой и подозрительный.

Я чувствую, что мы отравляем друг другу жизнь. Это мешает тебе работать. А ты работу любишь больше меня. Наша встреча и совместная жизнь—глупенькая ошибка молодости. Я эту ошибку исправляю и ухожу .." (стр. 59).

І вось Шыханаў „забросил работу в батарэе, весь отдался внутренним переживаниям и почти два месяца не принимал живого участия ни в работе батареи, ни в работе ячейки" (стар. 93). Крок за крокам М. Кручкін паказвае, як пад уплывам армейскай грамадскасці—ад байцоў Гарляева, Гізатуліна, Самохіна да ваенкома—камандзір узвода Шыханаў перамагае асабістае „я" і па-большэвіцку ўключаецца ў агульнае рэчышча жыцця.

Апавяданне заканчваецца прыходам Алі назад да Шыханава; спатканне адбываецца ў шпіталі, дзе пасля практыкаванняў на манежы, атрымаўшы ўшыб, ён адпачывае. „Комвзвод Шиханов" у вогуле не дрэнна зробленая рэч, носіць толькі на сабе пячатку спешкі, частковай недаробленасці. Занадта многа ў апавяданні развагі і паказу збоку, абстрагавана. Гэта праяўляецца, напрыклад, у прамовах на чыстцы партячэйкі—там схематычна, суха пададзены прамовы выступаючых, не пераканаўча гучаць паўтарэнні пра „умение слить воедино боевую подготовку с воспитанием человека", пра тое, што „мы—коммунисты не должны разграничивать нашу жизнь на личную и на общественную" (стар. 94, 95) і г. д.

Апавяданні В. Зайцава — „Коршун" і С. Гусева—„Выстрел", з часоў грамадзянскай вайны, не вызначаюцца асаблівымі літаратурнымі якасцямі. Гэта, што называецца „проба пяра" пачынаючых аўтароў. Апавяданне Васіля Ардатава „Молодежь" напісана жвава, з пачуццём гумару, з непасрэднай, жывой весялосцю. У тэме—жыццё і быт маладых чырвоных авіятараў, прычым зноў такі пілот Галато і матарыст Іван Мазуха паказаны і ў асабістым жыцці і ў час выканання адказнай задачы.

У чацвертым альманаху „Атака" змешчаны таксама рэчы чырвонаармейскага пісьменніка Влад. Глазырына—урыўкі з ягонай п'есы „Фронт" і апавяданне „Шрам".

Першы ўрывак з „Фронту" (4-я карціна 1 акта)—дзе паказан габінет штабротмістра Брэдзіса—не пакідае ўражання навізны, свежасці, сапраўднай мастацкай пераканаўчасці. Дыялаг паміж намеснікам начальніка контрразведкі і камісарам чырвонаармейскага палка адбываецца ў досыць трафарэтных тонах. Значна больш удаўся Влад. Глазырыну паказ майстэрняў парка МТС (8-я карціна ІІ акта) – з вобразамі Батырава (рабочы-татарын), Шырынкіна, Марусі.

Апавяданне „Шрам"—не новае па фабуле. На тэму выкрыцця ворага, які доўгі час насіў маску (чужое прозвішча, падробленыя дакуманты, здрада ў час грамадзянскай вайны) у нас ёсць творы М. Чарота („Чалавек без барады"), М. Лынькова („Апошні зверыядавец") і шмат якіх іншых аўтароў. Але тут Влад. Глазырын знайшоў цікавыя рысы ў псіхалогіі комсомольца Слёзкіна—асноўнага персанажа „Шрама"—і апавяданне запамінаецца.

Жанр мастацкага нарыса прадстаўлен у альманаху, мемуарнымі, відавочна, запісамі А. Крапачова „Песок горит". Энергічнымі, хаця і некалькі сухаватымі, мазкамі А. Крапачоў дае рад малюнкаў змагання з баямі і басмачамі ў пустынях Харэзма, Куне-Ургенча, Хівы.

У раздзеле паэзіі на першае месца, як найбольш апрацаваныя і самастойныя, трэба паставіць вершы Александра Шарапава — „Ночной бой", „О винтовке о своей" і, асабліва, „Мать" (вядомую і ў перакладзе на беларускую мову). Праўда, радкі:

„Тихий держите шаг,

. . . . . . . . . .

—Знать уже близко враг"
(стар. 138).

сведчаць пра вельмі ўжо „непасрэднае" запазычанне ў Ал. Блока, з паэмы „Двенадцать".

„Кровавая бахча" М. Кручкіна сапраўды напоена крывёю, але ад яе павявае штучнасцю, наўмысным паскарэннем рытма там, дзе не зусім трэба, і радам шурпатых, „невынашаных" метафар. Спевы „свинцовых"(?) струн", „горит погодка", „верблюд-гора, в горе проход" (!?) і шмат іншых недарэчнасцяў псуюць гэты верш.

„Вперед и вперед" Владзіміра Медве-

дзева нагадвае проста нядрэнны артыкул на абаронную тэму, чамусьці пастаўлены ў шпальты рыфмаў.

Як быццам усё правільна і гладка, паэзіі тут мала, відаць...

Процілегласцю, у пэўнай меры, вершу В. Медведзева з'яўляецца „Прощание с другом“ Тітова. Тут сустракаецца шмат добрых мясцін,—напрыклад:

„Как в двадцатом—эскадроны,
Красно-звездный ураган—
За товарищем Буденным
Хлынут грозно на врага“.
(стар. 124)

Альбо яшчэ:

„Мы с тобой в жестокой сече,
Словно молнию средь туч,
Понесем врагу навстречу
Смертоносной сабли луч“ (там жа).

Па свойму, па новаму, імкнецца т. Тітоў сказаць пра „нервы пашен“, пра „тучки с солнечных трибун“, што „голубеют в поднебесье“, пра таполі, якія „зашепчутся в тревоге“.

Верш Н. Васілеўскага „Самарский полк“ дае малюнак гісторыі—баявыя эпізоды з мінулага Самарскага кавалерыйскага палка,—але надзвычайны прымітывізм, слоўная абмежаванасць не далі аўтару магчымасці паспяхова развязаць пастаўленую задачу. Вось толькі адна нядрэнная страфа з яго:

„В боях закаленные лица,
Сметая с пути все преграды,
Клинками врубились в Царицын,
Чтоб сделать его Сталинградом“
(стар. 151).

Агульнае ўражанне—гэта тое, што проза ў чацвертым альманаху „Атака“ значна мацнейшая за паэзію. І гэта яшчэ раз падкрэслівае перад нашымі маладымі чырвонаармейскімі паэтамі неабходнасць больш упартай вучобы, работы над сабаю, над станаўленнем уласнага творчага „я“.

Альманах „Атака“ будзе выходзіць цяпер пад назвай „Байцы. Мы з нецярплівасцю чакаем выхаду ў свет чарговых яго выпускаў, дзе чырвонаармейскія пісьменнікі БВА дадуць рад сваіх новых, яшчэ больш цікавых твораў.

Магчыма, што гэтыя альманахі варта было-б папаўняць і крытычным матэрыялам, разглядам буйнейшых твораў маладых чырвонаармейскіх аўтароў. Трэба звярнуць увагу, нарэшце, і на больш зграбнае тэхнічнае афармленне самой кнігі.

**Юр. Лявонны.**

## ХРОНІКА

### Юбілей трыццацігадовай літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы

11 снежня ў памяшканні БДТ—І адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею 30-гадовай літаратурнай дзейнасці народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы.

Урачысты вечар, прысвечаны юбіляру адчыніў старшыня юбілейнага камітэта—сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР т. Ляўкоў.

— Янка Купала па праву лепшы песняр нашай радзімы,—кажа т. Ляўкоў у сваёй уступнай прамове.—Партыя дапамагла Янку Купалу вызваліцца ад нацыянальнай абмежаванасці, ад нацыяналістычных памылак, і ён пайшоў за перамогшым пралетарыятам, за партыяй Леніна-Сталіна.

„Сёння Янка Купала гэта не той чалавек, які быў некалькі гадоў таму назад. Для нас Янка Купала неадрыўная частка літаратуры Савецкай Беларусі". (Гікало).

Пад гучныя воплескі ў прэзідыум урачыстага вечара выбіраюцца тт. Купала, Гікало, Галадзед, Чэрвякоў, Валковіч, Лахуці, Дз'якаў, Ляўкоў, Стэрнін, Горын, Клімковіч, Рыскін, Якуб Колас, Новікоў-Прыбой, Готфрыд, Мікітэнка, Рыленкоў, Зар'ян, стаханаўцы менскіх заводаў Сянчук, Левін, Гапанец, тт. Александровіч, Чорны, Елісееў, і інш.

З дакладам аб 30-гадовым творчым шляху народнага паэта рэспублікі выступіў загадчык аддзела культуры і асветы ЦК КП(б)Б тав. Дз'якаў.

У сваім дакладзе тав. Дз'якаў даў вычэрпальны адказ, чаму працоўныя масы так любяць і так высока цэняць Янку Купалу. Любім мы і высока цэнім Янку Купалу—кажа т. Дз'якаў,—таму, што ён пайшоў з народам, што ён цяснейшым чынам звязан з шырокімі масамі працоўных і ў іх чэрпае фарбы і матывы для сваіх песень, таму што прыслухоўваючыся да мудрых указанняў нашай большэвіцкай партыі, якая дапамагла яму выправіць нацыяналістычныя памылкі, ён здолеў пеяць бадзёра, жыццерадасна, як сапраўдны выказвальнік дум соцыялістычнага народу, яго радасці, яго заможнага жыцця.

Пад гучныя воплескі т. Дз'якаў вітае юбіляра ад імя ЦК КП(б)Б і перадае асабістае прывітанне ад Нікалая Фёдаравіча Гікало.

З захапляючай прамовай выступіў адзін з вядомых паэтаў савецкай літаратуры тав. Лахуці — прадстаўнік Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

— На арэне вядуць барацьбу два барцы. Кожны з іх стараецца аўладаць мячом. Гэта змагаюцца два класы—пролетарыят і буржуазія. Вострым мячом у гэтай барацьбе з'яўляецца і літаратура. Творчасць Купалы—гэта баявая зброя рабочага класа, якая знішчае ворага. Партыя адточвае гэтую зброю.

Бурнымі воплескамі сустракае заля прышоўшых вітаць юбіляра піонераў і школьнікаў гор. Менска. Яны перадавалі сваё прывітанне калектыўна, потым прачыталі асобныя ўрыўкі з паэмы „Над ракою Арэсай" і інш. вершаў. Дэманструючы рост талентаў у краіне Советаў, выступалі школьнікі—паэты з чыткаю сваіх твораў, прысвечаных юбіляру. Вучань-мастак Смажэўскі перадаў ад імя дэлегацыі юбіляру мастацка выкананы яго партрэт.

Ад рабочых завода імя Кірава стаханавец Галаўня паднёс Я. Купалу падарунак—маленькую трохлінейную вінтоўку з пяром на канцы

Па даручэнню старшыні СНК т. Галадзеда тав. Клімковіч зачытвае пастанову СНК БССР аб узнагароджанні юбіляра і пастанову прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР аб пабудове Купалу дачы.

Віталі пісьменніка ад Акадэміі навук тав. Горын, ад пісьменнікаў Заходняй вобласці Рыленкоў, ад пісьменнікаў Арменіі — тав. Зар'ян, ад двухтысячнага калектыва рабочых фабрыкі „Октябр" тав. Спектар, ад мастакоў Масквы Елісееў, ад Украінскіх літаратараў вітаў юбіляра тав. Мікітэнка.

Вялікі творчы шлях Янкі Купалы,—кажа тав. Мікітэнка,—не забудзе ўвесь савецкі народ, як і украінскі народ, ад імя якога я горача вітаю Янку Купалу—інжынера чалавечых душ першага ранга,—і жадаю яму многа, многа гадоў жыць і тварыць у славу Леніна—Сталіна, у славу нашай соцыялістычнай радзімы.

Народны паэт рэспублікі Якуб Колас прачытаў верш, прысвечаны Янку Купалу.

З адказным словам выступіў Янка Купала.

## Творчае спатканне Лахуці, Новікава-Прыбоя, Мікітэнка, Зар'яна з пісьменніцкім актывам Менска

Днём 12 снежня Лахуці, Новікаў-Прыбой, Мікітэнка, Зар'ян, прыехаўшыя для ўдзелу ў святкаванні юбілея Янкі Купалы, сустрэліся ў Доме пісьменніка з пісьменніцкім актывам гор. Менска.

Двухгадзінная гутарка была прысвечана абгаварэнню творчых пытанняў савецкай літаратуры ў сувязі з падрыхтоўкай да пленума Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР у Менску.

Тав. Лахуці ў сваім выступленні адзначыў сусветнае значэнне пленума ў Менску, на мяжы з капіталістычным светам. На цэлым радзе прыкладаў са свайго ўласнага жыцця, тав. Лахуці адзначыў, якое вялікае значэнне мае для пісьменнікаў работа не толькі над зместам, але і над формай свайго твору.

Сваё надзвычай цікавае і глыбокае па зместу выступленне тав. Новікаў-Прыбой прысвяціў пытанням тэмы, ідэалогіі і формы твораў. Вітаючы Янку Купалу з юбілеем т. Новікаў-Прыбой сказаў:

— Купала падобны да тае пчалы, якая ўвесь час збірае нектар для сваёй сям'і. Пчала патроху бярэ ў ліпы, цімафеяўкі, грэчкі і ад гэтага мёд становіцца саладзейшым і смачнейшым. Так і Купала. Для сваёй творчасці ён чэрпае словы з самых глыбокіх крыніц народнае творчасці, народнай мовы. І таму творчасць юбіляра, такая агульнадаступная і разам в тым такая глыбока-мастацкая, якая падымае яе на ўзровень лепшых узораў сусветнай літаратуры.

Вельмі глыбока ў сваім выступленні закрануў тав. Мікітэнка пытанне аб ролі свядомасці ў творчасці пісьменніка. Не толькі прыглядацца да жыцця, алеасэнсоўваць яго— вось асноўная рыса, якая характарызуе нашага савецкага пісьменніка. Так працаваць над сабой, над сваёй творчасцю павінен кожны, хто хоча, каб яго творчасць жыла не год, а дзесяцігодзі і стагоддзі.

Тав. Александровіч ад імя ўсіх прысутных шчыра падзякаваў Лахуці, Новікава-Прыбоя і Мікітэнка за іх каштоўныя выступленні.

## Трэці пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР

20 студзеня 1936 г. у Менску адбудзецца чарговы пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР. На пленуме будуць заслуханы даклады:

1) Аб літаратуры Беларускай ССР—докладчык т. Клімковіч.

Аб літаратуры Башкірскай АССР—дакладчык т. Тагіраў.

Аб паэзіі РСФСР—дакладчык т. Суркоў.

Аб паэзіі Украінскай ССР.

Аб паэзіі Беларускай ССР дакладчык Андр. Александровіч.

## Памяці А. С. Пушкіна

На паседжанні Прэзідыума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР 11 лістапада прынята пастанова адзначыць стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна.

У пастанове гаворыцца аб неабходнасці выдання збору выбраных твораў паэта: „Евгений Онегин“, „Борис Годунов“, Полтава“, „Капитанская дочка“ і раду вершаў. Па перакладу твораў Пушкіна на беларускую мову будуць працаваць Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, М. Чарот, А. Куляшоў, Ул. Хадыка, М. Хведаровіч, Д. Дудар, А Звонак.

Па лініі Інстытута Літаратуры і Мастацтва БелАН будзе выдадзен зборнік артыкулаў „Спадчына А. С. Пушкіна“.

Прэзідыум праўлення ССПБ прапанаваў секцыі крытыкаў прапрацаваць рад дакладаў пра творчасць Пушкіна. Мяркуецца правесці спецыяльны пленум ССПБ з дакладам пра Пушкіна і яго значэнні для сучаснай беларускай літаратуры

У школах, тэхнікумах, ВНУ будуць праведзены пушкінскія вечары. У літгуртках намечана правесці прапрацоўку твораў Пушкіна.

## Мастацкая літаратура ў 1936 годзе.

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі намеціла выдаць дзесяткі кніг беларускай і перакладной мастацкай літаратуры ў 1936 годзе. План выдання мастацкай літаратуры ў 1936 г. на 30 проц. больш чым, у 1935 г. Ужо зданы ў друк трохтомнікі народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Будуць перавыданы асобныя лепшыя творы А. Александровіча, Бядулі, Лынькова, Галавача, Броўкі.

З новых твораў мяркуецца выдаць раманы: Змітрака Бядулі, Платона Галавача, Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага, зборнік вершаў Александровіча і інш.

З перакладной мастацкай літаратуры намечана выдаць чатыры томы „Ціхага Дона" Шолахава, „Паднятая цаліна" ч. II Шолахава, „Прыгоды Факіра" Усевалода Іванова, „Пётр І" Аляксея Талстога, зборнікі вершаў Харыка і Аксельрода, лепшыя творы грузінскіх пісьменнікаў. Лордкіпанідзе, „Далоў кукурузную рэспубліку", Бібінейшвілі—„Камо", Кутатэлі. Мосашвілі.

З класічнай літаратуры ў 1936 г. выйдуць з друку: Сем тамоў поўнага збору твораў Максіма Горкага, „Воскресение" Талстога, зборнік выбраных вершаў Гейне. Будзе выдан зборнік твораў украінскага паэта Шэўчэнкі ў перакладзе Янкі Купалы.

З сучаснай замежнай рэволюцыйнай літаратуры мяркуецца выдаць кніжкі Анры Барбюса „Сталін" і „У агні", Вілі, Брэдэля „Испытание", Мальро—„Годы презрения".

## Да 20-цігоддзя Кастрычніка

Да 20-гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі Дзяржлітвыдавецтвам СССР будзе выдадзена рад кніжок, у якіх будуць паказаны поспехі нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Ужо зараз вялікі пісьменніцкі калектыў працуе над пяцітомным юбілейным выданнем „Людзі пяцігодкі". Адзін том гэтага выдання прысвячаецца дарэволюцыйнай вуснай творчасці народаў СССР. Другая кніга будзе называцца „Позірк у будучыню". У ёй будуць змешчаны выказванні вучоных, інжынераў і палітычных працаўнікоў Саюза пра будучае нашай краіны.

Астатнія тры тамы складаюцца з апавяданняў і нарысаў пісьменнікаў пра новых людзей Совецкага Саюза, пра тыпы і характары, створаныя Вялікім Кастрычнікам і эпохай двух пяцігодак.

Намечана таксама выдаць серыю лепшых твораў совецкіх пісьменнікаў. З празаічных твораў будзе выдадзена 20—24 кнігі, з паэтычных 6—10.

Выдавецтва Акадэмія мяркуе выдаць „Зборнік гістарычных дакументаў і ілюстрацый старой і новай Масквы", „Дваццаць год совецкай графікі", зборнік „Песні рэволюцыі".

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *І. Мілешка.*

Здана ў друкарню 26/XI—35 г. Падпісана да друку 28/XII—35 г. Аб'ём 11 друкав. аркушаў. Папера 72 × 105 1/16. Знакаў у друкаваным аркушы 60 000. Тыраж 2.000 экз. Зак. № 1054. Уп. Галоўлітбела №Б 3641.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Энгельса, 2.




